Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!

БЕЛАРУСКІ НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧЫ ІНСТЫТУТ СЕЛЬСКАЙ І ЛЯСНОЙ ГАСПАДАРКІ імя Ў. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

АДДЗЕЛ РАСЬЛІНАГАДОЎЛІ І ПРЫКЛАДНОЙ БАТАНІКІ

ТОМ XXIV. ВЫП. 2.

# МАТАР'ЯЛЫ

## ЭКСПЭДЫЦЫІ ПА ВЫВУЧЭНЬНЮ ПЛАДОЎНІЦТВА ГОМЕЛЬШЧЫНЫ

пад рэдакцыяй праф. М. І. БУРШТЭЙНА

Белорусский Научно-Исследо... ельский Институт Сельского и Ле...ого Хозяйства имени В. И. Ленина при СНК БССР

ОТДЕЛ РАСТЕНИЕВОДСТВА И ПРИКЛАДНОЙ БОТАНИКИ

**МАТЕРИАЛЫ**

**ЭКСПЕДИЦИИ ПО ИЗУЧЕНИЮ ПЛОДОВОДСТВА ГОМЕЛЬСКОГО ОКРУГА**

под ред. проф. М. И. БУРШТЕЙНА

The White Ruthenian Lenin's Institute of scientific research of agriculture and forestry of the Sowiet of peaple's commissaries of WRSS.

**MATERIALS**

**FOR RESEARCH THE FRUIT GROWING**

IN HOMELSKI REGION (BIELARUS)

arranged by porf. M. I. BURSTEIN

МЕНСК—MINSK

1929

Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!

БЕЛАРУСКІ НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧЫ ІНСТЫТУТ СЕЛЬСКАЙ
І ЛЯСНОЙ ГАСПАДАРКІ імя Ў. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

АДДЗЕЛ РАСЬЛІНАГАДОЎЛІ І ПРЫКЛАДНОЙ БАТАНІКІ

ТОМ XXIV. ВЫП. 2.



# МАТАР'ЯЛЫ
## ЭКСПЭДЫЦЫІ ПА ВЫВУЧЭНЬНЮ ПЛАДОЎНІЦТВА ГОМЕЛЬШЧЫНЫ

пад рэдакцыяй праф. М. І. БУРШТЭЙНА



Белорусский Научно-Исследовательский Институт Сельского и Лесного Хозяйства имени В. И. Ленина при СНК БССР

ОТДЕЛ РАСТЕНИЕВОДСТВА И ПРИКЛАДНОЙ БОТАНИКИ

**МАТЕРИАЛЫ**

ЭКСПЕДИЦИИ ПО ИЗУЧЕНИЮ ПЛОДОВОДСТВА ГОМЕЛЬСКОГО ОКРУГА

под ред. проф. М. И. БУРШТЕЙНА

The White Ruthenian Lenin's Institute of scientific research of agriculture and forestry of the Sowiet of peaple's commissaries of WRSS.

**MATERIALS**

**FOR RESEARCH THE FRUIT GROWING**

IN HOMELSKI REGION (BIELARUS')

arranged by porf. M. I. BURSTEIN




МЕНСК—MINSK
1929

# ЗЬМЕСТ

Стр.

ПРАДМОВА . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 1

I. Вынікі выборачнага дасьледваньня пладоўніцтва Гомельшчыны (3—24 ст.)

Клімат Гомельшчыны . . . . . . . . . . . . . . . . 3
Глебавыя умовы Гомельшчыны ў сувязі с пладоўніцтвам . . . . . 5
Адлегласьць паміж дрэвамі . . . . . . . . . . . . . 9
Парадак пасадкі . . . . . . . . . . . . . . . . . 13
Заслона ў садах . . . . . . . . . . . . . . . . . 14
Асноўныя пладовыя пароды і устойлівы таварны асартымэнт . . . 14
Праграма экспэдыцыйнага дасьледваньня пладоўніцтва . . . . . 25

II. Манаграфічныя апісаньні садоў Гомельшчыны (27—192)

Сад г-на Верасава Яромін. с/с Гом. р. . . . . . . . . . . . 29
„ Верхня Брылёва г. „Латвія“ . . . . . . . . . . . . 37
„ саўг. „Яроміна“ . . . . . . . . . . . . . . . . 44
„ конзавода „Прудок“ . . . . . . . . . . . . . . . 53
„ с. Лысянкова Я. гасп. „Бардзіна“ . . . . . . . . . . 61
„ с.-г. ар. „Усерабземлес“ . . . . . . . . . . . . . 65
„ саўгасу „Старая Беліца“ . . . . . . . . . . . . . 72
„ с-г арцелі імя „Першага Мая“ . . . . . . . . . . . 76
„ с-г арцелі „Ясная Паляна“ . . . . . . . . . . . . 79
„ „Закрэўе“ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 89
„ „Халоча“ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 93
„ камуны „Крапоткіна“ . . . . . . . . . . . . . . 98
„ г-на Зубкова . . . . . . . . . . . . . . . . . 103
„ „Роўкавічы“ . . . . . . . . . . . . . . . . . 109
„ „Пладавод“ . . . . . . . . . . . . . . . . . . 111
„ с. вёскі „Заспа“ Акуліча . . . . . . . . . . . . 120
„ „Перасьвятое“ Рэчыцкаго с-гор. т-ва . . . . . . . . 125
„ „Сьвірыдавічы“ . . . . . . . . . . . . . . . . 130
„ Малашэвіча, вёска Глыбова, Рэчыцкаго р. . . . . . . . . 134
„ Трацэйскага „ „ „ . . . . . . . . . 137
„ „Пескапольле“ Дзярж. зем. маём. . . . . . . . . . . 141
„ „Гарыводы“ Рэчыцкаго сад.-гар. т-ва . . . . . . . . 145
„ г-на г. Рэчыца Рыдзеўскаго В. А. . . . . . . . . . . 149
„ „Заспа“ Дзяр. зям. маём. . . . . . . . . . . . . . 154
„ Салтаноўка с-г. арцелі „Ланд Арбет“ . . . . . . . . 157
„ саўгасу „Вастрагляды“ . . . . . . . . . . . . . . 161
„ „ „Стрэлічаў“ . . . . . . . . . . . . . . . 171
„ Хойнічскага агранам. пункту . . . . . . . . . . . 175
„ с-г. арц. „Узыходзячая Зара“ Глухавічы, Брагінскага раёну . 180
„ „Савічы“ с-г. арц. „Новая земля“ . . . . . . . . . . 185
„ с-г. арц. „Іолча“ Камарынскага раёну . . . . . . . . 189
Умовы разьвіцьця і сучасны стан пладаўніцтва ў Гомельскай акрузе . 193
Рэзюмэ (на нямецкай мове) . . . . . . . . . . . . . . 210

## ПРАДМОВА

Экспэдыцыйнае дасьледваньне Гомельшчыны выбарычным мэтадам ахапіла прыблізна 10% існаваўшай плошчы дарослых садоў (якая да 1928 г. дасягала 5000 гэкт.).

Лета 1928 года зьявілася выключна няспрыяючым для пладоўніцтва: у пару цьвіценьня пладовыя кветкі падпалі пад халоднае вільготнае надвор'е. Таму ў значнай большасьці садоў ураджаю ня было і даводзілася для азнаямленьня абмежоўвацца вельмі нязначным лікам пладоў з паасобных дрэў.

У працэсе дасьледваньня прымалі ўдзел: навуковы супрацоўнік аддзелу садоўніцтва Горацкай дасьледчай станцыі А. В. Арэстовіч, студэнты-аграномы: Г. Врублеўскі, Г. Сянкевіч, Кароль. На месцы ў Гомлі прымалі ўдзел у зьбіраньні фатаграфічных здымкаў, распрацоўцы мапы пладоўніцтва Гомельшчыны, у складаньні нарысу сучаснага стану пладоўніцтва ў Гомельшчыне — акруговы садовод Н. В. Пагарэлаў і райсададвод В. П. Трэпачоў.

У Чачэрскім раёне значна дапамог абсьледваньню мясцовы садавод Спірыдонаў; у Рэчыцкім раёне райсадавод Паўленка.

*Кіраўнік экспэдыцыі*
**М. І. Бурштэйн**

Праф. М. І. Бурштэйн

# Вынікі выбарачнага дасьледваньня пладоўніцтва Гомельшчыны

**Клімат Гомельшчыны**. Сучасная Гомельская акруга, якая ўключае менавіта б. Гомельскі і Рэчыцкі паветы, згодна мапы сельска-гаспадарчых кліматычных раёнаў праф. А. У. Кайгарадава, падзяляецца на 2 раёны: цэнтральны (VB) і і паўднёвы (VIB).

У цэнтральны раён (VB) уваходзяць наступныя пункты: Чачэрск, Буда-Кашалеўская, Вэтка. У гэты вялізны раён неабходна ўключыць: Бабруйск, Рагачоў, Жлобін, ст. Быхаў, Прапойск (што выходзяць па-за межы Гомельшчыны).

Адносная кліматычная характарыстыка раёну (па дадзеных прафэсара Кайгарадава) наступная: цёплы, паніжана вільготны з інтэнсыўнай вегэтацыяй.

Працягласьць вегэтацыйнага кругабегу 185 — 190 дзён з сярэдняй тэмпэратурай 13,°8—14,°2. Граніцы актыўных тэмпэратур 1625 — 1750°. Гадавая сума ападкаў каля 600 мм.

Паўднёвы раён (VIB) уключае Гомель, Рэчыцу, Васілевічы, Хойнікі, Брагін, Камарына. Адносная кліматычная характарыстыка раёну наступная: павышана-цёплы, вільготны з павышана-інтэнсыўнай вегэтацыяй. Працягласьць вегэтацыйнага кругабегу 190 — 195 дзён з сярэдняй тэмпэратурай 14—14,4°. Граніца актыўных тэмпэратур 1700—1825°. Гадавая сума ападкаў больш 600, але менш 650 мм.

**Кліматычныя матар'ялы адносна г. Гомеля (па праф. Кайгарадаву)**

| | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | IX | X | XI | XII | Год |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Тэмпэратура . . | —6,5 | —5,4 | —0,8 | 7 | 14,9 | 18,7 | 20,2 | 18,2 | 13 | 6,6 | +0,1 | —4,2 | 6,8 |
| Ападкі . | 30 | 30 | 25 | 40 | 55 | 70 | 100 | 60 | 60 | 50 | 40 | 40 | 600 |
| Адносная вільготн. паветра . | за XII па III 84% | | | 75% | 71% | 72% | 74% | 74% | 79% | 83% | 89% | — | 80% |

Пачатак вегэтац. пэрыяду для Гомеля ў сярэднім 12 красавіка (для Хойнік 9/IV), сканчэньне вегэтацыі каля 19/X.

Сярэдняя пара сканчэньня прымаразкаў прыпадае на 3-ю дэкаду красавіка, а сярэдняя пара надыхода прымаразкаў для Гомеля ў I дэкадзе кастрычніка. Для больш поўнага прадстаўленьня аб асаблівасьці клімату Гомельшчыны і значэньня для пладоўніцтва возьмем некатсрыя паказчыкі для Васілевіч, для Чэрыкава, якое знаходзіцца на паўночнай мяжы цэнтраль-

нага раёну (VB) у параўнаньні з Горы-Горкамі. Колькасьць дзён з тэмпэратурай вышэй $+15^\circ$ для Васілевіч будзе 95,5, Чэрыкава 85,5, Горы-Горак 78,5.

Колькасьць дзён з тэмпэратурай вышэй $+15^\circ$ для Васілевіч 193, для Чэрыкава 182, Г.-Горак 177.

Колькасьць дзён з тэмпэратурай ніжэй $-5^\circ$: для Васілевіч 38, Чэрыкава 79, Г.-Горак 82 5.

Гадавая адносная вільготнасьць для Гомельшчыны 80%. У траўні для Гомеля, Б.-Кашалеўскай, Чачэрску 69%, для Рэчыцы 71%. У чэрвені для Гомеля 72%, у ліпені для Гомеля 74%.

У год у Гомелі выпадае (у сярэднім) 600 мм. ападкаў, з якіх 64% (385 мм) прыпадае на вегэт. пэрыяд. Для Гомеля, Рэчыцы, Васілевіч, Хойнік лік дзён са сьнегавым насьцілам 100—110. Сярэдняя максымальная вышыня сьнегавага насьцілу ў III дэкадзе лютага для Гомеля і Рэчыцы 25—30 см., для Лоева, Хойнік, Брагіна 20 см.

Ізалінія ў 190 дзён працягласьці вегэт. кругабегу, якая праходзіць праз Менск, Бабруйск і Гомель зьяўляецца вельмі паказальнай для пасьпяхавай культуры лепшых сартоў яблынь, ігруш і сьліў. Паўднёвей ад гэтай лініі, як сьведчыць дасьледваньне 1928 г., мы сустракаем найбольш каштоўныя зімовыя сарты яблынь, як Ранэт Лянзбэрга, Штэцін чырвоны, Ранэт Курскі і шэраг замежных сартоў ігруш.

Для пладоўніцтва вельмі важнае значэньне мае нарастаньне цяпла веснавой парой. Для Гомеля цяпло шпарка ўзьнімаецца ад сакавіка ($-0,8^\circ$) да красавіка ($+7^\circ$) на $+6,2^\circ$.

Зьмена сутачных тэмпэратур у красавіку для Васілевіч ідзе ў межах $0^\circ$ і $+12^\circ$. З упэўненасьцю на 86% магчыма разлічваць на гэткую тэмпэратуру (у гэтых граніцах) для Гомельшчыны.

Для Васілевіч тэмпэратура глебы на глыб. 0,4 мэтра ў красавіку $+5,1^\circ$, на глыб. 0,8 м. $+4,3^\circ$.

У Гомельшчыне ў красавіку глебы на глыбіні 0,4 м. ужо ў значнай меры ня мёрзлая. У Васілевічах сярэдні лік дзён з прамярзаньнем глебы дасягае 2, між тым як у Г.-Горках да 37 дзён.

Такім чынам узорваньне глебы, копка град для Гомельшчыны магчыма дапусьціць з сярэдзіны красавіка, а для паўднёвых раёнаў яшчэ раней.

Паколькі пачатак вегэтацыі для Гомеля 12/IV, для Хойнік 9/IV— трэба падкрэсьліць неабходнасьць прыступіць да рэзкі пладовых дрэў ужо ў сакавіку месяцы з гэткім разьлікам, каб у пачатку красавіка гэта праца да пачатку сокаруху пладовых дрэў была ўжо выканана.

Ад красавіка да траўня тэмпэратура шпарка ўзьнімаецца ад $7^\circ$ да $14,9^\circ$.

Позьнія прымаразкі ўжо спыняюцца ў канцы красавіка. Між тым зацьвітаньне пладовых парод, трэба лічыць, пачынаецца ў канцы першай дэкады траўня і адбываюцца пры спрыяючых умовах цяпла ($+14,4^\circ$) і достатковай вільгаці. Уздым цяпла ад красавіка да траўня значны: для Гомельшчыны дасягае $8^\circ$.

Чэрвень, ліпень і жнівень паказваюць станоўчае злучэньне цяпла і вільгаці для посьпеху пладоўніцтва ў Гомельшчыне

У верасьні для Гомеля тэмпэратура ў сярэднім $+13^\circ$. Гэты першы месяц восені вельмі блізка прылягае да лета. Наогул верасень апошні месяц цёплага тэрміна года і зьяўляецца пераходным; таму наглядаецца зьмяншэньне цяпла і сьвятла. Але бываюць выпадкі, калі пасьля вільготнага і хмарнага жніўня—у верасьні наступае цяпло са значна сухім і сонечным надвор'ем

Верасень падобны да траўня месяца, але наогул адрозьніваецца ў лепшым напрамку тым, што саўсім рэдка бываюць прымаразкі.

Тэмпэратура глебы ў верасьні для Васілевіч на глыб. 0,4 м. +12,9°, на глыб. 0,8 м. + 13°.

У гэтым месяцы хаця-ж запасаў вільгаці ў глебе менш як у траўні, але ў верасьні глеба менш аддае вільгаці.

Калі для траўня часам наглядаецца зварот холаду, то для верасьня — зварот цяпла.

Сонечныя дні і росныя ночы вельмі спрыяюць наліву позьніх сартоў яблык (у верасьні).

Ад верасьня да кастрычніка тэмпэратура паветра зьніжаецца на 6,4°. Сярэдняя тэмпэр. ў кастрычніку +6,6°.

Кастрычнік—месяц канчатковай уборкі зімніх сартоў пладоў, выкапкі прышчэп, пасадкі новых садоў, дзічак у пітомніку і іншых прац у садзе, пітомніку, гародзе.

З арганізацыйнага боку на працягу гэтага месяцу і нават паловы лістапада неабходна выканаць узорваньне саду, гароду, унясеньне ўгнаеньня з гэткім разьлікам, *каб на вясну пакінуць як мага менш працы.*

Ад кастрычніка да лістапада тэмпэратура зьніжаецца на 6,5°. Для Васілевіч тэмп. глебы на глыб. 0,4 м. + 2,7°, на 0,8 м. + 4,7°. Наогул надвор'е ў лістападзе значна хмарнае з перавагаю дажджу над ападкамі сьнегу. У першую палову гэтага месяцу здараецца яшчэ ўзараць сады, гароды, выканаць вырэзку сухога гальля, пабелку і г. д.

**Глебавыя умовы Гомельшчыны у сувязі з пладоўніцтвам**. Гомельшчыну магчыма уключыць у зону пераважна падзолістых глеб.

Умовы рэльефу, зьмены насьцільных парод, клімату і расьліннасьці ствараюць разнастайнасьць глеб (карта 1).

Наогул, згодна матар'ялаў праф. Я. Афанасьева [1]), — „глебы разьмяркоўваюцца альбо на роўных і добра дрэніраваных плошчах, альбо мяжуюцца з абшарамі балот, а з другога боку — шырокія істужкі пухкіх пяскоў зьмяняюцца істужкамі і выспамі найбольш каштоўных карэнных парод супяскоў, суглінкаў і нават лёэсаў".

Гаспадарчая каштоўнасьць глеб у Гомельшчыне залежыць ад карэнных парод, якімі зьяўляюцца пяскі, супяскі, суглінкі, лёэсы і якія залягаюць у большасьці выпадкаў па марэне.

Для мэт пладоўніцтва вельмі важнае значэньне мае пытаньне: на якой глыбіні пад пяском, супяском і суглінкам залягае валунны чырвонабуры суглінак (марэна). Блізкасьць да паверхні марэны на 1—1,5 мэтру стварае пры адпаведным рэльефу станоўчыя ўмовы для шырокага разьвіцьця пладоўніцтва.

У нарысе „Глебы Беларусі" (т. V працы Навуков. Т-ва 1928 г.) П. Рагавы апісвае паміж іншым моцна-ападзоленую глебу на лёгкім буйнапяшчаным суглінку (з вёскі Пагарэлае, Бабруйск. акр.):

„У прамытай шчыльнай марэне адклаліся ўсе прадукты, вымытыя з верхніх паземаў глебы, ад чаго гэты пазем набыў яшчэ больш шчыльны, інтэнсыўны чырвона-буры колер.

„Прыблізна такім-жа парадкам утвараюцца глебы на пяскох і супяскох, блізка падасланых марэнай. Пабудова глебатворчага грунту з дзьвюх парод: пясок, супясок і суглінак, падасланых марэнай, альбо з трох парод: суглінак-пясок-марэна — зьяўляецца тыповай для Беларусі.

[1]) „Почвенный покров Гомельской губ. „Советское строительство" № 2, 1926 г. Менск.

# СХЭМАТЫЧНАЯ КАРТА ГЛЕБ

## ГОМЕЛЬСКАЙ АКРУГІ БССР

СКЛАЎ П. П. РАГАВЫ

**1928**

*Маштаб 1:800.000*



Адступленьне з гэтага прадстаўляюць толькі глыбокія лёэсавыя і лёэсападобныя пароды. Глебы такога тыпу вельмі пашыраны на Беларусі.

Уплыў падсьцільнай марэны на верхнія паземы глебы тым больш, чым бліжэй да паверхні знаходзіцца марэна".

Выбарачнае дасьледваньне садоў Гомельшчыны ў 1928 г. ахапіла плошчу каля 440 гэктараў з агульнай плошчай каля 5000 гэт.)

Сады пераважна займаюць сярэдня-падзолістыя глебы на супяскох, падасланых марэнай, і моцна падзолістыя глебы на лёэсавідных суглінках.

Умовы рэльефа, глебы, падглебы і глыбіня грунтовых вод адбіваюцца на становішчы саду (мал. 1).

Лепшыя сады заўсёды знойдзем ва ўмовах прыўзьнятай мясцовасьці, са схілам, з натуральным вадастокам. У першую чаргу гэта тычыцца лёэсавідных суглінкаў (мал. 2).

Непасрэдна пад Гомелем мясцовасьць (па прав. берагу Сожа) з лёэсавідным суглінкам пад садамі досыць роўная з мала прыкметнымі западзінамі, якія ствараюць умовы для забалочваньня. На западзінах гінуць сады б. Кузьняцова, Лысянкова (у 6—7 кілём. ад Гомеля). Наогул трэба заўважыць, што, незалежна ад мэханічнага складу глебы, па западзінах, у асобнасьці дзе блізка грунтавая вада, сады гінуць

У садзе селяніна Лысянкова (пад Гомелем) на западзіне была выкапана яма ў якой паземы аказаліся разьмеркаванымі наступным парадкам:

$A_1$—24 см. цёмна-шэрага колеру;

$A_2$—19 см. бялёсы;

B—55 см бялёсы з шызым адценьнем і бурымі зацёкамі.

Ніжэй залягае пазем C—пясок з уключэньнем закісі жалеза. Грунтовая вада залягае на глыбіні 135 см. ад паверхні. Глебавы тып падзоліста балоцісты, па мэханічнаму складу лёгкі суглінак. Вясной вада затрымліваецца.

Сад узросту 22 — 24 год у апошнія гады саусім ня пладаносіць. Згінула з часу пасадкі каля 40% яблынь, з ліку застаўшыхся хварэе 35%.

У садзе арцелі „Узыходзячая Зара" Глухавічскага с/с. Брагінскага раёну на паніжанай частцы, дзе выкапана была яма, знойдзена наступнае:

$A_1$—20 см. пазем сьветла-шэрага колеру;

$A_2$—20 см. бялёсы;

B—30 см. цёмна бурага колеру.

Ніжэй залягае пазем C, а на глыбіні 140 см. залягае грунтовая вада. Глебавы тып у садзе падзолісты і моцна падзолісты. На паніжанай частцы назіраецца працэс забалочваньня. Па мэханічнаму складу лёгкі суглінак; падглеба—супясок і пясок. Вясной вада застойваецца ад 2-х тыдняў да месяцу. Грунтавая вада залягае на глыб. 1,4 м.

У гэтай паніжанай частцы саду згінула 60% дрэў, а астатнія з засохлымі верхавінамі.

У Чачэрскім раёне, Новазарэчынскага с/с. заслуговае ўвагі сад гр. Зубкова. На нізіне, дзе вада выступае на глыбіні каля 0,62 м., пладовыя дрэвы гінуць. Вышэй, дзе на паверхні блізка залегаюць пяскі, дрэвы таксама сябе дрэнна адчуваюць, але з шэрагу сартоў вызначыўся, як досыць устойлівы, „Штрэйфлінг" і некаторыя сарты ігруш.

Дрэннае становішча садоў на паніжаных частках рэльефу: у „Сьвірыдавічах" (у 21 кілём. ад Рэчыцы), у „Прасьвятае" (7,5 кілём. ад Рэчыцы), „Халочча" у Чачэрскім раёне, у камуне „Крапоткіна" (55 кілём. ад Гомеля).



*Мал. 1.* Пэпін Літоўскі ўзросту 25 г. Гіне на высокім месцы рэльефа (лёэсавідны суглінак) „Верхняе-Брылёва“



*Мал. 2.* Белае Салодкае ўзросту 40 г. (савг. Верхняе Брылёва) у дыямэтры 12 мэтр. на лёэсавідным суглінку

Такім чынам пры выбарачным дасьледваньні садоўніцтва Гомельшчыны 35,5% *дарослых садоў вызначаліся закладзенымі ў дрэнных умовах рэльефу.*

Лепшыя сады у Гомельшчыне сустракаюцца на лёэсавідных суглінках (непасрэдна пад Гомелем, таксама ў Брагінскім і Хойнікскім раёнах).

Па водзыву П. Рагавога — „гэта адна з лепшых глеб Беларусі. Той факт, што глеба моцна ападзолена, паказвае на тое, што рашчынальная здольнасьць глебавага працэсу вялікая, значыцца, глеба здольна з лёгкасьцю пераводзіць у рашчыну прадукты ўгнаеньня, астаткі расьлін і жывёлы і забясьпечваць расьліну рашчыненымі пажыўнымі матэрыямі“.

Пры адпаведным рэльефу прыдатнымі для пладоўніцтва зьяўляюцца сярэдне-ападзоленныя пяскі і супяскі, падасланыя марэнай. Пажадана, каб марэна знаходзілася ня глыбей 1—1,5 мэтра ад паверхні.

**Адлегласьць паміж дрэвамі**. У садох Гомельшчыны адлегласьць паміж радох дрэў хістаецца ад 6,4 да 10,7 мэтра (мал. 3).

Колькасьць дрэў на 1 гэктар ад 74 да 186, пры чым апошняя лічба зьвязана з выпадам дрэў.

Найбольшую адлегласьць у 10,7 м. мы знаходзім у некаторых садоў пад Гомелем, што складае каля 90 дрэў на 1 гэктар. Павялічэньне адлегласьці зьвязана з пашырэньнем кароны вядомых сартоў, як Антонаўка, Штрэйфлінг, Штэцін Чырвоны і г. д.

У садзе „Латвія“ (каля Гомеля) паасобныя 17-гадовыя дрэвы антонаўкі дасягалі ў 1928 г. каля 8 мэтраў ў дыямэтры кроны. У садзе ўжываецца чорны папар, і пры адлегласьці 10,6 × 10,6 м. ужо няма магчымасьці разводзіць прамежныя культуры. Між тым у бліжэйшым садзе Вэрасава ўзросту 11 год, дзе адлегласьць тая самая (10,6 × 10,6 м.), у сувязі з тым, што карона Антонаўкі разгарнулася пакуль што ў сярэднем на 5,5 м.—ёсьць магчымасьць разводзіць гародніну, ягадныя культуры і г. д. У садзе „Латвія“ у восень 1928 г. з 12 гэкт. атрыман незначны прыбытак.

У садзе Вэрасава ўраджаю пладоў ня было, а прыбытак ад гэткай жа плошчы з прамежнымі культурамі дасягаў некалькі тысяч руб. (мал. 4).

Пры закладаньні садоў на 10 мэтраў з шырока растучых сартоў яблынь пры спрыяючых умовах глебы праз 20 год кароны зыйдуцца і разводзіць прамежныя культуры ня будзе магчыма.

Сучаснае становішча арганізацыі буйна-таварнага пладоўніцтва ў Нямеччыне мае на увазе атрымліваць вышэйшы прыбытак з адзінкі плошчы толькі пры умовах ужываньня прамежных культур. Мы лічым што сады і ў нашых умовах будуць прыбытковымі, калі заўсёды паміж радоў будзе існаваць сыстэма прамежных культур. Апошняя сыстэма зьявіцца страхаваньнем на выпадак няўраджаю пладоў.

Такім чынам паўстае пытаньне: *на якую адлегласьць трэба разьмеркаваць рады дрэў і паміж дрэвамі, каб на працягу існаваньня саду (50—70 год) карыстацца прамежнымі культурамі.*

Нажаль дасьледваньне садоў Гомельшчыны і іншых вядомых нам раёнаў БССР не дае адказу на грунтоўнае пытаньне.

Заўважым, што пры 10 мэтрах адлегласьці паміж радамі дрэў (напр. антонаўкі) на лёэсавідных суглінках пад Гомелем пры рацыянальнай культуры—праз 20 год нямагчыма будзе ўжываць сыстэму прамежных культур.

Досыць абгрунтаваны матар'ял мы знаходзім па гэтаму пытаньню ў працы А. Янсона „Прамысловае пладоўніцтва“ (Нямеччыны), у якой





*Мал. 3.* Стары пладовы сад 4×4 м. „Верхняе Брылёва“



*Мал. 4.* Капуста „Амагэр“ у міжрадзьзях 11 гадов. саду Вэрасава (адлегласьць паміж дрэвамі 10.6×10.6 м.)

маецца табліца адлегласьці паміж дарослымі дрэвамі. Адпаведная адлегласьць паміж дрэвамі робіць той ці іншы ўплыў на прамежныя культуры.

| Назва культур | Адлегласьць паміж радамі | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 8 м. | 10 м. | 12 м. | 15 м. | 20 м. |
| Садовая буйнаплодная суніца | 35 | 30 | 20 | 8 | 6 |
| Парэчкі | 30 | 30 | 20 | 8 | 4 |
| Агрэст | 25 | 15 | 12 | 5 | 3 |
| Маліна | 40 | 35 | 20 | 8 | 3 |
| Агуркі | 50 | 40 | 30 | 15 | 4 |
| Спаржа | 50 | 35 | 20 | 10 | 5 |
| Рэвень | 18 | 12 | 10 | 3 | 2 |
| Раньняя бульба | 50 | 35 | 20 | 10 | 4 |
| Белакачанная капуста | 22 | 20 | 10 | 5 | 3 |
| Гарох | 40 | 34 | 20 | 10 | 4 |
| Таматы | 65 | 60 | 40 | 15 | 8 |
| Цыбуля | 25 | 20 | 10 | 6 | 5 |
| Морква | 22 | 20 | 15 | 8 | 3 |
| Шпінат | 20 | 18 | 10 | 6 | 4 |
| Сэльдзерэй | 20 | 15 | 10 | 6 | 2 |
| Кошык. лаза | 25 | 18 | 12 | 10 | 6 |
| Конскі боб | 28 | 25 | 20 | 10 | 8 |
| Бульба | 38 | 25 | 20 | 12 | 8 |
| Каласковыя расьліны | 35 | 25 | 18 | 12 | 8 |
| Сенажаць | 30 | 22 | 18 | 10 | 6 |

Па гэтай табліцы відаць, што з 1 гэктару дарослага саду пры адлегласьці ў 10 мэтраў паміж радамі дрэў ураджай буйнаплоднай суніцы зьніжаецца на 30% (у параўнаньні з нармальнай плянтацыяй), пры 15 мэтрах зьніжаецца толькі на 8% і г. д. (мал. 5 і 6).

У выніку сваёй шматгадовай практычнай працы па арганізацыі прамысловых садоў у Нямеччыне і на падставе шэрагу лічбаў А. Янсон прыходзіць да наступных вывадаў: „*лепшая адлегласьць для адкрытай культуры (пладовай) знаходзіцца паміж 14—17 мэтрамі рад ад раду*“.

У восень 1928 г. некаторыя новыя групавыя сады ў Гомельшчыне былі закладзены на 12×12 мэтраў. Мы лічым мэтазгодным на лепшых глебах перайсьці да наступнай сыстэмы пасадкі: 14 × 10 м., альбо 14 × 12 м., прычым адлегласьць паміж радамі 14 мэтраў, а паміж дрэвамі 10 м. (альбо 12 м.).

*Напрамак радоў павінен абавязкова быць накіраван з поўначы на поўдзень* з разьлікам, каб прамежныя культуры заўсёды карысталіся лепшым асьвятленьнем.

Пры сыстэме 14 × 12 мэтраў на 1 гэктар зьмясьціцца каля 65—70 дрэў.

А. Янсон даводзіць шэраг лічбаў, якія сьведчаць аб тым, што 50 высокаштамбавых пладовых дрэў з сыстэмай прамежных культур дадуць



*Мал. 5.* Буйнаплодная суніца „Шарплес“ у міжрадзьдзях саду Алыменкова. Адлегласьць паміж дрэвамі 8.5 × 8.5 мэтр.



*Мал. 6.* Маліна у міжрадзьдзях саду Кавалева.

значна больш прыбытку, як сад, у якім будзе 100 пладовых дрэў (на 1 гэктар).

Арганізацыя новага пладоўніцтва з сыстэмай прамежных культур ня сустрэне ў БССР перашкод з боку тэхнікі. Клімат наш вельмі сталы, а галоўнае да 75% ападкаў разьмеркавана паміж вегэтацыйным кругабегам.

Пры дасьледваньні вызначылася, што ў большасьці садоў (58,3%), дзе кароны ўжо зыходзяцца, ужываецца папар. У дарослых садох, дзе значны лік выпаўшых дрэў, сеюць бульбу, мешанку вікі.

Гародніну ў якасьці прамежнай культуры разводзяць у садох пад Гомелем. Культура гародніны была знойдзена ў 15% дасьледав. садоў. У садзе Вэрасава апроч гародніны, шырока разгарнута ягадная культура: буйнаплоднай суніцы, маліны.

Наогул гэты сад у 8 кілём. ад Гомеля па сваёй высокай арганізацыі са складанай сыстэмай прамежных палявых, гародных і ягадных культур зьяўляецца прыкладам для новага буйнага каляктыўнага садоўніцтва БССР.

Памянёны сад закладзен у 1915—17 г. на адлегласьці 10,6 × 10,6 м. Кароны ў 12 гадовых Антонавак разгарнуліся ў сярэднім на 5,5 мэтраў. Такім чынам паміж каронамі яшчэ засталося па 5 мэтраў абшару сьвятла для разводу прамежных культур. Але з кожным годам кароны будуць пашырацца, ураджай прамежных культур будзе зьніжацца і праз 8—10 год трэба будзе перайсьці да ўжываньня папару.

Шпаркае разьвіцьцё буйнага таварнага пладоўніцтва вымагае нармалізацыі аснаўных прыёмаў закладаньня новых садоў. Паміж іншым адлегласьць дрэў у садзе зьяўляецца пытаньнем значнай эканамічнай важнасьці.

**Парадак пасадкі.** Пры дасьледваньні знойдзена, што 64% садоў закладзена квадратовым парадкам, 18% маюць палеткі саду з квадратовым і шахматным парадкам і 18% засаджаны шахматным спосабам.

Лепшыя сады Гомельшчыны: Вэрасава, „Вастрагляды“ і г. д. закладзены квадратовым парадкам.

Чым кіраваліся арганізатары садоў, калі выбіралі той ці іншы парадак пасадкі?

Адказ мы знойдзем у практычных падручніках па садоўніцтву, якія наогул раілі і раяць розны парадак пасадкі.

Між тым у новых садох са значнай адлегласьцю паміж радоў дрэў, з ужываньнем інтэнсыўнай апрацоўкі глебы (ўдоўж і поперак) неабходна практыкаваць квадратовы, а яшчэ лепш *прамакутны парадак* (12×10, альбо 14×12 мэтраў).

У сувязі з машынізацыяй у буйных масывах новага садоўніцтва трэба мець на ўвазе ўвядзеньне ў практыку спэцыяльных садовых трактараў, фрэзараў, маторных апырсківаццеляў (якія працуюць на 4 рукавы). Пры шахматным парадку праца гэтых машын будзе стратнай. Прыхільнікі шахматнай пасадкі бароняць значэньне апошняга парадку таму, што нібы дрэвы, пасаджаныя шахматам, лепш затрымліваюць вецер і г. д. На гэта ёсьць іншая парада: закладаць жывыя забароны.

Справа нармалізацыі новых садоў вымагаюць ад нас па шэрагу прычын эканамічнага характару раіць для ўмоў БССР *прамакутны парадак пасадкі.*

Большасьць новых садоў, закладзеных у 1928 г. пад кіраўніцтвам Наркамзема БССР і яго мясцовых органаў, маюць квадратовы парадак.

**Заслона ў садах.** Абаронныя пасадкі знойдзены былі ў 74% дасьледваных садоў. Жывая заслона зьяўляецца неабходнай ва ўмовах БССР. Галоўнае значэньне абароны саду ад вятроў у пару кветкаваньня, пасьпяваньня пладоў, зімовай парой.

Значная колькасьць садоў мае заслоны з лісьцёвых парод: ліпы пірамідальнага тапол я, ясеня, лазы і г. д. Блізкасьць да саду падобных парод бязумоўна стварае небясьпеку з боку шкоднікаў. Найбольш пажаданай зьяўляецца хваёвая парода, якая сустракаецца досыць рэдка, толькі ў выпадках. У першую чаргу абарону неабходна закладаць з поўначы, з ўсходу, а ў пару пладанашэньня павінна быць добра забаронен і захад.

У значнай колькасьці садоў заслона вельмі блізка адстаіць ад бліжэйшых радоў пладовых дрэў (у 6—7 мэтраў). Больш менш здавальняючую адлегласьць на 12,8 мэтраў мы наглядаем у „Вастраглядах“.

Закладаньне абаронных пасадак з хваёвых парод (пераважна елкі) зьяўляецца абавязковым мерапрыемствам, за выкананьнем якога пільна павінны сачыць Акрза і Наркамзем.

**Асноўныя пладовыя пароды і ўстойлівы таварны асартымэнт.** Галоўнай породай ў садах Гомельшчыны зьяўляецца яблыня. У лепшых пладовых пасадках акругі мы знаходзім наступныя суадносіны парод:

У садзе „Латвія“ (пад Гомелем) яблынь 95,9%, ігруш 3%, сьліў 1%;

У садзе Вэрасава—пераважна яблыні;

У „Вастраглядах“ яблынь 93,6%, ігруш 2,1%, касткавых 4,3%.

Цэнтральнай і акруговай памалёгічнай камісіямі для Гомельшчыны вызначана: яблынь 85%, ігруш 10%, касткавых 5%.

Па кліматычным умовам на поўдні ад Гомеля, асабліва ў Хойнікскім, Брагінскім і Камарынскім раёнах ёсьць магчымасьць значна пашырыць культуру досыць каштоўных сартоў ігруш, сьліў, вішань і чарэшні.

У Брагінскім раёне ў садзе „Савіча“ мы знаходзім 60 дрэў „Лясной прыгожай“ узросту каля 20 год (75% здаровых), Бэры-дзэль 25 дрэў гэткага жа ўзросту (100% здаровых).

У паўднёвых раёнах сустракаецца Бэра Слуцкая і шэраг іншых замежных сартоў.

У сувязі з разгортваньнем працы па арганізацыі тэхнічнай перапрацоўкі садавіны неабходна будзе больш увагі зьвяртаць на павялічэньне плошчы пад касткавыя і ягадныя культуры.

Каб ацаніць і выявіць найбольш каштоўны і патрэбны асартымэнт яблынь (ігруш) для Гомельшчыны мы падкрэсьліваем неабходнасьць вызначыць галоўным чынам устойлівасьць дрэў, ураджайнасьць і таварнасьць таго ці іншага сорту.

Найбольш мэтазгоднае вырашэньне гэтай актуальнай праблемы мы знаходзім у садзе Вэрасава, дзе антонаўкі 74,5%, штрэйфлінгу 14,3%, транспарэнту (летняга) 4,9, іншых сартоў 6,8%.

Як відна з апісаньняў, памянёныя сарты адзначаны як устойлівыя.

Адносна антонаўкі трэба заўважыць, што ва ўмовах Гомельшчыны гэты сорт зьяўляецца восенскім, нятрывалым у лежцы і слабым у транспарце. Таму ёсьць імкненьне паменшыць лік антонавак у новых садох. Па сваей ураджайнасьці, устойлівасьці драўніны антонаўка пакуль што зьяўляецца выключным сортам.

У садзе „Латвія“ лік выпаўшых антонавак 9%, хворых 7,6%.

У садзе Вэрасава—антонаўкі згінула 1,5%, хворых 2%.

У „Вастраглядах“ сярод 2551 антонавак здаровых 96,7%.

У „Савічах“ паміж 1311 антонавак 95,7% здаровых.

У садзе „Пладавод“ у м. Чачэрску на сярэдня-падзолістых супяскох налічваецца да 535 антонавак узросту каля 80 — 90 год, прычым здаровых 95,5%; з 583 антонавак узросту каля 45 год налічваецца 97,1% здаровых дрэў.

Толькі ў наяўна дрэнных умовах рэльефу, на спадах з блізкасьцю грунтовай вады — антонаўка паказвае значны процант хворых дрэў (як напрыклад у садзе „Камуна Крапоткіна“, дзе 49% хворых антонавак і г. д.).

Другім сортам па сваей каштоўнасьці пладоў, ураджайнасьці, устойлівасьці супроць паршы зьяўляецца *штрэйфлінг* („Васеньняе паласатае“).

Цікава адзначыць, што з гэтым сортам насельніцтва мала знаёма. Між тым штрэйфлінг бязумоўна павінен будзе канчаткова ў новых садах выцісьнуць цітаўку, баравінку, апорт (мал. 7).

Штрэйфлінг восеньскі сорт і на працягу 2 месяцаў—(кастрычнік і лістапад) можа здаволіць насельніцтва. На Ленінградскім рынку штрэйфлінг карыстаецца вялікім попытам і заўсёды на 50% каштоўней ад антонаўкі. Наша мясцовае насельніцтва, калі ў пяршыню знаёміцца з штрэйфлінгам, пачынае шанаваць гэты сорт, як лепшы па смаку, пекны па афарбоўцы (чырвоная водцень на жоўтым фоне), які ня хварэе паршой і значнай ураджайнасьці.

У садзе Вэрасава на 781 антонавак даводзіцца 150 штрэйфлінгу; у садзе „Латвія“ 10,6% (123 др.) гэтага сорту. У „Яроміне“ звыш 100 дрэў, прычым 78,8% здаровых. Абмеры дыямэтру кароны 8 дрэў штрэйфлінгу узросту 45 год паказалі 10 мэтраў.

Дасьледваньне саду „Прудок“ сьведчыць, што па ўраджайнасьці першае месца займае штрэйфлінг.

У садзе Зубкова (Чачэрскага р.) у няспрыяючых умовах сярэдня-ападзоленых супяскоў (на тыгравых пяскох) выпаў значны лік пладовых дрэў за выключэньнем сорту штрэйфлінга; прычым антонаўкі 50% здаровых, Штрэйфлінга 80%.

Калі факт прыстасаваньня штрэйфлінгу да лёгкіх супяскоў знойдзе пацьвярджэньне для іншых раёнаў БССР, тады гэты сорт набудзе выключна важнае значэньне.

Наступным сортам, найбольш вядомым у Гомельшчыне пасьля антонаўкі (якой налічваецца 66—67%), зьяўляецца Пэпінка Літоўская (8,8%), якая адзначаецца высокай і вельмі раньняй ураджайнасьцю. Здараецца, што праз 2—3 гады Пэпін Л. пачынае пладанасіць. Трэба лічыць, што гэты сорт вымагае лёгкіх сугліністых глеб, добра ўгноеных і наогул вельмі добрага дагляду (мал. 8).

Заўважым, што ў некаторых садох пад Гомелем на лёэсавідных суглінках Пэпін Л. ня добра сябе адчувае і нават у садзе Сяменава гэты сорт зусім выпадае (засыхае). У садзе „Латвія“ з 17 Пэпіну Л. хварэе 7 дрэў (18-гадов. узросту).

Значная колькасьць гэтага сорту сустракаецца ў Брагінскім і Хойнікскім раёнах.

У садзе „Узыходзячая Зара“ Брагінскага р. сярод 2478 пладовых дрэў—720 Пэпіну Л. Глеба — моцна падзолісты лёгкі суглінак; падглеба супясок і пясок. Хворых дрэў Пэпіну Л. знойдзена 41%. Гэта тлумачыцца папершае тым, што частка саду знаходзіцца на зьніжэньні, дзе наглядаецца блізкасьць грунтовай вады. Па другое праз 30 — 35 год Пэпін Л. пачынае пасьля значнай ураджайнасьці выміраць.

У „Вастраглядах“ з 165 дрэў Пэпіну Л. (4,5% ад агульнага ліку дрэў) на лёгкім суглінку і супяску хварэе 23 дрэвы, альбо 13,9%.



*Мал. 7.* Штрэйфлінг узросту 35 г. „Яроміна“



*Мал. 8.* Пэпін літоўскі. Дыямэтр кароны 6.5 м. Вышыня — 4,20 м., узрост 19 год

Ва ўмовах гэтай гаспадаркі П. Л. узросту 16—35 год лічыцца добрым сортам, са значнай штогодняй ураджайнасьцю. Дрэвы ўзросту 19 год маюць добра разьвінутую крону ў сярэд. 6,4 мэтра ў дыямэтру.

Плады Пэпіну Л. у Вастраглядах маюць добры збыт, высокую цану і досыць добра захоўваюцца ў лёжцы.

Гэты сорт па кліматычных умовах шырока распаўсюджваецца паўднёвей ізалініі ў 190 дзён вегэтацыі, якая праходзіць праз Менск, Бабруйск, Гомель.

Паскольк з біолёгічнага боку Пэпін Л. рана пачынае пладанасіць і досыць рэгулярна, паскольк пладанашэньне вельмі значнае—гэты сорт вымагае да сябе вельмі ўважлівых адносін садавода. Пад дрэвы неабходна штогод уносіць штучнае угнаеньне (так сама і гной).

Карона П. Л. ў дарослых дрэў ня шырокая і дасягае 6—7 мэтраў. Па абмерам П. Л. ў Вастраглядах 19 гадовага дрэва ў сярэднім мае ў шырыню 6,4 мэтра, між тым як Антонаўка (19 год) 7 м., Штэцін Чырвоны 8 мэтраў.

У с. Хойнікскага аграпункта абмеры карон П. Л. узросту 28 год у сярэднем паказалі 6 мэтраў.

У садзе селяніна в. „Заспа“ Рэчыцкага раёну Акуліча абмер кароны 18 гадов. дрэва паказаў 4,7 м., 35-гад. узросту 6,6 м.

На падставе шэрагу абмераў карон магчыма зрабіць вывад, што Пэпін Л. у чыстай пасадцы патрабуе адлегласьці ў 6 — 7 мэтраў і што ён праз 30—35 год пачынае ў нашых умовах выпадаць. Пры арганізацыі новага буйнага пладоўніцтва ў паўднёвых раёнах БССР на адпаведных глебах магчыма будзе ў некаторых выпадках прытрымлівацца наступнай сыстэмы: на 14—15 мэтрах рад ад раду пасадзіць аснаўны сорт, як напрыклад Антонаўку, Штэцін Чырвоны (з шырокай каронай) а паміж дрэвамі і ў міжрадзьзях Пэпін Л. Пасьля 30—35 год дрэвы апошняга сорту трэба будзе зусім выкарчаваць; асноўныя сарты будуць мець значныя абшары для разгортваньня кароны.

У Паўночнай Амэрыцы падобная сыстэма (у некаторых штатах) закладаньня яблыневых садоў мае вялікі посьпех.

З таварных сартоў яблык, якія заслугоўваюць увагі, неабходна застанавіцца на *Штэцінке Чырвонай*. Плады сярэдняй, раўнамернай вялічыні, цёмна-чырвонага колеру, захоўваюцца да наступнага лета. Мякаць зелянаватага колеру, сакавітая і смачная. Лежкасьць пладоў Ш. Ч. з Мазыршчыны, Гомельшчыны, Бабруйшчыны вывучаецца ў скляпу Бел. Дз. Акадэміі ўжо некалькі год. Вынікі лёжкасьці вельмі здавальняючыя: яблыкі захоўваюцца на 100% да траўня мес., а пры даглядзе і пазьней. Смак Штэцінкі Ч. у красавіку і траўні вельмі добры і пераўвышае якасьць крымскіх сартоў, як Кандзіль-сінап і Сары-сінап.

Пашырэньне гэтага сорту трэба аднесьці на поўдзень ад Гомеля ва ўмовах Брагінскага, Хойнікскага раёнаў Ш. Ч. знаходзіць сабе поўнасьцю спрыяючыя абставіны для свайго разьвіцьця.

Штэцінка Ч. добра сябе адчувае ў Случчыне (у саўгасе „Бранчыцы“) і на поўдні ад Бабруйску (сад „Бортнікі“). Садаводам трэба мець на ўвазе, што гэты сорт вымагае глыбокай, перагнойнай сугліністай глебы пры добрых умовах падглебы і рэльефу.

Ш. Ч. шырока разгортвае сваю карону.

У „Вастраглядах“ 19-гадовага ўзросту дасягае *8 мэтраў*, між тымі як антонаўка ў гэтым жа (19-гадов. узросту) садзе *7 мэтраў*, Пэпін Л. — 6,4 м.






*Малюнак 9.*



*Мал. 10.* Штэцін чырвоны. Дыям. кароны 8.30 м. Вышыня 6.4. Узрост 19 г. („Вастрагляды“)

У гэтай гаспадарцы хворых дрэў Ш. Ч. толькі 8%, між тым як Пэпіну Л. 13,9%.

Добра сябе адчувае Ш. Ч. у садзе Хойнікскага аграпункту пры м. Хойнікі (на падзоліст. лёгк. суглінку, які на 1,5 м. глыбіні падсьцілаецца ледавіковым навалам). 12 дрэў 40-гадов. ўзросту ўсе здаровыя; дыямэтр кароны блізка каля 9 мэтраў.

У садзе „Гарыводы“ (у 7 кілём. ад г. Рэчыцы) з 31 дрэў Ш. Ч. хварэе 5 (16%), антонаўкі хварэе 22%.

У гэтым садзе пасьля Антонаўкі другое месца па сваей значнасьці займае Штэцінка Ч.

Як відаць з апісаньня садоў „Пладавод“ (у м. Чачэрску) і „Камуна Крапоткіна“, Ш. Ч. сустракаецца і на поўначы ад Гомеля, дзе ня зусім добра сябе адчувае, дзякуючы няспрыяючым умовам бедных супяшчаных глеб.

Цікава адзначыць, што па атрыманых дадзеных у садзе „Пладавод“ у сярэднем за 6 год (23—28 гг.) вышэйшую ўраджайнасьць 72 кілёгр. з 1 дрэва паказаў Штэцін Ч.; між тым як Антонаўка 69 кілёгр.

Пры дасьледваньні Ш. Ч. быў знойдзен у 23 садах (з агульнага ліку). Паміж іншымі сартамі Гомельшчыны ён займае пакуль што нязначнае месца. Тарнасьць гэтага сорту бяспрэчная, устойлівасьць на поўдні здавальняючая. Таму неабходна пашырыць культуру Ш. Ч. і дзе магчыма перапрышчэпліваць гэтым сортам мала прыбытковыя сарты.

Такім чынам Антонаўка, Штрэйфлінг, Пэпін Л. і Штэцін Ч. зьяўляюцца асноўнымі таварнымі сартамі дасьледаваных раёнаў Гомельшчыны, прычым апошнія 2 сарты патрабуюць вельмі асьцярожнага выбора адпаведнай глебы, падглебы і наогул значнай увагі.

У паўднёвай Гомельшчыне з яе павабным кліматам мы сустракаем шэраг каштоўных Заходня-Эўрапэйскіх сартоў з клясу ранэтаў: Р-т Лянзбэрга, Р-т Касэльскі, Р. Арлеанскі і г. д. Сустракаем крымскій сорт—Кандзіль-Сінап, Курскі Залаты Ранэт.

Пры ўважлівай культуры, асабліва пры ўжываньні перапрышчэпліваньня ў карону—Ранэт Лянзбэрга і Курскі Залаты Ранэт значна ўзьнімуць прыбытковасьць садоў у паўднёвай Гомельшчыне.

У садох Гомельшчыны сустракаецца шмат дзесяткаў сартоў яблынь і большасьць з іх ня здавальняюць патрэбам рынку, са слабай устойлівасьцю і г. д. Сярод іх значны лік сартоў выраждаючыхся, сарты старыя са значным процантам выпаду і хворых у нястарым узросту. Да апошніх сартоў трэба аднесьці Апорт, Баравінку, Цітаўку. Згодна сабраных матар'ялаў дасьледваньня бяспрэчна падкрэсьліваецца значная хваравітасьць гэтых сартоў.

Лепшы таварны сорт павінен мець *раўнамерную сярэднюю вялічыню, пекную, па магчымасьці чырвоную афарбоўку, устойлівасьць супроць пацiску, моцнае мяса, працяглую лёжкасьць, устойлівасьць драўніны, лісьця і пладоў супроць шкоднікаў і хвароб, раўнамернае, добрае пладанашэньне.*

Каб больш шпаркім тэмпам аднавіць наша пладоўніцтва неабходна тэрмінова прыступіць да ўвядзеньня ў культуру шляхам апрабаваньня амэрыканскія сарты яблык, з тых кліматычных раёнаў, якія блізкія да нашых умоў. Неабходна больш рашуча прыступіць да апрабаваньня новых сартоў яблык, якія выведзены шляхам гібрыдізацыі ў БССР, у РСФСР і гэт. далей.

У Гомельскай акрузе культура ігруш, асабліва на поўдні, знаходзіць сабе павабныя кліматычныя ўмовы. Па сваёй устойлівасьці, доб-




*Малюнак 11.*



*Мал. 12.* Рэнэт Лянэберга. Дыям. кароны 6,20 м. Вышыня 4,7 м. Узрост 19 г. („Вастрагляды“)

рай ураджайнасьці і таварнасьці пладоў неабходна адзначыць Бэру Слуцкую.

У садзе „Пладавод“ (м. Чэчэрск) на падзолістым супяску дасьледавана 116 дрэў Бэры Слуцкай узросту 40—45 год. Лік хворых знойдзена ўсяго 7%. У гэтым садзе плошчай у 13 гэктараў, у якім налічваецца 1389 яблынь разных сартоў і 250 ігруш, Бэра С. выявіла сябе найбольш устойлівым сортам.

У садзе аграпункту пры м. „Хойнікі“ знойдзена 17 дрэў Бэры С. узросту 40 год зусім здаровых; дыямэтр кароны 9,3 мэтра, вышыня 10,2 м. У 1928 г. ураджай (у гэтым садзе) з аднаго дрэва дасягаў у сярэднем 240 кгр., а з паасобных дрэў на 320—400 кгр.

Лёгкі падзолісты суглінак, пад якім на 1,5—2 мэтра залягае марэна, стварае ў Хойнікскім раёне (разам з павабным кліматам) выключна спрыяючыя ўмовы для пашырэньня таварнага пладоўніцтва.

Наколькі павабным зьяўляецца клімат паўднёвай Гомельшчыны сьведчыць радасны факт культуры ў Брагінскім, Хойнікскім раёнах найбольш каштоўных заходня-эўрапэйскіх сартоў ігруш.

У прыватнасьці ў 22 кілём. ад м. Брагіна ў садзе „Савічы“ знойдзена „Лясной Прыгожай“ 60 дрэў, Бэры Дзіль 25 дрэў—узросту 18—20 год.

Заўважым, што найбольш *каштоўны сорт Бэра-Дзіль здароў на 100%.*

„Лясная Прыгожая“ досыць шырока распаўсюджана на поўдні ад Гомеля і сустракаецца ў значнай колькасьці ў дасьледаваных садах.

Арганізацыя новага садоўніцтва вымагае ад нас вельмі сталага пазнаньня клімату паасобных раёнаў, глебы і падглебы, зусім сталага прадстаўленьня аб патрэбнай адлегласьці паміж дрэвамі, аб значэньні прамежных культур, падбору таварнага, устойлівага асартымэнту і сучасных асноў рацыянальнай тэхнікі на падставе навукова - дасьледчых вынікаў.

Аналіз матар'ялаў выбарачнага дасьледваньня 31 саду Гомельшчыны сьведчыць, што большасьць садоў за апошнія 30 — 40 год закладалася бяз усякага навуковага абгрунтаваньня, на падставе выключна мясцовых нагляданьняў.

Шэраг закладзеных садоў з рознастайным асартымэнтам у розных умовах рэльефу, глебы, падглебы зьяўляецца нібы вялізным рызыкоўным досьледам, які цяпер праз 40 — 60 год дае дасьледчыку шэраг каштоўных матар'ялаў, на падставе якіх мы можам рабіць вывады аб тым, як ня трэба закладаць новыя сады.

Шпаркім тэмпам мы павінны вывучаць нашы старыя масывы садоў, каб ні ў якім разе не дапусьціць арганізацыйных і тэхнічных памылак пры разгортваньні новага буйнага сацыялістычнага садоўніцтва.

Паглыбленьне і пашырэньне навукова-дасьледчай працы дасьць моцную падставу і ўпэўненасьць у тым, што новае садоўніцтва і праз 20—30 год ня будзе мець тых значных памылак, якія мы цяпер наглядаем у старых садох.

Сады Паўночнай Амэрыкі (у штатах па клімату блізкіх да ўмоў БССР) узросту 30—40 год зьдзіўляюць эўрапэйцаў сваёй вышэйшай арганізацыяй, ураджайнасьцю і прыбытковасьцю.

Аб гэтым пісаў праф. Румкер (з Нямеччыны) яшчэ ў 1910 годзе ў сваёй справаздачы „Сельска-гаспадарчыя ўстановы ў Амэрыцы“.

Аб гэтым сьведчыць вялізная навуковая садовая літаратура, а галоўнае вялізная дасьледчая праца, якая ў Амэрыцы дасягнула надзвычайных разьмераў.

Апроч карэнных памылак, зробленых даўней у дарослых садох, трэба падкрэсьліць слабую тэхніку дагляду за садамі ў сучасную пару. У апісаньнях садоў мы знойдзем шэраг фактаў аб значнай колькасьці шкоднікаў і грыбных хвароб на пладовых дрэвах, ад якіх што год гіне 30% ураджаю.

Толькі пры поўнай забясьпечанасьці хэмічнымі сродкамі і машынамі мы здалеем вельмі хутка перамагчы ў значнай меры шкоднікаў.



*Мал. 15.* Лясная прыгожая (Вастрагляды). Узрост 19 г.

Наогул кажучы, ў Гомельскам раёне тэхніка барацьбы са шкоднікамі стаіць вышэй як у іншых месцах БССР.

Другой неадкладнай справай зьяўляецца арганізацыя ўгнаеньня садоў. Вялізную дапамогу мы павінны чакаць ад ужываньня фосфарных і калійных угнаеньняў, а дзе сады яшчэ ня густыя—тамака з посьпехам магчыма сеяць лубін, віку на зялёнае ўгнаеньне.

Выбарачнае дасьледваньне пладоўніцтва Гомельшчыны дазваляе рабіць наступныя вывады:

1. Па кліматычных умовах неабходна адрозьніваць раён на поўначы ад Гомеля, г. зв. „Цэнтральны“ і раён на поўдні, г. зв. „Паўднёвы“.

2. Асабліва спрыяючыя ўмовы ў Брагінскім, Хойнікскім і Камарынскім раёнах, што падкрэсьлена пашырэньнем найбольш каштоўных замежных зімовых сартоў яблык, ігруш і магчымасьцю разводзіць лепшыя сарты сьліў, вішняў і чарэшняў.

3. Большасьць садоў разьмеркавана пераважна на 2 тыпах глеб:

а) на сярэдня падзолістых супясках, падасланых марэнай.

б) на моцна ападзоляных лёэсавідных суглінках, падасланых пяскамі, а мясцамі марэнай.

4. Сады на слаба-падзолістых глыбока - пяшчаных грунтах хутка гінуць і пры належным даглядзе вытрымліваюць толькі некаторыя сарты яблынь, ігруш.

5. На западзінах, дзе ствараюцца ўмовы забалачваньня і наогул дзе вада бліжэй 1—1,5 мэтра да паверхні, сады гінуць.

6. Масавыя абмеры карон паасобных сартоў яблынь, ігруш сьведчыць аб тым, што найбольш шырока разгортваючыяся кароны дасягаюць у дарослых дрэў 8—9 мэтраў. Таму ў сувязі з закладаньнем новых садоў з сыстэмай прамежных культур на лепшых глебах адлегласьць павінна быць наступная (у мэтрах): 12×10, 12×12, 14×12.

7. Парадак пасадкі прамакутны, што выклікаецца меркаваньнямі машынізацыі садовых гаспадарак.

8. Заслона павінна абавязкова быць у садзе выключна з хваёвых парод (елкі) у дастатковай адлегласьці ад пладовых дрэў (на 12—14 мэтраў).

9. Галоўнай пародай у садах Гомельшчыны зьяўляецца яблыня. У паўднёвых раёнах вялізныя магчымасьці для пашырэньня таварнай культуры ігруш, вішняў, сьліў.

10. Высокай ураджайнасьцю, устойлівасьцю і таварнасьцю азначаюцца Антонаўка і Штрэйфлінг. Пэпін Літоўскі і Штэцінка Чырвоная павінны на адпаведных глебах пашырацца ў паўднёвых раёнах.

Неабходна тэрмінова прыступіць да апрабаваньня новых мясцовых і амэрыканскіх сартоў.

11. Неабходна зьвярнуць больш увагі на гандлёвае значэньне Бэры Слуцкай і пашыраць гэту культуру ў паўднёвых раёнах.

12. Неабходна тэрмінова ўзьняць тэхніку дагляду за садамі; асабліва зьвярнуць увагу на барацьбу са шкоднікамі, на ўгнаеньне і апрацоўку глебы ў садах.

# ПРАГРАМА

## экспэдыцыйнага дасьледаваньня пладоўніцтва.

1. Акруга, раён, сельсавет.
2. Сад сялянскі, саўгасу, калгасу і г. д.
3. Плошча саду.
4. Рэльеф, глеба і падглеба.
5. Глыбіня грунтавой вады.
6. Схілы, іх напрамак.
7. Жывая заслона саду, адлегласьць ад бліжэйшых радоў дрэў.
8. Лік дрэў у садзе ў пародах, сартох (колькасьць на 1 гэктар), па тэрміну пасьпяваньня, хворых і здаровых.

| №№ па чарзе | Сарты пладовых дрэў | Узрост. | Час пасьпяван. пладоў | Лік выпаўшых | Усяго дрэў | Лік здаровых дрэў | Хворых | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | Усяго хворых | З марозабойнымі шчылінамі | З ажогам | З ракам | Дуплістых | З ветраломам | Сухавяршынных | З мэханічнымі пашкоджаньнямі |
| | | | | | | | | | | | | | | |

9. Адлегласьць паміж дрэвамі ў садзе.
10. Парадак пасадкі (квадратовы, альбо шахматны) і напрамак радоў.
11. Узрост саду.
12. Адкуль узят пасадачны матар'ял (у якім узросьце).
13. На якім падвою.
14. Спосабы пасадкі (ямы, канавы).
15. Тэрмін пасадкі (вясна, восень).
16. Тэрмін падрыхтоўкі глеб для пасадкі.
17. Угнаеньне пры закладаньні саду.
18. Дагляд за дрэвамі пасьля пасадкі: абрэзка, фармаваньне, вышыня штамбу і г. д.
19. Становішча глебы пасьля пасадкі: ужываньне гародных расьлін і г. д.
20. Угнаеньне саду і калі ўносіліся ўгнаеньня, праз які тэрмін, спосаб унясеньня, глыбіня ўрабленьня, колькасьць на 1 гэктар.
21. Пачатак пладанашэньня паасобных сартоў (на які год пасьля пасадкі).
22. Ураджайнасьць сартоў у асобныя гады; пэрыядычнасьць пладанашэньня.

23. Ураджайсьць сартоў у бягучым годзе і ў мінулыя гады.
24. Угнаеньне і апрацоўка ў бягучы год і ў апошнія 3 гады.
25. Якія сарты ў гаспадарцы найлепшыя і чаму.
26. Якія сарты аказаліся нягоднымі ў культуры і чаму.
27. Як скарыстоўваецца ўраджай: сваімі сіламі, альбо здаецца ў арэнду.
28. Якая арэндная плата.
29. На якім рынку прадаецца ўраджай па якой цане (паказаць цану паасобных сартоў).
30. Адлегласьць ад рынкаў, да чыгункі і рэчак.
31. Колькі пудоў штогод прадаецца на рынку.
31. Каштоўнасьць перавозкі.
33. Прадукцыя саду ў апошнія гады.
34. Лік рабочых у гаспадарцы па дагляду за садам (разлік па сэзонах).
35 Каштоўнасьць закладаньня саду, плоту, будынкаў, інвэнтару.
36. Колькасьць рабочых дзён у гаду на абрэзку, апырскваньне, апрацоўку глебы, унясеньне ўгнаеньня, убіраньне ўраджаю.
37. Кошт аднаго падзённага дню.
38. На які год пасьля пасадкі атрымліваўся прыбытак ад саду і які.
39. Барацьба са шкоднікамі: якія шкоднікі, мерапрыемства, выдаткі на хэмічныя матар'ялы ў год. Грыбныя хваробы.
40. Вышыня штамбу, дыямэтр кароны, дыямэтр штамбу, лік і таўшчыня галін; вялічыня кутоў адыходу галін, сіла росту ў бягучым і мінулых гадох.

---

# Сад гр-на Верасава

## Яромінскага сельсавету Гомельскага раёну.

Гаспадарка гр-на Верасава, Я. І., знаходзіцца ў 8-мі кілёмэтрах ад г. Гомелю. З аднаго боку яна адмяжоўваецца Магілеўскай шашой, з другога—Заходняй Чыгункай. Да бліжэйшай станцыі Касьцюкоўка—1,5 кілёмэтра. Рынкамі збыту зьяўляюцца: мясцовы Гомельскі, з дальніх—Ленінград, Масква, Харкаў. Апошнія два гады адпраўка пладоў ідзе праз пасярэдніцтва Гомельскага садова-гароднага саюзу.

Гаспадарка займае плошчу ў 16,32 гэктараў; з іх пад садам 13,12. Глеба — сярэдне-ападзолены лёгкі лёэсавідны суглінак. Падсьцельная парода—сартавыны пясок. Грунтовыя воды далёка.

Рэльеф няроўны. Частка плошчы ад шашы мае схіл паўночна-заходні, сярэдняя частка—паўднёва-заходні, частка ад чыгункі мае пасярэдзіне нязначную западзіну.

З боку шашы маецца агарожа з пірамідальнага топалю, якая пасаджана ў 1913-ым годзе. Адлегласьць паміж дрэвамі—1,5—2 мэтра, да крайняга раду саду—10,5 мэтр. З боку чыгункі агарожай служыць шчытная сьцяна прычыгуначных прысад з елкі. Адмоўнага ўплыву агарожы на сад—не назіраецца.

Сад садзіўся на працягу трох гадоў з 1915-га па 1917 год уключна. Спачатку пасаджана частка ад шашы; пазьней—ад чыгункі.

Пасадка рабілася вясной у ямы, выкапаныя з восені. Разьмеры ям: глыбіня 0,7 мэтр., дыямэтр 1,0 мэтр. Угнаеньне пры пасадцы не давалася. Верхні гумасавы пазем клаўся на дно ямы.

Парадак пасадкі квадратовы. Адлегласьць паміж дрэвамі—10,7 мэтр. (15 аршын). Напрамак радоў на зах.-пд. усх. Прышчэпы выпісваліся вясной з г. Казельску Калужскай губ. (гадавальнік Златавустава) і з г. Рыгі ад Вагнэра. Частка прышчэпак была з мясцовага Гомельскага гадавальніку Баброва. Вышыня штамбу была 70 — 80 см. Закладка саду каштуе 1100 руб.

На працягу 8-мі гадоў рабілася фармаваньне карон. У 1925 годзе быў падрэзан ніжэйшы ярус і вышыня штамбу павялічана да 1-го мэтру. Гэта зроблена з мэтай больш выгоднай апрацоўкі глебы паміж радамі.

Ураблэньне і ўгнаеньне глебы вядзецца вельмі інтэнсыўна, у сувязі з вядзеньнем прамежных культур.

Старэнная апрацоўка і добрае ўгнаеньне палепшаюць стан саду. Дрэвы маюць здаровы выгляд, з добрым прырастам; лісьце чыстае, цёмна зялёнага колеру. Хворых дрэў у садзе 3,1%. Імшы і лішаёў няма зусім.

З шкоднікаў сустракаюцца зімовая пядзеніца, прадзільнік пярсьцёнкавы (Gastropacha neustria L.), яблыневы кветаед. (Anthonomus pomorum L). Супроць іх вядзецца барацьба як мэханічная, так і хэмічная: зьбіраньне яечак, струшваньне, накладка колцаў, абпырскваньне. Апошняе робіцца два разы: перад і пасьля цьвіценьня. Для гэтага ўжываецца камбінаваная рашчына бардоскай вадкасьці з парыскай зеленьню. Бардоская вадкасьць ужываецца супраць паршы. Для абмазкі колцаў карыстаюцца замежным клеем.

У склад пладовага асортымэнту ўваходзяць 20 сартоў яблык, 4-ы сарты ігруш і 2 сарты вішань. З яблык прамысловае значэньне маюць толькі Антонаўка і Штрэйфлінг. Першай 74,5%. другога—14,3%. Транспарэнту маецца 4,4%. Астатніх сартоў разам 6,8%. Трымаюцца яны ў садзе як памалягічная калекцыя з чыста аматарскай мэтай. Сярод іх ёсьць цікавыя сарты, але ў такой нязначнай колькасьці, што рабіць якія-небудзь вывады адносна ўстойлівасьці немагчыма.

Устойлівасьць Антонаўкі: здаровых 98,0, хворых 2,0%, выпад—1,5%. Штрэйфлінгу: здаровых 96,7%, хворых 3,3%, выпад 2,0%. Устойлівасьць Транспарэнту: здаровых 80,0%, хворых—2,0% (на апёк прыходзіцца 13,3), выпаўшых—8,2%

Адносна якасьці сартоў цікава думка гр-на Верасава, якая бязумоўна заслугоўвае ўвагі, бо яна зьявілася ў выніку доўгіх гадоў працы добра знаёмага з садоўніцтвам практыка. Ён лічыць, што сорт Антонаўку зв. уводзіць у склад асортымэнту нельга болей, як на 30%, бо яна ня трывалая ў лёжцы, ня вытрымоўвае доўгага транспарту. З лепшых сартоў Штрэйфлінг. Плады яго маюць добрую каштоўнасьць ня гледзячы на тое, што зьяўляецца восенскім сортам. Добры селянін — добра цэніцца на рынку, добра захоўваецца ў лёжцы, устойлівасьць здавальняючая. У апошні час Верасаў пачаў уводзіць гэты сорт шляхам прышчэпліваньня ў карону. Штэцінскае чырвонае—устойлівае дрэва з трывалымі пладамі. Заслугоўвае ўвагі, як добры зімовы сорт. Транспарэнт адзначаецца значнай ураджайнасьцю, асабліва ў маладым ўзросьце. Недахопам гэтага сорту зьяўляецца моцная паражальнасьць пладоў паршой у больш вільготныя гады. Пачэснае месца ў садзе трэба адвесьці Пэпіну Літоўскаму Гэта надзвычайна ўраджайны сорт і плады значнай каштоўнасьці. Добра ідзе на мясцовым і паўднёвых рынках. На жаль пры ўсіх сваіх станоўчых якасьцях, дрэва не даўгавечна. Скрут — добрае, прыгожае дрэва з трывалымі ў лёжцы пладамі, з прыгожай афарбоўкай. Яблыкі лёгка паддаюцца грыбным хваробам. Баравінка—яблыкі значна паражаюцца паршой. Бабушкіна—сорт неўраджайны і ў прамысловым садзе ўводзіць ня варта. Пуцімка—ідзе толькі на мясцовым рынку з-за нізкай транспартабельнасьці. Арлеанскі ранэт—вельмі каштоўны зімовы сорт з прыгожым дрэвам. Плады ў лёжцы надзвычайна добрыя У ўмовах Гомельскага раёну яго трэба прышчэпліваць толькі на сталым штамбе; прышчэплены ў карнявую шыйку ён вымярзае.

**Прамежныя культуры.** Уся плошча паміж дрэвамі скарыстоўваецца палявымі і гароднымі культурамі. Севазварот вольны, адпаведна запатрабаваньням рынку, але чаргаваньне паміж палявымі і гароднымі культурамі такое, што апошнія зьвяртаюцца на старое месца праз 3—4 гады. З палявых культур у гэтым годзе пасеяны: віка на насеньне—0,4 гэкт., авёс 2,5 гэкт. Ураджай аўсу 2 тоны. Апроч гэтага пасеян лубін на 0,5 гэкт. для павялічэньня азоту ў глебе.

Агародныя культуры наступныя: капуста, гуркі, морква, буракі, бульба, апроч таго садовая суніца, маліна і некаторыя іншыя.

Капуста маецца двух сартоў: „Раньняя № 1“ і „Амагэр“. Насеньне сорту „Раньняй № 1“ здабыта ў г. Маскве па цане 15 р. за 100 гр. Насеньне „Амагэр“ куплена ў Ленінградзе за 35 руб. 1 кілеграм.

Расада выганяецца ў парніку. Для парніка з восені капаецца канава і ў пачатку сакавіка м-ца набіваецца перапрэлым конскім гноем. Зьверху пасыпаецца пласт зямлі. Праз 10 дзён высеваецца насеньне. Частка расады выганяецца на градках. Для гэтага з восені пад іх выво-

зяць перапрэлы гной і заворваюць. Вясной, як толькі сойдзе сьнег, робяцца градкі. Насеньне высеваецца рана, гледзячы па вясне. У гэтым годзе сеялася 22-га красавіка.

Расада ў парніку паліваецца; праз некаторы тэрмін робіцца пікіроўка з перасадкай у паўцёплы парнік. На градках робіцца прарэджваньне, зьнішчэньне сьмяцьцёвых траў і барацьба с земляной блыхой. Супраць іх ужываецца серкавы цьвет, вапна і попел.

У гэтым годзе капустай занята 2,8 гэкт. З гэтай плошчы 1 гэкт. пасаджан сумесна з гуркамі.

Падрыхтоўка глебы пад капусту вядзецца наступная: увосень, пасьля здыманьня папярэдняга ўраджаю (віка) робіцца глыбокае ворыва. Пасьля скарадзьбы вясной угнойваецца, з разьліку 72 тоны гною на 1 гэкт. Частка гною прывозіцца з ваенных стайняў г. Гомелю па 2 р. 50 к. за воз вагой у 6—8 цэнтнераў.

Высадка расады „Раньняй № 1“ у гарод у гэтым годзе зроблена 7 маю, „Амагэр“—10 чэрвеня. Тая і другая капуста пасаджана на роўным месцы. Адлегласьць паміж калівамі: 70 см. пры чыстай пасадцы і 1,5 мэтр. пры пасадцы па гурках.

Пасьля пасадкі была зроблена паліўка вадой 2 — 3 разы, 2 разы полка і адно коннае абкопваньне. Непасрэдна пасьля пасадкі і ў час завязваньня качаноў пад раньні сорт унесена гнездавое ўгнаеньне чылійскай салетры.

З шкоднікаў на капусьце сустракаюцца земляныя блохі і капусная соўка. У гэтым годзе іх было мала і ніякай шкоды ня ўчынілі. Земляных блох лавілі зялезнымі шчытамі абмазанымі гусенічным клеем.

Уборка ўраджаю рабілася 5 кастрычніка.

Валавы збор капусты зімовай—50 тон, раньняй 20 тон.

Сярэдняя вага аднаго качана—2,5 кілёгр. на адкрытым асьветленым месцы і 1,2 кілёгр. пад дрэвамі ў зацяненьні.

Пасыпка чылійскай салетрай вельмі спрыяе росту капусты. Сотня гэткіх качаноў важыць ад 130 да 160 кілёгр.

Ураджай капусты збываецца пераважна на Гомельскім рынку па цане за 16 кілёгр.—55 кап. зімовы сорт і 1 р. 20 к.—2 руб. раньні сорт.

Агульны прыбытак ад культуры капусты прыблізна 2500 руб. Выдаткі складаюцца з 700 руб.

Гуркі. Маецца толькі адзін сорт „Доўжык“. У пасеў ідзе двухгадовае насеньне. Сяўба адбываецца ў два тэрміны. З прычыны таго, што ў гэтым годзе вясна спазьнілася — першы пасеў быў зроблен 20—25-га мая, а другі—2-га чэрвеня.

Перад пасевам насеньне прарошчваецца.

У гэтым годзе плошча пад гуркамі — 1 гэкт. У мінулым годзе яна была пад буракамі і морквай. З восені 1927 году глеба была ўзарана, вясной паскароджана. Тады вывезлі гной у колькасьці 60-ці тон; прыаралі і забаранавалі.

Высеў зроблен на роўным месцы радамі. Адлегласьць паміж імі—1,5 мэтра; адлегласьць у радзе паміж калівамі—15 см. Па гурках пасаджана капуста.

Дагляд за гуркамі на працягу вегэтацыйнага пэрыяду заключаецца ў прарэджваньні ўсходаў, трохкратнай полцы, абкопваньні і раскладцы пляцей.

З шкоднікаў найбольш дакучае крот. Барацьба з ім — забіваньне вострых колічкаў каля яго ходаў; ужываецца таксама газа і серкавы вуглец. Пакульлявыя кулькі намочваюцца ў іх і закладваюцца ў норы.

Збор гуркоў пачаўся 5-га жніўня. Сабрана 60 тысяч штук. Частка гуркоў у сьвежым выглядзе прадана на гомельскім рынку па 10—15 руб. за тысячу. Частка пасолена і прызначана таксама для гомельскага рынку і воінскіх часьцей.

У мінулым годзе ўвесь ураджай быў закуплены Дзяржгандлем для экспарту.

Пасолка робіцца ў бочкі папярэдне выпараныя і нацёртыя з сярэдзіны лістам чорнай смуродзіны, укропам, часнаком, лаўровым лістам і струковым перцам. Солі даецца 7,8 кілёгр. на 10 вёдзер вады.

У міжрадзьдзях саду гуркі растуць добра і не баяцца прыцяненьня.

Агульны прыбытак ад культуры гуркоў 720 руб Выдаткі – 500 руб.

Морква. Разводзіцца адзін сорт „Сьвяты Валеры“. Насеньне куплена ў г. Ленінградзе за 3 р. 60 к. 400 гр.

Плошча пад культурай—0,9 гэкт. Пасеяна другім коранем па гною пасьля бульбы. Глеба падрыхтавана наступна: восенскае ворыва, вясной паскароджана і ўзарана другі раз. Высеў зроблен на грэбні сухім насеньнем 1—5 мая. Насеньня пайшло 2 кілёгр.

Дагляд складаўся з трохкратнай полкі і прарэджваньня. Канчатковая адлегласьць у раду паміж калівамі—3 см. На працягу лета зроблена два конных абкопваньня.

Морква сабрана 28-га верасьня. Ураджай з 0,9 гэкт. — 22 тоны. Збыт ідзе на мясцовым рынку праз Гомельскае садова-гароднае таварыства па 50 кап. за 16 кілёгр. $^2/_3$ ураджаю прададзена, $^1/_3$ захоўваецца да вясны.

Спосаб захоўваньня наступны: морква складаецца радамі адзін на адзін, ад чаго ствараюцца клеткі 70-ці см. даўжыні. Паміж радамі насыпаны праслаеньні сухой зямлі У мінулым годзе морква, захаваная такім способам, праляжала да 20-га маю зусімне папсаваўшыся.

Агульны прыбытак ад культуры морквы — 670 р. Прыблізныя выдаткі—200 руб.

Буракамі ў гэтым годзе займалася плошча ў 0,38 гэктараў. У мінулым годзе на гэтым месцы былі гуркі.

Падрыхтоўка глебы такая-ж як і пад астатнія культуры. З угнаеньняў ужывалася калійная соль, якая пасыпалася зьверху каля ўсходаў. Усяго ўнесена 110 кілёгр. Вынікі добрыя.

Пасеў зроблен 3 — 7-га мая сухім насеньнем на грэбнях. Насеньне выпісана з Ленінграду. Сорт—„ягіпецкі бурак“.

На працягу лета тры разы рабілася полка і два разы коннае абкопваньне. Прарэджваньне зроблена на 15 см. куст ад куста. У кожным кусьце пакідаецца па тры калівы для таго, каб буракі не расьлі дужа вялікімі. Вялікія буракі дрэнна збываюцца на рынку.

Ураджай сабраны 1-га кастрычніка. Валовы збор — 6 тон. Частка буракоў прадана на гомельскім рынку па 50—55 кап. 16 кілёгр., частка захоўваецца да вясны. „Ягіпецкія“ буракі захоўваюцца добра.

Трэба адзначыць, што ўраджай буракоў ніколі большым ня бывае. З гэктару болей як 18 тон сабраць не ўдавалася.

Валовы прыбытак з культуры ў гэтым годзе складаецца прыблізна з 200 рублёў. Выдаткі зьвязаныя з вядзеньнем культуры—80 руб

Бульба. У гэтым годзе культурай было занята 0,75 гэкт. У мінулым годзе на гэтым месцы была капуста па значнаму гноеваму ўгнаеньню. Падрыхтоўка глебы звычайная, менавіта: ворыва на зіму, скарадзьба вясной. У час пасадкі ў барозны клаўся гной.

Сорт бульбы „амэрыканка“. Пасьля пасадкі, праз некаторы час ідзе поліва. У гэтым годзе асабліва многа было сурэпкі. На працягу лета барозны разганяюцца акучнікам 3—4 разы.

Капаецца бульба ў кастрычніку м-цы. Ураджай з 0,75 гэктара—9 тон. На рынак ідзе $^1/_3$ частка ўраджаю па 50 кап за 16 кілёгр.

Бульба ў садзе, у мясцох прыцяненьня адчувае сябе дрэнна, за гэтым ўраджай высокім ніколі ня бывае. У сваю чаргу яблыкі па бульбе заўсёды выходзяць дробнымі, зялёнымі і нясмачнымі.

Валавы прыбытак з культуры 300 руб. Выдаткі прыблізна складаюцца з 180 руб.

Пад садовай суніцай знаходзіцца 1,9 гэктар. 0,27 гэкт. занята сортам „шарплес“, 0,81 гэкт. сортам „Рошчынскай“ суніцы. Гэтыя кварталы засоджаны вясной бягучага году. Астатняя плошча занята таксама „Рошчынскай“ суніцай, пасаджанай у папярэднія гады. Пасадачны матар'ял часткаю выпісан з г. Ленінграду, часткаю ўзяты ад мясцовых гароднікаў. Пасадка робіцца ў восень альбо ў вясну, але гр-н Верасаў лічыць, што вяснавая пасадка лепшая.

Глеба падрыхтоўваецца такім чынам: у восень вывозіцца гной з разьліку 60—75 тон на гэкт. і заворваецца. Вясной скародзіцца і арэцца ў другі раз. Глыбіня ўрабленьня—18—15 см. Глыбей араць нельга, бо перашкаджае карэньне дрэў. Грады робяць па шнуру шырынёй ў 1 мэтр Адлегласьць паміж кустамі—60 см.

На адным месцы культура трымаецца 4 гады. Поўны ўраджай прыходзіцца на другі год.

Дагляд на працягу лета звычайна такі: вясной грады прачышчаюцца ад лісьцёвай сушы; праз некаторы тэрмін робіцца полка, перад цьвіценьнем — другая полка. Перад пасьпяваньнем ягад грады пасыпаюцца конскім гноем. Пасьля збору ўраджаю — трэцяя полка. Апошняя апэрацыя—абрэзка вусоў.

У гэтым годзе „Рошчынская суніца“ пасьпела 26 чэрвеня г. зн. позна (у 1927-ым г. — 15 чэрвеня), „Шарплес“ пасьпеў 3-га ліпеня.

Сорт „Шарплес“ больш ураджайлівы чым „рошчынская“, але горш за апошнюю пераносіць транспарт. Загэтым ён збываецца толькі на мясцовым рынку. „Рошчынская“ суніца ў большасьці накіроўваецца ў г г. Ленінград і Маскву.

Для адпраўкі суніцы пакуюцца проста з град у кошыкі ёмістасьцю ў 2 кілёгр. Шэсьць такіх кошыкаў злучаюцца ў „адно месца“ і разам з пакавальным матар'ялам (папараць) важаць 16 кілёграм (1 пуд). Ягад у адным месцы 12 кілёгр. (30 фун ). Пакаваньне аднаго „месца“ каштуе 50 кап. Дастаўка на вагзал (ст. Гомель) аднаго возу (300—400 кілёгр.). абходзіцца ў 3 руб. Тарыф да г. Ленінграду — 1 рубель „месца“, да г. Масквы—85 кап. Чысты прыбытак ад 16 кілёгр. ягад 4—15 руб.

Цэны на мясцовым рынку хістаюцца ад 2-х да 12-ці руб. за 16 кгр. Сярэдняя цана 5 руб. (Дадзеныя 1927 г.).

Ураджай суніцы ў гэтым годзе — 3,4 тоны (225 пуд.). Прыблізны валавы прыбытак ад культуры 1470 руб. Выдаткі па вядзеньню культуры складаюцца з 450 руб.

Трэба адзначыць, што зацяненьне дрэў дрэнна адбіваецца на ўраджаі суніцы, як з колькаснага так і з якаснага боку. Колькась і вага ягад значна паменшаюцца, афарбоўка меншая ад уласьцівай сорту і смакавыя якасьці паніжаны.

**Вынікі.** 1) Лёгкія лёэсавідныя суглінкі зьяўляюцца адпаведнымі глебамі для закладкі садоў.



*Мал. 16.* Буйнаплодная суніца „Шарплес“ у міжрадьдзях 12 гад. саду Вэрасава (адл. 10,7 × 10,7 м.)



*Мал. 16.* Транспарэнт—у міжрадьдзях морква „Нантская“ (сад Вэрасава узросту 11 г., адлегласьць паміж дрэвамі 10,7 × 10,7 м.)

2) Сарты „антонаўка“ і „штрэйфлінг“ бязумоўна падыходзяць да ўмоў клімату Гомельскага раёну.

3) Спосаб прышчэпліваньня ў карону дае магчымасьць уводзіць каштоўныя сарты, якія на сваём штамбе вымярзаюць.

4) Адлегласьць паміж дрэвамі 10,7 мэтр. (15 арш.) зьяўляецца дастатковай.

5) Значная адлегласьць паміж дрэвамі дае магчымасьць заўседы ўжываць сыстэму прамежных культур у садзе.

6) У ўмовах прыгарадных гаспадарак найбольшы прыбытак даюць культуры садовай суніцы і капусты.

7) Адмоўны ўплыў прыцяненьня дрэвамі адбіваецца на садовай суніцы, капусьце і бульбе.

8) Гуркі і караньплоды прыцяненьня не адчуваюць.

9) З прамежных культур найбольшы адмоўны ўплыў на сад мае бульба: яблыкі драбнеюць, не дасьпяваюць і трацяць смакавыя якасьці.

---

Табліца абмеру дрэў ў садзе „Верасава“.

| №№ | Назва сорту | Узрост | Вышыня дрэва | Дыямэтр кароны | Адносіны дыямэтру кар. да вышыні | Вышыня штамбу | Дыямэтр штамбу | Колькасьць галін | Таўшчыня галін | Кут адыходжаньня галін | Сіла росту |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 1 | Антонаўка . . | 12 | 4,80 | 5,67 | 1,18 | 0,90 | 0,14 | 4 | 0,25 | 57° | 0,28 |
| 2 | „ . . | 12 | 4,70 | 5,26 | 1,12 | 1,14 | 0,14 | 5 | 0,23 | 61° | 0,32 |
| 3 | „ . . | 12 | 4,95 | 4,92 | 0,99 | 0,96 | 0,14 | 4 | 0,24 | 38° | 0,25 |
| 4 | „ . . | 12 | 4,40 | 4,55 | 1,03 | 1,10 | 0,12 | 4 | 0,18 | 50° | 0,27 |
| 5 | „ . . | 12 | 4,89 | 5,55 | 1,13 | 1,13 | 0,13 | 4 | 0,27 | 48° | 0,29 |
| 6 | „ . . | 12 | 5,60 | 6,27 | 1,12 | 1,00 | 0,16 | 5 | 0,21 | 49° | 0,25 |
| 7 | „ . . | 12 | 5,10 | 5,92 | 1,16 | 1,00 | 0,17 | 5 | 0,22 | 64° | 0,34 |
| 8 | „ . . | 12 | 4,50 | 5,86 | 1,30 | 0,88 | 0,14 | 5 | 0,17 | 51° | 0,38 |
| 9 | „ . . | 12 | 5,08 | 5,82 | 1,15 | 0,95 | 0,15 | 7 | 0,18 | 66° | 0,38 |
| | Сярэдняе . . | 12 | 4,90 | 5,54 | 1,13 | 1,01 | 0,14 | 4,8 | 0,22 | 54° | 0,31 |

## Табліца трываласьці сартоў саду „Верасава“

| №№ | Назва сорту | Узрост | Тэрмін пасьпяваньня | Лік выпаўшых | | Усяго дрэў | Лік здаровых | | Лік хворых | | | | | | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | Усяго | | | | | | | | |
| | | | | Абс. | % % | | Абс. | % % | Абс. | % % | Апёк | Рак | Дуплянастасьць | Ветралом | Сухавэршынасьць | Мэханічныя папсаваньні | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | Яблыкі: | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Антонаўка . . . . | 12 | — | 11 | 1,5 | 781 | 766 | 98,0 | 15 | 2,0 | 5 | 1 | — | — | — | 9 | |
| 2 | Штрэйфлінг . . . . | 12 | — | 3 | 2,0 | 150 | 145 | 96,7 | 5 | 3,3 | — | 1 | — | — | — | 4 | |
| 3 | Транспорэнт . . . | 12 | — | 4 | 8,2 | 45 | 36 | 80,0 | 9 | 20,0 | 6 | 1 | 1 | — | — | 1 | |
| 4 | Бабушкіна . . . . | 12 | — | — | — | 10 | 10 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| 5 | Ранэт Курскі залаты . | 12 | — | — | — | 9 | 8 | 88,9 | 1 | 11,1 | 1 | — | — | — | — | — | |
| 6 | Баравінка . . . . | 12 | — | — | — | 8 | 8 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| 7 | Пэпін літоўскі . . . | 12 | — | — | — | 6 | 6 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| 8 | Цынамонавае паласатае | 12 | -- | — | — | 6 | 5 | 83,3 | 1 | 16,7 | 1 | — | — | — | — | — | |
| 9 | Добры селянін . . . | 12 | — | — | — | 6 | 6 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | Прышчэплены ў карону ў 1926 г. |
| 10 | Штэцінскае чырвонае | 12 | — | — | — | 4 | 4 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| 11 | Пуцімка . . . . . | 12 | — | — | — | 3 | 3 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| 12 | Цітаўка . . . . . | 12 | — | — | — | 3 | 3 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| 13 | Суйсьлеппер . . . | 12 | — | — | — | 3 | 3 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| 14 | Ранэт Арлеанскі . . | 12 | — | -- | — | 2 | 2 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | Прышчэплены ў карону ў 1927 г. |
| 15 | Скрут . . . . . | 12 | — | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| 16 | Апорт . . . . . | 12 | — | — | — | 1 | — | — | 1 | 100 | 1 | — | — | — | — | — | |
| 17 | Кітайка . . . . . | 12 | — | — | — | 1 | — | — | 1 | 100 | — | — | — | — | — | 1 | |
| 18 | Іншыя . . . . . | 12 | — | — | — | 9 | 9 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| | Ігрушы | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Бэра Слуцкая . . . | 12 | — | — | — | 8 | 8 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| | Іншых . . . . . | 12 | — | — | — | 86 | 58 | 67,4 | 28 | 32,6 | — | — | — | — | — | — | |
| | Костkавых | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Вішні . . . . . . | 12 | — | — | — | 25 | 20 | 80,0 | 5 | — | — | — | — | — | — | — | |
| | Сьлівы . . . . . . | 12 | — | — | — | 2 | 2 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | |

# Сад Верхня-Брылёва хут. „Латвія“.

Знаходзіцца ў адлегласьці ад г. Гомеля і ад чыгуначнай ст. Гомель 5 клм. Раней сад быў г-на Брэнгуля, з 1921 году — Дзяржаўнай зямельнай маёмасьці, а ў восень 1928 г. перададзены саўгасу „Брылева“. Сад плошчаю 11,95 гэкт. пасаджаны ў 1910 — 11 гадох. Усходняй часткаю сад прылягае да чыгункі, а паўночная частка мае заслону з елкі, дуба, ліпы і ясеня густой пасадкі, у адлегласьці ад першага раду сада 12,8 мэтр. (18 арш.).

Уплыву з боку заслоны не назіраецца.

Усіх дрэў пасаджана 1356 шт. Згінула 204 — 15,05%, засталося 1152 др. — 84,95%, з тых, што засталіся, здаровых 1020 дрэў—88,54%, хворых 132 др.—11,46%, яблынь 1105 др. 95,92%, ігруш 36 др.—3,12%, сьліў 11 др.—0,96%.

У садзе сустракаюцца наступныя сарты:

Антонаўка Камянічка 482 дрэвы — 41,84%; Штрэйфлінг 123 др.— 10,66%; Антонаўка шкляначная 94 др — 8,15%; Антонаўка звычайная 94 др.—8,15%; апорт імп. Аляксандра 54 др.—4,68%; Бабушкіна 30 др. —2,60%; Кальвіль белы 26 др.—2,25%; Пэпін Літоўскі 24 др. — 2,17%; Царская Бель 23 др.—2,00%; Варгуль варонецкі 22 др.—1,90%; Ананас паласаты 18 др. — 1,56%; Антонаўка паўтарафунтовая 18 др. — 1,56%; Пэпін ангельскі 15 др.—1,3%; Мальт 16 др.- 1.38%; Баравінка 14 др.— 1,21%; Грушаўка маскоўская 10 др.—0,87%; Транспарэнт 10 др.—0,87%; Пуцімка 10 др —0,87% і інш. 22 дрэвы—1,90%.

Ігруш: Сапяжанкі 16 др.—1,38%. Крымкі 7 др.—0,6%, безнасенкі 6 др.—0,52% і інш. 7 др.—0,61%.

Увесь сад пасаджаны ў шахматным парадку 10 67 м. ╳ 10,67 мэтр. (15 ╳ 15 арш.). Для вызначэньня глебы ў садзе выкапана яма, ў якой паземы разьмяркоўваюцца наступным чынам:

$A_1$ — 25 см. шэрага колеру.

$A_2$ — 18 см. бялёсы.

B — 57 см. бурага колеру (паўтаравокісны).

Ніжэй залягае пазем C нязьменная парода—сартаваныя пяскі сьветлажоўтага колеру.

Як сьведчыць апісаньне ямы—глебавы тып у садзе падзолісты, па мэханічнаму складу верхняга пазему пераходны ад супясяў да лёгкіх лёэсавідных суглінкаў.

Грунтовыя воды залягаюць на паніжанай частцы на глыбіне 2 мэтр., а на павышанай 6 мэтр. і ніжэй.

Сад угнойваецца часткова кожны год па $^1/_4$ частцы з разьліку 31,3 тоны (2300 пуд.) на гэкт , гной вывозіцца зімою, а вясною заворваецца. Плошча саду ў 1928 годзе скарыстоўвалася наступнымі культурамі: 2,17 гэкт. была занята бульбаю, 4,35 гэкт.—віка-аўсянай мешанкай. 1,09 га пад чорным папарам. 3,27 гэкт. гароднымі расьлінамі і караньплодамі і 1,07 садовай суніцай.

Для закладкі саду прышчэпы выпісваліся з наступных пладовых гадавальнікаў.

З Рыгі ад Шоха, Варонежу ад Карлсона, Кіева—Мэера, Вайшнгера і Крыстэра; Казельска — Калужскай губ. Саратава і частка з Гомеля, гадавальніку Стуцкага, Гедамана.

Сад садзілі ў восень і вясною, для васеньняй пасадкі ямы рыхта-

валіся ў жніўні м-цы 1 × 1 мэтр., а для веснавое ўвосень такога-ж самага разьмеру.

Угнаеньне пры пасадцы не ўжывалася, а праз год пасьля пасадкі ўвесь сад быў ўгноены з разьліку 31,3 тоны (2300 п.) на гэктар, а пасьля сад угнойваўся па $^{1}/_{4}$ частцы кожны год.

Плошча саду пасьля пасадкі скарыстоўвалася гароднымі расьлінамі, корань-бульбінаплодамі і віка-аўсянай мешанкай.

Да пасадкі саду вучастак быў пад лесам з бярозы, лазы і інш.

Вясною пасьля пасадкі былі падрэзаны чуць верхавінкі дрэў, а на другую весну была зроблена кароткая абрэзка.

Сад Дзяржаўнай зямельнай маёмасьцю здадзен у арэнду быўшаму гаспадару гэтага саду Брэнгулю за 350 руб., апроч таго Брэнгуль павінен вясьці неабходныя культурна-агранамічныя мерапрыемствы па саду. Быўшым гаспадаром сад ніколі в арэнду не здаваўся.

У 1922—28 г. г. сад зусім не пладанасіў.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1923 г. | —16,4 | тон | (1000 пуд.) |
| 1924 „ | —49,18 | „ | (3000 „ ) |
| 1925 „ | — 8,2 | „ | ( 500 „ ) |
| 1926 „ | —32,8 | „ | (2000 „ ) |
| 1927 „ | — 4,1 | „ | ( 250 „ ) |



*Мал. 17.* Віргінскае ружовае ўзросту 17 год. Гасп. „Латвія"

З сартоў саду заслугоўваюць увагі:

1. Антонаўка камянічка—сорт ураджайны, прамысловы, трывалы і г. д.
2. Штэцін чырвоны—вельмі добры зімовы сорт, плады маюць забясьпечаны збыт і кошт на рынку, добра захоўваецца ў лёжцы да вясны і пазьней. Дрэвы ва ўзросьце 17 год маюць дыямэтр кароны 7 мэтр., вышыня 4,5 мэтр., у садзе 3 дрэвы і ўсе здаровыя.

3. Пэпін Літоўскі—сорт вельмі ўраджайны, пачынае рана пладанасіць (у дадзеным садзе на 5 — 6 годзе), плады маюць добры збыт і кошт на рынку. З 24 дрэў хварэе 7 шт.—29,17% ва ўзросьце 17 год.



*Мал. 18.* Панна ўзросту 17 г. (гас. „Латвія")

4. Штрэйфлінг—вельмі добры васеньні прамысловы сорт, плады маюць добры збыт і кошт на рынку. З 123 дрэў у садзе хворых 10 шт.—8,14%. Дрэвы ў сярэднім маюць дыямэтр кароны 7,15 мэтр., вышыню 4,95 мэтр. ва ўзросьце 17 год. Патрэбна заўважыць, што ва ўмовах гэтага саду—Штрэйфлінг пачаў пладанасіць на 10—11 годзе пасьля пасадкі і пладаносіць вельмі нязначна, ураджай пладоў на адно дрэва за шэраг год складае 16 — 32 клгр.

Дрэвы для пасадкі былі выпісаны з гадавальніку Мэера з Кіеву.

5. Бабушкіна—зімовы, прамысловы сорт, плады ляжаць да вясны і пазьней, маюць добры збыт і кошт на рынку. У садзе 30 дрэў, з якіх хворых адно 3,33%. Дрэвы ў сярэднім маюць дыямэтр кароны 6,62 мэтр, вышыню 4,36 мэтр. Ва ўмовах дадзенага саду Бабушкіна пачало пладанасіць на 11 год пасьля пасадкі і па назіраньню Брэнгуля гэты сорт няўраджайны і значна падпадае паражэньню паршой.

6. Пуцімка — васеньні, ураджайны, прамысловы сорт, плады маюць добры збыт і кошт на мясцовым рынку. У садзе 10 дрэў і ўсе здаровыя.

7. Транспарэнт вельмі добры летні сорт, ураджайны, прамысловы мае добры збыт і кошт на рынку. У садзе 10 дрэў і ўсе здаровыя.



*Мал. 12.* Антонаўка камянічка. Узросту 17 г. (гасп. „Латвія")

8. Бэра Слуцкая па назіраньню Брэнгуля лічыцца добрым зімовым сортам, плады добра захоўваюцца ў лёжцы, маюць добры збыт і кошт; у садзе толькі 1 дрэва і тое здаровае.

9. З летніх ігруш добрым сортам лічыцца Ільлінка, а такія сарты яблынь, як Мальт, Ранэт Гранацкі, Кальвіль паласата-васеньні, Графенштэйн зімовы і іншыя сябе добра ня высьвятлілі ў садзе, а астатнія сарты асаблівай увагі не заслугоўваюць.

Адзначым галоўныя асаблівасьці гэтага саду:

1. З сартоў саду адпавядаюць мясцовым умовам наступныя: Антонаўка Камянічка, Штэцін Чырвоны, Пэпін Літоўскі, Транспарэнт. Пуцімка, Бэра Слуцкая, Ільлінка. З сьліў Ганна Шпэт, Ранклёд зялёны.

2. Дрэвы ўзростам 17 год, маюць у сярэднім дыямэтр 7,05 мэтр., а асобныя дасягаюць 8,2 мэтр., то адлегласьць паміж радамі і дрэвамі 10,67 × 10,67 мэтр. (15 × 15 арш.) зьяўляецца пакуль што дастатковай, але калі мець на ўвазе плошчу саду скарыстоўваць прамежнымі расьлінамі ва ўзросьце 30 год і звыш, дык адлегласьць павінна быць павялічана да 12—14 мэтр. Такую думку выказвае садавод Брэнгуль, які садзіг гэты сад.

3. З боку заслоны ў адлегласьці 12,8 мэтр. (18 арш.) уплыву ад зацяненьня зараз не назіраецца, а заслона з лісьцёвых парод зьяўляецца месцам для захоўваньня і распаўсюджваньня шкоднікаў саду.

## Табліца трываласьці сартоў саду гасп. „Латвія“

| №№ | Назва сорту | Узрост | Па часу пасьпяваньня | Лік выпаўшых Аб. | Лік выпаўшых % | Усяго дрэў | Лік здаровых Аб. | Лік здаровых % | Хворых: Усяго хвор | % | Марозабойныя | Апёк | Рак | Дуплянастых | Ветраломных | Сухаверхіх | Мэхан. папсов. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Антонаўка кам. . . | 17 | зім. | 48 | 9,06 | 482 | 445 | 92,32 | 37 | 7,68 | 21 | 10 | — | 1 | — | — | 5 |
| 2 | Штрэйфлінг . . . . | 17 | вос. | 22 | 15,16 | 123 | 113 | 90,86 | 10 | 8,14 | 4 | 6 | — | — | — | — | — |
| 3 | Антонаўка шклянк. . | 17 | вос. | 12 | 11,30 | 94 | 83 | 88,30 | 11 | 11,7 | 7 | 2 | — | 1 | — | — | 1 |
| 4 | „ звыч. . . | 17 | зім. | 20 | 17,54 | 94 | 76 | 80,85 | 18 | 19,15 | 10 | 3 | — | 2 | 1 | — | 2 |
| 5 | Апорт імпэр. Аляксан. | 17 | вос. | 18 | 25,0 | 54 | 42 | 77,78 | 12 | 22,22 | 4 | 8 | — | — | — | — | — |
| 6 | Бабушкіна . . . . | 17 | зім. | 5 | 14,28 | 30 | 29 | 96,67 | 1 | 3,33 | — | — | — | — | — | — | 1 |
| 7 | Кальвіль белы . . . | 17 | л т. | — | — | 26 | 18 | 69,23 | 8 | 30,77 | 8 | — | — | — | — | — | — |
| 8 | Пэпін літоўскі . . . | 17 | зім. | 10 | 29,41 | 24 | 17 | 70,83 | 7 | 29,17 | 1 | 6 | — | — | — | — | — |
| 9 | Царская бель . . . | 17 | лет. | 5 | 17,85 | 23 | 21 | 91,3 | 2 | 8,7 | 1 | 1 | — | — | — | — | — |
| 10 | Варгуль Варонецкі . . | 17 | вос. | 7 | 25,52 | 22 | 20 | 90,9 | 2 | 9,1 | 2 | — | — | — | — | — | — |
| 11 | Аніс паласаты . . . | 17 | „ | — | — | 18 | 17 | 94,44 | 1 | 5,56 | 1 | — | — | — | — | — | — |
| 12 | Антонаўка $1^1/_2$ ф. . . | 17 | „ | — | — | 18 | 12 | 66,67 | 6 | 33,33 | 2 | 2 | — | — | — | — | 2 |
| 13 | Пэпін Ангельскі . . | 17 | зім. | 7 | 31,82 | 15 | 10 | 66,67 | 5 | 33,33 | 3 | 2 | — | — | — | — | — |
| 14 | Мальт . . . . . | 17 | лет. | 7 | 30,43 | 16 | 16 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 15 | Баравінка . . . . | 17 | вос. | 34 | 70,83 | 14 | 11 | 78,57 | 3 | 21,43 | 1 | 2 | — | — | — | — | — |
| 16 | Грушоўка маскоўск. . | 17 | лет. | — | — | 10 | 10 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 17 | Транспэрант. . . . | 17 | „ | 2 | 16,67 | 10 | 10 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 18 | Пуцімка . . . . . | 17 | вос. | — | — | 10 | 10 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 19 | Віргінскае ружов. . . | 17 | лет. | 2 | 22,22 | 7 | 7 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 20 | Р-т гранацкі . . . | 17 | зім. | — | — | 5 | 5 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 21 | Кальвіль паласаты вос. | 17 | вос. | — | — | 4 | 4 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 22 | Штэцін чырвоны . . | 17 | зім. | 5 | 62,5 | 3 | 3 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 23 | Шклянка курская . . | 17 | „ | — | — | 2 | 2 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 24 | Гравенштэйн. зімовы . | 17 | „ | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | **Ігрушы:** | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Ільлінка . . . . . | 17 | лет. | — | — | 7 | 2 | 28,57 | 5 | 71,43 | — | 5 | — | — | — | — | — |
| 2 | Сапяжанка . . . . | 17 | вос. | — | — | 16 | 12 | 75 | 4 | 25 | 3 | 1 | — | — | — | — | — |
| 3 | Безнасенка . . . . | 17 | лет. | — | — | 6 | 6 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 4 | Бэра-Блюм-бана . . | 17 | вос. | — | — | 2 | 2 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Панна . . . . . | 17 | „ | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Бэра слуцкая . . . | 17 | зім. | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 7 | Бэра сікс . . . . | 17 | „ | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 8 | Іншых . . . . . | 17 | — | — | — | 2 | 2 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | **Сьлівы:** | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Яічная жоўтая . . . | 17 | — | — | — | 3 | 3 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 2 | Анна шпэт . . . . | 17 | — | — | — | 3 | 3 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 3 | Рэнклёз зялёны . . | 17 | — | — | — | 3 | 3 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 4 | Вянгэрка Італьянкс. . | 17 | — | — | — | 2 | 2 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Усяго . | — | — | — | — | 1152 | 1020 | — | 132 | — | — | — | — | — | — | — | — |

## Табліца абмераў дрэў саду гасп. „Латвія“

| № № | Назва сорту | Узрост дрэў | Вышыня дрэва | Дыямэтр кроны | Адносіны дыямэтру да вышыні | Вышыня штамбу | Дыямэтр штамбу | Колькасьць галін | Дыямэтр галін | Кут адыходжаньня галін |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Антонаўка камянічка . | 17 | 5,60 | 7,80 | 1,39 | 1,00 | 0,20 | 4 | 0,09 | 50° |
| 2 | " . | 17 | 5,50 | 8,10 | 1,47 | 0,85 | 0,21 | 3 | 0,10 | 45° |
| 3 | " . | 17 | 5,80 | 7,90 | 1,36 | 0,95 | 0,22 | 4 | 0,11 | 60° |
| 4 | " . | 17 | 5,50 | 6,70 | 1,22 | 0,95 | 0,21 | 4 | 0,09 | 55° |
| 5 | " . | 17 | 5,90 | 7,70 | 1,31 | 0,75 | 0,18 | 4 | 0,09 | 50° |
| 6 | " . | 17 | 5,70 | 6,60 | 1,16 | 1,05 | 0,17 | 3 | 0,07 | 50° |
| 7 | " . | 17 | 5,50 | 6,90 | 1,25 | 0,90 | 0,19 | 2 | 0,10 | 45° |
| 8 | " . | 17 | 5,00 | 6,50 | 1,30 | 1,00 | 0,16 | 3 | 0,07 | 80° |
| 9 | " . | 17 | 5,30 | 5,70 | 1,08 | 0,85 | 0,16 | 4 | 0,07 | 85° |
| 10 | " . | 17 | 5,90 | 7,10 | 1,20 | 0,93 | 0,19 | 5 | 0,08 | 55° |
| 11 | " . | 17 | 5,80 | 6,00 | 1,03 | 0,85 | 0,16 | 3 | 0,09 | 60° |
| 12 | " . | 17 | 5,70 | 6,30 | 1,11 | 0,95 | 0,16 | 4 | 0,08 | 65° |
| 13 | " . | 17 | 5,50 | 7,50 | 1,36 | 0,80 | 0.20 | 3 | 0,10 | 55° |
| 14 | " . | 17 | 5,40 | 5,80 | 1,07 | 0,80 | 0,16 | 4 | 0,09 | 50° |
| 15 | " . | 17 | 5,60 | 6,60 | 1,18 | 0,90 | 0,18 | 3 | 0,08 | 45° |
| | Сярэдняя . . | — | 5,58 | 6,88 | 1,23 | 0,90 | 0,17 | 3 | 0,09 | — |
| 1 | Антонаўка 1½ ф. . . | 17 | 5,70 | 8,20 | 1,44 | 0,90 | 0,24 | 4 | 0,10 | 65° |
| 2 | " . . | 17 | 6,00 | 8,15 | 1,36 | 0,80 | 0,24 | 4 | 0,12 | 70° |
| 3 | " . . | 17 | 5,90 | 7,80 | 1,32 | 0,75 | 0,21 | 3 | 0,09 | 60° |
| 4 | " . . | 17 | 5,80 | 7,30 | 1,26 | 0,90 | 0,24 | 6 | 0,10 | 50° |
| 5 | " . . | 17 | 6,00 | 8,00 | 1,33 | 0,85 | 0,26 | 3 | 0,13 | 45° |
| | Сярэдняя . . | — | 5,88 | 7,89 | 1.34 | 0,84 | 0,24 | 4 | 0,11 | — |
| 1 | Бабушкіно . . . . | 17 | 4,00 | 5,30 | 1,32 | 1,00 | 0,16 | 3 | 0,08 | 50° |
| 2 | " . . . . | 17 | 4,50 | 6,70 | 1,49 | 0,85 | 0,21 | 6 | 0,09 | 55° |
| 3 | " . . . . | 17 | 4,60 | 7,30 | 1,58 | 1,00 | 0,20 | 3 | 0,10 | 60° |
| 4 | " . . . . | 17 | 4,50 | 7,40 | 1,64 | 0,65 | 0,23 | 4 | 0,19 | 70° |
| 5 | " . . . . | 17 | 4,20 | 6,40 | 1,52 | 1,15 | 0,19 | 4 | 0,10 | 65° |
| | Сярэдняя . . | — | 4,36 | 6,62 | 1,52 | 0,93 | 0,20 | — | 0,11 | — |

| №№ па чарзе | Назва сорту | Узрост | Вышыня дрэва | Дыямэтр кароны | Адносіны дыямэтру да вышыні | Вышыня штамбу | Дыямэтр штамбу | Колькасьць галін | Дыямэтр галін | Кут адыходжаньня галін |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Штрэйфлінг . . . . | 17 | 4,7 | 5,7 | 1,21 | 0,85 | 0,17 | 0,10 | 60 | 3 |
| 2 | „ . . . . | 17 | 5,0 | 7,5 | 1,50 | 0,85 | 0,20 | 0.13 | 70 | 3 |
| 3 | „ . . . . | 17 | 5,0 | 7,6 | 1,52 | 0,85 | 0,25 | 0,11 | 45 | 5 |
| 4 | „ . . . . | 17 | 5,1 | 7,8 | 1,52 | 0,90 | 0,23 | 0,12 | 50 | 4 |
| | Сярэдняя . . | — | 4,95 | 7,15 | 1,44 | 0,86 | 0,21 | 0,11 | 56 | 4 |
| 1 | Віргінскае ружовае . | 17 | 5,20 | 7,0 | 1,34 | 0,80 | 0,23 | 0,12 | 45 | 4 |
| 2 | „ „ . | 17 | 5,20 | 6‘6 | 1,26 | 0,75 | 0,21 | 0.09 | 45 | 4 |
| | Сярэдняя . . | — | 5,20 | 6,8 | 1,30 | 0,78 | 0,22 | 0,1 | 45 | 4 |
| 1 | Бель царская . . . | 17 | 4,0 | 5,4 | 1,35 | 0,95 | 0,16 | 0,06 | 45 | 4 |
| 2 | „ „ . . . | 17 | 5,1 | 6,4 | 1,25 | 0,90 | 0,21 | 0,10 | 50 | 4 |
| 3 | „ „ . . . | 17 | 5,2 | 6,2 | 1,19 | 0,8 | 0,2 | 0,1 | 45 | 3 |
| | Сярэдняя . . | — | 4,77 | 6 | 1,25 | 0,9 | 0,19 | 0,09 | 47 | 4 |
| 1 | Варгуль Варонецкі | 17 | 5,5 | 8 | 1,45 | 0,85 | 0,21 | 0,1 | 45 | 4 |
| 2 | „ „ . | 17 | 5,6 | 7,5 | 1,33 | 0,90 | 0,21 | 0,1 | 40 | 3 |
| 3 | „ „ . | 17 | 5,7 | 7,2 | 1,26 | 0,85 | 0,22 | 0,1 | 35 | 4 |
| | Сярэдняя . . | — | 5,6 | 7,6 | 1,35 | 0,87 | 0,21 | 0,1 | 40 | 3,7 |
| 1 | Р-т гранацкі . . . | 17 | 5,5 | 6,7 | 1,21 | 0,95 | 0,18 | 0,08 | 50 | 4 |
| 2 | „ „ . . . | 17 | 5,7 | 7,7 | 1,35 | 1 | 0,2 | 0,09 | 45 | 4 |
| | Сярэдняя . . | — | 5,6 | 7,2 | 1,28 | 0,97 | 0,19 | 0,085 | 47 | 4 |
| 1 | Кальвіль белы . . . | 17 | 4 | 4,6 | 1,15 | 0,90 | 0,13 | 0,06 | 45 | 3 |
| 2 | „ „ . . . | 17 | 4,5 | 5,7 | 1,27 | 0,95 | 0,13 | 0,06 | 80 | 3 |
| 3 | „ „ . . . | 17 | 4,2 | 5,8 | 1,38 | 0,85 | 0,14 | 0,07 | 60 | 3 |
| | Сярэдняя . . | — | 4,23 | 5,37 | 1,27 | 0,9 | 0,13 | 0,06 | 62 | 3 |
| 1 | Штэцін чырвоны . . | 17 | 4,5 | 7,0 | 1,56 | 0,85 | 0,21 | 0,1 | 40 | 3 |

# Сад саўгасу „Яроміна“

## Гомельскага раёну, Яромінскага с/савету.

Гаспадарка знаходзіцца ў 9-ці кілёмэтрах ад гораду Гомелю на поўнач па Магілёўскай шашы, і ў 1,5 кілёмэтрах ад ст. Касьцюкоўкі, Заходняй чыгункі. У дарэвалюцыйны час гаспадарка была абшарніцкай, цяпер—дзяржмаёмасьць Акрза.

У гаспадарчым карыстаньні знаходзіцца 185,75 гэктараў плошчы, якая разьмеркавана наступным чынам: пад ральлёй — 49,16 гэкт., пад сенажацямі—81,96 гэкт., пад паркам—13,09 гэкт. і пад садам 41,54 гэкт.

Навокал саду, акрамя паўночна-заходняга боку, маецца жывая агарожа ў адзін і два рады, складзеная з парод: вярбы, ліпы, каштану. Адлегласьць паміж дрэвамі ад 1-га да 2-х мэтраў; адлегласьць да першага раду саду ад 7 да 10 мэтраў. Добрай абаронай зьяўляецца парк; у склад яго ўваходзяць розныя прадстаўнікі хваёвых і лісьцёвых парод, а паміж іншым, у значнай колькасьці і дзікая ігруша, якая можа даць пасяўны матар'ял гадавальніку. Паўночна-заходнім бокам сад мяжуецца з вёскай, якая таксама зьяўляецца абаронай.

Глеба—лёгкі лёэсавідны суглінак сярэдне ападзолены. Таўшчыня гумусавага пазему 0,15 см. ($A_1$), 15—28 см.—працяг пазему вымываньня белесавата-жоўтага колеру ($A_2$), 28—30 см., пераходны пазем ад A к B,30—60 см., пазем (B) інтэнсыўнай бурай афарбоўкі ад адкладзеных паўтаравокіслаў. Ніжэй апошнія перaслойваюцца з пяском. Пры капаньні ямы на глыбіні 123-х см. сустрэўся моцны цэмэнтовы пласт 5 см. таўшчыні. Ніжэй гэтай глыбіні — сартаваны пясок. Марэна залягае прыблізна на глыбіні 10,5 мэтраў. Галоўная маса карэньняў распаўсюджана ў пазёме 20—60 см. Глебавы разрэз зроблены на павышэньні.

Рэльеф і напрамак схілаў самы разнастайны.

Так паўночна-заходняя частка саду ад заходняга краю да сярэдзіны ўяўляе сабой раўніну з ледзьве прыкметнымі павышэньнямі і паніжэньнямі, якая далей на ўсход пераходзіць у значны схіл. Самы ўсходні кут гэтай часткі саду плошчай у 1 гэктар знаходзіцца ў западзіне. Глеба тут носіць яўна забалочаны характар. У час дасьледваньня ў канавах, пакапаных тут, стаяла вада. Глебавы разрэз выявіў наступнае: 0,20 см.—тарфяна-гумусавы пазём чорнага колеру з бураватым адценьнем (A), ад 20 см. і глыбей 1,5 мэтраў пазем B (глей) бледна-блакіднага колеру значнай вільготнасьці. Уся маса карэньняў залягае ў верхнім пазёме.

У паўднёвай частцы саду назіраецца нязначны схіл ад усходняга і заходняга бакоў к сярэдзіне. Астатняя плошча саду—раўніна з невялікім узвышшам на заходняй мяжы.

Грунтовыя воды знаходзяцца ў сярэднім на глыбіні 10-ці мэтраў.

Цікава прасачыць, як адчувае сябе сад у забалочаным месцы. З ліку 115-ці пасаджаных дрэў да гэтага часу захавалася 64, што складае 55,7%.

На месца выпаўшых падсаджана 15 дрэў. З 79-ці штук 12 дрэў (15,2%) папсавана марозам, 5 дрэў (6,3%) папсавана ветрам. На астатніх 62-х дрэвах хворасьці не назіраецца. Асабліва дрэнна адчувае сябе сорт „Пуцімка“. З 6-ці дрэў толькі адно здаровае, астатнія хварэюць ад апёку. Параўнальна лепей трымаецца антонаўка. Здаровых 79,3%, хварэюць ад апёку 12,1%.

Для параўнаньня прыводзім лічбы, якія характарызуюць устойлівасьць саду на сухім месцы: процант выпаду 13,7, паламана ветрам 1,8%.

Пасадка саду адбылася ў 5 тэрмінаў. У залежнасьці ад гэтага плошча саду разьмеркавана наступным чынам:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| пад садам | 65—70 | гадоў | . . . 6,54 | гэкт. |
| „ „ | 45 | „ | . . . 8,78 | „ |
| „ „ | 35 | „ | . . . 19,68 | „ |
| „ „ | 20 | „ | . . . 4,37 | „ |
| „ „ | 18 | „ | . . . 2,19 | „ |

Парадак пасадкі квадратовы з адлегласьцю паміж дрэвамі ў 70 і 45 год—6,5 мэт. (9 арш.) у іншых—8,5 (12 арш.). Напрамак радоў паўночна ўсходні—паўднёва-заходні.

Прынятая адлегласьць недастатковая, што відаць з абмераў дрэў. Дыямэтр карон некаторых дасягае 8-мі і 10-ці мэтраў. Гэта неадпаведнасьць паміж двумя лічбамі (адлегласьці і дыямэтру) павінна адбіцца на становішчы саду. Кароны ў значнай частцы саду спляліся і патрабуюць адпаведнай абрэзкі. Назіраецца звычайны малюнак барацьбы за сьвятло. Дрэвы у лепшых умовах росту заглушаюць тых, якія апынуліся ў горшых умовах. Апошнія звужаюць свае кароны шляхам паступовага ўсыханьня галін. Плады на гэтых дрэвах дрэнныя, зялёныя. У 45 гадоў сад выглядае зусім пастарэлым. Адхіліць такое зьявішча ў будучым магчыма больш рацыянальнай разьбіўкай саду ў сэнсе адлегласьці. Абмеры дрэў —Штрэйфлінгу, Белага Наліву, Аркаду сьведчаць аб неабходнай адлегласьці для гэтых сартоў у 12 мэтр. Антонаўка, Валошка, Цукровае Літоўскае патрабуюць 10 мэтр. Для Пэпіна Літоўскага дастаткова 8 мэтр.

Тэхніка пасадкі за малымі выключэньнямі, аднолькавая: васеньняе капаньне ям, глыбінёй 70 см., дыямэтрам 1 мэтр., веснавая пасадка. Толькі 20-ці гадовы сад пасаджан у позьнюю восень. Усюды на дно ям быў пакладзен перапрэлы гной. Становішча глебы і падрыхтоўка яе да пасадкі наступныя. На месцы 45-ці гадовага саду, на працягу апошніх пяці гадоў перад пасадкай, вялася культура цукровага бурака, якая патрабуе глыбокага ўрабленьня і многа гною. Дзякуючы гэтаму глеба для пасадкі саду ў гэтым месцы была добра падрыхтавана, так што спэцыяльнай апрацоўкі не патрабавалася. У паўночнай частцы саду (35 год.), на 19,68 гэкт. раней сеяліся палявыя культуры, т. ш. у апошнюю восень патрабавалася глыбокае ворыва. На месцы 18-ці гадовага саду раней знаходзіўся стары сад, які быў выкарчаваны ў 1908 годзе. З восені быў завораны гной; вясной 1909 г. пасаджана бульба, а з восені пачалася пасадка.

Пасадачны матар'ял для 45-ці гадовага саду браўся з гадавальніку, які быў у той час у гаспадарцы. Дзічкі гадаваліся часткаю з мясцовага, часткаю з выпісанага насеньня. Асортымэнт гэтага саду адзначаецца вялікай рознастайнасьцю, што можна ў значнай ступені прыпісаць і таму, што пасадка праводзілася арэндатарам, ад якога нельга чакаць крытычнага падыходу да выбару асартымэнту. Разам з каштоўнымі сартамі тут ёсьць шмат сартоў, якія не заслугоўваюць ніякай увагі.

У садзе 35-ці гадовага ўзросту ў большасьці сорт Антонаўка. Прышчэпы выпісваліся з Чарнігаўскай губэрні. Для саду 20-ці гадовага ўзросту прышчэпы таксама выпісваліся. 18-ці гадовы сад пасаджан матар'ялам выключна свайго гадавальніку.

Пасьля пасадкі адбывалася паліўка гноевай жыжкай, якая паўтаралася на працягу трох гадоў пад 20-ці гадовым садам, і на працягу 5-ці гадоў пад 18-ці гадовым.

Тэхніка дагляду пасьля пасадкі звычайная з належнай падрэзкай і вырэзкай галін і фармаваньнем карон.

У даваенны час апрацоўка і ўгнаеньне глебы вяліся даволі добра. Увесь сад угнойваўся на працягу двух гадоў. Міжрадныя культуры, як гародныя, так і палявыя, ужываліся да тэй пары, пакуль умовы асьвятленьня спрыялі ім. Дагляд за дрэвамі быў дакладны: сваечасовае прарэджваньне карон, абчыстка кары, пабелка штамбаў, належная барацьба са шкоднікамі і г. д. У рэвалюцыйны час ніякага дагляду ня было і сад выглядаў вельмі запушчаным і папсаваным. Бязумоўна, гэта не магла не адбіцца на сучасным становішчы саду.

З моманту пераходу Яромінскай гаспадаркі ў Дзяржмаёмасьць праца па дагляду за садам распачалася ізноў. Штогодна ўгнойваецца некаторая плошча пад садам. Так напрыклад у 1926 годзе была ўгноена паўночна-заходняя частка ў 8,74 гэкт. з разьліку 36 тон гною на гэктар. У 1927 годзе ў восень на 19,68 гэкт. паўднёвай часткі ўнесена тамасоўка ў колькасьці 180 кілёгр. на гэкт. У другім месцы паложан гной усьцяж на 5,46 гэктарах і яшчэ на 5-ці гэкт. у прыствольных кругох. Зараз у міжрадзьдзях маладзейшых садоў садзіцца гародніна, як капуста, буракі, бручка, пад якія ў гэтым годзе часткаю быў паложан гной, а на 10 гэктарах тамасоўка.

Сваім чынам вядуцца і другія працы, як прарэджваньне карон, пабелка штамбаў, барацьба са шкоднікамі. З апошніх у найбольшай колькасьці сустракаецца прадзільнік пярсьцёнкавы. Гэта галоўны вораг саду, Барацьба з ім ажыцьцяўляецца праз здыманьне ў зімку колцаў яечак разам з маладымі пагонамі. За зіму ў 1927 г. было сабрана каля 9500 штук колцаў. Гэта лічба яскрава гаворыць аб значнай распаўсюджанасьці шкодніка. Другім ня менш злосным шкоднікам зьяўляецца чарнічка няпарная (Ocneria dispar L.). Барацьба ручная, якая пачынаецца з восені. З ніжэйшых частак ствалоў пладовых, паркавых і абаронных дрэў зьбіраюцца гнёзды шкодніка, якія потым зьнішчаюцца. За апошні сэзон сабрана 9 кілёграм яек. На некаторых дрэвах знаходзілі да 17 гнёзд з 350—400 яечкамі ў кожным.

З другіх шкоднікаў сустракаюцца бялян жываплотнік (Pieris crataegi L.), златагузка, пладажэр яблычны, мядзяніца кветкаед яблыневы, яблыневая і пладовая молі. Усе гэтыя распаўсюджаны у садзе параўнальна ня значна, загэтым спэцыяльная барацьба з імі не вядзецца. Ужываецца толькі агульнае абпырскваньне парыскай зеленьню разам з бардоскай вадкасьцю. Апошняя накіравана супраць грыбных хвароб, як расы, пладовай гнілі.

Раньняй вясной, яшчэ да распусканьня пучкоў вядзецца абпырскваньне 5 — 6% расчынай жалезнага купарвасу і 0,5 — 0,25% рашчынай медзянага купарвасу супраць імшы і лішайнікаў. У гэты-ж час накладаюцца на штамбы ліпучыя колцы для затрыманьня кветкажэра яблынёвага. Клей выпісан з замеж па 1 р. 65 кап. кілёгр.

З распусканьнем дрэў робіцца першае абпырскваньне рашчынай бардоскай вадкасьці з парыскай зеленьню. Гэтым папярэджваецца разьвіцьцё грыбкоў на лісьцях і адналетніх парасткаў з аднаго боку, з другога—зьнішчаюцца гусені златагузкі, бяляна жываплотніка, яблынёвай і пладовай молі.

Пасьля цьвіценьня адбываецца другое абпырскваньне той-жа рашчынай супраць тых-жа самых шкоднікаў і хвароб. Адначасова ідзе зьнішчэньне гусені прадзільніка пярсьцёнкавага.

Выдаткі па барацьбе са шкоднікам складаюць прыблізна 380 руб. Толькі збор яек прадзільніка пярсьцёнкавага ў мінулым годзе каштаваў 75 рублёў.

Выдаткі на працоўную сілу па дагляду за садам ў 1927-м годзе разьмяркоўваюцца наступна:

| | | | |
|---|---|---|---|
| абрэзка і прыбіраньне суччa, замазка ран | 102 р. | 30 к. |
| пабелка штамбаў | 42 „ | 80 „ |
| барацьба са шкоднікамі | 309 „ | 21 „ |
| загараджваньне | 23 „ | 80 „ |
| апрацоўка і ўгнаеньне глебы | 330 „ | 13 „ |
| варта | 165 „ | 73 „ |
| іншыя працы | 76 „ | 30 „ |
| Разам | 1050 р. | 27 к. |

Большасьць сартоў пачалі пладанасіць на 6 год пасьля пасадкі.

За шэраг апошніх гадоў прыблізна атрыманы такі ўраджай:

у 1925 годзе . . . . 570 тон
„ 1926 „ . . . . . 24,5 „
„ 1927 „ . . . . . 410 „
„ 1928 „ . . . . . 13 „

Поўны ўраджай адтрымліваецца праз 6—7 год.

Як сьведчыць мясцовае насельніцтва, ў 1912 годзе ў Ленінград было адаслана 40 вагонаў яблык. Прыблізна такі-ж ураджай як і ў 1925 годзе быў і ў 1918 годзе.

Кожны год, акрамя гэтага (1928 г.), ураджай здаваўся ў арэнду за наступную плату ў паасобныя гады пачынаючы з 1924 года.

У 1924 годзе . . . 2800 руб.
„ 1925 „ . . . 15000 „
„ 1926 „ . . . 1500 „
„ 1927 „ . . . 11000 „

Рынкамі збыту зьяўляюцца г. г. Ленінград, Масква, Екацерынаслаў. У 1927-ым годзе $^1/_{10}$ частка ўраджаю была паслана за межы. У тым-жа годзе ў Ленінград было адпраўлена 195,8 тон. па 8—12 руб. за скрынку вагой у 38 кілёгр. У гэтым годзе цэны на мясцовым рынку былі: падаліца—70 к.—1 р. за 16 кілёгр., здыманыя сарты—1,5—2 р.

Згодна вестак садавода гаспадаркі „Яроміна“, Тутко, І. В., прыводзім наступную характарыстыку паасобных сартоў:

Штрэйфлінг — адзін з лепшых сартоў. Дае таварны прадукт. Ураджайнасьць здавальняючая. Пладанашэньне праз год.

Нашы назіраньні над 122 дрэвамі далі наступныя вынікі адносна ўстойлівасьці сорту (гл. табл. № 1). Здароўе сорту ў 18 год—92,1%, у 35 год—79,0%, у 45 год—66,7% Агульны процант здаровых дрэў—78,8%. З 26-ці хворых дрэў 13 пацярпела ад марозу. У ўзросьце 45 год назіраецца дуплянатасьць у 16,7%.

Дрэва мае шырока разьвінутую карону ў сярэднім для 8-мі дрэў 45-ці гад. ўзросту 10 мэтраў, сярэдняя высата—6,8 мэтр. (гл. табл. № 2). Лісьця маюць здаровы зялёны колер і не паддаюцца грыбным хваробам.

Антонаўка звычайная. Ураджайлівасьць добрая праз год. Плады ў лёжцы захоўваюцца ня доўга. Супраць грыбных хвароб як дрэва так і плады мала ўстойлівыя. Наогул-жа плады на рынку ідуць даволі пасьпяхова. Транспартабельнасьць здавальняючая.

Здаровых з 36-ці дрэў у 18 гад. узросьце—29 (80,6%) ў 35 гадов. узросьце—94,3%, у 45-ці г. узросьце—93%. З агульнага ліку 3192 дрэў здаровых 2982 (93,4%). Хварэюць ад апёку 126 дрэў (3,9%).

Дыямэтр кароны ў 45 год—7,8 мэтр Высата 6,5 мэтраў.

Пуцімка. Ураджайны сорт. Рыначнасьць здавальняючая. Транс-

партуецца добра. Плады ў вільготныя гады значна паражаюцца паршой. Супраць дрэнных кліматычных зьявішч дрэвы трымаюцца добра. З 11-ці дрэў 45 гадовага ўзросту—усе здаровыя.

Дыямэтр карон—8,4 мэтр. Вышыня дрэў—6,7 мэтр.

Ранэт шэры францускі. Плады надзвычайна трывалыя і ў лёжцы трымаюцца да новага ўраджаю. Лісьцё выдзяляецца сваім здаровым цёмна-зялёным колерам і не паражаецца грыбкамі. У садзе ўсяго 3 дрэвы, якія маюць здаровыя штамбы, але аднабокія кароны, дзякуючы таму, што ў кожным адпілована па адной аснаўной галіне.

Штэцінскае Чырвонае. Плады рыначныя, добрыя ў лёжцы. Лісьцё падпадае пад грыбныя хваробы, але ў меншай ступені, чым у антонаўкі. Пладанашэньне здавальняючае, праз год.

Пармэн зімовы залаты.. Пладанашэньне праз год з добрай ураджайнасьцю. Каштоўны сорт. Яблыка ў лёжцы надзвычайна добрае. Транспартабельнасьць значная. Дрэва баіцца марозаў.

Белы наліў. Сорт сярэдняй ураджайнасьці. Дрэва супроць марозаў сталае, не паддаецца грыбным хваробам.

Дыямэтр кароны 12,9 мэтр., высата дрэва—7,5 мэтр.

Бабовае — зімовы сорт, высока ўраджайлівы, пры чым плады і пры поўных ураджаях не драбнеюць. У лёжцы пасьпявае к сакавіку м-цу. Да здыманьня плады надзвычайпа нясмачныя, дзякуючы значнаму ўтрыманьню квасу. Дрэва зусім устойлівае супроць усіх хвароб і дрэнных кліматычных зьявішч. Цікавы сорт для абсадкі дарог.

Шклянка курская. Дрэва ўстойлівае. Пладанашэньне нават багатае. Плады пабіваюцца паршой. Яблыка ў лежцы надзвычайна добрае. У месяцы лютым—сакавіку прадаецца па 5—7 руб. за 16 кілёгр.

Цукровае Літоўскае. Дрэва самае лепшае ў садзе, у сэнсе разьвіцьця кароны; дыямэтр дасягае 10—11,5 мэтр., высата дрэва даходзіць да 9-ці мэтр. Устойлівасьць сорту здавальняючая. Пладанашэньне багатае, праз год. Плады буйныя, але паражаюцца паршой. Транспартабельнасьць здавальняючая. Мае значную каштоўнасьць на Ленінградзкім рынку.

Пэпін Літоўскі. Ураджайлівасьць значная, але плады з узростам дрэва драбнеюць. Яблыкі значнай каштоўнасьці.

У садзе 25 дрэў, з якіх толькі 4 здаровыя, астатнія хварэюць ад апёку.

Транспарэнт альбо Белы наліў прыбалтыцкі. Сорт, які рана пачынае пладаносіць. Дрэва невялікага росту з далікатным штамбам і пладамі. Апошнія ў значнай ступені пабіваюцца паршой, адчаго каштоўнасьць падае. З ліку 31 дрэва ад апёку хварэе 16.

Цітаўка. Пладанашэньне сярэдняе. Устойлівасьць супроць грыбных хвароб добрая, але ў вільготныя гады яблыкі хварэюць. Рыначнасьць пладоў, дзякуючы пекнай афарбоўцы—добрая.

Баравінка. Сорт надта ўраджайны, але плады ў больш вільготныя гады таксама пабіваюцца паршой.

Валошка. Сорт мала ўраджайны. На мясцовым рынку мае значную каштоўнасьць. Транспартуецца дрэнна.

Аркад. Дрэва надзвычайна вялікіх разьмераў. Супраць марозаў і грыбкоў трымаецца добра. Ураджайнасьць вышэй сярэдняга. Плады заўсёды буйныя на мясцовым рынку гэты сорт лічыцца адным з лепшых познасьпелых летнікаў. Для адпраўкі на далёкія рынкі ня прыгодны, бо ня вытрымлівае доўгага транспарту.

**Вынікі:** 1) Лёгкія лёэсавідныя суглінкі зьяўляюцца адпаведнымі глебамі для закладкі садоў.

2) Трэба ўхіляцца садзіць сады ў западзінах, якія часта сустракаюцца на лёэсавых глебах. Метазгодна такія месцы займаюць гароднымі культурамі.

3) Жывая агарожа з лісьцёвых парод зьяўляецца прытулкам для энтамалягічных шкоднікаў. Хваёвыя пароды больш падыходзяць для агарожы.

2) Барацьба са шкоднікамі павінна весьціся ня толькі ў садзе, але і ў сумежных з садам дрэванасаджэньнях.

5) Адлегласьць паміж дрэвамі ў садзе 6,4—8,5 мэтр. не дастатковая. Сарты Штрэйфлінг, Белы наліў і Аркад патрабуюць адлегласьці ў 12 мэтр., Антонаўка, Пуцімка, Валошка і Цукравое Літоўскае—10 мэтр. для Пэпіна Літоўскага дастаткова 8-мі мэтр.

6) У умовах Яромінскага саду найбольш адпаведнымі сартамі ў сэнсе ўстойлівасьці і рыначнасьці зьяўляюцца наступныя: Антонаўка, Штрэйфлінг, Пуцімка, Аркад, Цукровае Літоўскае.

### Табліца трываласьці сартоў саду саўгасу „Яроміна“

| №№ | Назва сорту | Узрост | Па тэрміну пасьпяваньня | Лік выпаўшых: Абсал. | Лік выпаўшых: % | Усяго дрэў | Лік здаровых: Абсал. | Лік здаровых: % | Лік хворых: Усяго: Абс. | Лік хворых: Усяго: % | Апёк | Рак | Дуплянастасьць | Ветралом | Сухаяршынасьць | Механічныя папсаваньні | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 1 | Антонаўка . . . . | 65—70 | — | — | — | 17 | 14 | 82,4 | 3 | 17,6 | 2 | — | — | — | — | 1 | |
| | „ . . . . | 45 | — | 7 | 10,8 | 58 | 46 | 79,3 | 12 | 20,7 | 7 | — | — | — | 5 | — | Западзіна |
| | „ . . . . | „ | — | 1 | 0,1 | 980 | 911 | 93,0 | 69 | 7,0 | 27 | — | 7 | 18 | — | 17 | |
| | „ . . . . | 35 | — | — | — | 2101 | 1982 | 94,3 | 119 | 5,7 | 83 | 2 | 8 | 1 | 14 | 11 | |
| | „ . . . . | 18 | — | — | — | 36 | 29 | 80,6 | 7 | 19,4 | 7 | — | — | — | — | — | |
| | Разам . . | | — | 8 | 0,2 | 3192 | 2982 | 93,4 | 210 | 6,6 | 126 | 2 | 15 | 19 | 19 | 29 | |
| 2 | Штрэйфлінг . . . | 65—70 | — | — | — | 2 | 2 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| | „ . . . | 45 | — | — | — | 36 | 24 | 66,7 | 12 | 33,3 | 3 | — | 6 | — | — | 3 | |
| | „ . . . | 35 | — | — | — | 57 | 45 | 79,0 | 12 | 21,0 | 8 | — | 2 | — | — | 2 | |
| | „ . . . | 18 | — | — | — | 27 | 25 | 92,6 | 2 | 7,4 | 2 | — | — | — | — | — | |
| | Разам . . | | — | — | — | 122 | 96 | 78,8 | 26 | 21,2 | 13 | — | 8 | — | — | 5 | |
| 3 | Пуцімка . . . . | 45 | — | 1 | 14,3 | 6 | 1 | 16,7 | 5 | 83,3 | 5 | — | — | — | — | — | Западзіна |
| | „ . . . . | „ | — | 1 | 8,3 | 11 | 11 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| | Разам . . | | — | 2 | 10,5 | 17 | 12 | 70,6 | 5 | 29,4 | 5 | — | — | — | — | — | |

## Табліца трываласьці сартоў саду саўгасу „Яроміна“

| №№ | Назва сорту | Узрост | Па тэрміну пасьпяваньня | Лік выпаўшых | | Усяго дрэў | Лік здаровых | | Лік хворых | | | | | | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | Усяго | | | | | | | | |
| | | | | Абсал. | % | | Абсал. | % | Абс. | % | Апёк | Рак | Дуплянасьць | Ветралом | Сухаваршынасьць | Мэханічныя папсаваньні | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 4 | Апорт зв. . . . . | 45 | -- | — | — | 5 | 5 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | -- | — | Западзіна |
| | „ . . . . . | „ | — | — | — | 2 | 2 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| | „ . . . . . | 35 | — | — | — | 1 | — | — | 1 | 100,0 | 1 | — | — | — | — | — | |
| | Разам . . | | — | — | — | 8 | 7 | 87,5 | 1 | 12,5 | 1 | — | — | — | — | — | |
| 5 | Валошка . . . . | 45 | — | — | — | 5 | 5 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| 6 | Цітаўка . . . . | 65 | — | — | — | 33 | 16 | 48,5 | 17 | 51,5 | 17 | — | — | — | — | — | |
| | „ . . . . | | — | — | — | 4 | 3 | 75,0 | 1 | 25,0 | 1 | — | — | — | — | — | |
| | Разам . . | | — | — | — | 37 | 19 | 51,4 | 18 | 48,6 | 18 | — | — | — | — | — | |
| 7 | Аркад . . . . . | 45 | — | — | — | 3 | 3 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| 8 | Белы наліў . . . | „ | — | — | — | 3 | 3 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| 9 | Бабовае . . . . | „ | — | — | — | 1 | 1 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| 10 | Цукровае літоўскае . | 45 | — | — | — | 6 | 5 | 83,3 | 1 | 26,7 | — | — | — | — | 1 | — | |
| 11 | Пэпін літоўскі . . | 45 | — | — | — | 6 | 4 | 66,7 | 2 | 33,3 | 2 | — | — | — | — | — | |
| | „ „ . . | 35 | — | — | — | 25 | 4 | 16,0 | 21 | 84,0 | 21 | — | — | — | — | — | |
| | Разам . . | | — | — | — | 31 | 8 | 25,8 | 23 | 74,2 | 23 | — | — | — | — | — | |
| 12 | Шклянка курская . | 35 | — | — | — | 1 | 1 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| 13 | Ранэт шэры франц. | „ | — | — | — | 3 | 2 | 66,7 | 1 | 33,3 | 1 | — | — | — | — | — | |
| 14 | Пармэн Зімовы Зал. | „ | — | — | — | 2 | — | — | 2 | 100,0 | 1 | — | 1 | — | — | — | |
| 15 | Транспарэнт . . . | „ | — | — | — | 31 | 15 | 48,3 | 16 | 51,7 | 16 | — | — | — | — | — | |
| 16 | Штэцінскае чырвон. | „ | — | — | — | 1 | 1 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| 17 | Баравінка . . . . | „ | — | | — | 2 | 2 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| 18 | Ранэт Курскі Залаты | 45 | — | — | — | 2 | 2 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| 19 | Скрыжапель . . . | „ | — | — | — | 3 | 3 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| 20 | Ранэт Канацкі . . | „ | — | — | — | 1 | — | — | 1 | 100,0 | — | — | 1 | — | — | — | |
| 21 | Кальв. чырв. асеньні | „ | — | — | — | 1 | 1 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| 22 | Іншыя . . . . . | „ | — | — | — | 393 | 292 | 74,3 | 101 | 25,7 | 52 | 24 | 2 | — | 8 | 15 | |
| | „ . . . . . | 65 | — | — | — | 123 | 87 | 70,7 | 56 | 29,3 | 44 | — | 8 | — | 2 | 2 | |
| | „ . . . . . | 18 | — | — | — | 146 | 51 | 34,9 | 95 | 65,1 | 95 | — | — | — | — | — | |
| | Невядомыя . . . | — | — | 377 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| | Ігрушы розныя . . | 35 | — | — | — | 5 | 5 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| | „ „ . . | 45 | — | — | — | 26 | 22 | 84,6 | 4 | 15,4 | -- | — | 2 | 1 | — | 1 | |
| | „ „ . . | 65 | — | — | — | 5 | 5 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | |

## Табліца абмераў саду саўгасу „Яроміна“

| № № | Назва сорту | Узрост дрэў | Вышыня дрэва | Дыямэтр карон | Адносіны дыямэтру да вышыні | Вышыня штамбу | Дыямэтр штамбу | Колькасьць галін | Таўшчыня галін | Кут адыходу галін | Сіла росту |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 1 | Антонаўка . . . . | 45 | 6,50 | 9,10 | 1,40 | 1,00 | 0,29 | 4 | 0,50 | 28° | 0,09 |
| 2 | „ . . . . | 45 | 6,50 | 7,90 | 1,22 | 1,00 | 0,24 | 3 | 0,46 | 36° | 0,24 |
| 3 | „ . . . . | 45 | 6,40 | 7,95 | 1,24 | 0,95 | 0,18 | 3 | 0,56 | 39° | 0,35 |
| 4 | „ . . . . | 45 | 6,60 | 8,15 | 1,23 | 0,95 | 0,29 | 3 | 0,56 | 39° | 0,33 |
| 5 | „ . . . . | 45 | 7,25 | 8,85 | 1,22 | 0,87 | 0,30 | 6 | 0,45 | 34° | 0,37 |
| 6 | „ . . . . | 45 | 6,75 | 9,23 | 1,37 | 0,90 | 0,36 | 4 | 0,57 | 36° | 0,41 |
| 7 | „ . . . . | 45 | 6,50 | 8,40 | 1,29 | 1,20 | 0,24 | 4 | 0,40 | 42° | 0,36 |
| 8 | „ . . . | 45 | 6,62 | 6,95 | 1,05 | 1,16 | 0,22 | 6 | 0,34 | 46° | 0,36 |
| 9 | „ . . . . | 45 | 6,20 | 8,05 | 1,30 | 0,86 | 0,29 | 3 | 0,58 | 57° | 0,36 |
| 10 | „ . . . . | 45 | 6,50 | 6,85 | 1,06 | 1,20 | 0,21 | 5 | 0,33 | 44° | 0,33 |
| 11 | „ . . . . | 45 | 6,32 | 6,45 | 1,02 | 0,97 | 0,24 | 4 | 0,40 | 37° | 0,30 |
| 12 | „ . . . . | 45 | 6,85 | 6,90 | 1,01 | 1,85 | 0,26 | 4 | 0,43 | 23° | 0,25 |
| 13 | „ . . . . | 45 | 6,50 | 6,85 | 1,06 | 0,97 | 0,29 | 7 | 0,37 | 42° | 0,25 |
| 14 | „ . . . . | 45 | 6,45 | 7,75 | 1,20 | 1,21 | 0,20 | 4 | 0,37 | 35° | 0,40 |
| 15 | „ . . . . | 45 | 6,50 | 6,95 | 1,07 | 1,30 | 0,22 | 4 | 0,39 | 27° | 0,25 |
| 16 | „ . . . . | 45 | 6,50 | 8,60 | 1,32 | 1,00 | 0,28 | 4 | 0 43 | 38° | 0,36 |
| 17 | „ . . . . | 45 | 6,85 | 9,45 | 1,38 | 1,22 | 0,28 | 2 | 0,57 | 34° | 0,23 |
| 18 | „ . . . . | 45 | 6,80 | 6,40 | 0,94 | 1,00 | 0,21 | 2 | 0,45 | 30° | 0,23 |
| 19 | „ . . . . | 45 | 6,50 | 7,85 | 1,20 | 1,25 | 0,22 | 5 | 0,39 | 32° | 0,24 |
| 20 | „ . . . . | 45 | 6,42 | 8,35 | 1,30 | 1,02 | 0,27 | 5 | 0,40 | 35° | 0,27 |
| | Сярэдняе . . | — | 6,58 | 7,84 | 1,19 | 1,04 | 0,25 | 4,5 | 0,448 | 36°42′ | 0,30 |
| 1 | Штрэйфлінг . . . | 45 | 6,60 | 9,31 | 1,41 | 0,85 | 0,33 | 3 | 0,61 | 69° | 0,33 |
| 2 | „ . . . | 45 | 6,80 | 11,13 | 1,64 | 0,93 | 0,38 | 3 | 0,62 | 51° | — |
| 3 | „ . . . . | 45 | 5,34 | 7,50 | 1,40 | 1,11 | 0,27 | 2 | 0,60 | 74° | 0,42 |
| 4 | „ . . . | 45 | 7,30 | 10,03 | 1,37 | 0,89 | 0,32 | 4 | 0,53 | 63° | 0,30 |

| № № | Назва сорту | Узрост дрэў | Вышыня дрэва | Дыямэтр карон | Адносіны дыямэтру да вышыні | Вышыня штамбу | Дыямэтр штамбу | Колькасьць галін | Таўшчыня галін | Кут адыходу галін | Сіла росту |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 5 | Штрэйфлінг . . . | 45 | 8,30 | 12,23 | 1,47 | 0,80 | 0,36 | 2 | 0,83 | 69° | — |
| 6 | „ . . . | 45 | 7,80 | 11,48 | 1,47 | 0,78 | 0,37 | 6 | 0,55 | 73° | 0,15 |
| 7 | „ . . . | 45 | 5,92 | 8,42 | 1,42 | 0,75 | 0,29 | 2 | 0,50 | 59° | 0,31 |
| 8 | „ . . . | 45 | 6,20 | 9,93 | 1,60 | 0,76 | 0,34 | 4 | 0,60 | 57° | — |
| | Сярэдняе. . | — | 6,78 | 10,01 | 1,47 | 0,86 | 0,33 | 3,25 | 0,60 | 64° | 0,19 |
| 1 | Пуцімка . . . . . | 45 | 5,90 | 6,82 | 1,16 | 1,48 | 0,25 | 3 | 0,30 | 43° | 0,24 |
| 2 | „ . . . . . | 45 | 6,26 | 8,91 | 1,42 | 1,37 | 0,31 | 2 | 0,46 | 47° | 0,20 |
| 3 | „ . . . . . | 45 | 6,90 | 9,07 | 1,32 | 1,60 | 0,27 | 2 | 0,60 | 37° | 0,20 |
| 4 | „ . . . . . | 45 | 7,70 | 9,80 | 1,27 | 1,11 | 0,33 | 2 | 0,55 | 38° | 0,15 |
| 5 | „ . . . . . | 45 | 6,86 | 7,69 | 1,12 | 1,30 | 0,28 | 3 | 0,55 | 42° | 0,21 |
| | Сярэдняе. . | — | 6,72 | 8,46 | 1,26 | 1,37 | 0,29 | 2,4 | 0,49 | 41°24′ | 0,20 |
| 1 | Белы наліў . . . . | 45 | 7,01 | 11,50 | 1,64 | 0,97 | 0,40 | 5 | 0,50 | 22° | — |
| 2 | „ . . . . | 45 | 7,75 | 13,95 | 1,80 | 1,06 | 0,40 | 4 | 0,62 | 40° | 0,18 |
| 3 | „ . . . . | 45 | 7,90 | 13,40 | 1,70 | 0,98 | 0,45 | 4 | 0,58 | 34° | 0,24 |
| | Сярэдняе. . | — | 7,55 | 12,95 | 1,71 | 1,00 | 0,42 | 4,3 | 0,57 | 32° | 0,13 |
| 1 | Аркад . . . . | 45 | 8,35 | 12,20 | 1,46 | 1,23 | 0,35 | 3 | 0,60 | 53° | 0,32 |
| 2 | „ . . . . . | 45 | 7,50 | 10,40 | 1,39 | 1,48 | 0,38 | 4 | 0,54 | 50° | 0,24 |
| 3 | „ . . . . . | 45 | 7,30 | 10,00 | 1,37 | 1,34 | 0,34 | 4 | 0,50 | 54° | 0,20 |
| | Сярэдняе. . | — | 7,72 | 10,87 | 1,41 | 1,35 | 0,36 | 3,7 | 0,55 | 52° | 0,25 |
| 1 | Цукровае літоўскае . | 45 | 7,00 | 10,35 | 1,48 | 1,29 | 0,28 | 2 | 0,65 | 61° | — |
| 1 | Пэпін літоўскі . . . | 45 | 6,65 | 7,15 | 1,08 | 1,00 | 0,31 | 4 | 0,45 | 24° | 0,20 |
| 1 | Апорт зв. . . . . | 45 | 5,12 | 5,45 | 1,07 | 1,29 | 0,14 | 4 | 0,15 | 55° | 0,13 |
| 2 | „ . . . . . | 45 | 5,03 | 5,16 | 1,02 | 1,04 | 0,13 | 6 | 0,18 | 42° | 0,12 |
| 3 | „ . . . . . | 45 | 5,06 | 5,47 | 1,08 | 0,88 | 0,16 | 5 | 0,18 | 60° | 0,8 |
| | Сярэдняе. . | — | 5,07 | 5,36 | 1,05 | 1,07 | 0,15 | 5 | 0,17 | 52°20 | 0,11 |

# Сад конзавода „Прудок“.

Сад плошчаю 23,91 гэкт. перададзен Гомельскаму коннаму заводу „Прудок“ у 4 кілём. ад Гомеля, для паляпшэньня коннай гаспадаркі за кошт прыбыткаў ад саду.

Усяго дрэў у гэтым садзе налічваецца—3758 шт. З іх антонаукі —2158 шт.—58,4%, штрэйфлінга 62 шт. 1,64%, цітаўкі 78 шт.—2% і невядомых 1011 шт.—26,9% ад усей колькасьці дрэў. Іншыя сарты хістаюцца ад 0,05 да 1%.



*Мал. 20.* Цяпліца і парнікі пры садовай гасп. конзавода „Прудок“.

Менш ад усіх сартоў падпадае хваробам антонаўка. Процант хворых дрэў антонаўкі хістаецца ад 15—20. За ёй ідзе штрэйфлінг — процант хворых дрэў налічваецца да 22. Потым штэцінскае чырвонае 31,5%, цыганка 25%, пэпінкі літоўскай, усяго 9 дрэў і ўсе хворыя на 100%. У іншых сартох процант хворых хістаецца ад 30 да 70% Усяго выпала 864 дрэва, што складае 18,7%. Пасадкі за апошнія 15 год ніякай не рабілася.

З усходу сад забаронены ліпавай прысадай (алеяй), з паўночнай—узлесьсем, з паўднёвай—групай дрэў розных парод: клёну, ільмы і ясеня. Паказаная забарона разьмеркавана на адлегласьці 2 15 мэтр. ад саду і на 1 мэтр паміж дрэвамі. Гэта забарона мае ня добры ўплыў на разьвіцьцё пладовых дрэў, па-перш таму, што яна зацяняе сад, а па другое—дае прытулак шкоднікам. Гэта думка падкрэсьліваецца ў сапраўднасьці тым, што ня гледзячы на штогоднюю барацьбу з імі, можна дагэтуль бачыць вялікую колькасьць розных шкоднікаў у садзе.

Сад падзяляецца маленькай рэчкай на 2 часткі З аднаго боку гэтай рэчкі сад адчувае сябе ня добра, асабліва на паўднёвым схіле, дзе

глеба верхняга пазему $A_1$ чарназемаглядная і блізка да яе падыходзіць паўтара-вокісь жалеза. Дрэвы на гэтым месцы згінулі ўсе, засталіся толькі на схіле, якія дажываюць свой век і праз некалькі год таксама згінуць. На вышэйшым месцы дрэвы разьвіваюцца трохі ляпей, але таксама наглядаецца вялікі процант хворых і выпаду. Па другі бок рэчкі плошча роўная і толькі каля рэчкі круты схіл (15—20°).

Для азнаямленьня з глебай пад садам капаліся дзьве ямы: адна на ўзгорку, а другая на паніжанай частцы плошчы пад антонаўкамі. Тып глебы на ўзгорку моцна ападзолены супясок, ніжэй тыгравыя пяскі, а з 140 см.—марэна.

Магутнасьць верхняга (разрэз № 1) цёмна-шэрага перагнойнага пазему $A_1$—20 см.

**Разрэз № 1**




Пазем $A_2$—бялёсавата-палевы супясок ад 20 да 40 см.

Пазем $B_2$—чырвонаваты супясок з уключэньнем паўтаравокіслаў жалеза ад 40—68 см.

Пазем $B_3$—супясок з праслаеньнямі паўтара-вокісьсю жалеза і з валуннымі ўключэньнямі (тыгравыя пяскі) ад 68 да 140 см.

Пазем C—мацярынская парода (бура-чырвоная марэна) ад 140 см.

У паніжанай частцы саду на паўднёвым схіле тып глебы моцна падзолісты супясок, ніжэй тыгравыя пяскі.

Верхні пазём (разрэз № 2) $A_1$—чорны-перагнойны супясок ад 0—30 см.

Пазем $A_2$—бялёсаваты супясок ад 30—50 см.

Пазем $B_2$—умываньня, суглінак буйна-пескавы, іржава чырвонага колеру ад 50—70 см.

Пазем C—тыгровыя пяскі ад 70 см. да 150 см., ніжэй якога паказалася грунтовая вада.

Што сад вядзе сябе ня добра на нізкіх мясцох, аб гэтым сьведчыць яшчэ разьмеркаваньне карэньняў у паземах, бо лік іх невялікі. Яны не пашыраюцца глыбей 20—25 см., а валасьнікоў зусім ня значная колькасьць.

Правільнага разьвіцьця дрэў ня можа быць яшчэ і таму, што падыход грунтовай вады тут нябольш, як 1,5 мэт. ад паверхні глебы. У павышанай частцы саду, наадварот, грунтовая вада залягае мэтраў на 12—13 ад паверхні глебы, а карэньне ідзе глыбей 70 см. і дрэвы разьвіваюцца лепш. Антонаўка і штрэйфлінг больш прыстасоўваюцца да такіх глеб, чым іншыя сарты; яны зьяўляюцца сартамі найбольш трывалымі.

Пасадка садовых дрэў рабілася ў шахматным парадку, а напрамак радоў з поўначы на поўдзень, пры гэтым адлегласьць паміж радамі да-

Разрэз № 2.




валася 7,10 мэтр. Прышчэпы бралі з свайго гадавальніку, які належаў у той час абшарніку. З гадавальніку культурныя дрэўцы перасаджваліся ў сад у 2—3-х гадовым узросьце. Пасадка адбывалася ўвосень у раней падрыхтаваныя ямы і раней узараную глебу, прыблізна за 2 месяцы да пасадкі дрэў. Усе дрэўцы вывадзіліся на дзічку з насеньня мясцовай, лесавое яблыні. Галоўнае ўгнаеньне глеб—перагной кампосных куч і гной, якія раскідваліся па ўсёй плошчы і заворваліся плугам на глыбіню 15 см. На другі год фармаваліся кароны, пры гэтым вышыня штамбу давалася ад 1 да 1,5 мэтр., а аснаўных пучкоў для вывядзеньня кароны пакідалася 5 — 6 шт. Глеба пад садам пасьля пасадкі дрэў займалася ў значнай частцы чорным папарам і меншая яе частка—гароднымі культурамі: капустай, морквай, гуркамі і інш. па гнойнаму і кампоснаму ўгнаеньню з разьлікам каля 50 тон на гэктар. Такім чынам, сад поўнасьцю ўгнойваўся, але пад культурамі знаходзілася толькі малая частка яго. Гэтае становішча і гэткі догляд за садам меў месца пасьля яго пасадкі да моманту Кастрычнікавай Рэвалюцыі. За час імпэрыялістычнай вайны і рэвалюцыі, на працягу 10 год, ніякага ўгнаеньня не ўнасілі і толькі рэгулярна пачалі ўгнойваць з 1924 году з разьлікам каля 50 тон (3000 п.) на гэктар, штогод па 3,68 гэктара. Апроч таго з 1928 г. пачалі ўносіць вапну на 1,84 гэктара, з разьлікам 3,3 тоны (200 п.) на гэктар. З сёлетняга году ў садзе ўгнойваецца ўсяго 5,5 гэктар, або $^1/_4$ усёй плошчы. Такім чынам, гэта дзялянка будзе яшчэ ўгнойвацца праз 4 гады на 5-ты. Гной раскідваецца па ўсёй плошчы і заворваецца плугам на18—20 см.

З шкоднікаў сустракаюцца наступныя: прадзільнік пярсьцёнкавы, чарнічка няпарная, бялян жываплотнік, яблынева моль, зімовая пядзеніца, кветкаед, пладажорка і зялёная тля. Спосабы барацьбы з імі былі мэханічныя і хэмічныя. Да першых трэба аднесьці: здымку гнёзд гусені, саскрабаньне яечак увосень і ўвясну чарнічкі няпарнай і прадзільніка пярсьцёнкавага, накладка ліпкіх кольцаў супроць зімовай пядзеніцы, абмазваньне штамбаў вапнай ад кветкаеда і іншых шкоднікаў; стараннае саскрабаньне кары ад лішаю, перакопка прыствольных кругоў на зіму, збор коканаў, даўка і зьнішчэньне гусені розных відаў.

Да хэмічных мерапрыемстваў трэба аднесьці: абпырскваньне парыскай зеленьню супроць пладажоркі (на 40 ведзер вады 400 грам парыскай зелені і 1200 грам негашонай вапны), абпырскваньне табачнай выцяжкай супраць яблыневай молі, абпырскваньне газавай эмульсіяй (на 1 вядро вады 400 гр. газу і 66 гр. зялёнага мыла) супраць гусені шоўкапрада і, ўрэшце, абпырскваньне бардоскай вадкасьцю супраць грыбка і паршы да распусканьня вочак (на 20 вёдзер вады 1200 гр. меднага купарвасу і 1200 гр. негашонай вапны).

На працу па барацьбе са шкоднікамі ў 1928 годзе на фунгіінсэк-

цысіды выдаткі складалі 900 руб. з наступным размеркаваньнем: на працу 400 руб., а на інсэкцысіды 500 руб.

З грыбных хвароб трэба адзначыць заражэньне fusicladium dendreticum. Хварэюць паршой пераважна наступныя сарты: апорт, валошка, штэцінскае чырвонае, залатароўка, цітаўка, пэпін літоўскі і антонаўка, пры гэтым антонаўка і пэпін менш заражаны грыбком, чым апорт, валошка і цітаўка. Дзякуючы добраму дагляду за садам магчыма было зьменшыць сёлета заражонасьць хваробамі ўсіх сартоў на 60% супраць 1924 году, калі агульная заражанасьць, асабліва мохам і лішаямі дасягала да 80%, fusicladium'а засталася нязначная колькасьць, прыблізна процантаў на 15, альбо і таго менш. У сувязі з памяншэньнем паршы і рэгулярным угнойваньнем саду лісьце на дрэвах набылі цёмна-зялёны колер.

Пачатак пладанашэньня ў розных сартоў пасьля пасадкі ў гэтым садзе наглядаўся розны, напрыклад:

1. Антонаўка пачынае пладанасіць ад . 7 год
2. Транспарэнт . . . . . . . . . . . . . 5 „
3. Пэпін Літоўскі . . . . . . . . . . . 5 „
4. Штэцінка чырвоная . . . . . . . . . 12 „
5. Ранэт Лянсбэрга . . . . . . . . . . 10 „
6. Штрэйфлінг . . . . . . . . . . . . 8 „
7. Баравінка . . . . . . . . . . . . . 5 „
8. Валошка . . . . . . . . . . . . . . 10 „

Такім чынам, раней усіх пачынаюць пладанасіць транспарэнт, пэпін літоўскі і баравінка, а пазьней усіх — штэцінскае чырвонае і ранэт Лянсбэрга. Наогул кажучы, калі мы возьмем увесь сад цалкам, дык на 8 годзе пасьля яго пасадкі ён даў чыстага прыбытку каля 1000 руб.

У сучасны момант ураджай бывае не аднолькавы, а хістаецца ў межах ад 50 да 83 тон, у ўраджайныя гады ў межах (10—15 тысяч пудоў) 166—250 тон.

Кошт 16 клг. яблык расьце кожны год. Калі ў 1924 годзе сярэдняя цана на яблыкі = 1 руб., дык у 1928 годзе паднялася да 2,5 руб. Прыведзеная ніжэй табліца сьведчыць, як хістаецца ўраджай за 5 год і як растуць цэны на яблыкі.

| | Плошча гэктар | Ураджай у тоннах па гадох | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1924 | 1925 | 1926 | 1927 | 1928 |
| Агульн. прадукц. . . | 23,91 | 322,6 | 73,8 | 242 | 193,5 | 300 |
| Цана 1 тоны . . . | — | 62 руб. | 73 р. 20 к. | 93 руб. | 124 руб. | 150 руб. |
| Разам . . | — | 20000 р. | 5400 р. | 22500 р. | 24000 р. | 45000 р. |
| Ураджай з 1 гэкт. . | — | 13,8 т. | 3,5 т. | 10,1 т. | 8,1 т. | 12,6 т. |
| Аплата 1 гэкт. аг. пр. | — | 855,5 р. | 256 р. | 940 р. | 1004 р. | 1890 р. |

1 гэктар пад садам аплачваецца валавой прадукцыяй паступова з большым прыбыткам, за выключэньнем 1925 году, як слаба ураджайнага.

Па чыстаму прыбытку аплата 1 гэктару будзе меншая. Чысты прыбытак для гаспадаркі складаецца з сумы, якую яна атрымлівае з арэнднай платы напрыклад:

| | Плошча гэктар | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Арэндная плата . . | — | 12000 р. | — | 11500 р. | 6250 р. | 15000 р. |
| Аплата 1 гэктара па чыст. прыб. . . | 23,91 | 501,9 р. | — | 481 р. | 261,4 р. | 627,3р. |

Мы бачым, што сад конзавода „Прудок“ добра пладаносіць, 1 гэктар дае вялікі валавы і чысты прыбытак.

Лічбы адносна агульнай ураджайнасьці, адносна арэнднай платы і кошту 16 кілёгр. яблык атрымана згодна зьвестак мясцовага садавода і тых арандатараў, якія ўжо некалькі год падрад трымаюць гэты сад у арэндным карыстаньні. Плады збываюцца на буйныя рынкі: Маскву, Ленінград і Гомель па цане: зімовыя сарты ад 1 да 3 руб., а летнікі ад 1 да 2-х руб., за 16 кілёгр. Кошт транспарту да бліжэйшага рынку — Гомель 5 кап. за 16 кіл., а да цэнтральных па чыгунцы 60—65 кап. за 16 кілёграмаў.

Водзывы аб сартох наступныя:

1. Антонаўка камянічка—яблыкі добра трымаюцца ў лёжцы, гандлёвыя і трывалыя. Дрэва менш падпадае розным хваробам, прыраст ва ўзросьце 40—45 г. у сярэднім = 36 см., дыямэтр кароны 7,20 м., а вышыня 5,46 м.

2. Штэцінскае чырвонае—яблыкі захоўваюцца ў лёжцы да мая месяца, досыць смачныя, сярэдняй велічыні і гандлёвыя.

Дрэвы па устойлівасьці лічацца здавальняючымі, процант хворых не перавышае 30%, прыраст у гэтым годзе даў 34 см., дыямэтр кароны 8,16 м., а вышыня дрэва 7 мэтр.

3. Шклянкаўка—сорт распаўсюджаны, добра захоўваецца ў лёжцы, ня гледзячы і на тое, што смак мае востра-церпкі. Устойлівасьць дрэў гэтага сорту аднолькавая з устойлівасьцю штэцінкі чырвонай.

4. Пэпін Літоўскі—яблыкі смачныя, прыгожыя, дрэвы пачынаюць рана пладанасіць.

5. Ранэт Лянсбэрга—адно з лепшых яблык па смаку, вялікае, прыгожае, добра захоўваецца у лёжцы. У садзе налічваецца 2 дрэвы і абодвы здаровыя, але прыраст яго ў гэтым годзе нязначны = 8 см., шырыня кароны ў сярэднім 7,45 м, а вышыня дрэва 5,70 мэтраў.

6. Штрэйфлінг—яблыкі гандлёвыя, ў лёжцы трымаюцца да сьнежня, смачныя, дэсэртныя, ураджайныя; сорт, які карыстаецца вялікім патрабаваньнем на рынку і навакольнага насельніцтва. Па ўстойлівасьці ён займае другое месца пасьля антонаўкі. Процант хворых ня большы 22%, прыраст у сярэднім 26 см., дыямэтр кароны ва ўзросьце 40—45 г., пашыраецца на 7,23 мэтр., а вышыня дрэва 6,39 мэтр.

Сарты якія ў гаспадарцы лічацца горшымі гэта:

1. Залатароўка — яблыкі негандлёвыя і ня смачныя. Хворых дрэў налічваецца 40%.

2. Апорт — яблыкі ня лежкія. Дрэва ня ўраджайнае і ня трывалае ад хвароб. Хворых дрэў налічваецца да 70%.

3. Папіраўка дрэва вялізнае, неўраджайнае, на 50% хварэе ад апёкаў, марозабоін і дупел. Яблыкі пухкія і не пашыраны.

4. Скрыжапель і чорнае дзерава—не пашыраны, негандлёвыя, яблыкі ў лёжцы захоўваюцца кепска. Дрэвы і яблыкі падпадаюць розным хваробам, напрыклад, процант хворых дрэў дасягае да 60 — 66, процант асыпаньня пладоў таксама вялікі ў гэтых двох сартоў.

**Вынікі:** 1. Дасьледваньне гэтага саду паказала, што калі-б прышлося засаджваць новы сад пры падобных умовах глебы і клімату, трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на сарты, якія лепш прыстасоўваюцца да гэткіх умоў. Гэткімі сартамі зьяўляюцца; антонаўка-кам., штэцінскае чырвонае, ранэт Лянсбэрга, і штрэйфлінг.

2. Па ўраджайнасьці першае месца займае: штрэйфлінг, васковае жоўтае і ананаснае ружовае.

3. Па рыначнасьці — штрэйфлінг, антонаўка, штэцінскае чырвонае і часткова пэпін літоўскі.

4. Забаронай саду зьяўляецца лісьцёвая парода; яна пасаджана блізка да пладовых дрэў (на 2,15 м.), што зацяняе крайнія рады і дапамагае значнаму разьвіцьцю шкоднікаў.

5. З агульнага апісаньня саду выяўляецца, што месца для пасадкі дрэў павінна быць прыпаднятае і дзе грунтовыя воды залягаюць глыбока ад паверхні глебы. На нізкім месцы сад ні ў якім разе садзіць ня патрэбна.

6. Пасадка дрэў зроблена вельмі густа на 7,10 м. паміж радамі. Дрэвы настолькі зрасьліся каронамі паміж сабой, што нельга вольна пашырацца ў далейшым. У тых садох, ў якіх пасадка зроблена на адлегласьці 9,23 мэтр., ужо ў 19 год штрэйфлінг і антонаўка пашыраюцца да 7 мэтр. у сярэднім, а ў гэтым садзе пры густой пасадцы, дрэвам у 45—50 год няма магчымасьці разьвівацца ў шырыню болей 7 мэтр. Такая густая пасадка адмоўна ўплывае на здароўе дрэў і добра на разьвіцьцё шкоднікаў і г. д.

## Табліца трываласьці сартоў саду „Прудок“

| №№ па чарзе | Назва сорту | Узрост | Па тэрміну пасьпяваньня | Лік выпаўш. дрэў | | Усяго дрэў | Лік здаровых дрэў | | Лік хворых | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | Усяго | | | | | | | |
| | | | | Абсал. | % | | Абсал. | % | Абсал. | % | Марзабоін трэшчын і апёкаў | Рак | Дупленастасьць | Ветралом | Сухавяршынасьць | Мэханічнага пашкоджаньня |
| 1 | Антонаўка . . . . | 15 | — | | | 20 | 20 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 2 | „ . . . . | 20—25 | — | | | 932 | 792 | 84,9 | 140 | 15,1 | 114 | 3 | 1 | 2 | 1 | 19 |
| 3 | „ . . . . | 30 | — | | | 873 | 699 | 80,1 | 174 | 19,9 | 136 | 2 | 4 | 2 | 2 | 28 |
| 4 | „ . . . . | 50 | — | | | 360 | 288 | 80,0 | 72 | 20,0 | 41 | 3 | 20 | 2 | 2 | 4 |
| 5 | Штэцінскае чырвонае | 20—50 | — | | | 19 | 13 | 68,4 | 6 | 31,6 | 6 | — | — | — | — | — |
| 6 | Шклянкоўка . . . | 20—30 | — | | | 12 | 9 | 75,0 | 3 | 25,0 | 1 | — | — | — | — | 2 |
| 7 | Пэпінка Літоўская . | 20—25 | — | | | 9 | — | — | 9 | 100,0 | 6 | 2 | — | 1 | — | — |
| 8 | Ранэт Лянсбэрга . . | 50 | — | | | 2 | 2 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 9 | Пуцімка . . . . . | 25—50 | — | | | 41 | 21 | 51,2 | 20 | 49,8 | 15 | — | — | 3 | — | 2 |
| 10 | Ананаснае ружовае . | 25—60 | — | | | 9 | 6 | 66,6 | 3 | 33,4 | 3 | — | — | — | — | — |
| 11 | Васковое жоўтое . . | 20—40 | — | | | 9 | 6 | 66,6 | 3 | 33,4 | 1 | 1 | — | 1 | — | — |
| 12 | Валошка . . . . . | 25—40 | — | 864 шт. | 18,7% | 45 | 25 | 55,5 | 20 | 44,5 | 20 | — | — | — | — | — |
| 13 | Залатароўка . . . | 35—40 | — | | | 7 | 4 | 57,1 | 3 | 42,9 | 3 | — | — | — | — | — |
| 14 | Апорт . . . . . | 35—50 | — | | | 27 | 8 | 29,6 | 19 | 70,4 | 16 | 3 | — | — | — | — |

## Табліца трываласьці сартоў саду „Прудок“

| №№ па чарзе | Назва сорту | Узрост | Па тэрміну пасьпяваньня | Лік выпаўш. дрэў: Абсал. | Лік выпаўш. дрэў: % | Усяго дрэў | Лік здаровых дрэў: Абсал. | Лік здаровых дрэў: % | Лік хворых: Усяго: Абсал. | Лік хворых: Усяго: % | Маразабоін трэшчын і апёкаў | Рак | Дупленастасьць | Ветралом | Сухавяршынасьць | Мэханічнага пашкоджаньня |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 15 | Папяроўка . . . . | 35—60 | — | | | 35 | 18 | 51,4 | 17 | 48,6 | 10 | — | 6 | 1 | — | — |
| 16 | Скрыжапель . . . | 25—35 | — | | | 5 | 2 | 40,0 | 3 | 60,0 | 2 | — | — | — | — | 1 |
| 17 | Чорнае дэсрава . . | 40—50 | — | | | 6 | 2 | 33,3 | 4 | 66,7 | 2 | 2 | — | — | — | — |
| 18 | Транспарэнт . . . | 25—40 | — | | | 8 | 5 | 62,5 | 3 | 37,5 | 3 | — | — | — | — | — |
| 19 | Астраханскае белае . | 40 | — | | | 24 | 13 | 54,2 | 11 | 45,8 | 11 | — | — | — | — | — |
| 20 | Цітаўка . . . . . | 20—40 | — | | | 78 | 24 | 30,8 | 54 | 69,2 | 30 | 2 | — | 4 | 4 | 14 |
| 21 | Штрэйфлінг . . . | 25—50 | — | | | 62 | 48 | 77,4 | 14 | 22,6 | 5 | — | — | 1 | 4 | 4 |
| 22 | Карабоўка . . . . | 35 | — | | | 7 | 4 | 57,1 | 3 | 42,9 | 2 | 1 | — | — | — | — |
| 23 | Віргінскае ружовае . | 40 | — | | | 35 | 23 | 65,7 | 12 | 34,3 | 9 | — | — | — | 3 | — |
| 24 | Кальвіль рэпчаты . | 20—30 | — | | | 37 | 20 | 54,3 | 17 | 45,7 | 9 | 1 | 2 | 1 | — | 4 |
| 25 | „ рабрысты . | 30 | — | | | 7 | 5 | 71,4 | 2 | 28,6 | — | — | — | — | — | 2 |
| 26 | Цыганка . . . . . | 35 | — | | | 4 | 3 | 75,0 | 1 | 25,0 | — | — | 1 | — | — | — |
| 27 | Царская бель . . . | 25—35 | — | | | 51 | 27 | 52,9 | 24 | 47,1 | 10 | 7 | 1 | — | 6 | — |
| 28 | Белы наліў . . . . | 20—35 | — | | | 11 | 7 | 63,6 | 4 | 36,4 | 4 | — | — | — | — | — |
| 29 | Кучараўка . . . . | 40 | — | | | 4 | 3 | 75,0 | 1 | 25,0 | 1 | — | — | — | — | — |
| 30 | Аркад . . . . . | 35 | — | | | 6 | 3 | 50.0 | 3 | 50,0 | 2 | — | — | — | 1 | — |
| 31 | Невядомыя . . . . | — | — | | | 1011 | 322 | 31,8 | 689 | 68,2 | — | — | — | - | — | — |
| | Разам . . | | — | 864 | 18,7 | 3758 | 2424 | 64,5 | 1334 | 35,5 | 462 | 27 | 25 | 18 | 23 | 80 |
| | Ігрушы | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Бэра Слуцкая . . . | 35—40 | — | | | 31 | 26 | 83,9 | 5 | 16,1 | 3 | — | — | — | 1 | 1 |
| 2 | Безнасенаўка . . . | 45—50 | — | | | 16 | 11 | 68,8 | 5 | 31,2 | 4 | — | 1 | — | — | — |
| 3 | Смалянка . . . . | 55—60 | — | 14 шт. | 12,1% | 18 | 14 | 77,7 | 4 | 22,3 | 2 | — | — | — | 2 | — |
| 4 | Сапяжанка . . . | 60 | — | | | 27 | 17 | 62,9 | 10 | 37,1 | 6 | — | 3 | — | 1 | — |
| 5 | Ільлінка . . . . . | 65 | — | | | 24 | 18 | 75,0 | 6 | 25,0 | 5 | — | — | — | — | 1 |
| | Разам . . | | — | 14 | 12,1 | 116 | 86 | 74,1 | 30 | 25,9 | 20 | — | 4 | — | 4 | 2 |

## Табліца абмераў саду конзавода „Прудок“

| №№ па чарзе | Назва сартоў | Узрост дрэва | Вышыня штамбу ў м. | Вышыня дрэва ў м. | Дыямэтр кароны ў м. | Суадносіны дыямэтру і вышыні дрэў ў м. | Дыямэтр штамбу ў см. | Колькасьць галін | Таўшчыня галін у см. | Кут адыходу | Сіла росту у см. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Антонаўка кам. . . . | 40 | 1,17 | 5,4 | 7,1 | 1,11 | 22 | 4 | 35 | 60° | 25 |
| 2 | „ . . . . | „ | 1,25 | 6,2 | 6,75 | 1,09 | 22 | 3 | 38 | 46° | 42 |
| 3 | „ . . . . | „ | 0,80 | 6,0 | 7,05 | 1,17 | 23 | 3 | 51 | 39° | 40 |
| 4 | „ . . . . | „ | 1,28 | 5,65 | 7,15 | 1,27 | 22 | 5 | 35 | 52° | 42 |
| 5 | „ . . . . | „ | 1,20 | 5,00 | 7,76 | 1,55 | 22 | 3 | 43 | 36° | 40 |
| 6 | „ . . . . | „ | 1,15 | 4,44 | 6,75 | 1,52 | 18 | 5 | 29 | 46 | 38 |
| 7 | „ . . . . | „ | 1,60 | 5,84 | 7,60 | 1,30 | 25 | 3 | 36 | 47 | 40 |
| 8 | „ . . . . | „ | 1,36 | 5,75 | 6,75 | 1,17 | 22 | 4 | 31 | 46 | 34 |
| 9 | „ . . . . | „ | 0,95 | 5,15 | 7,35 | 1,43 | 23 | 4 | 43 | 48 | 32 |
| 10 | „ . . . . | „ | 1,21 | 5,20 | 7,72 | 1,48 | 24 | 6 | 34 | 59 | 24 |
| | Сярэдняе . . | | 1,19 | 5,46 | 7,20 | 1,31 | 22 | 4 | 38 | 48° | 36 |
| 1 | Штэцін чырвоны . . | 65 | 1,30 | 7,10 | 8,37 | 1,18 | 35 | 5 | 50 | 50° | 32 |
| 2 | „ „ . . | 50 | 1,27 | 6,84 | 7,91 | 1,16 | 32 | 3 | 51 | 49° | 35 |
| 3 | „ „ . . | „ | 1,30 | 7,10 | 8,28 | 1,17 | 36 | 3 | 54 | 48 | 35 |
| | Сярэдняе . . | | 1,26 | 7,00 | 8,16 | 1,17 | 34 | 4 | 52 | 49° | 34 |
| 1 | Ранэт Лянсбэрга . . . | 45 | 1,15 | 6,15 | 7,85 | 1,28 | 40 | 3 | 56 | 37° | 0,09 |
| 2 | „ „ . . . | „ | 1,14 | 5,25 | 7,05 | 1,34 | 32 | 5 | 47 | 40 | 0,08 |
| | Сярэдняе . . | | 1,14 | 5,70 | 7,45 | 1,30 | 36 | 4 | 51 | 38° | 0,08 |
| 1 | Пуцімка . . . . . | 45 | 1,44 | 5,50 | 7,90 | 1,44 | 27 | 4 | 42 | 63° | 41 |
| 2 | „ . . . . . | „ | 1,30 | 5,62 | 7,75 | 1,40 | 32 | 3 | 40 | 55 | 50 |
| 3 | „ . . . . . | „ | 1,24 | 5,43 | 7,08 | 1,30 | 35 | 3 | 43 | 52 | 38 |
| 4 | „ . . . . . | „ | 1,40 | 5,60 | 7,59 | 1,35 | 25 | 5 | 40 | 50 | 42 |
| | Сярэдняе . . | | 1,35 | 5,54 | 7,58 | 1,37 | 30 | 4 | 41 | 55 | 43 |
| 1 | Штрэйфлінг . . . . | 45 | 1,42 | 6,60 | 7,20 | 1,09 | 26 | 2 | 61 | 75° | 28 |
| 2 | „ . . . . | „ | 1,38 | 6,50 | 7,25 | 1,12 | 28 | 3 | 56 | 45 | 37 |
| 3 | „ . . . . | „ | 1,20 | 6,36 | 6,63 | 1,04 | 22 | 3 | 46 | 40 | 25 |
| 4 | „ . . . . | „ | 1,25 | 6,72 | 7,41 | 1,10 | 25 | 5 | 39 | 45 | 30 |
| 5 | „ . . . . | „ | 1,15 | 6,18 | 6,51 | 1,05 | 24 | 3 | 44 | 47 | 25 |
| 6 | „ . . . . | 50 | 1,27 | 6,28 | 7,13 | 1,14 | 26 | 3 | 40 | 40 | 25 |
| 7 | „ . . . . | 55 | 1,38 | 6,74 | 7,18 | 1,07 | 27 | 5 | 39 | 49 | 15 |
| 8 | „ . . . . | 45 | 1,40 | 6,0 | 6,62 | 1,10 | 22 | 3 | 48 | 51 | 15 |
| 9 | „ . . . . | „ | 1,30 | 6,10 | 6,89 | 1,06 | 21 | 4 | 33 | 43 | 33 |
| | Сярэдняе . . | | 1,30 | 6,39 | 7,23 | 1,08 | 24 | 3,4 | 45 | 48° | 26 |

# Сад селяніна Лысякова Янкі, хут. „Бардзіна“ Ціцінскага с/савету, Гомельскага раёну.

Знаходзіцца ў адлегласьці ад г. Гомеля 4 клм.

Плошча саду 3,26 гэкт., узросту 22—24 год, разьмеркаваная ў чатырох раўналежных вучастках, якія мяжуюцца з такімі-ж самымі 4-мя вучасткамі яго брата Лысякова Радзіона.

У садзе ўсіх дрэў было пасаджана 551 шт., з іх згінула 98 дрэў—17,44%, засталося 453 дрэва—82,56%, здаровых засталося 388 дрэў—85%, хворых 68 дрэў — 15%, яблынь 442 дрэва — 97,57%, ігруш 11 дрэў — 2,43%, антонаўкі звычайнай 408 дрэў—90,07%, пэпіна літоўскага 15 дрэў —3,31%, транспарэнту 6 дрэў—1,32%, баравінкі 3 дрэвы—0,66%, чорнага дзерава, пуцімкі, штэціну чырвонага, валошкі па аднаму дзераву (глядзі таб. трыв.) і іншых 16 др.—3,53%.

Парадак пасадкі дрэў квадратовы ў адлегласьці паміж дрэвамі і радамі 6,4×6,4 м. (9×9 арш.) і 7,8×7,8 (11×11 арш.).

Схіл у садзе на поўдзень.

Для вызначэньня глебы і прычыны выпаду дрэў у садзе выкапаны дзьве ямы, адна на нізіне, дзе гінуць дрэвы, другая на больш павышанай частцы; у першай пазёмы разьмеркаваны наступным чынам:

$A_1$—24 см. цёмна шэрага колеру.

$A_2$—19 см. бялёсы.

B—55 см. бялёсы з шызым адценьнем і бурымі зацёкамі.

Ніжэй залягае пазём C — пясок з уключэньнем закісі залеза, а на глыбіні 135 см. ад паверхні залягаюць грунтовыя воды. У гэтай частцы



*Мал. 21.* Сад на западзіне—гіне; пасаджан на ўзгорачкая. Узрост 27 г. (Хут. „Бардзіна“).

саду глебавы тып падзоліста-балоцісты, па мэханічнаму складу — лёгкі суглінак.

У гэтай-жа самай частцы вясною застойваецца вада. Неабходна заўважыць, што на нізіне, дзе грунтовыя воды залягаюць на глыбіні 135 см, была пасаджана 176 дрэў антонаўкі; з часу пасадкі згінула 76 дрэў ці 36,93%, засталося 100 дрэў, з іх хворых 35 ці 35%, 2 дрэвы пэпіна літоўскага з іх 1 хварэе. У другой яме пауземы разьмеркаваны наступным чынам:

$A_1$—20 см. цёмна-шэрага колеру;

$A_2$—23 см. бялёсы;

B—62 см. цёмна-бурага колеру.

Ніжэй залягае пазем C—нязьменная парода, цяжкі суглінак і гліна з уключэньнем закіснага жалеза, а на глыбіні 2-х мэтр. залягаюць грунтовыя воды.

Глебавы тып у гэтай частцы саду моцна падзолісты, а па мэханічнаму складу—лёгкі суглінак; падглеба цяжкі суглінак і гліна з уключэньнем закіснага жалеза.

Увесь сад шэраг апошніх год амаль што не пладаносіць, і гэта тлумачыцца блізкасьцю грунтовых вод.

Сад угнойваецца праз 2 гады на трэці, адразу ўвесь з разьліку 36,06 тон (2200 пуд.) на гэктар.

Пасьля пасадкі сад угнойваўся кожны год пад прыствольныя кругі з разьліку 48 кгр. на адно дрэва.

У 1925 — 26 і 27 годзе ўся плошча саду была занята бульбаю а ў 28 г.—палова бульбаю і палова вікаю, у маладым узросьце плошча саду скарыстоўвалася гароднымі расьлінамі.

Сад садзілі вясною ямным спосабам, ямы капаліся ў восень, пры пасадцы ўся яма запаўнялася ворным пазёмам.

Галоўнымі шкоднікамі саду лічацца: кветаеды, баярышніца, златагузка, пладовая моль, пярсьцянёвы і няпарны прадзільнік, зімовая пядзеніца, пладажорка і інш. З грыбных хвароб парша, пладовая гніль, мох, лішаі і інш.

Барацьба са шкоднікамі вядзецца такая: у пачатку восені накладваюць лоўчыя абручыкі, зімой здымаюць і зьнішчаюць гнёзды баярышніцы і златагузкі, яечкі персьцянёвага і няпарнага прадзільнікаў. Вясною да набуханьня вочак увесь сад апырскваюць вапнаю з парыскай зяляньню, і пасьля цьвіценьня камбінаванай расчынай бардоскай вадкасьці з парыжскай зеленьню; яшчэ ўжываецца абчыстка штамбаў, абрэзка гальля і пабелка дрэў вапнаю.

З сартоў саду заслугоўваюць увагі:

Антонаўка звычайная, сорт ураджайны, прамысловы і трывалы.

Штэцін чырвоны лічыцца вельмі добрым зімовым сортам, плады захоўваюцца ў лёжцы да вясны і пазьней, маюць добры збыт і кошт. У садзе адно дрэва і тое здаровае.

Пэпін Літоўскі — вельмі ўраджайны, плады маюць добры збыт і кошт. У садзе ўсіх дрэў 15, з іх хворых 6 ці 40%, такі значны % хворых тлумачыцца тым, што пэпін літоўскі асабліва нятрывалы ва ўмовах блізкасьці грунтовых вод. Пуцімка—васеньні сорт ураджайны, трывалы, плады маюць добры збыт і кошт на мясцовым рынку.

Валошка—васеньня-летні сорт, ураджайны, трывалы і плады маюць добры збыт на мясцовым рынку.

Транспарэнт—вельмі добры летні сорт, ураджайны, прамысловы, плады маюць добры збыт і кошт на мясцовым рынку.

Ільлінка летні сорт,—ураджайны, трывалы і прамысловы.

Адзначым галоўныя асаблівасьці саду Лысякова.

1. З сартоў саду адпавядаюць мясцовым умовам як глебава-кліматычным, так і таварнаму напрамку садоўніцтва наступныя:

Антонаўка, штэцін чырвоны, пуцімка, пэпін літоўскі, транспарэнт, Валошка, Ільлінка

2. Адлегласьць паміж дрэвамі ў раду і паміж радамі 6,4 × 6,4 і 7,8 × 7,8, а дыямэтр карон ва ўзросьце 22,5 годы ў сярэднім 6,77 мэтр., а асобных дрэў дасягае 8 м. і больш.

Пры закладцы новых садоў адлегласьць павінна быць павялічана да 10—12 мэтр.

3. На нізіне, дзе глебавы тып падзоліста-балоцісты, грунтовыя воды залягаюць на глыбіні 1,35 см. і вясною застойваецца вада, было пасаджана 176 дрэў антонаўкі; з іх ужо згінула 76 др. ці 36,93%, засталася 100 дрэў, з іх хворых 35 ці 35%, тады як на вучастках павышаных % згінуўшых 2,8—3,03%, а хворых ад 0—11,19%.

Закладаць новыя сады дзе блізка да паверхні падыходзяць грунтовыя воды і няма стоку веснавым водам, ні ў якім разе не патрэбна.

4. Дзякуючы блізкасьці грунтовых вод па ўсёй плошчы саду ад 1.35 мэтр.—да 2 мэтр., сад апошыя гады амаль што не пладаносіць.

### Табліца абмераў саду гасп. „Бардзіна“

| № № | Назва сорту | Узрост | Высота дрэва | Дыямэтр кароны | Стасунак дыямэтру да вышыні | Вышыня штамбу | Дыямэтр штамбу | Лік асноўных галін у кароне |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Антонаўка звыч. . . | 22,5 | 5,8 | 6,0 | 1,03 | 1,15 м. | 18,1 см. | 2 |
| 2 | „ „ . . | 22,5 | 5,6 | 7,0 | 1,25 | 1,10 „ | 19,0 „ | 5 |
| 3 | „ „ . . | 22,5 | 6,4 | 6,6 | 1,03 | 1,35 „ | 21,02 „ | 3 |
| 4 | „ „ . . | 22,5 | 5 | 6,15 | 1,22 | 1,20 „ | 17,6 „ | 3 |
| 5 | „ „ . . | 22,5 | 6 | 7,5 | 1,25 | 1,20 „ | 21,6 „ | 4 |
| 6 | „ „ . . | 22,5 | 5,3 | 7 | 1,32 | 1,30 „ | 18,0 „ | 3 |
| 7 | „ „ . . | 22,5 | 5,8 | 6,6 | 1,14 | 1,10 „ | 19,4 „ | 3 |
| 8 | „ „ . | 22 5 | 6,4 | 8,0 | 1,25 | 1,15 „ | 24,5 „ | 4 |
| 9 | „ „ . . | 22,5 | 5,0 | 6,0 | 1,2 | 1,10 „ | 20 „ | 4 |
| 10 | „ „ . . | 22,5 | 5,9 | 6,3 | 1,01 | 1,25 „ | 16,5 „ | 4 |
| | Сярэдняя . . | | 5,74 | 6,71 | 1,17 | 1,19 „ | 19,57 „ | 3,5 |
| 1 | Пэпін літоўскі . . . . | 22,5 | 5,8 | 6,8 | 1,17 | 2,10 „ | 21,6 „ | 2 |
| 2 | „ „ . . . . | 22,5 | 5,2 | 6,0 | 1,15 | 1,80 „ | 18,0 „ | 2 |
| | Сярэдняя . . | | 5,5 | 6,4 | 1,16 | 1,95 „ | 19,8 „ | 2 |
| 1 | Пуцімка . . . . . . | 22,5 | 4,5 | 7,2 | 1,60 | 1,03 „ | 21,0 „ | 2 |
| 1 | Валошка . . . . . . | 22,5 | 5,0 | 7,7 | 1,50 | 1,20 „ | 21,0 „ | 5 |

## Табліца трываласьці сартоў саду гас. „Бардзіна“

| № № | Назва сорту | Узрост | Па часу пасьпяваньня | Лік выпаўшых Аб. | Лік выпаўшых % | Усяго | Лік здаровых Аб. | Лік здаровых % | Хворых Усяго | Хворых % | Марозабойныя | Апёк | Рак | Дуплянастых | Ветраломных | Сухаверхіх | Мэхан. папсав. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **I вучастак. Сад гіне 7,82 × 7,82 м. (11 × 11 ар.) (нізіна)** | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Антонаўка звыч. . . | 22,5 | зім. | 76 | 36,93 | 100 | 65 | 65 | 35 | 35 | 11 | 3 | — | -- | — | — | 21 |
| 2 | Пэпін літоўскі . . . | 22,5 | „ | — | — | 2 | 1 | 50 | 1 | 50 | — | — | — | 1 | — | — | — |
| | **II вучастак 7,82 × 7,82 м. (11 × 11 ар.) павыш. частка** | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Антонаўка звыч. . . | 22,5 | „ | 5 | 2,8 | 180 | 160 | 88,89 | 20 | 11,19 | 10 | 9 | — | — | — | — | 1 |
| 2 | Пэпін літоўскі . . . | 22,5 | „ | 4 | 80,0 | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 3 | Чорнае дзерава . . | 22,5 | лет. | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 4 | Баравінка . . . . | 22,5 | вос. | — | — | 3 | 3 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Іншых яблынь . . . | 22,5 | „ | — | — | 4 | 4 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | „ ігруш . . . | 22,5 | „ | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | **III вучастак. 6,4 × 6,4 м. (9 × 9 ар.)** | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Антонаўка звыч. . . | 22,5 | зім. | 8 | 11,11 | 64 | 57 | 89,06 | 7 | 10,94 | 4 | 3 | — | — | — | — | -- |
| 2 | Пэпін літоўскі . . . | 22,5 | „ | — | — | 3 | 1 | 33,33 | 2 | 66,67 | — | 2 | — | — | — | — | — |
| | **IV вучастак. 6,4 × 6,4 м. (9 × 9 ар.)** | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Антонаўка звыч. . . | 22,5 | зім. | 2 | 3,03 | 64 | 64 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 2 | Пэпін літоўскі . . . | 22,5 | „ | 3 | 2,5 | 9 | 6 | 66,67 | 3 | 33,33 | — | 1 | — | — | 2 | — | — |
| 3 | Аркад чырвоны . . | 22,5 | лет. | — | — | 1 | 1 | 100 | — | -- | — | — | — | — | — | — | — |
| 4 | Пуцімка . . . . . | 22,5 | вос. | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Валошка . . . . . | 22,5 | „ | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Транспарэнт . . . | 22,5 | лет. | — | — | 6 | 6 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 7 | Штэцін чырвоны . . | 22,5 | зім. | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Ігрушы: | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Гліва . . . . . . | 22,5 | лет. | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | -- | — | — | — | -- |
| 2 | Ільлінка . . . . | 22,5 | „ | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 3 | Іншых . . . . . | 2, | | - | — | 9 | 9 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Усяго . . . | — | — | 98 | — | 453 | 385 | — | 68 | — | — | — | — | — | — | — | — |

# Сад сельска-гасп. арцелі „Усерабземлес“

## Касьцюкоўка, Гомельскага раёну, Касьцюкоўскага с./савету.

Гаспадарка існуе з 1924 году. У дарэвалюцыйны час была абшарніцкай.

Адлегласьць ад г. Гомелю—13 кілёмэтраў.

Плошча саду—19,61 гэктараў. Па узросту плошча разьмяркована наступным парадкам:

| Узрост | Плошча |
|---|---|
| 80 гад | 1,81 гэкт. |
| 45 „ | 5,27 „ |
| 25 „ | 4,36 „ |
| 16 „ | 8,17 „ |

Ва ўсім садзе 20 сартоў яблык і 13 сартоў ігруш. З яблык найбольшая колькасьць дрэў „антонаўкі“—84,0%, „пэпіну літоўскага“—4,6%, „Цітаўкі“—3,8%, „чорнага дзерава—1,4%, „залатароўкі—1,3%, „папяроўкі“—1,9%. У нязначнай колькасьці дрэў маюцца сарты: „апорт“, „штрэйфлінг“, „пуцімка“, „валошка“, „кандзіль-сінап“. і інш.

З ігруш найбольшая колькасьць дрэў сорту „Ільлінкі“—42,7%, з іншых сартоў—так званая „даўка“—11,4%, „лімонка“—9,2, „сапяжанка“—8,0%, „бергамот“ — 4,9%, сартоў „бэры слуцкай“, „смалянкі“, „безнасенкі“—па 4,3%, „панны“—1,1%, іншых—9,7%.

Усяго яблынь 2833, ігруш—185. Разьмеркаваньне па ўзросту відаць з наступнай табліцы:

| Узрост | Яблыні | | Ігрушы | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Абс. | % % | Абс. | % % | Абс. | % % |
| 80 | 292 | 92,4 | 24 | 7,6 | 316 | 100 |
| 45 | 861 | 90,6 | 81 | 9,4 | 942 | 100 |
| 25 | 532 | 98,2 | 10 | 1,8 | 542 | 100 |
| 16 | 1148 | 94,3 | 70 | 5,7 | 1218 | 100 |
| Разам . | 2833 | 93,8 | 185 | 6,2 | 3018 | 100 |

Парадак пасадкі ў 16-ці і 25-ці гадовым садзе квадратовы; адлегласьць паміж дрэвамі—11,4 мэтр. (16 арш.). Напрамак радоў—паўднёва-заходні—паўночна-ўсходні. Парадак пасадкі ў 45-ці гадовым садзе—шахматны. Адлегласьць паміж радамі 7,1 мэтр (10 арш), паміж дрэвамі ў радох—8,5 (12 арш.). Напрамак радоў той самы.

80-ці гадовы сад пасаджан вельмі бязладна. Напрамак радоў ня вызначан. Посадка вельмі густая з нявытрыманай адлегласьцю. Паміж некаторымі дрэвамі—2,5 мэтр., паміж іншымі—4,5 мэтр.

З паўночна і паўночна-заходняга боку на працягу 650-ці мэтр. маецца жывая агарожа з дзікай лясной ігрушы. З усходняга, паўднёвага і паўднёва-заходняга боку сад абсаджан елкай. Пасярэдзіне саду праходзяць дзьве сасновыя і адна каштанавая прысады.

Рэльеф саду роўны, з агульным схілам на поўдзень і захад. Глеба—лёгкі лёэсавідны суглінак, сярэдне—ападзолены. Заходні кут саду знаходзіцца на паніжэньні, дзе глеба часткаю значна ападзолена. У самай ніжэйшай нязначнай частцы саду, ад лішкі павярхоўнай вады, праходзяць працэсы забалачваньня. Падсьцілаючая парода—сартаваны пясок. Грунтовыя воды далёка.

Сад на паніжэньні адчувае сябе досыць добра, але там, дзе ён пападае на ападзоленую глебу, значна горшы. Асабліва дрэнны сад на забалочаным месцы. Пасадка тут зроблена на штучных узгорачках, дзякуючы чаму шмат дрэў з пахіленымі штамбамі. Дрэвы нізкарослыя, з значнай колькасьцю імшы і лішаеў. Пашкоджаньні кары дрэнна загойваюцца.

Пасадачны матар'ял для маладзейшых садоў браўся з свайго гадавальніку.

Што год угнойваецца 1/4 саду. Гной кладзецца з разьліку 36 тон на гэктар. Часта гною вывозіцца ў восень, частка вясной; заворваецца на глыбіню 18 см. У міжрадзьдзях ва ўсім садзе сеецца віка на зялёны корм. Частка 16-ці гадовага саду штогод займаецца гароднінай.

З шкоднікаў найбольш распаўсюджан прадзільнік пярсьцёнкавы (Gastropacha neustria L.). Барацьба—здыманьне гадавалых пагонаў з яечкамі зімой. У нязначнай колькасьці сустракаецца бялян жываплотнік (Pieris crataegi L.). Зімой зьбіраюцца яе гнёзды. Вясной, калі адрадзяцца гусені, супраць абодвых шкоднікаў робіцца абпырскваньне парыскай зеленьню. Нязначна распаўсюджана зімовая пядзеніца. Супраць яе накладаюцца ліпучыя колцы. У 25-ці гадовым садзе значна распаўсюджана траўніца яблынёвая (Aphis mali L.), асабліва на сорце „чорнае дзерава“. З мер барацьбы ўжываецца абпырскваньне расчынам звычайнага мыла. З другіх шкоднікаў у нязначнай колькасьці сустракаюцца кветкаед яблыневы (Anthonomus pomorum L.), пладажор яблычны (Corpocaspa pomonella Hb), і некаторыя іншыя.

Ня так даўно ў садзе было шмат лішаеў і імшы, якія цяпер амаль зьнішчаны. Супраць іх ужывалася абпырскваньне жалезным купарвасам.

За апошнія чатыры гады ўраджай саду быў прыблізна наступны:

| Гады | Яблыкі | | Ігрушы |
|---|---|---|---|
| | Зімнікі | Летнікі | |
| 1925 | 100 тон | 16 тон | 5 тон |
| 1926 | 33 „ | 5 „ | 3 „ |
| 1927 | 100 „ | 16 „ | 5 „ |
| 1928 | 2 „ | — | — |

Рэалізацыя ураджаю ідзе сваімі сродкамі. Плады збываюцца ў Гомельскую каапэрацыю. Да апошняга году 25-ці гадовы сад даваў ураджай штогод.

Згодна вестак мясцовага садоўніка і нашага дасьледаваньня прыводзім характарыстыку сартоў:

Залатароўка. Сорт сярэдней ураджайнасьці. Плады ў лёжцы захоўваюцца да сакавіка м-ца. Транспартабельнасьць і рыначнасць добрыя. Устойлівасьць здавальняючая. З 32-х дрэў 45-ці гадовага ўзросту хварэюць 8; з іх ад марозу пацярпела 4.

Цыганка. Даўгавечнае, устойлівае дрэва. Яблыкі добра захоўваюцца ў лежцы. У мінулым годзе некалькі пудоў яблык пралежала да мая месяца, пры чым папсутых было ня болей 10-ці процантаў. У садзе толькі адно дрэва.

Штрэйфлінг. З шасьці дрэў у маладым садзе ўсе здаровыя, але растуць яны ня зусім добра. Ураджайнасьць праз год. На мясцовым рынку каштоўны сорт.

Цітаўка. У садзе 103 дрэва рознага ўзросту, з іх хворых дрэў 37,9%. Апёкам хварэе 21,4% дрэў, пашкоджана ветрам 7,8%, дуплянастых 8,7%. Найменшы процант хворых у 16-ці гадовым узросьце (25,0%), найбольшы у 45-ці (43,0%).

Дрэва хутка разьвінаецца і рана пачынае пладаносіць. Ураджайнасьць праз год, здавальняючая. Плады добра ўстойлівыя супраць грыбных хвароб. Ня мясцовым рынку ідуць пасьпяхова.

„Чорнае дзерава“. Устойлівасьць сярэдняя. Пладанашэньне праз год. Адзін з лепшых ранавосенскіх сартоў. Як ня мясцовым, так і на далёкіх рынках мае значную каштоўнасьць.

Пуцімка. Дрэва ўстойлівае. Плады захоўваюцца да сьнежаня. Рыначнасьць і транспартабельнасьць здавальняючыя.

Кандзіль-сінап. Пладанашэньне праз год. Параўнальна з крымскімі яблыкі меншыя ў паўтара разы. Лёжкасьць да мая месяца. Каштоўны сорт. У садзе тры дрэвы, з якіх адно мае апёк.

Папяроўка. (Бель). Дрэвы разьвінаюцца добра; супраць марозаў устойлівыя, але не даўгавечныя. У 45-ці гадовым узросьце 53,6% дрэў дуплянастых. Плады дробныя; грыбным хваробам не паддаюцца. На мясцовым рынку ідуць дрэнна, але на ленінградзкім рынку карыстаюцца пасьпехам.

Пэпін літоўскі. Пладанашэньне праз год. Плады дробныя значна пабіваюцца паршой. На рынку ідуць у сьнежані месяцы. Збыт дрэнны.

З ігруш ні адзін сорт не заслугоўвае увагі.

**Вынікі**. 1) Легкія лёэсавідныя суглінкі сярэдне ападзоленыя зьяўляюцца адпаведнымі глебамі для закладкі садоў. На значна ападзоленай глебе сад адчувае сябе горш. Асабліва дрэнны сад на забалочанай глебе, ня гледзячы на тое, што пасаджан на штучных узгорачках.

2) Яблыні сорту „чорнае дзерава“ вельмі падпадаюць нападу яблынёзай траўніцы.

3) Найбольш адпаведны асортымэнт яблык у ўмовах дадзенага саду наступны: „антонаўка“, „штрэйфлінг“, „залатароўка“, „чорнае дзерава“.

## Табліца трываласьці сартоў саду арцелі „Усерабземлес“

| № № | Назва сорту | Узрост | Тэрмін пасьпяваньня | Лік выпаўшых: Абс. | Лік выпаўшых: % % | Усяго дрэў | Лік здаровых: Абс. | Лік здаровых: % % | Лік хворых: Усяго: Абс. | Лік хворых: Усяго: % % | Апёк | Рак | Дуплянастасьць | Ветралом | Сухавяршынасьць | Мэханічныя папсаваньні |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 1 | Антонаўка зв. . . . | 16 | — | 354 | 25,4 | 1035 | 943 | 91,1 | 92 | 8,9 | 90 | — | — | — | 1 | 1 |
| | „ . . . . | 25 | — | 53 | 11,0 | 430 | 392 | 91,2 | 38 | 8,8 | 30 | — | 8 | — | | — |
| | „ . . . . | 45 | — | 60 | 0,8 | 677 | 582 | 86,3 | 95 | 13,6 | 37 | — | 52 | 5 | 1 | — |
| | „ . . . . | 80 | — | — | — | 247 | 131 | 53,0 | 116 | 47,0 | 9 | — | 99 | — | — | 8 |
| | Разам . . | — | — | 467 | 16,4 | 2389 | 2048 | 85,7 | 341 | 14,3 | 166 | — | 159 | 5 | 2 | 9 |
| 2 | Цітаўка . . . . . | 16 | — | — | — | 15 | 10 | 66,7 | 5 | 33,3 | 5 | — | — | — | — | — |
| | „ . . . . . | 25 | — | — | — | 15 | 9 | 60,0 | 6 | 40,0 | 4 | — | 2 | — | — | — |
| | „ . . . . . | 45 | — | — | — | 58 | 33 | 56,9 | 25 | 43,1 | 12 | — | 7 | 6 | — | — |
| | „ . . . . . | 80 | — | — | — | 15 | 12 | 80,0 | 3 | 20,0 | 1 | — | 2 | — | — | — |
| | Разам . . | — | — | — | — | 103 | 64 | 62,1 | 39 | 37,9 | 22 | — | 11 | 6 | — | — |
| 3 | Пэпін літоўскі . . . | 16 | — | 3 | 4,3 | 63 | 37 | 58,7 | 26 | 41,3 | 26 | — | — | — | — | — |
| | „ „ . . . | 25 | — | 15 | 18,1 | 68 | 63 | 92,6 | 5 | 7,4 | — | — | — | 1 | — | 4 |
| | Разам . . | — | — | 18 | 12.8 | 131 | 100 | 76,4 | 31 | 23,6 | 26 | — | — | 1 | — | 4 |
| 4 | „Чорнае дзерава“ . . | 16 | — | 3 | 16,0 | 16 | 12 | 75,0 | 4 | 25,0 | — | — | — | 1 | 1 | — |
| | „ „ . . | 25 | — | 1 | 5,3 | 18 | 15 | 85,0 | 3 | 15 | 26 | — | — | — | — | 2 |
| | „ „ . . | 45 | — | — | — | 7 | 6 | 85,7 | 1 | 14,3 | 2 | — | 1 | — | — | — |
| | „ „ . . | 80 | — | — | — | 2 | — | — | 2 | 100 | 1 | — | 2 | — | — | — |
| | Разам . . | — | — | 4 | 8,5 | 43 | 33 | 76,7 | 10 | 23,3 | — | — | 3 | 1 | 1 | 2 |
| 5 | Залатароўка . . . | 15 | — | — | — | 2 | 2 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | „ . . . | 25 | — | — | — | 2 | 2 | 100 | — | — | 3 | — | — | — | — | — |
| | „ . . . | 45 | — | — | — | 32 | 24 | 75,0 | 8 | 25,0 | — | — | 1 | 3 | — | — |
| | „ . . . | 80 | — | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Разам . . | — | — | — | — | 37 | 29 | 78,4 | 8 | 21,6 | 4 | — | 1 | 3 | — | — |
| 6 | Апорт зв. . . . . . | 15 | — | — | — | 3 | 3 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | „ . . . . . | 45 | — | — | — | 8 | 1 | 12,5 | 7 | 82,5 | 4 | — | 7 | — | — | — |
| | Разам . . | — | — | — | — | 11 | 4 | 36,4 | 7 | 63,6 | — | — | 7 | — | — | — |

| № № | Назва сорту | Узрост | Тэрмін пасьпяваньня | Лік выпаўшых: Абс. | Лік выпаўшых: 0/0 0/0 | Усяго дрэў | Лік здаровых: Абс. | Лік здаровых: 0/0 0/0 | Лік хворых: Усяго: Абс. | Лік хворых: Усяго: 0/0 0/0 | Апёк | Рак | Дуплянастасьць | Ветралом | Сухаваршынасьць | Мэхнічныя папсаваньні |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 7 | Пуцімка . . . . . | 15 | — | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | „ . . . . . . | 25 | — | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | „ . . . . . . | 45 | — | — | — | 4 | 4 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | „ . . . . . . | 80 | — | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Разам . . | — | — | — | — | 7 | 7 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 8 | Штрвйфлінг . . . | 16 | — | — | — | 6 | 6 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 9 | Кандзіль-сінап . . . | 25 | — | — | — | 2 | 2 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | „ „ . . . | 45 | — | — | — | 1 | — | — | 1 | 100 | 1 | — | — | — | — | — |
| | Разам . . | — | — | — | — | 9 | 8 | 88,9 | 1 | 11,1 | 1 | — | — | — | — | — |
| 10 | Кальвіль асеньні . . | 45 | — | — | — | 17 | 12 | 70,6 | 5 | 29,4 | 1 | — | 4 | — | — | — |
| | „ „ . . | 80 | — | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Разам . . | — | — | — | — | 18 | 13 | 72,2 | 5 | 27,8 | 1 | — | 4 | — | — | — |
| 11 | Папяроўка . . . . | 45 | — | — | — | 44 | 19 | 43,2 | 25 | 56,8 | 1 | — | 24 | — | — | — |
| | „ . . . . | 80 | — | — | — | 9 | 4 | 44,4 | 5 | 55,6 | — | — | 5 | — | — | — |
| | Разам . . | — | — | — | — | 53 | 23 | 43,4 | 30 | 56,6 | 1 | — | 29 | — | — | — |
| 12 | Аркад . . . . . | 45 | — | — | — | 1 | — | — | 1 | 100 | — | — | 1 | — | — | — |
| 13 | Цыганка . . . . . | 45 | — | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 14 | Валошка . . . . . | 45 | — | — | — | 1 | — | — | 1 | 100 | — | — | 1 | — | — | — |
| | „ . . . . | 80 | — | — | — | 3 | 3 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Разам . . | — | — | — | — | 6 | 4 | 66,7 | 2 | 33,3 | — | — | 2 | — | — | — |
| 15 | Іншыя . . . . . | 16 | — | — | — | 7 | 7 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | „ . . . . . . | 25 | — | — | — | 5 | 4 | 80,0 | 1 | 20,0 | — | — | — | 1 | — | — |
| | „ . . . . . . | 45 | — | — | — | 11 | 9 | 81,8 | 2 | 18,2 | — | — | 2 | — | — | — |
| | „ . . . . . . | 80 | — | — | — | 13 | 6 | 46,1 | 7 | 53,9 | 1 | — | 6 | — | — | — |
| | Разам . . | — | — | — | — | 36 | 26 | 72,2 | 10 | 27,8 | 1 | — | 8 | 1 | — | — |

| № № | Назва сорту | Узрост | Тэрмін пасьпяваньня | Лік выпаўшых: Абс. | Лік выпаўшых: % % | Усяго дрэў | Лік здаровых: Абс. | Лік здаровых: % % | Лік хворых: Усяго: Абс. | Лік хворых: Усяго: % % | Апёк | Рак | Дуплянастасьць | Ветралом | Сухавершынасьць | Мэханічныя пашкоджаньні |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | **Іґрушы** | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Ільлінка . . . . . | 16 | — | 2 | 4,5 | 42 | 34 | 81,0 | 8 | 19,0 | 3 | — | 3 | 2 | — | — |
| | " . . . . . | 45 | — | 1 | 2,9 | 33 | 22 | 66,7 | 11 | 33,3 | — | — | 9 | 2 | — | — |
| | " . . . . . | 80 | — | — | — | 6 | 2 | 33,3 | 4 | 66,7 | — | - | 4 | — | — | — |
| | Разам . . | — | — | 3 | 3,6 | 81 | 58 | 74,9 | 23 | 25,1 | 3 | — | 16 | 4 | — | — |
| 2 | Лімонка . . . . . | 15 | — | 1 | 7,7 | 12 | 6 | 50,0 | 6 | 50,0 | 5 | — | 1 | — | — | — |
| | " . . . . . | 45 | — | — | — | 5 | 4 | 80,0 | 1 | 20,0 | — | — | 1 | — | — | — |
| | Разам . . | — | — | 1 | 5,6 | 17 | 10 | 58,8 | 7 | 41,2 | 5 | — | 2 | — | — | — |
| 3 | Сапяжанка . . . . | 15 | — | 1 | — | 5 | 4 | — | 1 | — | 1 | — | — | — | — | — |
| | " . . . . | 25 | — | 1 | — | 5 | 5 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | " . . . . | 45 | — | — | — | 2 | 2 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | " . . . . | 80 | — | — | — | 3 | 1 | — | 2 | — | — | — | 2 | — | — | — |
| | Разам . . | — | — | 2 | 12,4 | 15 | 12 | 80,0 | 3 | 20,0 | 1 | — | 2 | — | — | — |
| 4 | Безнасенка . . . . | 45 | — | — | — | 5 | 4 | 80 | 1 | 20,0 | — | — | 1 | — | — | — |
| | " . . . | 80 | — | — | — | 3 | 1 | 33,3 | 2 | 66,7 | — | — | 1 | 1 | - | — |
| | Разам . . | — | — | — | — | 8 | 5 | 62,5 | 3 | 37,5 | — | — | 2 | 1 | — | — |
| 5 | Бэргамот . . . . | 45 | — | — | — | 8 | 7 | 87,5 | 1 | 12,5 | — | — | 1 | — | — | — |
| | " . . . . | 80 | — | — | — | 1 | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Разам . . | — | — | — | — | 9 | 8 | 88,9 | 1 | 11,1 | — | — | 1 | — | — | — |
| 6 | Іншыя . . . . . | 15 | — | — | — | 11 | 10 | 90,9 | 1 | 9,1 | 1 | — | — | — | — | — |
| | " . . . . . | 25 | — | — | — | 5 | 3 | 60,0 | 2 | 40,0 | 1 | — | — | 1 | — | — |
| | " . . . . . | 45 | — | — | — | 28 | 20 | 71,4 | 8 | 28,6 | — | — | 6 | 2 | — | — |
| | " . . . . . | 80 | — | — | — | 11 | 1 | 9,1 | 10 | 90,9 | — | — | 9 | 1 | — | — |
| | Разам . . | — | — | — | — | 55 | 34 | 61,8 | 21 | 38,2 | — | — | — | — | — | — |

## Табліца абмераў саду арцелі „Усерабземлес“

| № № | Назва сорту | Узрост дрэў | Вышыня дрэва | Дыямэтр кароны | Адносіны дыямэтру кароны да вышыні | Вышыня штамбу | Дыямэтр штамбу | Колькасьць галін | Таўшчыня галін | Кут адыходу галін | Сіла росту | Увагі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 1 | Антонаўка зв. . | 16 | 5,30 | 6,87 | 1,29 | 1,00 | 0,21 | 8 | 0,26 | 72° | 0,25 | Узгорак |
| 2 | „ . . | 16 | 4,96 | 6,87 | 1,39 | 0,81 | 0,21 | 5 | 0,32 | 64° | 0,18 | „ |
| 3 | „ . . | 16 | 5,29 | 6,90 | 1,31 | 1,00 | 0,19 | 5 | 0,31 | 41° | 0,36 | „ |
| | Сярэдняе . . | — | 5,18 | 6.89 | 1,33 | 0,94 | 0,20 | 6 | 0,30 | 59° | 0,24 | |
| 1 | Антонаўка зв. . | 16 | 4,18 | 4,64 | 1,11 | 0,86 | 0,12 | 5 | 0,25 | 59° | 0,19 | Западзіна |
| 2 | „ . . | 16 | 4,32 | 5,01 | 1,16 | 1,03 | 0,12 | 5 | 0,25 | 63° | 0,21 | |
| 3 | „ . . | 16 | 4,00 | 4,80 | 1,20 | 1,00 | 0,15 | 6 | 0,24 | 60° | 0,15 | |
| | Сярэдняе . . | — | 4,20 | 4,82 | 1,14 | 0,96 | 0,13 | 5,3 | 0.25 | 61° | 0,18 | |
| 1 | Антонаўка зв. . | 45 | 7,54 | 8,73 | 1,14 | 1,10 | 0,31 | 3 | 0,58 | 78° | 0,28 | |
| 2 | „ . . | 45 | 6,25 | 7,02 | 1,12 | 1,30 | 0,28 | 3 | 0,54 | 71° | 0,35 | |
| 3 | „ . . | 45 | 8,05 | 10,25 | 1,27 | 0,65 | 0,35 | 4 | 0,37 | 69° | 0,24 | |
| 4 | „ . . | 45 | 6,53 | 9,07 | 1,39 | 0,92 | 0,31 | 4 | 0,42 | 67° | 0,34 | |
| 5 | „ . . | 45 | 6,92 | 8,21 | 1,26 | 1,17 | 0,31 | 3 | 0,62 | 51° | 0,34 | |
| 6 | „ . . | 45 | 6,17 | 7,00 | 1,13 | 1,19 | 0,27 | 3 | 0,41 | 67° | 0,44 | |
| | Сярэдняе . . | — | 6,91 | 8,38 | 1,21 | 1,05 | 0,30 | 4,7 | 0,49 | 67° | 0,33 | |
| | Антонаўка зв. . | 80 | 7,75 | 8,64 | 1,15 | 1,12 | 0,35 | 3 | 0,68 | 24° | — | |
| | „ . . | 80 | 8,72 | 8,17 | 0,94 | 1,24 | 0,31 | 3 | 0,61 | 24° | — | |
| | „ . . | 80 | 7,55 | 6,21 | 0,82 | 1,55 | 0,21 | 2 | 0,51 | 19° | — | |
| | Сярэдняе . . | — | 8,01 | 7,67 | 0,96 | 1,30 | 0,29 | 2,7 | 0,60 | 22° | — | |

# Сад саўгасу „Старая Беліца“

## Уваравіцкага раёну, Ст.-Беліцкага с/савету.

У дарэвалюцыйны час гаспадарка была абшарніцкай, а з 1923 год перашла ў Дзяржмаёмасьць. Зараз у карыстаньні саўгасу знаходзіцца 319 гэктараўземплошчы, якая па ўгодзьдзям разьмеркавана наступна:

| | |
|---|---|
| ворыва | 228,9 гэкт. |
| сенажаць балот | 54,6 „ |
| гарод | 1,6 „ |
| сядзіба | 3,3 „ |
| парк | 4,4 „ |
| сад | 26,2 „ |

Рэльеф мясцовасьці роўны з нязначным схілам на поўнач. Глеба ля падставы схілу — сярэдне-ападзоленая, шэрая, буйна-пяшчаная сугліна супесь, з багатым утрыманьнем наносных пылаватых частак; на верхняй частцы схілу — больш сьветлая, з жоўтаватым адценьнем у гумасавым паземе, слаба ападзолены супясок. Глебавы разрэз у гэтым месцы мае наступны выгляд: 0—10 см.—гумусавы, сьветла-шэры з жоўтаватым адценьнем, тонкі буйна-пяшчаны супясок: 10—90 см.—слаба падзолісты, жоўтаватага колеру, даволі аднастайны сартованы буйны пясок. Сярэдзіну схілу займаюць прамежныя глебы, якія па мэханічнаму складу набліжаюцца да сугліна-супясі. Грунтовыя воды далёка.

Сад мае абарону па усходняму краю з ліпы і клёну, з паўночнага боку — з серабрыстага топалю. Заходнім бокам ён мяжуецца з вёскай, якая зьяўляецца добрай абаронай ад вятроў. Парк, які знаходзіцца на сярэдзіне саду, таксама зьяўляецца добрай абаронай. Адлегласьць абароны да першага раду саду—6,5—8,5 мэтр. Каля ўсходняй абароны назіраецца такое зьявішча: першы рад дрэў мае апёк на 37,5%, другі рад —7,7%, трэці—3,8%, тады як агульны процант хворых ад апёку дрэў— 8,9%. Залечваньне ран ад мэханічных папсаваньняў ідзе значна горш. Дрэў у першы радзе ад абароны, на якіх назіраюцца мэханічныя папсаваньні — 15,6%, што параўнальна ў 5 раз болей, чым у ва ўсім садзе (3,0%). Акрамя гэтага крайнія дрэвы прыгнятаюцца шырока разгорнутымі каронамі дрэў абароны. Наогул трэба адзначыць, што сад у першых радох ад абароны адчувае сябе дрэнна, нізкарослаcьць, аднабокасьць, усыханьне карон, пакрыўленасьць штамбу — сустракаюцца даволі часта.

Сад падзяляецца на стары і малады. Першы займае плошчу ў 20,7 гэктараў. Закладзен ён 70 год назад і мае рознаўзростную падсадку. Парадак пасадкі квадратовы. Адлегласьць паміж дрэвамі — 8,5 мэтраў. Напрамак радоў — паўночна-паўднёвы. У гэтай частцы ёсьць сад на 2-х гэктарах, які налічвае 50 год. Прышчэпы для яго выпісаны з віленскага гадавальніку Кэппэ.

У сучасны момант адлегласьць паміж дрэвамі ў 8,5 мэтраў — недастатковая.

Малады сад займае 5,5 гэктараў. Частка яго (4,5 гэкт.) пасаджана ў 1901 годзе. Парадак пасадкі шахматны; адлегласьць паміж радамі і дрэвамі ў радзе — 7,1 мэтр. Напрамак радоў паўднёва-паўночны. Пасадачны матар'ял браўся з свайго гадавальніку. Пераважны сорт — антонаўка, але ў значнай колькасьці ўваходзіць пэпін літоўскі.

Абмеры дрэў антонаўкі ў гэтай частцы саду паказваюць, што адлегласьць паміж дрэвамі ня вытрымана ў належнай ступені і тут. Сад хаця

і малады, але кароны некаторых дрэў пачынаюць сплятацца. Дыямэтр іх хістаецца ад 7 да 9 мэтраў.

Частка маладога саду, плошчай у 1 гэкт. пасаджана ў 1911 годзе выключна адным сортам антонаўкай. Парадак пасадкі квадратовы, адлегласьць паміж дрэвамі—10,7 мэтраў (15 аршын). Прышчэпы з свайго гадавальніку. Падвой — дзікая лясная яблыня і антонаўка. Па думцы мясцовага садоўніка дрэва з падвоем антонаўкі лепей пладаносіць.

Сад узросту 27 год пасаджан у восень ямным спосабам. Глыбіня ям—70 см, дыямэтр 1,0 мэтр. Сад 17-ці год пасаджан вясной у ямы, пакопаныя з восені. Разьмеры ям: глыбіня 70 см., дыямэтр 2,2 мэтра. У час пасадкі на дн. ям скідваўся верхні гумусавы пазем, добра ўгноены ў папярэдняе лета. Расьце гэты сад вельмі хутка. Сярэднія арытмэтычныя з 8-мі абмераў паказваюць: вышыня дрэва—5,5 мэтр., дыямэтр кароны—7,2 мэтр., дыямэтр штамбу—21,4, сіла росту—27,7 см.

З паўднёвага боку з старым садам мяжуецца квартал пэпіну літоўскага. Плошча 3,2 гэкт. Узрост 14 год. Пасадка квадратовая, з адлегласьцю паміж дрэвамі—10,7 мэтр. (15 арш). Пасадка адбывалася вясной, ў ямы звычайных разьмераў 0,7 × 1,0 м.). Глеба была добра ўгноена ў папярэднім годзе, так што пры пасадцы ніякае ўгнаеньне не давалася. На працягу 3-х год быў належны дагляд з фармаваньням карон, барацьбой са шкоднікамі і г. д. У час грамадзянскай вайны гэты сад рос бяз усякага дагляду, з прычыны чаго вельмі зьнішчаў. З 284 пасаджаных дрэў засталося 179 (63%). З ліку астаўшыхся здаровых 85 (47,5), хварэе ад марозу 9 (5,0%). Астатнія хварэюць ад мэханічных папсаваньняў. Гэты сад ня меў і ня мае належнай загароды, так што значны лік дрэў з мэханічнымі папсаваньнямі—вынік дзейнасьці зайцоў.

Кожны год пачынаючы з 1923 году, вытвараецца абпырскваньне бардоскай вадкасьцю і рашчынай вапны, а таксама пабелка штамбаў. У гэтым годзе сад абпырскваўся парыскай зеленьню супроць яблыневай молі.

Выдаткі па барацьбе са шкоднікамі ў гэтым годзе складаюцца з наступнага: матар'ялы абпырскваньня—164 р. 64 кап., працоўная сіла—293 р. 67 к. Разам 458 р. 31 к.

Угнаеньне і апрацоўка глебы праводзяцца даволі стала. У міжрадзьдзях саду, дзе магчыма, сеюцца палявыя культуры і гародніныя. Звычайна апошнія ўжываюцца да той пары, пакуль сад не пачне пладаносіць. Пасьля гэтага сеюць віка-аўсяную мешанку. Спыняюцца прамежныя культуры тады, калі ўмовы асьвятленьня не пакладуць гэтаму граніцы. У гэтым годзе ў розных мясцох саду, гэктараў на 10-ці, пасаджаны бручка, капуста, морква і інш. 4 гэктары, якія займаюцца капустай—пад гноем. Разьлік — 36 тон на гэктар. Пад 3 гэкт. бручкі ўнесена калійная соль, з разьліку 160 кілёгр. на гэктар. Акрамя гэтага калійнай сольлю ўгноены яшчэ 10 гэкт. Такім прыблізна парадкам сад угнойваецца кожны год.

Пачатак пладанашэньня прыходзіцца прыблізна, па ўсіх сартох, на 5-ты год пасьля пасадкі.

Усяго ў садзе каля 40 сартоў яблынь і 10 сартоў ігруш. Па колькасьці дрэў яблынь 2485 і каля 200 дрэў ігруш. З яблынь пераважнае значэньне мае сорт антонаўка, якой 58%. Пэпіну літоўскага — 11,7%, царскай белі—6%. Маецца па некалькі дзесяткаў дрэў пуцімкі, валошкі, апорту і інш.

Устойлівасьць **антонаўкі** ў 50 год—86,3%. Палова хворых дрэў—дуплянастыя. З 637-мі дрэў 50—70-ці гад. узр.—хворых 168 (26,4%). З

гэтага ліку 83 дрэвы хварэюць ад апёку 13,1%). З 179-ці дрэў 15 — 20-ці гадовага ўзросту—хворых 8 (4,5%).

Царская бель. Устойлівасьць у 50 — 70 год — 73,5%. З ліку хворых 46% хварэюць ад апёку, 43%—дуплянастыя.

Валошка. У 50 год устойлівасьць—60%. З 20 хворых дрэў з апёкам—10, дуплянастых—8.

Пуцімка. Устойлівасьць у тым жа ўзросьце — 46,3%. Значная хворасьць абумоўліваецца вялікім лікам дуплянастых дрэў.

За апошнія тры гады ураджайнасьць саду наступная:

у 1926 годзе . . . . . 98 тон
„ 1927 „ . . . . . 98 „
„ 1928 „ . . . . . 110 „

Ураджай рэалізуецца сваімі сродкамі. Яблыкі накіроўваюцца ў Ленінград па камісіённай цане. Адлегласьць да мясцовага рынку—25 кілём.

**Вынікі**. 1) Сугліна-супяшчаныя глебы зьяўляюцца адпаведным для закладкі садоў.

2) Адлегласьць жывой агарожы да крайняга раду саду ў 6,5 — 8,5 мэтраў — недастатковая. Асабліва гэта датычыцца да шыракакаролістых лісьцёвых парод, як ліпа, клён і інш.

3) Адлегласьць паміж дрэвамі ў садзе ў 8,5 мэтр., а тым болей 7,5 мэтр.—недастатковая. У ўмовах дадзенага саду адлегласьць павінна быць ня меней 10,5 мэтраў.

4) Па устойлівасьці дрэў і тавarnасьці пладоў найбольшай увагі заслугоўваюць наступныя сарты яблынь: антонаўка, пуцімка, царская бель.

5) У эканоміцы гаспадаркі сад займае паважнае месца. Гэктар саду ў гэтым годзе даў чыстага прыбытку 360 руб.

### Табліца абмераў саду саўгасу „Старая Беліца“

| № № | Назва сорту | Узрост дрэў | Вышыня дрэва | Дыямэтр карон | Адносіны дыямэт. кароны да вышыні | Вышыня штамбу | Дыямэтр штамбу | Колькасьць галін | Таўшчыня галін | Кут адыходу галін | Сіла росту |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 1 | Антонаўка зв. . . . | 17 | 5,40 | 6,20 | 1,15 | 0,95 | 0,21 | 3 | 0,31 | 45° | 0,29 |
| 2 | „ . . . . | 17 | 5,80 | 7,07 | 1,22 | 1,12 | 0,21 | 3 | 0,30 | 61° | 0,28 |
| 3 | „ . . . . | 17 | 5,66 | 7,42 | 1,33 | 1,00 | 0,23 | 3 | 0,38 | 83° | 0,25 |
| 4 | „ . . . . | 17 | 5,40 | 6,19 | 1,15 | 1,14 | 0,17 | 3 | 0,25 | 53° | 0,27 |
| 5 | „ . . . . | 17 | 4,81 | 6,47 | 1,35 | 1,14 | 0,19 | 3 | 0,31 | 75° | 0,34 |
| 6 | „ . . . . | 17 | 5,29 | 7,16 | 1,35 | 1,14 | 0,21 | 4 | 0,32 | 57° | 0,29 |
| 7 | „ . . . . | 17 | 6,35 | 8,58 | 1,35 | 1,06 | 0,24 | 6 | 0,35 | 68° | 0,23 |
| 8 | „ . . . . | 17 | 5,70 | 8,44 | 1,48 | 0,90 | 0,25 | 6 | 0,31 | 48° | 0.23 |
| | Сярэдняе . . | — | 5,55 | 7,20 | 1,30 | 1,06 | 0,21 | 4 | 0,32 | 61° | 0,27 |
| 1 | Антонаўка зв. . . . | 27 | 6,60 | 8,94 | 1,35 | 0,96 | 0,28 | 4 | 0.35 | 69° | 0,32 |
| 2 | „ . . . . | 27 | 5,64 | 7,37 | 1,31 | 1,33 | 0,26 | 3 | 0,40 | 62° | 0,26 |
| | Сярэдняе . . | — | 6,12 | 8,15 | 1,33 | 1,14 | 0,27 | 3,5 | 0,37 | 67° | 0,29 |

## Табліца трываласьці сартоў саду саўгасу „Старая Беліца“

| № № | Назва сорту | Узрост | Па тэрміну пасьпяваньня | Лік выпаўшых: Абсал. | Лік выпаўшых: % | Усяго дрэў | Лік здаровых: Абсал. | Лік здаровых: % | Лік хворых: Усяго: Абс. | Лік хворых: Усяго: % | Апёк | Рак | Дуплянастасьць | Ветралом | Сухаваршыннасьць | Мэханічныя папсаваньні | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 1 | Антонаўка зв. . . | 50 | — | 2 | 1,1 | 175 | 151 | 86,3 | 24 | 13,7 | 10 | — | 12 | — | — | 2 | |
| | „ . . . | 50—70 | — | 3 | 0,5 | 637 | 469 | 73,6 | 168 | 26,4 | 83 | — | 49 | 6 | 4 | 26 | |
| | „ . . . | 15 | — | — | — | 179 | 171 | 95,5 | 8 | 4,5 | 2 | — | — | — | — | 6 | пад-садка |
| | Разам . . | — | — | 5 | 0,5 | 991 | 791 | 79,8 | 200 | 20,2 | 95 | — | 61 | 6 | 4 | 34 | |
| 2 | Бель царская . . | 50 | — | — | — | 5 | 5 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| | „ „ . . | 50—70 | — | — | — | 98 | 72 | 73,5 | 26 | 26,5 | 12 | — | 11 | 1 | — | 2 | |
| | „ „ . . | 15 | — | — | — | 3 | 2 | 66,7 | 1 | 33,3 | — | — | — | — | — | 1 | пад-садка |
| | Разам . . | — | — | — | — | 106 | 79 | 74,5 | 27 | 25,5 | 12 | — | 11 | 1 | — | 3 | |
| 3 | Штрэйфлінг . . . | 15 | — | — | — | 13 | 13 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | падсад. |
| 4 | Валошка . . . . | 50 | — | — | — | 50 | 30 | 60,0 | 20 | 40,0 | 10 | — | 8 | — | — | 2 | |
| 5 | Аркад . . . . | 50 | — | — | — | 17 | 9 | 52,9 | 8 | 47,1 | 4 | — | 2 | — | 1 | 1 | |
| 6 | Папяроўка . . . | 50 | — | — | — | 8 | 4 | 50,0 | 4 | 50,0 | 1 | — | 1 | — | — | 2 | |
| 7 | Апорт зв. . . . | 50 | — | — | — | 26 | 12 | 46,2 | 14 | 53,8 | 9 | — | 4 | 1 | — | — | |
| 8 | Чорнае дзерава . . | 50 | — | — | — | 16 | 8 | 50,0 | 8 | 50,0 | 3 | — | 4 | — | — | 1 | |
| 9 | Цітаўка . . . . | 50 | — | — | — | 17 | 11 | 64,7 | 6 | 35,3 | 2 | — | 2 | 1 | — | 1 | |
| 10 | Пуцімка . . . | 50 | — | — | — | 41 | 19 | 46,3 | 22 | 53,7 | 8 | — | 11 | — | — | 4 | |
| 11 | Баравінка . . . | 50 | — | — | — | 16 | 9 | 62,5 | 6 | 37,5 | 2 | — | 3 | — | — | 1 | |
| 12 | Цыганка . . . . | 50 | — | 2 | 7,1 | 26 | 15 | 57,6 | 11 | 42,3 | 5 | 1 | 4 | — | — | 1 | |
| 13 | Пэпін Літоўскі . . | 20 | — | 4 | 28,6 | 10 | 6 | 60,0 | 4 | 40,0 | — | — | 1 | — | — | 3 | |
| | „ „ . . | 14 | — | 105 | 36,2 | 185 | 85 | 45,9 | 100 | 54,1 | 9 | — | — | — | — | 91 | |
| | „ „ . . | 8 | — | — | — | 6 | 5 | 83,3 | 1 | 16,7 | — | — | — | — | — | 1 | пад-садка |
| | Разам . . | -- | — | 109 | 35,2 | 201 | 96 | 47,8 | 105 | 52,2 | 9 | — | 1 | — | — | 95 | |
| 14 | Залатароўка . . . | 50 | — | — | — | 15 | 10 | 66,7 | 5 | 33,3 | 3 | — | — | — | — | 2 | |
| 15 | Астраханскае руж. . | 50 | — | — | — | 11 | 8 | 72,7 | 3 | 27,3 | — | — | 3 | — | — | — | |
| 16 | Іншыя . . . . | 50 | — | 3 | 2,0 | 144 | 114 | 79,2 | 30 | 20,8 | 9 | — | 9 | 6 | — | 6 | |
| | Ігрушы | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Ільлінка . . . . | 50 | — | — | — | 42 | 41 | 97,6 | 1 | 2,4 | — | — | 9 | — | — | — | |
| 2 | Лімонка . . . . | 50 | — | — | — | 13 | 12 | 92,3 | 1 | 7,6 | 1 | — | — | — | — | — | |
| 3 | Баргамот . . . . | 50 | — | — | — | 16 | 16 | 100 | | — | — | — | — | — | — | — | |
| 4 | Сапяжанка . . . | 50 | — | — | — | 10 | 10 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| 5 | Іншыя . . . . . | 50 | — | — | — | 31 | 19 | 93,5 | 2 | 6,5 | 1 | — | 1 | — | — | — | |

# Сад сельска-гаспадарчай арцелі імя „Першага мая“.

## Уваравіцкага раёну, Цярэніцкага сельсавету.

Адлегласьць да г. Гомелю—25 кілёмэтраў.

Гаспадарка арганізавана ў ліпені месяцы бягучага году. Да гэтуль тут быў саўгас. У дарэвалюцыйны час гаспадарка была абшарніцкай.

Плошча саду—16,5 гэктараў.

Рэльеф роўны з нязначным схілам у старым садзе на паўднёвы-ўсход, у маладым—на паўднёвы захад. Глеба—сугліна-супесь, ападзоленая на глыбіню 45 см. Грунтовыя воды далёка.

З усходняга боку сад мяжуецца з вёскай, якая ствараe добрую абарону ад ветраў. З паўночнага боку маецца жывая агарожа з ліпы. Узрост яе—45 год. Адлегласьць да першага раду саду — 8 мэтраў. што бязумоўна мала. Крайнія дрэвы знаходзяцца ў самым жалосным становішчы. Бліжэйшы да агарожы бок кароны зусім амярцьвелы — кароны аднабокія з усыхаючымі галінамі. Малады сад абкопан канавай з насыпным валам з унутранага боку. На грэбню валу шчыльным радам пасаджана вярба. Адлегласьць да крайняга раду саду—12 мэтраў.

Сад пасаджан у 5 тэрмінаў, адпаведна гэтаму плошча саду разьмеркавана наступна:

| | | | |
|---|---|---|---|
| пад 18 | гадовым | садам | 2,3 гэкт. |
| „ 20 | „ | „ | 3,7 „ |
| „ 25 | „ | „ | 2,5 „ |
| „ 35 | „ | „ | 3,4 „ |
| „ 45 | „ | „ | 4,6 „ |

Парадак пасадкі квадратовы з адлегласьцю паміж дрэвамі ў 8,5 мэтраў (12 арш.).

У 45-ці гадовым садзе і ў частцы 35 гадовага кароны сышлісь. У маладзейшых садох пакуль растуць вольна.

Пладовы асортымэнт складзен з звыш 14 сартоў яблынь і некалькіх сартоў ігруш.

Усіх дрэў яблынь 2075, ігруш—180.

Дрэў сорту антонаўкі 1942 (93,6%) пэпіну літоўскага — 66 (3,2%), з другіх сартоў маецца па некалькі дрэў апорту, валошкі, белі царскай, аркаду, цітаўкі, залатароўкі, цыганкі і па аднаму дрэву сартоў баравінкі, шклянкі курскай, белага наліву, пуцімкі і некаторых іншых.

Дагляд за садам заключаецца ў урабленьні і ўгнаеньні глебы ў сувязі з прамежнымі культурамі, абрэзкі сушы, абчысткі і пабелкі штамбаў, барацьбе са шкоднікамі.

У гэтым годзе ўгноена 5,5 гэктараў з разьліку 36 тон гною на гэктар. З гэтай плошчы 1 гэктар угноен у 35-ці гадовым садзе і засаджан бульбаў. Астатняя плошча знаходзіцца ў маладых садох, дзе пасаджаны розныя гародныя культуры.

З шкоднікаў асабліва распаўсюджан прадзільнік пярсьцёнкавы; барацьба з ім — здыманьне ўзімку колцаў яечак разам з гадавалымі пагонамі. Акрамя гэтага значная колькасьць наступных шкоднікаў: пладажор

ябл., кветкажэр яблыневы, моль яблыневая, траўніца яблыневая (Aphis moli L.), дрэваточац і ў незначнай колькасьці сустракаюцца бялян жываплотнік (Pieris crataegi L.), залатагузка, чарнічка няпарная (Ocneria dispar L.), зімовая пядзеніца.

З мер барацьбы ўжываюцца як мэханічныя так і хэмічныя мерапрыемствы. К першым адносяцца здыманьне і зьнішчэньне гнёзд і гусеня, струшваньне, накладка абаронных і ліпучых колцаў, зьбіраньне папсаваных пладоў. К хэмічным — абпырскваньне бардоскай вадкасьцю, парыскай зеленьню, тытуновым экстрактам і расчынай зялёнага мыла.

Імша і лішайнікі распаўсюджаны незначна. Супраць іх ужываецца абпырскваньне жалезным купарвасам.

Выдаткі па барацьбе са шкоднікамі складаюцца з наступнага: абпырскваньні—150 руб., працоўная сіла 200 руб.

Ураджай пладоў у гэтым годзе — 18 тон; здадзен у арэнду за 1050 руб. Рынкамі збыту зьяўляюцца мясцовы гомельскі і г. г. Ленінград, Масква.

**Характарыстыка сартоў**. А н т о н а ў к а. Ураджайнасьць добрая, лёжкасьць пладоў сярэдняя. Сорт вельмі прамысловы. Устойлівасьць дрэва: у 15 год хворых 1,5%, у 20 год—5%, у 35 г. — 8,8%, у 45 г.— 16,5%. Агульны процант хворых дрэў - 8,3%. Выпад 3,6%.

П э п і н л і т о ў с к і. Сорт вельмі каштоўны. Ураджайнасьць значная, але плады дробныя.

Да 20-ці гадоў з 99-ці дрэў захавалася 51. З іх хворых 64,7%.

В а л о ш к а. Дрэва стойкае. Ураджайнасьць сярэдняя. Плады буйныя з пекнай афарбоўкай. Каштоўнасьць значная. Плады добра ідуць як на мясцовым так і далёкіх рынках.

Б е л ь ц а р с к а я. Дрэва стойкае, ураджайнасьць значная. Плады не паддаюцца грыбным хваробам. Добры сталовы сорт, значна каштоўны на мясцовым рынку.

З а л а т а р о ў к а. Дрэва ўстойлівае, плады таксама. Ураджайнасьць сярэдняя. Плады ў лёжцы добра захоўваюцца. Транспартабельнасьць і рыначнасьць здавальняючыя.

**В ы н і к і**: 1) Сугліна-супяскі зьяўляюцца адпаведнымі глебамі для закладкі садоў.

2) Адлегласьць паміж дрэвамі ў 8,5 мэтраў (12 аршын), недастатковая.

3) Адлегласьць жывой агарожы з шырокакаронiстых лісьцёвых парод (ліпа) у 8 мэтраў да крайняга раду саду недастатковая.

4) Значны лік шкоднікаў абумоўліваецца наяўнасьцю жывой агарожы з лісьцёвых парод.

5) Найбольш добра сябе адчуваюць сарты: антонаўка, валошка, бель царская.

## Табліца трываласьці сартоў саду арц. імя „Першага мая“

| № № | Назва сорту | Узрост | Па тэрміну пасьпяваньня | Лік выпаўшых: Абсал. | Лік выпаўшых: % | Усяго дрэў | Лік здаровых: Абсал. | Лік здаровых: % | Лік хворых: Усяго: Абс. | Лік хворых: Усяго: % | Апёк | Рак | Дуплянасьцьць | Ветралом | Сухаваршынасьць | Мэханічныя папсаваньні |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 1 | Антонаўка зв. . . . | 18 | — | 40 | 12,9 | 270 | 266 | 98,5 | 4 | 1,5 | — | — | — | — | — | 4 |
| | „ . . . . | 20 | — | 14 | 3,4 | 398 | 376 | 94,4 | 22 | 5,6 | 3 | — | — | — | — | 19 |
| | „ . . . . | 25 | — | 8 | 2,9 | 264 | 262 | 99,2 | 2 | 0,8 | — | — | — | — | — | 2 |
| | „ . . . . | 35 | — | 10 | 8,3 | 434 | 396 | 91,2 | 38 | 8,8 | 5 | — | 8 | 9 | 9 | 7 |
| | „ . . . . | 45 | — | — | — | 576 | 481 | 83,5 | 95 | 16,5 | 22 | — | 18 | 7 | 39 | 9 |
| | Разам . . . | — | — | 72 | 3,6 | 1942 | 1781 | 91,7 | 161 | 8,3 | 30 | 26 | 26 | 16 | 48 | 41 |
| 2 | Пэпін літоўскі . . . | 20 | — | 48 | 48,5 | 51 | 18 | 35,3 | 33 | 64,7 | 6 | — | — | — | — | 27 |
| | „ „ . . . | 25 | — | 18 | 64,3 | 10 | 10 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | „ „ . . . | 35 | — | — | — | 4 | 2 | 50,0 | 2 | 50,0 | — | — | — | — | — | 2 |
| | „ „ . . . | 45 | — | — | — | 1 | 1 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Разам . . | — | — | 66 | 50,0 | 66 | 31 | 47,0 | 35 | 53,0 | 6 | — | — | — | — | 29 |
| 3 | Апорт . . . . . . | 18 | — | — | — | 1 | 1 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | „ . . . . . . | 35 | — | — | — | 3 | 1 | 33,3 | 2 | 66,7 | 2 | — | — | — | — | — |
| | „ . . . . . . | 45 | — | — | — | 2 | 2 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Разам . . | — | — | — | — | 6 | 4 | 66,7 | 2 | 33,3 | 2 | — | — | — | — | — |
| 4 | Валошка . . . . . | 25 | — | — | — | 1 | 1 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | „ . . . . . | 45 | — | — | — | 5 | 5 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Разам. . | — | — | — | — | 6 | 6 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Бель царская . . . . | 25 | — | — | — | 1 | 1 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | „ „ . . . . | 35 | — | — | — | 1 | 1 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | „ „ . . . . | 45 | — | — | — | 2 | 2 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Разам . . | — | — | — | — | 4 | 4 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Аркад . . . . . . | 35 | — | — | — | 4 | 1 | 25,0 | 3 | 75,0 | — | — | 1 | 1 | — | 1 |
| 7 | Залатароўка . . . . | 45 | — | — | — | 4 | 3 | 75,0 | 1 | 25,0 | — | — | — | 1 | — | — |
| 8 | Цыганка . . . . . | „ | — | — | — | 4 | 3 | 75,0 | 1 | 25,0 | — | — | 1 | — | — | — |
| 9 | Цітаўка . . . . . . | 35 | — | 1 | 50,0 | 1 | 1 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 10 | Іншыя . . . . . . | 18-45 | — | — | — | 38 | 33 | 86,8 | 5 | 13,2 | — | — | 2 | — | 1 | 2 |
| 1 | Ігрушы розныя . . . | 18-45 | — | — | — | 180 | 153 | 85,0 | 27 | 15,0 | — | — | — | — | — | — |

# Сад с.-г. арцелі „Ясная Паляна“

## Веткаўскага раёну, Стара-Сельскага с/савету.

Сад разьмешчаецца на правым берагу р. Сожу ў 23-х кілёмэтрах ад г. Гомелю. У карыстаньні арцелі знаходзіцца з 1925 году. Плошча пад садам — 27,25 гэктараў; з іх пад старым садам 19,58 гэктараў, пад маладым астатнія 7,67 гэктараў.

Стары сад садзіўся на працягу дзесяці год ад 1893-га па 1903 год. Малады сад пасаджан у 1913 годзе. Пасадачны матар'ял браўся з Яромінскага гадавальніку (Гомельскага раёну). Падвой — дзікая лясная яблыня. У старым садзе парадак пасадкі шахматны. Адлегласьць паміж радамі і дрэвамі ў радох — 7,5 — 7,8 мэтраў. У маладым садзе парадак квадратовы з адлегласьцю паміж дрэвамі ў 8,5 мэтраў. Напрамак радоў пауднёва-усходні—пауночна-заходні.

У садзе 24 сарты яблынь і 16 сартоў ігруш. Усіх яблынь, 2899 (96,1%), ігруш—119 (3,9%).

З яблынь пераважнае значэньне мае сорт антонаўка зв., якой налічваецца 2020 дрэў. Гэта складае 69,7% ад усей колькасьці яблынь. Пэпіну літоўскага — 176 дрэў, баравінкі — 123 дрэвы, пуцімкі — 108 дрэў, апорту—59, астраханскай белі 45 дрэў, пуцімкі летней—42 дрэвы, астраханскай ружоваў—30 дрэў, штэцінскай чырвонай—21 др., цітаўкі – 20 др., белага наліву—17 др. іншых—238 дрэў.

Ігруш пад назвай „крымка“ —45 дрэў (37,8%), сорту лімонкі—28 дрэў, (23,5% ад колькасьці ігруш).

Сад навокал абсаджан пірамідальным топалем; на працягу 600 мэтраў з поўначнага боку агарожа з вярбы. Пасадка зроблена ў 1913 годзе. Адлегласьць да крайняга раду саду 2 — 6 мэтраў. Амаль усюды дрэвы першага раду прыгнятаюцца. Кароны іх аднабокія, штамбы нахіленыя ў процілеглы ад абсадкі бок.

Рэльеф роўны без асабліва вызначаных мікра-элемэнтаў, з агульным схілам у старым садзе з паўн. усходу па поўд. захад, у маладым— з поўначы на поўдзень Ніжэйшая частка абодвых садоў у веснавы разьліў р. Сожу заліваецца. У некаторыя гады вада даходзіць да першых галін карон. і трымаецца ад 2 х да 4-х тыдняў. Прыблізна заліваецца 12 гэкт. у старым і 3 гэкт. у маладым садзе.

Глебавы разрэз, зроблены на нізкім месцы, паказаў наступнае: 0—32 см.—гумусавы пазем $A_1$ брудна шэрага колеру, з незначнымі ілавымі адкладамі зьверху; па мэханічнаму складу — супясок Як відаць, гэты пазем у значнай сваей частцы наноснага і намыўнога пахаджэньня. 32—41 см.—пераходны пазем ад $A_1$ к $A_2$ брудна-бялёсага колеру з шэрымі пацёкамі з пазему $A_1$. 41—42 см. —працяг пазему вымываньня ($A_2$) бялёсага колеру, супясок. 72—79 см.—пераходны пазем ад А к В. Ніжэй ідзе пазем адкладаў паўтаравокіслаў В, бурага колеру, дзе-ні-дзе праслойваецца з пяском. З гэтага разрэзу відаць, што глебавы тып у ніжэйшай частцы саду зьяўляецца ападзоленым супяском з намыўным верхнім паземам. Галоўная маса карэньня разьмеркавана ў верхнім паземе, але значная колькасьць іх сустракаецца і глыбей.

На незалiўной частцы саду працэсы ападзаліваньня ідуць на меншую глыбіню. 0—15 см.—гумусавы пазем, супесак. 15—31 см.—астатняя частка пазёму А бялёсага колеру. 31 — 60 — пазем В. На глыбіні 110 см. залягае гліна. Карэньне сустракаецца на працяжнасьці ўсяго разрэзу з галоўнай канцэнтрацыяй у паземе 5—25 см.

Глыбіня грунтовых вод хістаецца ў залежнасьці ад рэльефу ад 5-ц да 10-ці мэтраў.

Ня гледзячы на тое, што частка саду, якая заліваецца, пасаджана на 10 год раней астатняга, яна значна адстае ў росьце параўнальна з садам пасаджаным на вышэйшым месцы. Гэта яскрава сьведчаць лічбы зробленых прамераў над 46 дрэвамі ў нізіне і 19 дрэвамі на павышэньні. Для параўнаньня ўзят сорт антонаўка.

| | Вышыня штамбу | Дыямэтр штамбу | Вышыня дрэва | Дыямэтр кароны | Адносіны паміж выс. др. і дыям. кароны | Колькасьць галін | Сіла росту |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Не заліўны сад 25 год | 104,7 | 19,7 | 538,8 | 722,7 | 1,34 | 4,1 | 39,2 |
| Заліўны „ 35 год | 130,5 | 18,9 | 482,4 | 624,8 | 1,30 | 5,3 | 29,6 |

Разьвіцьцё кароны, высата дрэва, дыямэтр штамбу значна меншыя ў дрэў на заліўным вучастку ў выніку паслабленьня сілы росту. Аднэй з прычын гэтаму, бязсумленна, зьяўляецца скарачэньне раставога пэрыяду па той тэрмін, пакуль дрэвы знаходзяцца ў вадзе, плюс тэрмін пасьля спаду вады, на працягу якога глеба набывае належныя ўласьцівасьці. Да апошніх адносіцца дастатковая аэрацыя, неабходная для дзеяньня карнявой сыстэмы, тэмпэратура і інш. Акрамя гэтага, мажліва, значную ролю іграюць і тыя фізыка-хэмічныя працэсы, якія праходзяць у глебе ў сувязі з прысутнасьцю вады.

У сэнсе ўстойлівасьці пра гэту частку саду (заліўную) так сама няма чаго сказаць добрага. Процант выпаўшых дрэў 13,4, што для 35-ці гадовага саду з пераважнай колькасьцю антонаўкі параўнальна за надта многа. З усякага ліку існуючых цяпер дрэў—здаровых 65,87%. Астатнія хварэюць ад апёку (25,7%) і ад мэханічных папсаваньняў. Апошніх 5,6%, што амаль выключна можна прыпісаць дзеяньню вады.

З паасобных сартоў найбольш трывалай зьявілася антонаўка. З ліку 1678-мі дрэў—з апёкам 378 (22,5%), мэханічныя папсаваньні прыкметны на 82-х дрэвах (4 9%). З 68 дрэў пуцімкі ад апёку хварэе 24 дрэвы (35,3%), з мэханічнымі папсаваньнямі — 7 др. (10,3%). З 59-ці дрэў баравінкі хварэюць ад апёку 19 др. (32,2%), з мэханічнымі папсаваньнямі 2 др. (3,4%). Больш за ўсіх хварэе пэпін літоўскі: з 79-ці дрэў з апёкам 48 (60,8%), мэханічнымі папсаваньнямі 11 дрэў (14%).

Для параўнаньня прывядзём некаторыя лічбы, якія характарызуюць устойлівасьць саду на незаліўным вучастку. Агульны процант выпаду—3,6. З ліку астаўшыхся—здаровых 87,2%, хварэюць ад апёку—9,7%, ад мэханічных папсаваньняў—2,4%.

На заліўным вучастку, дзе вада найбольш доўга затрымліваецца, часта сустракаюцца плямы з значнымі ілавымі адкладамі, зусім незанятыя, альбо з рэдкай травяной расьліннасьцю. Як па ўсім вучастку, так асабліва ў гэтым месцы, дрэвы выглядаюць найбольш дрэнна. Карузлыя, пакрыўляныя штамбы, параўнальна з вышынёй дрэва досыць грубыя; рэдкае лісьце. Дрэвы не дасягаюць нармальнай для свайго ўзросту велічыні, і існуючая адлегласьць паміж імі ў 7,5 мэтраў зусім дастатковая. Толькі ў нязначнага ліку дрэў кароны пераступаюць гэтыя межы.

Гаворачы аб садзе на незаліўным вучастку (25-ці гадовы сад), трэба адзначыць, што адлегласьць у 7,8 мэтр. ў хуткім часе будзе недастатковай. Ужо і цяпер кароны значнага ліку дрэў досыць сьціснуты. Дзякуючы добрым глебавым умовам, дрэвы хутка растуць.

Догляд за садам вельмі добры. Раны ад мэханічных папсаваньняў, а таксама пасьля кожнай абрэзкі, належным парадкам замазваюцца. Усе дуплянастыя дрэвы, пасьля пільнага выскабліваньня з сяродку, зацэмэнтаваны. Сваечасова вядзецца прарэджваньне карон, абчыстка і пабелка штамбаў. Таксама вядзецца барацьба са шкоднікамі. З апошніх у найбольшай меры распаўсюджан бялян жываплотнік (Aporia crataegi L.). Асабліва моцнаму нападу яго сад падпаў у мінулым 1927 годзе. Барацьба вялася шляхам здыманьня зімуючых гнёзд. З некаторых дрэў было сабрана да 100 штук. У гэтым годзе шкоднікаў было ўжо значна менш— прыблізна 20—30 гнёзд на дрэве. З мэханічных мер ужывалася абпырскваньне парыскай зеленьню.

Другім злосным шкоднікам зьяўляецца яблыневы кветкажэр. Барацьба—накладка ліпучых колцаў з вясны. Наглядаецца ў значным ліку дрэвясьніца ўедлівая. Дзе гэта магчыма гусені зьнішчаюцца дротам праз адтуліну ў дрэўніне. Таксама многа сустракаецца чарнічкі няпарнай (Ocneria dispar L.). Барацьба — абпырскваньне парыскай зеленьню. У вялікай колькасьці распаўсюджана яблыневая моль, якой у ліпені м-цы зьбіраюць павуцінавыя ворачкі. Таксама шмат яблыневай траўніцы (Aphis mali L.), якую зьнішчаюць жалезным купарвасам. Акрамя пералічаных сустракаюцца: прадзільнік пярсьцёнкавы (Gastropacha neustria L.), гусені якога даваяцца ў канцы вясны, пладажэр яблычны і златагузка. З апошнімі спэцыяльнай барацьбы не вядзецца.

Імшы ў садзе няма. Лішаі сустракаюцца ў заліўной частцы саду.

Выдаткі на матар'ялы абпырскваньня складаюцца з наступнага:

| | |
|---|---|
| жалезнага купарвасу 2 тоны . . | 200 руб. |
| парыскай зелені 42 кгр. . . . . | 80 „ |
| і акрамя гэтага вапны 3,5 тоны . | 120 „ |
| Разам . | 400 руб. |

У міжрадзьдзях вядуцца пасевы палявых і гародных культур. У гэтым годзе яны разьмеркаваны наступна: на заліваемай частцы пасеяна віка на 2-х гэктарах, на 0,5 гэкт. пасаджаны караньплоды. На незаліўной частцы на 2,4 гэкт. таксама пасаджаны караньплоды. У маладым садзе 2 гэкт. адведзены пад бульбу і 2 гэкт. пад гародніну, як капусту, гуркі і інш. 3,25 гэкт. у старым садзе знаходзяцца пад чорным папарам. Астатнія плошча залужана.

У гэтым годзе пад папар, вясной, пасьля спаду вады, унесен гной з заворкай на 13 см. Колькасьць гною на гэктар—27 тон. У 1927 годзе была ўгноена паўднёвая трэць саду плошчай у 5,5 гэкт. па 33 тоны на гэктар. З таго-ж разьліку ўнесен гной на 3,8 гэкт. сярэдняй часткі. Таксама ўгноена было $^{2}/_{3}$ маладога саду.

У 1926-ым годзе ўгноена ўся паўночная трэць саду з разьліку 33 тоны на гэкт. У маладым садзе таксама ўгноена $^{1}/_{3}$.

Такім чынам весь сад ўгнойваецца праз тры гады.

За апошнія чатыры гады сад даў наступны ўраджай:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| у 1925 | годзе | зімнікаў | 49 | тон, | летнікаў | 16,5 | тон |
| „ 1926 | „ | „ | 27,5 | „ | „ | 16,5 | „ |
| „ 1927 | „ | „ | 41,0 | „ | „ | 8,0 | „ |
| „ 1928 | „ | „ | — | „ | „ | — | „ |

Ураджай рэалізуецца сваімі сродкамі. Плады накіроўваюцца ў Ленінград па чыгунцы, ў Кіеў і Кацерынаслаў водным шляхам па Сожу і Дняпру. Да Кіева лічыцца 370 кілём., да Кацерынаславу—900 кілём. На поўдзень пасылалася прыблізна $^{2}/_{3}$ прадукцыі. Летнікі каштавалі ў сярэднім 80 кап,, зімнікі—1 руб. за 16 кілёгр.

**Характарыстыка сартоў.** Антонаўка зв. Сорт добра ураджайны; у лёжцы яблыкі захоўваюцца да студзеня м-ца. Рыначнасьць добрая. Устойлівасьць характарызуецца такімі лічбамі[1]: у 25 год здаровых 89,5%, апёкам хварэюць 8,1% дрэў, ад мэханічных папсаваньняў—2,2%, сухавяршынных—0,2%. У 15-ці гад ўзросьце здаровых—92,4%, хварэюць ад апёку—7,6%. Разьвіцьцё кароны у 25 г. узр. хістаецца ад 5,7 мэтр.; сярэдняе—7,2 мэтр. Вышыня дрэва найбольшая—6,3 мэтр., найменшая—4,6 мэтр., сярэдняе—5,4 мэтр. Дыямэтр штамбу найбольшы—22,9 см., найменшы—14,3 см, сярэдняе—19,7 см.

Пуцімка. Ураджайнасьць сярэдняя. Плады захоўваюцца да сьнежаня м-ца. Транспартабельнасьць добрая. На рынках ідзе па здавальняючай цане. Недахопам зьяўляецца значная асыпаемасьць. Сорт устойлівы. З 16-ці дрэў 25-ці гадовага ўзросту ўсе здаровыя. З 22-х дрэў 15-ці гадовага ўзросту здаровых 17 (77,3%). Астатнія хварэюць ад апёку.

Штэцінскае чырвонае. Ураджайнасьць слабая. Плады ў лежцы захоўваюцца да сакавіка м-ца і пазьней. Рыначнасьць значная.

З 13-ці дрэў 15-ці гадовага ўзросту здаровых—11 (84,6%). З 5-ці дрэў 25-ці гад. ўзр. ўсе хварэюць ад апёку.

Папяроўка. Сорт сярэдняй ураджайнасьці. На рынках, асабліва мясцовым, каштоўнасьць вышэйшая, чым у другіх летнікаў. У садзе адно дрэва, якое адчувае сябе досыць добра.

Аркад. Дрэва добра разьвінаецца, але баіцца марозаў. Ураджайнасьць сярэдняя. Пладаносіць кожны год. Каштоўнасьць добрая. Прадаецца толькі на мясцовым рынку.

Пэпін Літоўскі. Сорта добра ураджайны. Пладаносіць праз год Каштоўныя плады як на мясцовым, так і на далёкіх рынках. З 32-х др. 35-ці гадовага ўзросту здаровых засталося—16, астатнія хварэюць ад апёку (25,0%) і ад мэханічных папсаваньняў (12,5%), у 4-х дрэў нязіраецца дуплянастасьць (12,5%). З 53-х штук 15-ці гадовых дрэў здаровых—14 (26,4%), хворых ад апёку—36 (67,9%).

„Чорнае дзерава". Добры сорт як па ураджайнасьці, так і па каштоўнасьці прадукта. Асабліва пасьпяхова ідуць яблыкі сярод яўрэўскага насельніцтва. У садзе 12 дрэў—ўсе здаровыя.

Астраханская бель. Пладанашэньне праз год з сярэдняй ураджайнасьцю. Рыначнасьць сярэдняя. З 30-ці дрэў рознага ўзросту—ўсе здаровыя.

---

[1]) Лічбы ўстойлівасьці адносяцца да незаліўной часткі саду.

## Табліца абмераў саду „Пладавод“

| №№ па чарзе | Назва сорту | Узрост дрэў | Вышыня дрэва ў мэтр. | Дыямэтр кароны ў мэтрах | Суадносіны дыямэтра да вышыні | Вышыня штамбу ў мэтр. | Дыямэтр штамбу ў см. | Колькасьць галін | Таўшчыня галін у см. | Кут адыходу галін | Сіла росту ў см. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Штэцінскае чырв. . . | 60 | 7,10 | 8,36 | 1,18 | 1,19 | 29 | 6 | 37 | 36° | 25 |
| 2 | „ „ . . | 55 | 6,72 | 7,52 | 1,12 | 1,22 | 28 | 3 | 58 | 38° | 30 |
| 3 | „ „ . . | 50 | 6,80 | 7,52 | 1,11 | 1,15 | 30 | 3 | 41 | 37° | 25 |
| 4 | „ „ . . | 65 | 7,18 | 8,32 | 1,16 | 0,90 | 42 | 2 | 50 | 28° | 35 |
| 5 | „ „ . . | 45 | 6,57 | 7,20 | 1,09 | 1,12 | 27 | 4 | 38 | 35° | 18 |
| 6 | „ „ . . | 45 | 6,12 | 6,20 | 1,0 | 1,09 | 23 | 3 | 40 | 39° | 15 |
| | Сярэдняе . . | — | 6,75 | 7,19 | 1,06 | 1,11 | 29,8 | 3,5 | — | 35° | 21 |
| 1 | Антонаўка зв. . . . | 35 | 5,65 | 7,18 | 1,27 | 1,02 | 20 | 3 | 38 | 42° | 45 |
| 2 | „ . . . | 65 | 5,83 | 9,49 | 1,63 | 0,34 | 39 | 5 | 64 | 50° | 42 |
| 3 | „ . . . | 35 | 5,94 | 7,13 | 1,20 | 0,69 | 20 | 2 | 44 | 45° | 40 |
| 4 | „ . . . | 35 | 6,03 | 7,52 | 1,25 | 1,24 | 22 | 4 | 37 | 45° | 40 |
| 5 | „ . . . | 75 | 6,95 | 9,50 | 1,36 | 1,60 | 36 | 6 | 45 | 57° | 28 |
| 6 | „ . . . | 30 | 4,87 | 6,91 | 1,42 | 0,96 | 19 | 4 | 24 | 51° | 42 |
| 7 | „ . . . | 55 | 5,60 | 9,07 | 1,62 | 0,95 | 31 | 3 | 58 | 35° | 40 |
| 8 | „ . . . | 60 | 6,05 | 7,50 | 1,24 | 0,55 | 35 | 3 | 67 | 35° | 35 |
| 9 | „ . . . | 50 | 6,12 | 8,71 | 1,42 | 0,82 | 32 | 3 | 62 | 40° | 35 |
| 10 | „ . . . | 65 | 8,16 | 8,13 | 1,32 | 1,12 | 33 | 4 | 50 | 23° | 45 |
| 11 | „ . . . | 50 | 6,03 | 6,65 | 1,10 | 1,63 | 22 | 3 | 47 | 51° | 30 |
| | Сярэдняе . . | — | 6,0 | 8,0 | 1,33 | 1,0 | 28 | 3,6 | — | 43° | 38 |
| 1 | Ранэт Кур. Зал. . . . | 50 | 6,00 | 6,31 | 1,05 | 1,44 | 33 | 3 | 58 | 42° | 12 |
| 2 | „ . . . | 60 | 6,90 | 6,0 | 0,87 | 1,18 | 40 | 2 | 63 | 32° | 20 |
| 3 | „ . . . | 50 | 6,42 | 6,13 | 0,95 | 1,31 | 35 | 3 | 60 | 37° | 16 |
| 4 | „ . . . | 50 | 6,22 | 6,22 | 1,0 | 1,25 | 29 | 4 | 55 | 38° | 15 |
| 5 | „ . . . | 50 | 6,73 | 6,05 | 0,90 | 1,12 | 38 | 3 | 44 | 46° | 12 |
| 6 | „ . . . | 45 | 5,88 | 6,24 | 1,06 | 0,98 | 19 | 2 | 63 | 35° | 10 |
| | Сярэдняе . . | — | 6,36 | 6,16 | 0,97 | 1,21 | 32 | 2,8 | — | 38° | 14 |

# Сад селяніна в. „Заспа“, Рэчыцкага раёну, А. Д. Акуліча.

Знаходзіцца пасярэдзіне вёскі Заспа на адлегласьці ад г. Рэчыцы 14 кілёмэтраў.

Плошча пад садам 2,45 гэктараў — разьмешчана ў 2-х вучастках: I вуч. 0,26 гэктара пры сядзібе, II — 2,19 гэктара ў адлегласьці ад сядзібы 0,25 кілёмэтра — пасярод будынкаў сялян в. Заспы, якія і зьяўляюцца забаронаю саду.

Пасаджана было пладовых дрэў 480; пры чым пасадка зроблена ў 2 тэрміны: у 1893 г. пасаджана 426 дрэў і ў 1910 г.—54 дрэва. З часу пасадкі і да 1928 г. згінула 76 дрэў—15,83%. У 1927 г. пасаджана было 76 дрэў наступных сартоў: антонаўкі — 60 дрэў, Штрэйфлінга 12 дрэў і 4 дрэвы інш.

Зараз налічваецца пладовых дрэў у садзе дарослых — 404, з якіх здаровых 304—75,25%, хворых 100 дрэў—24,75%. З агульнага ліку дрэў у садзе: яблыні—397 — 98,27%, ігруш 7—1,73%.

У садзе пераважнае мейсца займае антонаўка зв.—264 дрэва—65,34%, пуцімка—41 дрэва—10,15%, пэпін-літоўскі—33 дрэвы—8,17%, цітаўка—12 дрэў — 2,98%, цынамонавае паласастае 10 дрэў — 2,47%, апорт звычайны—8 дрэў—1,98%, ранэт курскі 7 др.—1,73%, валошка 5 др. 1,24% і розных 17 дрэў—4,21%.

Ігрушы: панна—3 дрэвы, ільлінка—3 дрэвы.

Глебавы тып—падзолісты, па мэханічнаму складу верхняга пазему—ад супясі да лёгкіх суглінкаў. Ніжэй залягае магутны пазем паўтаравокіслаў. Глеба падсьцілаецца сартавымі пяскамі, а на глыбіні 4 мэтраў і ніжэй залягае значчай глыбіні ледавіковы навал (марэна).

Глыбіня грунтовых вод у сярэднім ад паверхні 10 мэтраў і глыбей. Схіл у садзе—заходні, але нахіл яго нязначны. Парадак пасадкі дрэў на плошчы 1/3 усяго саду—квадратовы, з напрамкам радоў з усходня паўднёвага на заходня-паўночны бок, а астатнія 2/3 часткі саду—шахматны парадак з тым-жа напрамкам радоў. Адлегласьць паміж дрэвамі ў радзе і паміж радамі 7,12 мэтр. (10 арш.).

З штучных угнаеньняў у садзе ўжываецца попел, які адтрымлівaецца ў гаспадарцы, але апошні ўносіцца толькі пад дрэвы аслаблыя-якія не даюць належнага прыросту і ўраджаю. Наогул сад угнойваецца часткамі кожны год. Паўторнае ўгнаеньне ўносіцца на тыя-ж месцы праз кожныя 2 гады на трэці ў колькасьці 40 тон на гэктар. Гной заўсёды ўносіцца вясною і заворваецца на глыбіню 18 см.

У 1927—28 г. уся плошча саду была пад папарам. Апрацоўка вялася наступная: у канцы красавіка м-ца кожнага году адбывалася баранаваньне і, каля 5—10-га мая—ворыва на глыбіні 18—20 см. У ліпені м-цы ўся плошча саду барануецца і пасьля ставяцца пад дрэвы падпоры і ў кастрычніку месяцы сад другі раз заворваецца на глыбіню 10—15 сантымэтраў.

Галоўнымі шкоднікамі саду зьяўляюцца: пярсьцёнкавы прадзільнік якога асабліва многа было ў гэтым годзе (1928). Барацьбу з ім гаспадар вядзе не аднаразова, а на працягу ўсяго лета—пасьля адкладваньня яечак; восеньню і вясной да выхаду лічынкі. Сабраныя яечкі зьнішчаюцца

Другім значна распаўсюджаным шкоднікам зьяўляецца пладажорка, але супраць яе асаблівай барацьбы не вядзецца, за выключэньнем зьбіраньня падаліцы.

Неабходна адзначыць, што ў садзе таксама распаўсюджаны караед і зараз налічваецца 10 дрэў паражонных апошнім; усе паражоныя ім дрэвы выкарчоўваюцца і спальваюцца.

У меншай колькасьці распаўсюджан — няпарны прадзільнік, яечкі якога гаспадар зьбірае сам і зьнішчае. Сустракаюцца: баярышніца і златагуска. У лютым і красавіку вядзецца — здыманьне і зьнішчэньне гнёздаў. Сустракаюцца: парша, мох і лішайнік, але апошнія (мох і лішайнікі) распаўсюджаны рэдка. Сад раньняй вясной па зачыняных яшчэ вочках апырскваецца жалезным купарвасам і праз 2 тыдні пазьней — вапнаю. У кастрычніку месяцы 1927 года зроблена пабелка штамбаў вапнаю ўсіх дрэў.

Усе выдаткі за 1928 г. па барацьбе са шкоднікамі, апрацоўцы глебы і дагляд за садам, складаюць:

| | | |
|---|---|---|
| I здыманьне яечак і гнёзд . . . | 25 руб. | |
| II працоўная сіла на I апырскв. . | 22 „ | 50 к. |
| III „ „ „ II „ . | 22 „ | 50 „ |
| IV каштоўнасьць матар'ялаў па барацьбе . . . . . . . . . | 60 „ | 10 „ |
| Усяго па барацьбе са шкодн. . . | 130 руб. | 10 к. |

| | | |
|---|---|---|
| I ворыва (вясною і восеньню 2 разы) | 40 руб. | — к. |
| II баранаваньне . . . . . . . . . . . | 20 „ | — |
| III пабелка штамбаў, абчыстка, падрэзка гальля і інш. . . . . . . | 63 „ | — |
| IV возка і раструска гною . . . . . | 17 „ | 40 к. |
| Усяго па уходу і апрац. глебы . . . | 140 руб. | 40 к. |

За ўсе апошнія гады сад даў значны ўраджай—у 1927 г. (2400 п.) 39,35 тон ці 16,05 тон (979 пуд.) на гэктар. Па сартох: антонаўка — 24,6 тоны (1500 п.), пэпін літоўскі—4,92 т. (300 п.), пуцімка — 0,82 тоны (50 п.) і іншыя 1,64 тоны (100 п.).

$^{2}/_{3}$ ураджаю гэтага году было здадзена ў арэнду за 900 руб., а $^{1}/_{3}$ сумесна з арэндатарам транспартавалася водным шляхам па Дняпру ў Кіеў і Чаркасы, пры чым пуцімка, апорт звычайны прададзены ў Кіяве па цане 1 р. 40 к.—1 р. 60 к. за 16 кг., а антонаўка і пэпін літоўскі—3 р. за 16 кг. У 1925—26 і 28 гг. за выключэньнем ранэта курскага залатога, якога налічвалася 230 кг. (15 пуд.), у 28 годзе сад зусім не пладаносіў, а ў 1924 годзе ўраджай саду быў: антонаўкі — 640 кг. (40 пуд.), пэпіна літоўскага 2,46 тон (150 пуд.), пуцімкі 560 кг. (35 пуд.) і інш. 720 кг. (45 пуд.)—усяго ўраджаю (270 пуд.) 4,38 т.

Сад садзіўся вясною ямным спосабам. Падрыхтоўка ям пад пладовыя дрэвы была з восені на глыбіню 1 арш.—дыямэтрам 1,5 арш. Пры пасадцы яма запаўнялася ворным паземам, а да карэньняў падсыпаўся ворны пазем перамешаны з кампостам.

Пасаджаным матар'ялам зьяўляліся: 3-х годкі кароністыя, якія гаспадар атрымліваў з прыватных гадавальнікаў — Клінцоўскага і Васілеўскага. Падрэзка амаль ня ўжывалася з прычыны чаго кароны і цяпер значна густыя. Першы час, пасьля закладкі саду плошча скарыстоўвалася гароднымі культурамі, пад якія праз год уносілася ўгнаеньне (гной) у колькасьці 2200 п. на гэктар, а асобна пад дрэвы ніякага ўгнаеньня ня ўносілася.

Антонаўка камянічка лічыцца лепшым сортам, як сорт ураджайны, прамысловы і значна трывалы ад ўсякіх хвароб. З 264 дрэў: здаровых — 234, альбо 88,63% ад агульнага ліку, хворых 30 др. — 11,37%, а з часу пасадкі загінула 18 дрэў, што складае 6,37% ад усіх пасаджаных дрэў. Усе дрэвы маюць добра разьвітую карону, як сьведчыць табліца. Дыямэтр кароны у сярэднім 7,04 мэтра, вышыня дрэва—4,86 мэтра

Другім ня менш важным сортам лічыцца ранэт курскі залаты, якога ў садзе было пасаджана 7 дрэў, захаваліся ўсе здаровымі і да сучаснага моманту, хоць узрост іх 35 год. Плады добра захоўваюцца ў лёжцы, маюць добры збыт і расцэніваюцца на рынку значна вышэй іншых сартоў. У гэтым годзе ўраджай яго рэалізаваўся на мясцовым рынку — Рэчыцы па 4 руб. за пуд. Сорт ураджайны, дрэвы маюць добра разьвітую карону—дыямэтр у сярэднім 6,35 мэтраў, вышыня дрэва 5,80 м.

Пэпін літоўскі па думцы і назіраньню гаспадара лічыцца добрым сортам, пачаў пладанасіць пасьля пасадкі праз 2 гады і пладаносіць, амаль што кожны год, ураджайнасьць вельмі добрая. Збыт на рынку ўраджаю забясьпечан. Разьвіцьцё кароны--дыямэтр у сярэднім—6,11 м. вышыня дрэў—4,75 мэтра.

З пасаджаных у садзе 44 дрэў пэпіну згінула 11 дрэў—25%, а астатнія 33 усе хворыя, з іх 18 дрэў мэханічна папсаваны ў зьвязку з старай і гнілой драўнінай; 10 дрэў—ветраломныя і 5 — дуплястыя. Такі хваравіты выгляд усіх дрэў тлумачыцца тым, што ўзрост іх зараз 35 год, а наогул, добрая трываласьць і здаровы выгляд дрэў у большай ступені бывае толькі да 30 год.

З васеньніх сартоў добрым лічыцца пуцімка, плады маюць добры збыт на рынку, больш каштоўны за антонаўку, дрэвы ўраджайныя, але з усіх 41 дрэва хворых ад апёку 13 ці 31,71%. Трэба адзначыць, што дрэвы захварэлі адначасова з прычыны таго, што сярод дрэў пуцімкі раней стаялі будынкі, якія зацянялі штамбы. Пасьля таго, як будынкі былі зьнесены, дрэвы, якіх штамбы зацяняліся, захварэлі ад апёку

Даволі добрым сортам лічыцца валошка, як сорт летня - васеньні.

З летніх сартоў у садзе 10 дрэў цынамонава-паласастага; з іх 4 ці 40% паражоны караедам, добры летні сорт, хоць плады яго на мясцовым рынку невядомы. Маюць добрую цану ў Кіеве.

З ігруш трывалым сортам лічыцца ў садзе—панна, але за некалькі апошніх год увесь поўнасьцю ўраджай паражон паршой і ніякай каштоўнасьці не стварае.

Цітаўка ў садзе лічыцца нятрывалай. Было пасаджана 19 дрэў, з іх згінула 8—36,87%, а з 12 дрэў, якія маюцца зараз у садзе, хворых 6 ці 50%.

Апорт звычайны таксама лічыцца нятрывалым і па якасьці нягодным сортам; усіх было пасаджана 13 дрэў, з іх згінула 5 — 38,46%, а з 8 дрэў хворых 4 ці 50%.

Адзначым галоўныя асаблівасьці саду сел. Акуліча: 1. З сартымэнту саду адпавядаюць мясцовым глебавым, кліматычным умовам і таварнаму напрамку садоўніцтва наступныя сарты: антонаўка кам., ранэт курскі залаты, пэпін літоўскі, пуцімка, цынамонавае паласастае.

2. Гаспадарка зьяўляецца чыста садовай, апрача плошчы пад садам іншай няма і прыбыткаў ад другіх галін с. г. таксама няма.

3. Адлегласьць паміж дрэвамі 7,11 м. (10×10 ар.) і кароны ўзросту 18—35 год маюць у сярэднім дыямэтр 6,8 м., кароны асобных сартоў дасягаюць дыямэтру 8—9 мэтраў. Пры закладцы новых садоў у раёне Заспы і пры падобных глебава-кліматычных умовах адлегласьць павінна быць павялічана да 10 — 12 мэтраў. Дадзеная гаспадарка зьяўляецца чыста садовай і сад ня можа даць кожны год належнага ўраджаю; таму павялічэньне адлегласьці зьяўляецца яшчэ больш неабходным дзеля скарыстоўваньня плошчы саду прамежнымі гароднымі культурамі.

## Табліца трываласьці сартоў саду „Акуліча"

| №№ па чарзе | Назва сорту | Узрост | Па часу пасьпяваньня | Лік выпаўш. дрэў | | Усяго дрэў | Лік здаровых дрэў | | Хворых | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Абсал. | % | | Абсал. | % | Усяго | % | Марзабоін | Апёк | Рак | Дупленастасьць | Ветраломных | Сухаверхіх | Мэханічнага папсаваньня |
| 1 | Антонаўка зв. . . | 18—35 | зім. | 18 | 6,37 | 264 | 234 | 88,63 | 30 | 11,37 | 24 | 6 | др. | па | раж. | кар | аед. |
| 2 | Пэпін-літоўскі . . | 35 | „ | 11 | 25,00 | 33 | — | — | 33 | 100,00 | — | — | — | 5 | 10 | — | 18 |
| 3 | Пуцімка . . . . | „ | вос. | 20 | 11,47 | 41 | 28 | 68,29 | 13 | 31,71 | — | 13 | — | — | — | — | — |
| 4 | Цітаўка . . . . | „ | „ | 7 | 36,87 | 12 | 6 | 50,00 | 6 | 50,00 | — | — | — | — | — | — | 6 |
| 5 | Цынамонавае пал. | „ | лет. | 3 | 23,07 | 10 | 6 | 60,00 | 4 | 40,00 | — | па | ра | жа | ны | кар | аед. |
| 6 | Апорт звычайны . | „ | вос. | 5 | 38,46 | 8 | 4 | 50,00 | 4 | 50,00 | — | — | — | 1 | — | — | 3 |
| 7 | Р-н Залаты Курскі | „ | зім. | — | — | 7 | 7 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 8 | Валошка . . . . | „ | вос. | 2 | 28,57 | 5 | 4 | 80,00 | 1 | 20,00 | — | — | — | — | — | — | 1 |
| 9 | Іншых . . . . | „ | — | 2 | 10,52 | 17 | 12 | 70,58 | 5 | 29,42 | — | — | — | — | — | — | 5 |
| 1 | Ігрушы: Панна . | „ | вос. | — | — | 3 | 3 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 2 | Ільлінка . . . . | „ | лет. | 8 | 72,72 | 3 | — | — | 3 | 100,00 | — | — | — | — | 1 | 1 | 1 |
| 3 | Банкротэс Вільямс | „ | зім. | — | — | 1 | — | — | 1 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | 1 |

## Табліца трываласьці сартоў саду „Акуліча“

| № № | Назва сорту | Узрост | Вышыня дрэва у м. | Дыямэтр кароны у м. | Стасунак дыямэтру да вышыні | Вышыня штамбу у м. | Дыямэтр штамбу у см | Колькасьць галін | Дыямэтр галін | Кут адхілу суччя |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Антонаўка звыч. . . | 18 | 4,80 | 6,80 | 1,41 | 1,22 | 16,81 | 5 | — | 60° |
| 2 | " " . . | " | 4,50 | 7,15 | 1,58 | 1,15 | 18,47 | 3 | — | 44° |
| 3 | " " . . | " | 4,80 | 6,00 | 1,28 | 1,08 | 15,93 | 3 | — | 60° |
| 4 | " " . . | " | 5,20 | 7,25 | 1,39 | 1,02 | 24,20 | 4 | — | 35° |
| 5 | " " . . | " | 5,10 | 7,90 | 1,54 | 1,15 | 21,33 | 4 | — | 50° |
| | Сярэдняе . . | " | 4,8 | 7,20 | 1,44 | 1,12 | 19,35 | 3,8 | — | 50° |
| 1 | Пэпін Літоўскі . . . | 18 | 4,30 | 4,75 | 1,11 | 1,12 | 14,64 | 3 | — | 75° |
| 2 | " " . . . | 35 | 4,80 | 6.00 | 2,44 | 1,40 | 20,06 | 3 | — | 60° |
| 3 | " " . . . | " | 4,92 | 6,60 | 1,33 | 1,46 | 21,65 | 3 | — | 45° |
| 4 | " " . . . | " | 5,00 | 7,10 | 1,42 | 1,30 | 20,03 | 4 | — | 60° |
| | Сярэдняе . . | " | 4,74 | 6,11 | 1,32 | 1,35 | 19,09 | 3,25 | — | 60° |
| 1 | Р-т Залаты Курскі . . | 35 | 5,85 | 6,80 | 1,16 | 1,52 | 23,25 | 5 | — | 80° |
| 2 | " " . . | " | 5,80 | 6,45 | 1,12 | 1.08 | 25,16 | 4 | — | 75° |
| 3 | " " . . | " | 5,95 | 6,40 | 1,07 | 1,25 | 24,84 | 3 | — | 65° |
| 4 | " " . . | " | 5,70 | 5,75 | 1,01 | 1,18 | 21,04 | 4 | — | 45° |
| | Сярэдняе . . | " | 5,83 | 6,35 | 1,09 | 1,26 | 24,8 | 4 | — | 66° |
| 1 | Цынамонавае паласатае | 35 | 5,90 | 8,15 | 1,38 | 1,54 | 23,89 | 3 | — | 40° |
| 2 | " . . . . . | " | 6,00 | 7,90 | 1,15 | 1,33 | — | 6 | — | 45° |
| 3 | " . . . . . | " | 5,70 | 7,30 | 1,43 | 1,32 | — | 6 | — | 45° |
| 4 | " . . . . . | " | 5,05 | 6,30 | 1,23 | 1,19 | — | 5 | — | 40° |
| | Сярэдняе . . | " | 5,51 | 7,41 | 1,30 | 1,33 | — | 5 | — | 41,5° |

# Сад „Перасьвятое“ Рэчыцкага Садова-Гароднага Таварыства.

Знаходзіцца пры в. „Перасьвятое“ Перасьвятоўскага с/с у 7,5 кілёмэтрах ад г. Рэчыцы.

Перададзены ў арэнднае карыстаньне Садова-Гароднага т-ва ў 1925 г.

З 1917 г. па 1925 г. Дзяржаўнаю зям. маёмасьцю сад здагаўся ў часовае арэнднае карыстаньне розным прыватным асобам, а ў дарэвалюцыйны час сад быў абшарніцкі. Плошча пад садам — 7,6 гэкт падзелена дарогай на 2 вучасткі—паўднёвы і паўночны. I—плошчаю 3,25 гэктара мае ўзрост дрэў каля 50 год, II—з паўночнага боку — плошчаю 4,35 гэктар.—30 год. Усяго дрэў у садзе 964, з якіх галоўнае месца займае яблыня 882—дрэў—91,5% (ад агульнага ліку дрэў у садзе).

Ігруш—70 дрэў—7,26%, сьліў—12 дрэў—1,24%.

Пасаджана было дрэў на гэктар 197 шт., а зараз маецца 127 дрэў—64,57%. З дрэў якія засталіся налічваецца 732 здаровых—75,93%, хворых 232 др. — 24,07%. Пераважнае месца ў садзе займаюць сарты: з яблынь—антонаўка 596 дрэў — 67,46%. цітаўка40 дрэў — 4,53%, апорт звычайны 35 дрэў—3,97%. чырвоны аркад 30 дрэў—3,40%, пэпін-літоўскі—14 др. 1,59%, пуцімка 10 дрэў—1,14% і іншых 158 дрэў—17,91%.

Ігрушы за выключэньнем душэс д'Ангулем і ільлінкі, якіх налічваецца—12 дрэў, зьяўляюцца летнімі мала каштоўнымі сортамі.

Сад з усіх бакоў мае агарожу з лісьцёвых парод. З заходняга і паўночнага боку пірамідальнаго топаля, з усходняга — ясень, з паўночнага—ліпа.

Большая частка агарожы пасаджана адлегласьцю паміж дрэвамі ў радзе — 2 мэтры ад першага раду сада 6,4 мэтра, ад саду назіраецца наступнае:

1. Кароны дрэў нахілены ў адваротны ад агарожы бок, як больш асьвятлёны.

2. Самыя дрэвы ў параўнаньні з тымі на якіх не адчуваецца уплыву агарожы—разьвіты значна горш з-за недахопу спажыўных матар'ялаў і сьвятла. Агарожа з лісьцёвых парод зьяўляецца добрым месцам для захоўваньня і распаўсюджваньня шкоднікаў саду.

Глебавы тып падзолісты, з мэханічным складам верхняга пазему—супясь буйна-зярністая, у паніжанай частцы назіраецца падзола-ўтварэньне.

Для вызначэньня глебавага тыпу ў садзе выкапаны былі дзьве ямы: адна на паніжанай частцы саду (дзе заўсёды вясною застойваецца вада).

Заўважана, што глебавыя паземы разьмяркованы так: пазем $A_1$—глыбіня яго—34 сант. бялёсавага колеру, пазём падзолісты. B—49 сант. пазем паўтаравокісны сьветла бурага колеру з карычнявымі праслойкамі (арштэйны). C — нязьменная парода сьветла жоўтага колеру: на глыбіні 140 сант. ад паверхні—залягае пазем падзоліста—аглеяны з шызасьтым адценьнем.

Другая яма была выкапана на роўным месцы, тут глебавыя паземы залягаюць таксама як і ў паніжанай частцы, але на глыбіні сваёй, некалькі адрозьніваюцца: $A_1$ — 21 сант. шэрага колеру, гэта пазем перагнойны, $A_2$—26 сант.—падзолісты, шэра-бялёсага колеру.

B—50 сант. паўтаравокісны—бурага колеру па мэханічнаму складу—суглінак сярэдні.

C — слаба зьменная парода па мэханічнаму складу суглінак цяжкі. Грунтовыя воды ў сярэднім залягаюць на глыбіні ад паверхні 5,55 мэтр.

Нахілы у садзе з паўночнага і паўднёвага бакоў, а самае ніжэйшае месца знаходзіцца бліжэй да паўночнай часткі саду.

Парадак пасадкі саду — квадратовы ў напрамку з паўночы на поўдзень. Адлегласьць паміж дрэвамі ў радзе 7,11 мэтр (10 арш.) і паміж радамі таксама.

Угнаеньне ў 1928 г. не ўнасілася, а ў 1927 г. на вучастак з плошчаю 4,35 гэктараў—унесена штучнае ўгнаеньне: супэрфасфату 384 кг., калійнай солі 288 кг., чылійскай салетры 96 кг. (колькасьць угнаеньня з нормы на дзесяціну).

У мінулыя годы ніякага ўгнаеньня ня ўжывалася. Неабходна адзначыць, што, у тэй частцы саду, дзе было ў 1927 г. унесена поўнасьцю штучнае ўгнаеньне—колер лісьця, а таксама асыпаемасьць, значна зьмяніліся і маюць зусім другі выгляд у параўнаньні з тымі дрэвамі, на вучастках якіх штучнае ўгнаеньне ня ўжывалася, так напрыклад, 5/IX—ліст меў яшчэ звычайна здаровы выгляд.

Сад увесь час знаходзіўся пад папарам з наступнай апрацоўкай яго: у чэрвені м-цы 1927 г. уся плошча пад садам была ўзорана на глыбіню $2^1/_2$—3 вяршка.

Вясною 1928 г. уся плошча пад садам была забаранована.

З шкоднікаў саду больш распаўсюджаны: баярышніца, златагузка, пярсьцёнкавы і няпарны прадзільнік, мядзянка, кветкаед і інш.

Супраць ўсіх пералічаных шкоднікаў, а таксама паршы, моху і лішайніку вядзецца барацьба.

Вясною да набуханьня вочак, кожны год, пачынаючы з 1925 г., сад апырскваецца 10% расчынай жалезнага купарвасу, а таксама і ў восень. Здыманьне гнёздаў баярышніцы, златагузкі, здыманьне яечак шоўкапрадаў.

У час набуханьня вочак—апырскваньне вапнаю. Пасьля цьвіценьня, калі ўжо плады дасягнуць велічыні з арэх — робіцца апырскваньне бардоскаю вадкасьцю з парыскай зеленьню.

У лістападзе м-цы 1927 г. і красавіку 1928 г. усе дрэвы ў садзе пабелены вапнаю.

Усе выдаткі па вядзеньню садовай гаспадаркі за 1928 год выліча-юцца ў наступным:

I. Барацьба з шкоднікамі:

a) Апырскваньне I і II раз . . . 115 р. 25 к. } уключыўшы сюды ўвесь належны матар'ял па барацьбе.

b) Здыманьне гнёзд і яец . . . 60 „ —

Усяго . . . 175 р. 25 к.

II. Дагляд за садам:

a) Пабелка, абчыстка штамбу, абрэзка сучча і звозка яго . . 116 р. 92 к.

III. Апрацоўка глебы ў садзе:

a) Ворыва і баранаваньне . . . 100 р.

IV. Іншыя выдаткі:

a) варта саду, пастаноўка новай агароды саду 1500 руб.

Сад у 1926—27 г г. здаваўся ў арэнду за плату па гадох.

У 1926 г. за 617 руб. ураджай гэтага году 19,7 тон.

У 1927 г. за 2,625 руб. ураджай гэтага году 65,6 тон.

Ураджай 1928 г.—13,11 тон—скарыстоўваўся Т-вам.

За апошнія тры гады ўраджай пладоў у сярэднім на гэктар—4,4 тон, які лічыцца нізкім для таго раёну. Гэта тлумачыцца тым,—што сад перададзены Садова-Гародн. Т-ву ў вельмі дрэнным выглядзе (шмат было моху, лішайніку, шкоднікаў, а таксама сухога суччa).

Другая прычына нізкай ураджайнасьці — гэта значны % выпаўшых дрэў у садзе і апошняя, што вельмі значна адбілася на ўраджайнасьці саду, гэта не ўгнаеньне яго: на працягу шэрагу гадоў ніякага ўгнаеньня пад пладовыя дрэвы не ўнасілася, толькі ў 1927 г. на адну частку саду плошчаю 4,35 гэктара ўнесена штучнае ўгнаеньне, а астатняя ч-стка — 3,25 гэкт. і па апошні час ня ўгноена.

З сартоў саду заслугоўваюць увагі:

1. Антонаўка як сорт ураджайны, прамысловы, трывалы. У садзе 596 дрэў з іх хворых 82—13,78%.

2. Штэцін чырвоны — надзвычайна добры зімовы сорт. Плады захоўваюцца ў лежаньні да вясны і пазьней, маюць забясьпечаны збыт і кошт.

3. Штрэйфлінг лепшы васеньні сорт ува ўсіх адносінах.

4. Пэпін літоўскі лічыцца добрым сортам. Рана пачынае пладанасіць, амаль што ні кожны год, вельмі ўраджайны, мае забясьпечаны збыт і кошт на рынку.

У садзе 14 дрэў узросту 30 год з якіх хворых 11 дрэў — 78,58%. Значны % хворых дрэў тлумачыцца тым, што зараз узрост 30 год, а добрая трываласьць пэпіна літоўскага назіраецца да 30 год.

5. Добрым васеньнім сортам лічыцца пуцімка як ураджайны трывалы; у садзе 10 дрэў узросту 30 год і ўсе здаровыя. Плады маюць добры збыт і кошт на мясцовым рынку.

6. З летніх сартоў лічыцца добрым белы наліў—як ураджайны, трывалы і прамысловы сорт. У садзе 5 дрэў з іх 1 хворае.

7. Душэс д'Ангулем— вельмі добры васеньня-зімовы сорт, плады маюць вельмі добры збыт і кошт. Высока дэсертны сорт. У садзе 5 дрэў з іх 2 хворых.

8. З летніх сартоў ігруш добрым лічыцца ільлінка, як сорт ураджайны, прамысловы, трывалы. Плады маюць добры збыт і кошт. У садзе 7 дрэў узросту 50 г. з іх хворых 2—28,58%. Іншыя сарты саду асаблівай увагі не заслугоўваюць, як сарты нетаварныя нятрывалыя, малакаштоўныя і г. д.

Адзначым галоўныя асаблівасьці гэтага саду:

1. З сартоў саду адпавядаюць мясцовым умовам, таварнаму напрамку садоўніцтва наступныя: антонаўка, штэцін чырвоны, пэпін літоўскі, штрэйфлінг, пуцімка, белы наліў, душэс д'Ангулем і ільлінка.

2. Лісьцёвыя пароды зьяўляюцца дрэннай агародай саду, а асабліва ў адлегласьці 6,4 мэтр. па 1) кароны дрэў пахілены ў працілеглы бок ад агароды, па 2) дрэвы сумежных радоў значна горш разьвіты ў параўнаньні з іншымі дрэвамі саду, па 3) агарожа з лісьцёвых парод зьяўляецца добрым месцам для захоўваньня распаўсюджваньня садовых шкоднікаў.

3. Агарожа павінна быць з хвойных парод у адлегласьці ад саду 15—18 мэтраў.

4. Адлегласьць паміж дрэвамі 7,11 м. зьяўляецца малой. Дрэвы ва ўзросьце 30 год у сярэднім маюць дыямэтр кароны 8,5—9 мэтраў.

Пры закладцы новых садоў у раёне вёскі Перасьвятое адлегласьць павінна быць павялічана да 10—12 мэтраў.

# Гадавальнік Рэчыцкага Садова-Гародн. Т-ва

(пры садзе „Перасьвятое“ таго-жа Т-ва).

Знаходзіцца пры вёсцы „Перасьвятое“ Перасьвяцкага с/с. у адлегласьці ад г. Рэчыцы 7,5 кілём.

Гадавальнік заснаваны ў 1925 годзе.

Плошча—8,74 гэктара. Севазварот намечаны 7-мі палёвы, але яшчэ не ўстаноўлены.

На гэктар - высаджана 25000 шт. дзічкоў. Папаўняецца гадавальнік дзічкамі—часткова сваімі, а часткова атрымліваецца з Клінцаўскага гадавальніку і Млеяўскай дасьледчай станцыі.

У якасьці матар'ялу для падвояў зьяўляюцца: дзікая яблыня, ігруша і толькі ня значны % кітайскай сьлівалістнай. іншых парод няма. Дзічкі пасаджаныя вясною ў той-жа год вачкуюцца і праз некаторы час завачкаваныя дзічкі паслабляюцца.

На другі год вясною робіцца рэзка падвояў на шып і пасьля гэтага асобных мерапрыемстваў у гадавальніку ня робіцца, за выключэньнем прац па падрыхтоўцы глебы і падвязцы маладых пабегаў (адросткаў). Вясною 3-га году, пасьля вачкаваньня маецца на ўвазе зрабіць наступнае: канчаткова вырэзка шыпу, рэзка на карону, а таксама рэзка слабейшых дзічкоў на рост.

З парод і сартоў у гадавальніку разводзяцца: яблыня антонаўка, пэпін літоўскі, штэцінскае чырвонае, пуцімка, цітаўка, белы наліў, віргінскае ружовае, ранэт Лянсберга, лімонка, сапежанка, панна і бэра слуцкая.

Гомельскай Помалёгічнай Камісіяй для Перасьвяцкага гадавальніку ў працэнтных адносінах сартымэнты—вызначаны:

Антонаўкі камянічкі—40%, ранэта курскага 10%, штэцінскага чырвонага—10%, пуцімка—15%, бэры слуцкай—10%, ільлінкі—2%, панны —3% і кастковых—5%.

Пладовыя саджанцы з гадавальніку адпускаюцца восеньню з 15-га кастрычніка, якіх у 1927 г. было адпушчана — аднагодак безкароністых: антонаўкі і пэпіна літоўскага—634 шт. па 50 к. за штуку.

Запатрабаваньне і попыт з боку насельніцтва і інш. на пладовыя саджанцы - больш назіраецца на наступныя сарты: антонаўку, штэцінскае чырвонае, пэпін літоўскі, белы наліў і пуцімку; з ігруш — ільлінку і на бэры.

Кароны пачынаюць закладваць на вышыні штамбу 1 — 1,30 мэтр. з 5—6 галін.

Для вызначэньня глебы пад гадавальнікам былі выкапаны на месцы дзьве ямы: адна на больш паніжанай частцы гадавальніку, другая на падвышанай, пры чым на паніжанай частцы глебавыя паземы разьмеркаваны так, як на роўным месцы саду, дзе тып глебы падзолісты, механічны склад зьвязныя пяскі буйна зярністыя.

На падвышанай частцы глебавыя паземы залягаюць так: пазем $A_1$— 16 сант.—шэрага колеру, $A_2$ добра не выражаны, колер цёмна бялёсы і пазем B таксама не выразны з утварэньнямі артдзандаў у ім.

На глыбіні 96 см. ад паверхні - залягае магутны пазем гравія. Неабходна адзначыць, што на ўзгорку ў гэтым годзе былі высаджаны дзічкі, разьвіцьцё якіх дрэннае.

## Табліца трываласьці сартоў саду „Перасьвятое“

| №№ | Назва сорту | Узрост | Па часу пасьпяваемасьці | Лік выпаўш. дрэў |  | Усяго дрэў | Лік здаровых дрэў |  | Хворых |  |  |  |  |  |  |  |  |  |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
|  |  |  |  | Абсал. | % |  | Абсал. | % | Усяго | % | Маразбоін | Апёк | Рак | Дупленастасьць | Ветралом | Сухаяршынасьць | Мэханічнага пашкоджаньня | Грыбн. хвар. |
| 1 | Антонаўка звыч. . | 30—50 | зім. | — | — | 596 | 514 | 86,22 | 82 | 13,78 | 48 | - | — | 6 | 11 | — | 17 | — |
| 2 | Пэпін літоўскі . . | 30 | „ | — | — | 14 | 3 | 21,42 | 11 | 78,58 | 6 | — | — | — | — | — | 5 | — |
| 3 | Чырвоны Аркад . | 30 | летн. | — | — | 30 | 16 | 53,33 | 14 | 46,67 | 12 | — | — | 2 | — | — | — | — |
| 4 | Цітаўка . . . . | „ | „ | — | — | 40 | 18 | 45,0 | 22 | 55,0 | 4 | — | — | 6 | — | — | 12 | — |
| 5 | Апорт звычайны . | „ | асен. | — | — | 35 | 33 | 94,28 | 2 | 5,72 | — | — | — | — | — | — | 2 | — |
| 6 | Пуцімка . . . . | „ | „ | — | — | 10 | 10 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 7 | Штрэйфлінг . . | „ | „ | — | — | 1 | 1 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 8 | Белы наліў . . . | „ | летн. | — | — | 5 | 4 | 80,0 | 1 | 20,0 | — | — |  | — | — | — | 1 | — |
| 9 | Штэцінскае чырв. | „ | зім. | — | — | 1 | 1 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 10 | Розных сартоў . | — | — | — | — | 150 | 83 | 54,67 | 67 | 45,67 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 1 | Грушы: Ільлінка . | 50 | летн. | — | — | 7 | 5 | 71,42 | 2 | 28,58 | — | — | — | — | 2 | — | - | — |
| 2 | Бяэнасенка . . . | „ | „ | — | — | 6 | 5 | 83,33 | 1 | 16,67 | — | — | — | — | 1 | — | — | — |
| 3 | Лімонка . . . . | „ | асен. | — | — | 3 | 3 | 100,0 | - | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 4 | Душэс Д' Ангулен | 30 | ас. зім. | — | — | 5 | 3 | 60,0 | 2 | 40,0 | 2 | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Розныя . . . . | — | — | — | — | 49 | 25 | 51,0 | 24 | 49,0 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 1 | Сьлівы: Чарносьл. | 16 | — | — | — | 12 | 8 | 66,66 | 4 | 33,34 | — | — | — | — | 4 | — | — | — |
|  | Раза . . | — |  | — | — | 964 | 732 |  | 141 |  | 72 | — | — | 14 | 18 | — | 37 | — |

# Сад „Сьвірыдавічы"

Сад „Сьвірыдавічы" знаходзіцца пры вёсцы Сьвірыдавічы ў адлегласьці ад г. Рэчыцы 21,3 клм. Дзяржаўнай зямельнай маёмасьцю ў 1927 г. здадзен у арэнду сялянам вёскі Сьвірыдавічы—Панамару і Гузаву. Да 1927 г. здаваўся у часовае арэнднае карыстаньне розным прыватным асобам, у дарэвалюцыйны час быў абшарніцкі.

Сад, плошчаю 8,72 гэкт. па ўзросту падзяляецца на тры часткі: I—плошчаю —4,90 гэкт. узросту 35 год; II—2,18 гэкт. узросту 25 год і III—1,64 гэкт. узросту 18 год. У пору дасьледаваньня ў садзе налічвалася ўсіх дрэў—1027: з іх яблынь 952 д.—92,69 %, ігруш 75 д.—7,30 %, хворых 232—22,59 %.

З сартоў ў садзе сустракаюцца: антонаўка 576 д.—56,08 % варгуль 80 д.—7,79 % цынамонавае паласастае 14 д.—1,36%, белы наліў—12 д.—1,17 %, чорнае дрэва—10 д.—0,97 %, баравінка 10 д.—0,97 %, цітаўка—9 д.—0,88 %, аркад. чырвоны—8 д.—0,78% пуцімка 7 д.—0,69% апорт зв. 7 д.—0,69 %, залатароўка 6 д.—0, 54 %, валошка 4 д.—0,39, белае салодкае 4 д.—0,39%, штрэйфлінг 3 д.—0,29 %, пэпін літоўскі 3 д.—0,29 %, шклянка 3 д.—0,29 % і іншых 194 дрэва.

З ігруш: душэс д' Ангулем 11 д.—10,9 %, лясная прыгожая 9 д. —0,88 %, панна 8 д. 0,78 %, ільлінка 4 д.—0,39 % бэра слуцкая 4 д. —0,39 %, сапяжанка 6 д.—0,58 %, банкрота Вільлямса 4 д.—0,39 % безнасенка 4 др.—0,39 % і іншых 25 д—2,45 %.

Парадак пасадкі дрэў на плошчы 6,55 гэкт. шахматны ў адлегласьці 7,11 × 7,11 м. (10 × 10 арш.), а на плошчы 2,18 гэкт. квадратовы ў адлегласьці 8,53 × 8,53 м. (12 × 12 арш.) Сад з усходняга боку мае загароду з пірамідальнага топалю ў адлегласьці 7,11 м. (10 арш.) ад саду, а з заходняга з ліпы з такою самаю адлегласьцю. Адмоўны ўплыў з боку загароды назіраецца ў наступным: папершае—дрэвы, якія мяжуюцца з ліпаваю загародаю на адлегласьці 7,11 м. (10 арш.) значна горш разьвітыя ў параўнаньні з іншымі дрэвамі саду, падругое загарода з ліпы і топалю лічыцца добрым месцам для захоўваньня і распладжэньня шкоднікаў.

Глебавы тып у садзе падзолісты, а на паніжаным месцы пры возеры падзоліста-балоцісты, па мэханічнаму складу супясок буйна зярністы. Падглеба—зьвязаныя сартаваныя пяскі, а на глыбіні 2—3 мэтраў залягае ледавіковы навал (марэна).

Неабходна заўважыць, што на паніжанай частцы, якая прылягае да возера, з прычыны блізасьці грунтовых вод, 40—42 % дрэў згінула, а астатнія амаль што ня ўсе хворыя. На гэтым месцы глебавы тып падзоліста-балоцісты, а грунтовыя воды залягаюць на глыбіні 1,5—1,6 м. Схіл у садзе заходні. Сад угнойваецца праз 3 гады на 4-ты: у 26 і 27 г. на 1/4 плошчы саду ўнесен гной с разьлікам 32,8 тонн (2000 пуд.) на гэктар, а ў 28 г. на 1/8 плошчы ўнесен гной з такім самым разьлікам і на 1/8 плошчы штучнае ўгнаеньне: супэрфасфату 288 клг. і калійнай солі 288 кг. на гэктар; 1/8 частка плошчы ў 28 г. засеена бульбаю па сьвежаму гною, а астатняя знаходзіцца пад папарам, апрацоўка якога наступная: вясной барануецца, ў траўні месяцы мелкае лушчэньне, баранаваньне пасьля лушчэньня і ўвосень зяблевая ўзорваньне на глыбіню 2—2½ вяршка

Галоўнымі шкоднікамі саду лічацца: баярышніца златагузка, гнёзды якіх кожную зіму здымаюць і зьнішчаюць. Кожны год здымаюць і зьнішчаюць яечкі пярсьцёнкавага шаўкапраду, супраць кветаеду і іншых непасрэднай барацьбы не вядзецца. Апрача гэтага супроць некаторых

шкоднікаў і грыбных хвароб кожны год сад 2 разы апырсківаюць вясной па зачыненых вочках жалезным купарвасом, а пасьля цьвяценьня бардоскай вадкасьцю.

Ураджай саду за апошнія гады быў наступны:

| | | |
|---|---|---|
| 22 год | — 32,8 | тонн |
| 23 „ | — 65,6 | „ |
| 24 „ | — 21,3 | „ |
| 25 „ | — 65,6 | „ |
| 26 „ | — 16,4 | „ |
| 27 „ | — 82,0 | „ |
| 28 „ | — 4,92 | „ |
| Усяго | 288,62 | т. |

За 7 год ураджай пладоў складае 288,62 т. а на адзін год у сярэднім 41,25 т. ці на адзін гэктар—4,74 т. Арэнднай платы Дзяржаўная зямельная маёмасьць атрымлівае 900 руб. кожны год, а апрача таго арандатар павінен кожны год 1/4 саду ўгнойваць, вясьці барацьбу са шкоднікамі, апрацоўваць глебу і праводзіць падсадку дрэў.

Увосень 27 г. пасаджана 200 дрэў двох—трохгодак. Пасадка адбывалася ямным спосабам без ранейшай падрыхтоўкі ям. Угнаеньне пры пасадцы ня ўжывалася.

З сартоў саду заслугоўваюць належнай увагі:

Антонаўка—сорт ураджайны, прамысловы і трывалы. У садзе ўсіх дрэў—576, з іх хворых 86—14,93%. Штрэйфлінг—вельмі добры васеньні сорт. У садзе 3 дрэвы узросту 25 год і ўсе здаровыя, маюць добра разьвітыя кароны—дыямэтр у сярэднім 7,14 м. вышыня 5,52 м. Плады маюць добры збыт і кошт, амаль што не паражаюцца паршой.

Цынамонавае паласастаэ вельмі добры летні сорт,—але на жаль дрэвы пасаджаны на нізіне, дзе глебавы тып падзоліста-балоцісты блізка залягаюць грунтовыя воды. З усіх 14 дрэў хварэюць 5 др.

Пэпін Літоўскі добры зімовы сорт, рана пачынае пладаносіць, добра пладаносіць амаль што кожны год, плады маюць добры збыт і кошт. У садзе 3 дрэвы з іх 1 хворае. З васеньніх сартоў добрым лічыцца пуцімка ўраджайны сорт, мае добры збыт і кошт на мясцовым рынку у садзе 7 дрэў узросту—25—35 год і ўсе здаровыя.

Белы-наліў—вельмі добры летні сорт,—ураджайны, трывалы, у садзе 12 др з іх хворых—1, мае добры збыт і кошт.

Лясная прыгожая—вельмі добры сорт, плады маюць добры збыт і кошт, добра трымаюцца на дрэве, вышэй сярэдняй велічыні, дрэвы ўраджайныя

У 28 годзе ўраджай у сярэднім на 1 дрэве ў узросьце 25 год—128 клг.—160 клг. пры чым па пазіраньню арандатара пладаносяць амаль што, кожны год.

Усіх дрэў у садзе 9 і ўсе здаровых, маюць добра раьвітыя кароны дыямэтру сярэднім 6,04 мэтра, вышыня 3,35 м.

Дюшэс д' Ангулем таксама вельмі добры васеньня-зімовы сорт, ураджайны, плады маюць вельмі добры збыт і кошт, высока дэсэртны сорт, дрэвы маюць добра разьвітыя кароны ў узросьце 25 год дыямэтр 6 м, вышыня 6,2 м.

Усіх у садзе 11 дрэў і ўсе здаровыя.

Бэра Слуцкая—добры сорт, вельмі ураджайны, плады добра захоўваюцца ў лёжцы, маюць добры збыт і кошт, дыямэтр дрэў 6,70 м. вышыня 8,20 м. Усяго дрэў у садзе 4 з іх хворых адно.

Ільлінка лічыцца добрым летнім сортам, дрэвы ураджайныя. трывалыя; у садзе 4 дрэвы 35 год, здаровыя, плады маюць добры збыт і кошт.

Астатнія сарты асаблівай увагі не заслугоўваюць як нетаварныя, нятрывалыя і г. д.

Адзначым галоўныя асаблівасьці гэтага саду.

1. Падзоліста-балоцісты глебавы тып пры блізасьці грунтовых вод —1,5—1,6 м. ні ў якім разе ня можа служыць месцам для закладкі садоў

2. З ліпы дрэнная загарода таму, што па 1) у адлегласьці 7,11 м, заглушае дрэвы сумежных радоў; па 2) лічыцца добрым месцам для захоўваньне і распаўсюджваньня шкоднікаў.

3. З сартоў саду адпавядаюць мясцовым умовам, як глебава-кліматычным, так і таварнаму напрамку садоўніцтва: Антонаўка, Штрэйфлінг Пэпін-Літоўскі, Цынамонавае паласастае, Пуцімка, Белы-наліў, Лясная прыгожая, Дзюшэс д' Ангулем, Бэра Слуцкая і Ільлінка.

---

## Табліца абмераў саду „Сьвірыдовічы“

| №№ | Назва сорту | Узрост | Вышыня дрэва ў мэтр. | Дыямэтр кроны ў м. | Стасунак дыямэтра да вышыні | Вышыня штамбу ў м. | Дыямэтр штамбу ў м. | Колькасьць галін | Дыямэтр галін у м. | Кут адыходж. галін | Ураджай |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Лясная прыгожая . . | 25 | 5,50 | 6,00 | 1,09 | 1,23 | 0,19 | 5 | 0,10 | 40° | 6 п. |
| 2 | „ „ . . | „ | 6,70 | 6,45 | 0,96 | 0,96 | 0,26 | 5 | 0,11 | 30° | 8—9 п. |
| 3 | „ „ . . | „ | 6,85 | 5,65 | 0,82 | 1,10 | 0,23 | 6 | 0,12 | 35° | 10 п. |
| | Сярэдняе . . | — | 6,35 | 6,03 | 0,95 | 1,10 | 0,23 | 5 | 0,11 | — | 8 п. |
| 1 | Душэс д'Ангулем . . | 25 | 5,95 | 6,60 | 1,10 | 1,35 | 0,23 | 5 | 0,13 | 45° | 3 „ |
| 2 | „ „ . . | „ | 6,45 | 5,85 | 0,90 | 1,10 | 0,21 | 3 | 0,13 | 30° | 4 „ |
| 3 | „ „ . . | „ | 6,40 | 6,35 | 0,99 | 1,50 | 0,23 | 6 | 0,10 | 65° | 4 „ |
| 4 | „ „ . . | „ | 5,20 | 5,35 | 1,03 | 1,35 | 0,20 | 3 | 0,13 | 30° | 3 „ |
| 5 | „ „ . . | „ | 7,00 | 5,85 | 0,83 | 1,28 | 0,22 | 3 | 0,14 | 45° | 5 „ |
| | Сярэдняе . . | — | 6,20 | 6,00 | 0,97 | 1,31 | 0,22 | 3 | 0,13 | — | 4 „ |
| 1 | Штрэйфлінг . . . | 25 | 5,10 | 7,20 | 1,42 | 1,10 | 0,22 | 4 | 0.11 | 60° | 10 „ |
| 2 | „ . . . . | „ | 5,95 | 7,07 | 1,20 | 1,10 | 0,24 | 3 | 0,13 | 70° | 10 „ |
| | Сярэдняе . . | — | 5,57 | 7,13 | 1,31 | 1,10 | 0,23 | 4 | 0,12 | — | 10 „ |
| 1 | Бэра Слуцкая . . . . | 25 | 8,20 | 6,70 | 0,82 | 1,15 | 0,26 | 5 | 0,12 | 35° | — |

## Табліца трываласьці сартоў саду „Сьвірыдавічы“

| №№ | Назва сорту | Узрост | Па часу пасьпяваньня | Лік выпаўшых | | Усяго дрэў | Лік здаровых | | Хворых | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Абсал. | % | | Абсал. | % | Усяго | % | Марозабоіны | Апёк | Рак | Дуплянастасьць | Сухавяршыннасьць | Ветралом | Механічныя пашкоджанні | Грыбн. хвароб |
| 1 | Антонаўка зв. | 18-25-35 | зім. | — | — | 576 | 490 | 85,07 | 86 | 14,93 | 60 | — | — | 5 | — | — | 21 | — |
| 2 | Віргуль . . . | 25 | асен. | — | — | 80 | 70 | 87.50 | 10 | 12,50 | Хварэюць ад бліз. грунт. вод | | | | | | | |
| 3 | Цынамон. палас. | 25—35 | летн. | — | — | 14 | 9 | 64,28 | 5 | 35,72 | " " " | | | | | | | |
| 4 | Белы наліў . . | " | " | — | — | 12 | 11 | 91,67 | 1 | 8,33 | — | — | — | — | — | — | 1 | — |
| 5 | Баравінка . . | " | " | — | — | 10 | 10 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Чорнае дзерава | " | " | — | — | 10 | 8 | 80,00 | 2 | 20,00 | 2 | — | — | — | — | — | — | — |
| 7 | Цітаўка . . . | " | " | — | — | 9 | 7 | 77,78 | 2 | 22,22 | Слабасьць дрэвес. | | | | | | | |
| 8 | Аркад Чырвоны | " | " | — | — | 8 | 6 | 75,00 | 2 | 25,00 | Хварэюць ад бл. грунт. вод | | | | | | | |
| 9 | Пуцімка . . . | " | асен. | — | — | 7 | 7 | 100.00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 10 | Апорт звычайн. | " | " | — | — | 7 | 7 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 11 | Залатароўка . | 35 | " | — | — | 6 | 6 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 12 | Валошка . . . | " | летн. | — | — | 4 | 4 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 13 | Белае салодкае | " | " | — | — | 4 | 4 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 14 | Штрэйфлінг . | 25—35 | зім. | — | — | 3 | 3 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 15 | Пэпін Літоўскі | 25 | " | — | — | 3 | 2 | 66,67 | 1 | 33,33 | 1 | — | — | — | — | — | — | — |
| 16 | Шклянка . . | 35 | " | — | — | 3 | 2 | 66,67 | 1 | 33,33 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 17 | Апінорка . . | 25 | асен. | — | — | 2 | 1 | 50,00 | 1 | 50,00 | 1 | — | — | — | — | — | — | — |
| 18 | Іншых . . . | 18-25-35 | " | — | — | 194 | 89 | 45,84 | 105 | 54,16 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 1 | Дзюш. д'Ангул. | 25 | зім. | — | — | 11 | 11 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 2 | Лясная прыгож. | 25—35 | " | — | — | 9 | 9 | 100,00 | — | — | — | — | | — | — | — | — | — |
| 3 | Панна . . . | " | летн. | — | — | 8 | 7 | 87,50 | 1 | 12,50 | — | — | — | — | — | 1 | — | — |
| 4 | Сапяжанка . . | 35 | " | — | — | 6 | 6 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Ільлінка . . . | " | " | — | — | 4 | 4 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Бэра Слуцкая . | 25—35 | зім. | — | — | 4 | 3 | 75,00 | 1 | 25,00 | — | — | — | 1 | — | — | — | — |
| 7 | Бан. Вільлямс . | 35 | летн. | — | — | 4 | 4 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 8 | Безнасенка . . | 25—35 | летн. | — | — | 4 | 4 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 9 | Смалянка . . | " | " | — | — | 1 | 1 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 10 | Іншых . . . | — | — | — | — | 24 | 10 | 41,67 | 14 | 58,33 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Усяго . . | | | | | 1027 | 795 | | 232 | | | | | | | | | |

# Сад селяніна вёскі Глыбава, Падалескага с|с. Рэчыцкага раёну С. М. Малашэвіча.

Знаходзіцца на адлегласьці ад г. Рэчыцы 18 кілёмэтраў на правым беразе р. Дняпро.

Сад вуліцаю падзелен на 2 часткі: 1-я частка плошчаю—2 гэктары прылягае да берега возера пры Дняпры; гэтую частку саду можна падзяліць яшчэ на дзьве часткі ў залежнасьці ад схілу: а) вучастак на ўсходнім схіле да возера; б) вучастак на роўным месцы. ІІ-ая частка саду плошчаю таксама каля 2-х гэктараў распаложана па другі бок вуліцы. Сад быў пасаджаны ў тры тэрміны: у 1878 г., 1906 г. і ў 1914 годзе.

Зараз у садзе налічваецца 360 дрэў, з іх здаровых 225 дрэў—62,5%, хворых 135 дрэў—37,5% Згінула 67 штук—15,19% Па пародам: яблыні 326 дрэў—90,56%. Ігрушы 34 дрэва—9,44%; акрамя таго, каля загароды ўдоўж вуліцы пасаджан адзін рад сьліў густой пасадкі.

З сартоў у садзе маюцца: Антонаўка 226 дрэў—62,74%. Пэпін—Літоўскі 16 дрэў—4,44%, Цынамонавае паласатае 9 др.—2,5%, Валошка 6 дрэў—1,67%, Штэцінскае чырвонае 4 дрэва—1,11%, Пуцімка 4 др. 1,11%, Штрэйфлінг 1 дрэва—0.28% і іншых 60 дрэў.

Ігрушы: Калебаса Плоцкая 7 дрэў—1,94%, Ільлінка 1 др. 0,28% Безнасенка 2 др.—0,56%, Бэра Слуцкая 2 др,—0,56%, Сапяжанка 7 др. 1,94% і інш. 12 дрэў—3,34%.

Сад пасаджан у шахматным парадку с адлегласьцю паміж дрэвамі ў радзе і паміж радамі:—пасадкі 1878 г. 5,7—6.4 мэтра (8—9 ар.), а пасадкі 1906 г. і 1914 г. 8,53×8,53 м. (12×12 ар,) з напрамкам радоў з усходу на захад.

Глебавы тып у садзе—слаба-падзолісты; мэханічны склад верхняга пазему—пяскі зьвязныя. Для вызначэньня глебы была выкапана адна яма, у якой паземы разьмяркованы: $A_1$—36 см.—перагнойны, сьветла-шэрага колеру.

$A_2$—40 см.—падзолісты-сьветла-жоўтага колеру, але зусім невыразны

B—38 см.—паўтаравокісны—сьветла-бурага колеру. Ніжэй ідзе пазем C—пераходны да ледавіковага навалу—па мэханічнаму складу цяжкі суглінак, а на глыбіні 3—4 мэтра залегае ледавіковы навал.

Сад угнойваецца часткова кожны год з разьлікам, што гной пападае на тое-ж самае месца праз 3 гады на 4-ты—2200 п. на гэктар. Першы год па угнаеньню сеецца $^1/_2$ бульбы і $^1/_2$ авёс + канюшына ці ячмень і частка займаецца гароднінай.

Патрэбна адзначыць, што сад, пасаджаны на ўсходнім схіле, ніколі не ўгнойваўся, але дрэвы значна лепш разьвіліся ў параўнаньні з дрэвамі на роўнай плошчы, дзе ўжываецца ўгнаеньне, толькі ў пару пасьпяваньня пладоў—значна пазьнейшы.

Апрацоўка глебы саду вядзецца пад тыя культуры, якімі скарыстоўваецца плошча.

З шкоднікаў у садзе распаўсюджаны: баярышніца, златугузка, кольчаты і непарны прадзільнік, кветаед пладажорка і іншыя; першых 4 вядзецца зьбіраньне і зьнішчэньне гнёзд і яечак, на працягу зімы і восені, а супроць апошніх ніякай барацьбы не вядзецца; ужываецца ачыстка штамбаў і абрэзка сучча. За ўсе апошнія гады ня было ні воднага апырскваньня саду, толькі ў 1927 г. абозам па барацьба са шкоднікамі зроблена апырсківаньне жа-лезным купарвасам. Цікава адзначыць, што ў тых садох вёскі Глыбава, дзе зроблена апырсківаньне, моху і лішайнікаў значна менш.

Усе выдаткі па барацьбе са шкоднікамі вылічваюцца за 1928 г.

а) на барацьбу . . . . . 8 руб.
б) на дагляд . . . . . . 9 руб.

Пасадка саду адбылася ўвосень. За м-ц да пасадкі—падрыхтованы ямы 70×54 см. Пры пасадцы на дно ямы клаўся гной і ямы запаўняліся ворным паземам. Разам з гэтым неабходна адзначыць, што дрэвы на схіле садзіліся бяз ям, а пры пасадцы корні разраўноўваліся па паверхні зямлі і засыпаліся ворным паземам; так што вакол кожнага дрэва і да сучаснага моманту назіраюцца ўзгоркі.

Дзеля пасадкі сажанцы атрымліваліся з гадавальніку Стуцкага і гадавальніку Паскевіча (маёнтак Прудок)—двухгодкі і трохгодкі. Пасьля закладкі саду ў першы час плошча скарыстоўвалася наступнымі культурамі: бульба, авёс, ячмень, а гной клаўся праз год 36 т. на гэктар.

Сад у 1926 годзе здаваўся ў арэнду за 200 р., у 1927 годзе скарыстоўваўся гаспадаркай.

Ураджай саду за рад апошніх год наступны:

у 1926 годзе . . . 600 пуд.
„ 1927 „ . . . 600 „
„ 1928 „ . . . 250 „

Ураджай ў сярэднім за тры гады на адзін гэктар 121 пуд. Як відаць, ураджай вельмі нізкі з прычыны таго, што сад мае значны % згінуўшых дрэў; так на 4 гэктары плошчы пад садам, зараз налічваецца,— пры пасадцы 6,4×6,4 (9×9 арш.) і 8,53×8,53 (12×12 арш.)—толькі 360 дрэў, што складае прыблізна каля 64% ад пасаджаных, акрамя таго значны % хворых (37,5%), і наогул дрэвы ў садзе дрэнна разьвіты; гаспадар гэта тлумачыць тым, што сад да 1917 году здаваўся разам з гаспадаркай у арэнднае карыстаньне, а з часу рэвалюцыйнага сад угнойваецца ў нязначнай колькасьці.

Неабходна адзначыць, што ў садзе ўжываецца пасеў паміж радамі дрэў збожжавых культур як напрыклад: аўса, ячменю і канюшыны, якія робяць адмоўны уплыў на ўраджай садў і разьвіцьцё пладовых дрэў.

З зімовых сартоў саду трэба лічыць лепшым—Пэпін-Літоўскі як сорт ураджайны, рынначны. Дрэвы гэтага сорту лепшыя за антонаўку: 316 дрэў пэпіна 14—22 г.—здаровых 12 шт.—75%, хворых 4 дрэва—25%; тады як антонаўкі з 226 дрэў здаровых 130 д.—57,25%, хворых 96 дрэў—42,75%.

Штэцін Чырвоны ў умовах гэтага саду адчувае сябе дрэнна; усіх дрэў было пасаджана 24, з іх зараз маецца 4 ці 16,77%, а 20 дрэў—83.23% згінула ў адну зіму ад марозаў. З 4 др., які маюцца зараз здаровых 2 дрэва—50%, хворых 2 д.—50% ад маразабойні. Плады штэцінача чырвонага вельмі добра захоўваюцца, маюць добры збыт і кошт на рынку.

З сартоў асеньніх лепшым лічыцца—Штрэйфлінг.

У садзе было пасаджана адно дрэва, якое і зараз здаровае з добра разьвітым і моцным штамбам і добра разьвітымі галінамі, сорт ураджайны, мае добры збыт і кошт на рынку.

Пуцімка лічыцца таксама добрым асеньнім трывалым сортам—усіх дрэў у садзе 4 і ўсе здаровыя, плады на мясцовым рынку маюць добры збыт і кошт.

З летніх сартоў на першым месцы стаіць—Цынамонавае паласатае. Дрэвы трывалыя; было пасаджана 9 і ўсе зараз здаровыя, яблыкі маюць вельмі добры попыт (спрос) на мясцовым рынку для варэньня.

Астатнія сарты, як цітаўка, аркад-чырвоны, баравінка, чырвонае салодкае, асаблівай увагі не заслугоўваюць, як сарты нятрывалыя, дрэннай якасьці і нетаварныя і інш.

З ігруш у садзе лічацца добрым сортам—Бэра-Слуцкая, але на жаль толькі 2 дрэвы і абодва хворыя ад мэханічнага папсаваньня.

З летніх—Ільлінка раньняя ігруша, дрэвы ўраджайныя, трывалыя, маюць добры збыт на мясцовым рынку, плады даволі вялікія і наогул Ільлінка лічыцца лепшым сортам з летніх груш Гомельшчыны. Другія ігрушы асаблівай увагі не заслугоўваюць так: Колебаса Плоцкая—5 др. і ўсе хварыя ад маразабойн, а два дрэвы, завачкованыя на дзікім падвоі, цяпер здаровыя. Сапяжанка раней лічылася добрым сортам, але ўсе апошнія гады плады зусім нетаварныя, бо кожны год паражоны паршою.

Адзначым галоўныя асаблівасьці саду Малашэвіча:

1. На зьвязных пяскох слаба-падзолістых у ўмовах раёну Глыбава лепш адчуваюць і адпавядаюць таварнаму напрамку садоўніцтва наступныя сарты: пэпін-літоўскі, антонаўка, штрэйфлінг, цынамонавае паласатае, пуцімка, бэра-слуцкая і Ільлінка.

2. Дзякуючы таму, што сад у дарэвалюцыйная годы здаваўся ў арэнду, недастаткова ўгнойваўся на працягу шэрагу год і плошча скарыстоўвалася збожжавымі расьлінамі—у садзе значны лік дрэў хворых і выпаўшых: першых 135 дрэў—37.5%. другіх 67 дрэў—15,19% і нязначная ўраджайнасьць на гэктар 121 пуд.

3. Адлегласьць паміж дрэвамі 5,7 м., 6,4 м. і 8,53 м.; дыямэтр карон узросту 22 год у сярэднім 8,15 мэтра. Пры закладцы новых садоў у раёне вёскі Глыбава і пры падобных умовах адлегласьць павінна быць павялічана да 10—12 м.

### Табліца трываласьці сартоў саду „Малашэвіча“

| №№ па чарзе | Назва сорту | Узрост | Па часу пасьпяваньня | Лік выпаўш. дрэў: Абсал. | Лік выпаўш. дрэў: % | Усяго дрэў | Лік здаровых дрэў: Абсал. | Лік здаровых дрэў: % | Хворых: Усяго | Хворых: % | Маразабоін | Апёк | Рак | Дупленастасьць | Ветраломных | Сухаверхіх | Мэханічнага папсаваньня | Грыбн. хвароб |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Антонаўка зв. | 14-22-50 | зім. | — | — | 226 | 130 | 57,52 | 96 | 42,48 | 20 | 5 | — | — | — | — | 71 | — |
| 2 | Апінорка . . . | „ | асен. | 5 | 16,12 | 26 | 19 | 73,07 | 7 | 26,93 | Хварэюць ад старасьці | | | | | | | |
| 3 | Пэпін Літоўскі | „ | зім. | 20 | 55,55 | 16 | 12 | 75,00 | 4 | 25,00 | 2 | 2 | — | — | — | — | — | — |
| 4 | Цымон. палас. | „ | лет. | — | — | 9 | 9 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Чырвон. салодк. | „ | асен. | — | — | 7 | 4 | 57,14 | 3 | 42,86 | — | 3 | | зроблен пажарам | | | | |
| 6 | Валошка . . . | „ | „ | 11 | 64,70 | 6 | 5 | 83,33 | 1 | 16,67 | — | — | — | 1 | — | — | — | — |
| 7 | Пуцімка . . . | „ | „ | 11 | 73,33 | 4 | 4 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 8 | Штэц. Чырвон. | „ | зім. | 20 | 83,33 | 4 | 2 | 50,00 | 2 | 50,00 | 2 | — | — | — | — | — | — | — |
| 9 | Аркад Чырвоны | „ | лет. | — | — | 4 | 4 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 10 | Цітаўка . . . . | „ | асен. | — | — | 3 | 1 | 33,33 | 2 | 66,67 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 11 | Баравінка . . . | „ | лет. | | — | 1 | 1 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 12 | Штрэйфлінг . . | „ | асен. | — | — | 1 | 1 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 13 | Іншых . . . . | „ | „ | — | — | 19 | 15 | 78,94 | 4 | 21,06 | 2 | 1 | — | — | — | 1 | — | — |
| 1 | Калебас (Плоцк.) | „ | зім. | — | — | 7 | 2 | 28,57 | 5 | 71,43 | 3 | 2 | — | — | — | — | — | — |
| 2 | Бэра Вільлям . | „ | асен. | — | -- | 3 | 3 | 100,00 | — | — | На двух дрэвах толькі палавіна, а другая палавіна запрывіта Калебасай Плоцкай | | | | | | | |
| 3 | Сапяжанка . . | 50 | „ | — | — | 7 | 2 | 28,57 | 5 | 71,43 | — | 5 | | зроблен пажарам | | | | |
| 4 | Бэра Слуцкая . | 22 | зім. | — | — | 2 | — | — | 2 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | 2 | — |
| 5 | Безнасенка . . | 50 | лет. | — | — | 1 | 2 | 100,00 | — | — | — | - | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Ільлінка . . . | „ | „ | — | — | 1 | 1 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 7 | Іншых . . . . | — | — | — | — | 12 | 8 | 66,67 | 4 | 33,33 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Усяго . . | | | | | | | | | | | | | | | | | |

# Сад селяніна вёскі Глыбава,

## Падалескага с/с, Рэчыцкага раёну, К.К. Трацэўскага.

Знаходзіцца на правым беразе р. Дняпро, 18 клм. ад г. Рэчыцы. Сад плошчаю—2,19 гэктара пядзелены вуліцаю да дзьве часткі: першая плошчаю—0,17 гэктара, ўзросту 30 год, другая—2,02 гэкт. ўзросту 24 г. Усяго дрэў у садзе—244, з іх здаровых 208 дрэў—85,25%, хворых—36 дрэў—14,75%.

Пераважнае месца у садзе займае яблыня 236 дрэў—96,62%, ігрушы 8 дрэў—3,28%.

З сартамэнту яблынь у садзе маюцца: антонаўка зв. 138 др.—56,56%, пэпін-літоўскі 23 др.—9,43%, залатароўка 10 др.—4,50%, цітаўка 15 др. 6,15%, валошка 12 дрэў—4.92%, апорт звычайны 4 дрэва—1,64%, пуцімка 4 др.—1,64%, штэцін чырвоны 2 др.—0,82%, ранэт арлеанскі 3 др. 1,23% і інш.

Ігрушы: ільлінка 2 др.—0,82%, гліва 2 др.—0,82% і інш 4 др. 1,64%.

Парадак пасадкі пладовых дрэў у садзе—квадратовы з напрамкам радоў—з усходу на захад.

Адлегласьць паміж дрэвамі ў радзе і паміж радамі ў садзе ўзросту 30 год 6,4×6,4 мэтр (9×9 арш.); а ў садзе ўзросту 24 год—8,53×8,53 м. (12×12 арш.). Загароды сад ня мае.

Глебавы тып ў садзе—слаба падзолісты, па мэханічнаму складу верхняга пазему—пяскі зьвязныя.

Для вызначэньня глебы выкапана яма, у якой паземы разьмяркованы:
$A_1$—32 см.—цёмна-шэрага колеру, перагнойны.
$A_2$—40 см—жаўтаватага колеру, зусім ня выразны.
В—15 см.—жаўтаваты з бурымі праслойкамі (ардзанды). С—нязьменная парода—сартаваныя пяскі, а на глыбіне 2,84—3,56 мэтр ад паверхні залягае ледавіковы навал. Грунтовыя воды залягаюць на глыбіні 9 мэтраў і ніжэй.

Сад (2,02 гэктара) ўгнойваецца праз год з разьлікам 36,06 тонн на гэктар. Угнаеньне ўносіцца пад бульбу і гародныя расьліны, а другі год пасьля гэтых расьлін засеваюцца збожжавыя—авёс і ячмень.

Асобная апрацоўка ў садзе неўжываецца за выключэньням апрацоўкі пад памянёныя расьліны.

У другой частцы саду ўзросту 30 год плошча ніякімі прамежнымі культурамі не займаецца.

Кароны дрэў дасягаюць дыямэтру 7,3 м., між тым пасадка ўтворана на 6,4×6,4 мэтра.

Апрацоўка глебы ў гэтай частцы саду ўжываецца наступныя: увосень і вясной узорваецца, пасьля вясеньняга ворыва барануецца, а ўгнаеньне ўносіцца праз год з разьлікам 36,06 тонн на гэктар.

З шкоднікаў у садзе распаўсюджаны: — кветаеды, баярышніца, златагузка, пярсьцёнкавы і няпарны шаўкапрады і інш.

З грыбных хвароб—парша, мох, і лішайнікі.

За ўвесь час толькі ўвесну 1927 г. было зроблена адно апырсківаньне жалезным купарвасом—абозам па барацьбе са шкоднікамі. Наогул кожны год здымаюць і зьнішчаюць гнёзды баярышніцы і златагузкі і яечкі пярсьцёнкавага і няпарнага прадзільнікаў. У 1928 г. ўвясну ўсе дрэвы пабелены вапнаю. Выдаткі па барацьбе са шкоднікамі і дагляду саду вельмі нязначныя.

У 1928 г. складаюцца з наступных—здыманьне гнёзд і яечек—5 р. абрэзка—3 руб., пабелка 17 р. 80 к. і акопка 10 р., разам—35 р. 80 к.

Для закладкі саду сажанцы выпісаны з гадавальніку Вінша, блізка ад ст. Салтанаўка (каронiстыя двох годкі па 50 к. шт.).

Дрэвы садзіліся ямным способам; ямы капаліся ўвосень 1 × 0,5 м. і зараз-жа рабілася пасадка дрэў. Пры пасадцы угнаеньня ня клалася. а толькі ворным пазёмам запаўнялася яма.

Пасьля пасадкі прамежнымі культурамі зьяўляліся: 1) корань—клубняплоды, 2) гародныя расьліны, 3) ячмень і авёс.

Сад апошнія гады здаваўся ў арэнду.

У 1927 г. за 300 руб.; ураджай 7,4 тон.

У 1928 г. за 1200 руб. ураджай 35 тон (і 1,64 т., застал. для гасп.). У сярэднім, за 2 апошнія гады ураджай пладоў з аднаго гэктару (445 п.) 7,3 тон.

Лепшым сортам у садзе лічацца: антонаўка-камянічка, як сорт ураджайны, трывалы, так з усіх 138 др., здаровых 133—96,38%, хворых 5—3,62%. Дыямэтр у сярэднім у ўзросьце 24 год—7,3 м., вышыня—5,25 м.

Мае добры збыт на рынку і досыць добра захоўваецца. Пэпін-літоўскі лічыцца добрым сортам, рана пачынае пладаносіць, ураджайны і амаль што, кожны год.

Так у гэтым годзе 1928) ураджай ў сярэднім на адно дрэва прыходзіцца 192—208 кл., а на асобных дрэвах дасягае да 320—400 кілёгр. Таксама плады добра захоўваюцца ў лежцы і маюць добры збыт на рынку. З усіх 23 дрэў у ўзросьце 24—30 год, хворых 8—34,78%.

Дрэвы добра разьвіты: вышыня дрэў у сярэднім 5,3 м., дыямэтр—6,2 мэтра.

Пуцімка лічыцца добрым васеньнім сортам дрэвы ў ліку 4 усе здаровыя, добра ўраджайныя, плады маюць добры збыт на рынку.

З летня-асеньніх сартоў добрым лічыцца Валошка як трывалы, таварны. Маецца ўсіх дрэў 12, з іх 11 дрэў здаровых—91,66%, хворых 1 дрэва—8,34%. Ураджайнасьць добрая.

Штэцін-чырвоны. У садзе ўсяго 2 дрэва, якія па назіраньню гаспадара мала ураджайныя з 2-х дрэў—1 хворае ад мароза. З ігруш добрым сортам лічыцца ільлінка, эта летні сорт, ураджайны, мае добры збыт на рынку і дорага расцэньваецца так: у 28 годзе ў г. Рэчыцы за 16 клг. плацілі ад 2—4 руб.

Адзначым галоўныя асаблівасьці саду с. Трацэўскага.

1. З сартоў саду адпавядаюць мясцовым, як глебава-кліматычным умовам, так і таварнаму напрамку садоўніцтва наступныя сарты: антонаўка-камянічка, пэпін-літоўскі, пуцімка і ільлінка.

2. Адлегласьць паміж дрэвамі 6,4 мэтра зьяўляецца бязумоўнай малой бо дрэвы антонаўкі ўзросту 24 год у сярэднім маюць у дыямэтры 7,2 м., пэпіна-літоўскага — 6,2 м. Пры дадзеных глебава-кліматычных умовах адлегласьць павінна быць павялічана да 10—12 м.

## Табліца трываласьці сартоў саду „Трацэўскага“

| №№ | Назва сорту | Узрост | Па тэрміну пасьпаваньня | Лік выпаўшых дрэў | | Усяго дрэў | Лік здаровых дрэў | | Хворых | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Абс. | 0/0 0/0 | | Абс. | 0/0 0/0 | Усяго хворых | 0/0 0/0 | Маразабоін | Апёк | Рак | Дуплянастасьць | Ветралом | Сухавяршынасьць | Механічныя папсаваньні | Грыбн. хвар. |
| 1 | Антонаўка зв. . . . | 24-30 | зім. | — | — | 138 | 133 | 96,37 | 5 | 3,63 | — | 5 | — | — | — | — | — | — |
| 2 | Пэпін Літоўскі . . . | 24-30 | „ | 6 | — | 23 | 15 | 65,21 | 8 | 34,79 | 3 | 4 | — | — | — | — | — | — |
| 3 | Цітаўка . . . . . | 30 | вос. | — | — | 15 | 13 | 86,67 | 2 | 13,83 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 4 | Валошка . . . . . | 30 | „ | — | — | 12 | 11 | 91,67 | 1 | 8,33 | 1 | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Залатароўка . . . | 24-30 | асен. | — | — | 10 | 6 | 60 | 4 | 40 | 4 | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Апорт звычайны . . | 24-30 | „ | — | — | 4 | 3 | 75 | 1 | 25 | 1 | — | — | — | — | — | — | — |
| 7 | Пуцімка . . . . . | 30 | „ | — | — | 4 | 4 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 8 | Летняе салодкае . . | 30 | лет. | — | — | 4 | 2 | 50 | 2 | 50 | 2 | Антон. агонь | | | | | | |
| 9 | Белае салодкае . . . | 30 | „ | — | — | 4 | — | — | 4 | 100 | 4 | Хварэе ад марозу | | | | | | |
| 10 | Ранэт-Арлеанскі . . | 30 | зім. | 2 | — | 3 | — | — | 3 | 100 | — | Адмярзаюць вяршыні | | | | | | |
| 11 | Штэцінскае чырв. . . | 30 | „ | — | — | 2 | 1 | 50 | 1 | 50 | 1 | — | — | — | — | — | — | — |
| 12 | Апінорка . . . . | 24 | „ | — | — | 2 | 2 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 13 | Розных . . . . . | — | — | — | — | 15 | 11 | 73,34 | 4 | 26,66 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | **Ігрушы** | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Ільлінка . . . . . | 30 | лет. | — | — | 2 | 2 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 2 | Глэва . . . . . . | 30 | „ | — | — | 2 | 2 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 3 | Розных . . . . . | 30 | „ | — | — | 4 | 3 | 75 | 1 | 25 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Усяго . . . | — | — | — | — | 244 | 208 | — | 36 | — | 16 | 9 | — | — | — | — | — | — |

## Табліца абмераў саду „Трацэўскага“

| №№ па чарзе | Назва сорту | Узрост | Вышыня кароны ў мэтр. | Дыямэтр кароны ў мэтр. | Суадносіны дыямэтр кароны да вышыні | Вышыня штамбу ў мэтр. | Дыямэтр штамбу ў мэтр. | Колькасьць суччa | Дыямэтр суччa ў мэтр. | Кут адыходу суччa |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Антонаўка зв. . . | 24 | 5,20 | 7,97 | 1,53 | 1,26 | 0,18 | 6 | 0,14 | 55° |
| 2 | „ . . . | 24 | 5,75 | 8,45 | 1,48 | 1,26 | 0,18 | 3 | 0,13 | 50° |
| 3 | „ . . . | 24 | 4,85 | 6,30 | 1,30 | 1,17 | 0,16 | 4 | 0,08 | 75° |
| 4 | „ . . . | 24 | 4,90 | 7,10 | 1,45 | 1,20 | 0,20 | 3 | 0,11 | 70° |
| 5 | „ . . . | 24 | 5,50 | 6,78 | 1,23 | 1,28 | 0,18 | 6 | 0,08 | 90° |
| | Сярэдняе . | — | 5,24 | 7,32 | 1,40 | 1,23 | 0,18 | — | 0,11 | — |
| 1 | Пэпін-Літоўскі . . | 24 | 5,70 | 6,40 | 1,12 | 1,70 | 0,21 | 4 | 0,11 | 85° |
| 2 | „ . . | 24 | 5,25 | 6,20 | 1,18 | 1,33 | 0,20 | 2 | 0,15 | — |
| 3 | „ . . | 24 | 4,10 | 5,50 | 1,34 | 1,33 | 0,18 | 3 | 0,11 | 80° |
| 4 | „ . . | 24 | 5,75 | 6,55 | 1,15 | 1,20 | 0,22 | 2 | 0,16 | 75° |
| 5 | „ . . | 24 | 5,80 | 6,40 | 1,10 | 2,19 | 0,19 | 3 | 0,12 | 80° |
| | Сярэдняе . | — | 5,32 | 6,21 | 1,18 | — | 0,20 | — | 0,13 | — |
| 1 | Апінорка . . . . | 24 | 4,90 | 5,50 | 1,12 | 1,08 | 0,18 | 4 | 1,05 | 65° |
| 2 | „ . . . . | 24 | 4,60 | 4,25 | 0,92 | 0,90 | 0,12 | 3 | 0,08 | 35° |
| | Сярэдняе . | — | 4,75 | 4,87 | 1,02 | 0,92 | 0,15 | — | 0,92 | — |

# Сад „Пескапольле“ Дзярж. зямельнай маёмасьці

Знаходзіцца пры вёсцы Чорнае, Чарнянскага с/савету.

У адлегласьці ад гор. Рэчыцы 10 клм. З 1926 года знаходзіцца ў арэндным карыстаньні г-на Богдановіча.

Сад плошчаю 9 гэктараў дарогаю з вёскі Чорнае на гор. Рэчыцу падзелены на два паасобных сады: першы — плошчаю 4,9 гэкт. узросту 21 год. Мае заслону з паўднёвага боку з альховага ўзьлеску ў адлегласьці 6,4 мэтр. Другі—плошчаю 4,1 гэкт. падзяляецца на дзьве часткі ліпавымі прысадамі: 1-я ў 2,18 гэкт. на крутым схіле возера пры Дняпры, узросту 65 год і 2-я плошчаю 1,82 гэкт. ўзросту 35 год на роўным месцы - мае заслонны ўзьлесак з паўднёва-заходняга боку, з паўночна-ўсходняга боку—кляновы ўзьлесак, з паўдня—вярба, клён ды інш. пароды ў адлегласьці 6,4 і 8,53 мэтр. Заўважана, што дрэвы, якія мяжуюцца з заслонай і ліпавымі прысадамі значна горш разьвіты ў параўнаньні з іншымі дрэвамі саду і маюць аднабокія кароны ў бок ад аховы.

У садзе на час дасьледваньня налічвалася 1396 др., з іх здаровых 1078 шт.—77,23%, хворых 318 шт.—22,67%, яблынь 1326 шт.—94,99%, ігруш. 70 шт.—5,01%.

З сартоў у садзе сустракаюцца наступныя: антонаўка звычайная 1237 шт.—88,61%, валошка 20 шт.—1,42%, пэпін літоўскі 15 др.—1,08%, белы наліў 7 др.—0,50%, апорт звычайны 8 др.—0,58%, пуцімка 5 др.—0,36%, штэцін чырвоны 2 др.—0,14%, цынамонавае паласатае 1 др.—0,07% і інш. 21 дрэва—1,5%. З ігруш: панна 17 др. — 1,22%, ільлінка 13 др. 0,93%, сапяжанка 10 др. - 0,72%, бэра слуцкая 7 др.—0,50% і іншых 23 др.—1,65%.

Парадак пасадкі дрэў у садзе ўзросту 21 і 35 год квадратовы з напрамкам радоў з поўдня на поўнач у адлегласьці паміж дрэвамі і радамі 6,4×6,4 м. (9×9 арш.), а сад узросту 65 год на схіле пасаджаны ў беспарадку ў адлегласьці 4—5,5 мэтраў.

Схіл у садзе на паўднёвы і паўднёва-ўсходні бок. Для вызначэньня глебы ў садзе выкапаны дзьве ямы: першая ў садзе ўзросту 35 год на роўным месцы, ў якой паземы разьмеркаваны наступным чынам:

$A_1$—28 см. шэрага колеру перагнойны.

$A_2$—10 см. бялёсы з шэрымі зацёкамі.

B — 48 см. жоўтага колеру, пясок з бурымі праслойкамі паўтаравокіслаў.

C — нязьменная парода—сартаваныя пяскі.

У гэтай частцы саду глебавы тып слаба падзолісты, па мэханічнаму складу — супясь буйназярністая, — падглеба сартаваныя пяскі і на глыбіні 4 мэтр. залягаюць грунтовыя воды.

У садзе ўзросту 21 год плошчаю 4,9 гэкт. выкапана яма на паніжанай частцы, у якой паземы разьмеркаваны наступным чынам:

$A_1$—25 см. цёмна шэрага колеру—перагнойны.

$A_2$—8 см. бялёсы з шэрымі зацёкамі.

B—82 см. бялёсы з шызым адценьнем, а на глыбіні 115 см. залягаюць грунтовыя воды.

У гэтай частцы глебавы тып падзоліста балоцісты, а па мэханічнаму складу супясь буйназярністая. Неабходна заўважыць, што ўвесь гэты сад пасаджаны на ўзгорках, (ямы пры пасадцы некапаліся, а корні разьмяркоўваліся на глебе і прысыпаліся вораным паземам). Да 18 год сад рос і пладаносіў добра, а з 18 году сад не пачаў даваць належнага прыросту і ўраджаю, у дрэў пачалі засыхаць верхавіны.

Плошча саду ва ўзросьце 21—і 35 скарыстоўвалася прамежнымі расьлінамі (віка-аўсяная мешанка, бульба); апрацоўка ўжывалася пад апошнія расьліны, а сад на схіле ніякімі прамежнымі расьлінамі не скарыстоўваўся і шэраг год не заворваўся, ды і нават заворваць яго няма магчымасьці бо сад мае гушчыню лесу, апроч таго пасаджаны ў беспарадку.

Кожны год угнойваецца 3 гэкт. саду з разьліку 32,8 т. (2000 п.) на гэктар.

З шкоднікаў у садзе асабліва распаўсюджаны: кветаеды, пладажорка, баярышніца, златагузка, персьцянёвы і няпарны прадзільнікі і іншыя.

З грыбных хвароб: пладовая гніль, парша, мох, лішайнікі і іншыя.

Супроць шкоднікаў і грыбных хвароб вядзецца наступная барацьба: здыманьне і зьнішчэньне гнёзд златагузкі, баярышніцы, яечак персьцянёвага і няпарнага прадзільнікаў.

Па сонных вочках апырскваньне жалезным купарвасам, пасьля зацьвіценьня камбінаванай расчынай бардоскай вадкасьці з парыскай зеленьню. Праз год робіцца абчыстка штамбаў і абрэзка сухога гальля і пабелка саду вапнаю.

Выдаткі па дагляду за садам і барацьбе са шкоднікамі на адзін год складаюць каля 200 руб.

Ураджай саду за апошнія гады быў наступны:

1926 г.—21,8 тон. (1300 п.)
1927 г.—33,36 „ (2035 „ )
1928 г.— 8,32 „ ( 508 „ )

Усяго—63,48 тон.

У сярэднім на адзін год складае 21,16 тон або на адзін гэктар 2,33 тоны.

З сартоў саду заслугоўваюць увагі:

Антонаўка звычайная—сорт ураджайны, прамысловы і трывалы (у садзе 32,18% хворых, але яны хварэюць ад блізкасьці грунтовых вод. 142 дрэва ва ўзросьце 21 год з засохлымі верхавінамі).

Белы наліў—сорт ураджайны, трывалы; у садзе 7 дрэў ва ўзросьце 38 год і ўсе здаровыя. Плады маюць добры збыт і кошт (у гэтым годзе прададзены па 5 р. за 16 кг.

Штэцін чырвоны вельмі добры зімовы сорт;—у садзе два дрэвы і абодва здаровыя, плады маюць забясьпечаны збыт і кошт, захоўваюцца ў лёжцы да вясны і пазьней.

Пуцімка сорт ураджайны, прамысловы і трывалы—у садзе 5 дрэў і ўсе здаровыя, плады маюць добры збыт і кошт на мясцовым рынку.

Цынамонавае паласастае лічыцца вельмі добрым сортам; у садзе адно толькі дрэва ва ўзросьце 65 год, знаходзіцца паміж густога саду, на гэтым дрэве належнага ўраджаю ня было.

Валошка лічыцца добрым летня-васеньнім сортам. Дрэвы — ураджайныя, трывалыя; у садзе 20 дрэў і ўсе здаровыя.

Пэпін літоўскі лічыцца добрым сортам як вельмі ўраджайны прамысловы сорт. Дрэвы пачынаюць рана пладаносіць і пладаносяць багата. У садзе 18 дрэў узросту 21 год і ўсе хварэюць ад блізкасьці грунтовых вод.

З ігруш лічыцца добрым сортам бэра слуцкая,—ураджайны прамысловы сорт. Плады маюць добры збыт і кошт на рынку, вытрымліваюць здавальняюча транспарт. У садзе 7 дрэў узросту 21 год і ўсе хварэюць ад блізкасьці грунтовых вод.

Ільлінка лічыцца добрым летнім сортам як ураджайны, прамысловы і трывалы. У садзе 13 дрэў—узросту 35 год і ўсе здаровыя.

Іншыя сарты асаблівай увагі не заслугоўваюць.

Адзначым галоўныя асаблівасьці саду Пескапольля.

1. З сартоў адпавядаюць мясцовым умовам як глебава-кліматычным так і таварнаму напрамку садоўніцтва наступныя: антонаўка, штэцін чырвоны, пэпін літоўскі, пуцімка, белы наліў, цынамонавае паласастае, валошка, бэра слуцкая і ільлінка.

2. Заслона ў адлегласьці 6,4 і 8,53 м. ад першага раду адмоўна дзейнічае на разьвіцьцё пладовых дрэў; па-першае, дрэвы, якія мяжуюцца з заслонай горш разьвіты ў параўнаньні з іншымі дрэвамі саду, па-другое—маюць аднабокія кароны.

3 Заслона з лісьцёвых парод лічыцца добрым месцам для захоўваньня і распаўсюджваньня шкоднікаў саду.

4. Заслона павінна быць з хваёвых парод у адлегласьці 15 — 18 мэтраў.

5. Адлегласьць паміж дрэвамі 6,4 мэтры, а ў садзе на схіле 65 год 4—5 мэтраў.

Дрэвы ва ўзросьце 21 год у сярэднім маюць дыямэтр 7,14 мэтр Адлегласьць пры закладцы новых садоў у раёне вёскі Чорнае павінна быць 10—12 мэтр.

6. У садзе плошчаю 4,9 гэктара, а асабліва на нізіне дзе грунтовыя воды залегаюць на глыбіні 115 см. верхушкі дрэў засыхаюць.

7. Глебавы тып падзоліста-балоцісты (з яўным забалочваньнем) пры блізкасьці грунтовых вод 1,15 мэтр, ні ў якім разе ня можа быць скарыстаны для закладкі новых садоў, а асабліва на западзіне.

## Табліца трываласьці сартоў саду „Пескапольля“

| №№ | Назва сорту | Узрост | Па часу пасьпяваньня | Лік выпаўшых | | Усяго дрэў | Лік здаровых | | Хворых | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Абсал. | % | | Абсал. | % | Усяго | % | Марабоіны і апёкаў | Рак | Дуплянастасьць | Сухаваршынасьць | Механічныя папсаваньня | Грыбныя хваробы | Ветраломныя |
| 1 | Антонаўка зв. . | 21—45 | зім. | — | — | 1237 | 937 | 67,92 | 300 | 32,08 | 61 | 4 | 14 | 142 | 119 | — | — |
| 2 | Валошка . . . | 65 | вос.-л. | — | — | 20 | 20 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 3 | Пэпін Літоўскі | 21 | зім. | — | — | 15 | — | — | 15 | 100,00 | 3 | — | 1 | 11 | — | — | — |
| 4 | Бэлы наліў . . | 35 | лет. | — | — | 7 | 7 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Апорт звыч. . | „ | вос. | — | — | 8 | 8 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Цітаўка . . . | „ | „ | — | — | 5 | 3 | 60,00 | 2 | 40,00 | — | — | — | — | 2 | — | — |
| 7 | Залатароўка . | „ | „ | — | — | 5 | 5 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 8 | Пуцімка . . . | „ | „ | — | — | 5 | 5 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 9 | Аркад Чырвоны | „ | лет. | — | — | 3 | 3 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 10 | Чорнае дзерава | „ | „ | — | — | 3 | 3 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 11 | Штэцін чырв. . | „ | зім. | — | — | 2 | 2 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 12 | Цімон. паласат. | „ | лет. | — | — | 1 | 1 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 13 | Іншых . . . . | „ | „ | — | — | 15 | 15 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | **Ігрушы:** | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Панна . . . . | 65 | вос. | — | — | 17 | 17 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 2 | Ільлінка . . . | 35 | лет. | — | — | 13 | 13 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 3 | Сапяжанка . . | 65 | вос. | — | — | 10 | 10 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 4 | Бэра Слуцкая . | 35 | зім. | — | — | 7 | — | — | 7 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Безнасенка . . | 21 | вос. | — | — | 6 | 6 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Бакрот. Вільямс | „ | „ | — | — | 3 | 3 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 7 | Іншых . . . . | 35 | — | — | — | 14 | 13 | 92,85 | 1 | 7,15 | 1 | — | — | — | — | — | — |
| | Усяго . . | — | — | — | — | 1396 | 1078 | | 318 | | | | | | | | |

# Сад „Гарыводы“ Рэчыцкага Садова-Гародн. Т-ва

Знаходзіцца пры вёсцы „Гарыводы“ Перасьвяцкага с/с. у 7-мі кілёмэтрах ад гор. Рэчыцы.

Перададзены у арэнднае карыстаньне С.-Г. Т-ву з 1925 года.

З 1917 г. па 1925 г. кіраўніцтвам Дзяржаўн. зям. маём. сад здаваўся ў часовае арэнднае карыстаньне розным прыватным асобам.

Сад шляхам які вядзе з вёскі Гарыводы на вёску Перасьвятое, падзелен на два асобных сады: I—плошчаю 3,28 гэктара ўзросту 25 год, II-гі—плошчаю 3,82 гэктара ўзросту 55 год.

Усіх дрэў у садзе налічваецца 722, з іх яблынь 632 дрэва—87,67%, ігруш—90 дрэў—12,33%

Здаровых налічваецца 542 дрэў—75,07%; хворых 180 дрэў—24,93%. З сартоў у садзе сустракаецца наступныя: Антонаўка—404 дрэў—55,96%, Цітаўка—40 дрэў—5,54%. Штэцін-Чырвоны—31 дрэва—4,29%, Чырвоны аркад 20 дрэў—2,71%, Баравінка—16 дрэў—2,01%. Апорт звычайны—18 дрэў—2,49%, Пуцімка—15 дрэў—2,07% і іншых—88 дрэў—12,18%.

Ігрушы: Вінеўка—35 дрэў—4,85%, Ільлінка—15 дрэў—2,08%, таикаветка—12 дрэў—1,66%, Панна—8 дрэў—1,10%, Сапяжанка—5 дрэў—0,69%, безнасенка—5 дрэў—0,69% іншых 10 дрэў—1,38%.

Парадак пасадкі саду—квадратовы з напрамкам радоў з поўдня на поўнач з адлегласьцю паміж дрэвамі ў радзе і радамі—7,12 м. (10 арш.). Глебавы тып моцна падзолісты, па механічнаму складу верхняга пазему ад супясі да легкага суглінка. Глеба падсьцілаецца—цяжкімі суглінкамі, а ніжэй марэнай. Для вызначэньня глебы ў садзе выкапана яма, у яком паземы разьмяркоўваюцца наступна:

$A_1$—46 ($A_1$—28, $A_2$—18) перагнойны цемна шэрага-колеру;

$A_3$—41 см.—падзолісты—бялёсага колеру;

B—70 см. паўтаравокісны (да мацярынскай пароды не дакапана). Грунтовыя воды залягаюць на глыбіні 2,85 мэтр. і ніжэй. Нахіл у садзе паўночна-заходні мала выразны.

У 1925 г. пад малады сад узросту 33-34 год плошча 3,28 гэктара ўнесен гной з разьліку 19,7 тон на гэктар і пасаджана была бульба, а ў 1927 г. пад той самы сад ўнесена поўнае штучнае ўгнаеньне ў наступнай колькасьці на гэктар:

Супэрфасфату 384 клг. калійнай солі 288 клг. чылійскай салетры 96 клг.

А пад другі сад плошчаю, 3,82 гэктара ўзросту 40-45 г. на працягу шэрагу год ніякага ўгнаеньня ня ўжывалася. З 1925 году сад знаходзіўся пад папарам, апрацоўка якога была наступная:

У восень кожны год—у кастрычніку м-цы сад заворваўся, а ў вясну—барануецца. Другіх апрацовак у садзе ня ўжываецца.

Галоўнымі шкоднікамі саду лічацца: баярышніца, златагузка, мядзяніца, кветаеды, пярсьцёнкавы і няпарны прадзільнікі і інш. З грыбныб хвароб парша, мох і лішайнікі. Супроць пералічаных шкоднікаў і грыбных хвароб ў 1928 г. вялася наступная барацьба: баярышніцы і златагузкі—здыманьне і зьнішчэньне гнёзд у сакавіку м-цы пярсьцёнкавага і няпарнага прадзільнікаў — здыманьне і зьнішчэньне яечак. Мядзяніцы апырскваньне газава—мыльнай эмульсыяй, а супроць грыбных хвароб і некаторых шкоднікаў робіцца апырскваньне 10% расчынаю жалезнага купарвасу па сонных вочках, а пасьля цьвіценьня—бардоскаю вадкасьцю з парыскаю зеленьню.

У 1927 г. вялася наступная барацьба—здыманьне і зьнішэньне гнёзд і яечак (адзначаных шкоднікаў).

Апырскваньне па набухшых вочках вапнаю, пасля цьвіценьня бардоскаю вадкасьцю з парыскаю зеленьню і газава-мыльнай эмульсыяй. Выдаткі па барацьбе са шкоднікамі, апрацоўцы глебы і доглядам за садам складаюцца з наступнага:

I. Барацьба са шкоднікамі:

| | |
|---|---|
| а) здыманьне гнёзд і яечак . . . . . . . . . | 4 руб. 80 к. |
| в) апырскваньне жалезн. купарв. і матар'ял . | 110 руб. 50 к. |
| б) „ газавай эмульсыяй . . . . | |
| г) „ бардоск. вадк. з парыск зел. | |

II. Апрацоўка глебы:

| | |
|---|---|
| а) ворыва і баранаваньне . . . . . . . . . . . | 88 руб. |
| III. Догляд за садам | 88 руб. 40 к. |

Ураджай саду да 1928 г. С.-Г. т-вам здаваўся ў арэнду за плату па гадах:

| Ураджай | Арэндная плата |
|---|---|
| У 1925 г. 12,3 тон | 600 руб. |
| „ 1926 г. 29,5 „ | 1500 „ |
| „ 1927 г. 32,8 „ | 1510 „ |
| „ 1928 г. 29,5 „ | рэалізаваўся гаспадаркай с.-г. т-ва |
| Усяго 104,1 тон | 3,610 руб. |

У сярэднім ураджай за 4 гады на гэктар складае 3,7 тон.

Патрэбна адзначыць, што сад перададзены Садова-Гароднаму т-ву ў вельмі дрэнным становішчы: па-першае—у садзе вельмі былі распаўсюджаны шкоднікі, якія значны % ураджаю зьнішчалі і паніжалі яго якасьць, па-другое—сад быў без агарожы і шэраг год не ўгнойваўся, не араўся і па-трэцяе ў садзе была шмат сухога гальля, моху і лішайнікаў, якіх зараз амаль што няма. Наогул, дзякуючы добрым адносінам з боку кіраўніцтва Рэчыцкага Садова-Гароднага т-ва, барацьбе са шкоднікамі і апрацоўцы глебы саду ў працягу часу карыстаньня—Сад-Гародн. т-вам, сад прыняў зусім другі выгляд, больш лепшы ў параўнаньні з тым часам, калі сад знаходзіўся ў арэндным карыстаньні прыватных асоб.

Сад зьяўляецца паказальным, як з боку сталых і правідловых мер барцьбы са шкоднікамі, так і па догляду за садам наогул.

З сартоў саду лепшымі трэба лічыць:

Антоноўку звычайную, як сорт адпавядаючы мясцовым глебава-кліматычным умовам, ураджайны, прамысловы і трывалы, так у садзе—404 дрэвы, хворых 91 дрэў—22,25%, з іх 71 дрэва 78,0% мэханіч. папсаваны.

Другім добрым сортам лічыцца штэцін чырвоны, як сорт зімовы-плады доўга захоўваюцца ў лёжцы, маюць добра разьвітую карону, дыямэтр карон у сярэднім 7,11 мэтр, вышыня 5,5 мэтраў, узрост 25 год, тады ял дрэвы антонаўкі у тым самым узросьце маюць дыямэтр кароны 7,95 мэтр і вышынёю—5,85 мэтр, а таксама трываласьць яго значная, так з усіх 31 дрэва 5 дрэў хворых 18,13%. Добрым восенным сортам лічыцца пуцімка плады маюць добры збыт на мясцовым рынку, дорага расцэньваюцца, дрэвы—ураджайныя і трывалыя; усіх дрэў у садзе—15, з іх хворых 2 дрэвы—13,33%.

З ігруш добрым сортам лічыцца ільлінка, як летні сорт. Дрэвы трывалыя, маюць добра разьвітую карону, ураджайныя і маюць вельмі добры збыт і кошт на мясцовым рынку.

Астатнія сарты асаблівай увагі не заслугоўваюць, як сарты не таварныя ня трывалыя дрэннай якасьці і г. д,

Адзначым галоўныя асаблівасьці гэтага саду:

1. З сартоў саду адпавядаюць мясцовым умовам як глебава-кліматычным, так і таварнаму напрамку садоўніцтва наступныя: Антонаўка, штэцін-чырвоны, пуцімка і ільлінка.

2. Адлегласьць паміж дрэвамі 7,11 мэтраў, дыямэтр кароны ва ўзросьце 33-35 год дасягае у сярэднім 7,7 мэтр, а па асобных дрэў дасягае 8,5—9,5 мэтраў. Пры закладцы новых садоў у раёне вёскі Гарыводы і пры падобных глебава-кліматычных умовах адлегласьць павінна быць павялічана да 10-12 мэтраў.

3. Сад Гарыводы з'яўляецца паказальным для мясцовага сялянства, як з боку барацьбы са шкоднікамі так і з боку мерапрыемстваў па садоўніцтву.

### Табліца трываласьці сартоў саду „Гарыводы“.

| №№ | Назва сорту | Узрост | Па часу пасьпяваньня | Усяго дрэў | Лік здаровых | | Хворых | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Абс. | % % | Усяго | % % | Маразобоін | Апёк | Рак | Дуплянастасьць | Ветраломных | Сухаяршыннасьць | Мэхнічныя папсаваньні |
| 1 | Антонаўка зв. . . | 25—55 | зім. | 404 | 313 | 77,75 | 91 | 22,25 | — | 20 | — | — | — | — | 71 |
| 2 | Цітаўка . . . . . | „ | вос. | 40 | 25 | 62,5 | 15 | 37,5 | 2 | — | — | 4 | 2 | 3 | 4 |
| 3 | Штэцінскае чырв. | „ | зім. | 31 | 26 | 83,87 | 5 | 16,13 | — | — | — | — | — | — | 5 |
| 4 | Чырвоны Аркад . | „ | лет. | 20 | 20 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Апорт звычайны . | „ | вос. | 18 | 13 | 72,23 | 5 | 27,77 | 1 | — | — | — | 1 | — | 3 |
| 6 | Баравінка . . . . | „ | „ | 16 | 16 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 7 | Пуцімка . . . . . | „ | „ | 15 | 13 | 86,67 | 2 | 13,33 | 1 | — | — | — | — | — | 1 |
| 8 | Віргінское руж. . | „ | лет. | 8 | 8 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 9 | Іншых . . . . . . | — | — | 80 | 40 | 50,00 | 40 | 50,00 | — | — | — | — | — | — | — |
| | Ігрушы | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Вінёўка . . . . . | „ | лет. | 35 | 27 | 77,15 | 8 | 22,85 | 2 | — | — | 1 | — | 2 | 3 |
| 2 | Ільлінкі . . . . . | „ | „ | 15 | 11 | 73,34 | 4 | 26,66 | 1 | — | — | — | 3 | — | — |
| 3 | Танкаветка . . . | „ | „ | 12 | 9 | 75,00 | 3 | 22,00 | — | 1 | — | 1 | — | — | 1 |
| 4 | Панна . . . . . . | „ | вос. | 8 | 6 | 75,00 | 2 | 25,00 | 1 | — | — | — | — | 1 | — |
| 5 | Сапежанка . . . . | „ | „ | 5 | 5 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Безнасенка . . . | „ | „ | 5 | 4 | 80,00 | 1 | 20,00 | — | — | — | — | 1 | — | — |
| 7 | Іншых . . . . . . | — | — | 10 | 6 | 60,00 | 4 | 40,00 | — | — | — | — | — | — | — |
| | Разам . | — | — | 722 | 548 | 75,07 | 180 | 24,93 | 8 | 21 | — | 6 | 7 | 6 | 88 |

## Табліца абмераў саду „Гарывады“

| №№ па чарзе | Назва сорту | Узрост дрэва | Вышыня дрэва ў м. | Дыямэтр кароны ў м. | Суадносіны дыямэтру кароны да вышыні | Вышыня штамбу ў м. | Дыямэтр штамбу | Колькасьць галін |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Антонаўка зв. . . . | 33—34 | 5,70 | 7,85 | 1,38 | 1,40 | — | 4 |
| 2 | „ „ . . . | 33—34 | 5,30 | 7,65 | 1,44 | 1,10 | — | 4 |
| 3 | „ „ . . . | 33—34 | 5,6 | 7,64 | 1,36 | 1,23 | — | 5 |
| 4 | „ „ . . . | 33—34 | 7,03 | 8,11 | 1,15 | 1,40 | — | 6 |
| 5 | „ „ . . . | 33—34 | 5,6 | 8,50 | 1,52 | 1,55 | — | 6 |
| | Сярэдняе . . | — | 5,85 | 7,95 | 1,37 | 1,34 | — | 5,6 |
| 1 | Штэцін чырвоны . . | 33—34 | 5,7 | 8,25 | 1,45 | 0,80 | — | 4 |
| 2 | „ „ . . | 33—34 | 5,4 | 6,83 | 1,26 | 0,90 | — | 4 |
| 3 | „ „ . . | 33—34 | 5,4 | 7,01 | 1,30 | 0,90 | — | 3 |
| 4 | „ „ . . | 33—34 | 5,5 | 6,36 | 1,15 | 1,13 | — | 3 |
| | Сярэдняе . . | — | 5,5 | 7,11 | 1,29 | 0,93 | — | 3,5 |
| 1 | Іл́ьлінка . . . . . | 50 | 9,50 | 7,98 | 0,84 | 1,60 | — | 6 |
| 2 | | 50 | 9,0 | 8,25 | 0,92 | 1,78 | — | 3 |
| | Сярэдняе . . | — | 9,25 | 8,11 | 0,88 | 1,69 | — | 4,5 |

# Сад гр-на гор. Рэчыцы Рыдзеўскага В. А.

Знаходзіцца у гор. Рэчыцы ў 2-х вучастках: I плошчаю—1,19 гэктара—знаходзіцца пры сядзібе гаспадара - узросту 33 год; II вучастак—плошчаю 1,19 гэктара узросту — 30 год знаходзіцца ў адлегласьці ад сядзібы каля 1 кілём.—паміж будынкамі жыхароў г. Рэчыцы. Зараз у садзе налічваецца пладовых дрэў—360, з іх здаровых 345 дрэў—95,83%, хворых 15 дрэў—4,17%.

Па пародах: яблынь—342 дрэва—94,47%, ігруш—20 дрэў—5,53%. З сартоў у садзе сустракаюцца наступныя:

Антонаўка—313 дрэў—86,45%, Пэпін-Літоўскі—9 дрэў—2,49%, Цітаўка—6 др.—1,66%, Чорнае дрэва—4 шт.—1,10%, Малінаўка—2 дрэвы—0,55%, Пуцімка—2 дрэвы—0,55% і інш. 5 дрэў—1,38%.

Ігруш:—Панна—4 дрэвы—1,10%, Слуцкая бэра—2 дрэвы—0,55%, Сапяжанка—3 дрэвы—0,83%, Ільлінка—1 дрэва 0,28% і інш 8 дрэў.

Парадак пасадкі дрэў—квадратовы з напрамкам радоў з паўднёва-ўсходняга боку на паўночна-заходні—у адлегласьці паміж дрэвамі ў радзе і паміж радамі ў садзе—ўзросту 33 год—6,4 × 6,4 м. (9 × 9 арш.), а ўзросту 30 год - 7,11 × 7,11 мэтр (10 × 10 арш.).

Глебавы тып у садзе—падзолісты, па мэханічнаму складу верхняга пазёму—супясок—буйна зярністы. На глыбіні 3-х і ніжэй мэтраў залягае ледавіковы навал. Рэльеф усяго саду роўны.

Грунтовыя воды залягаюць на глыбіні—7,82 мэтра. У 1913 годзе пад увесь сад быў унесен гной з разьліку 40,26 тон на плошчу 2,38 гэктара і з таго часу да 1925 г. ніякіх угнаеньняў ня ўжывалася, а ў 1925 г. пад сад узросту 33 год плошчаю 1,19 гэктара унесен гной адразу 49,26 тон на гэктар і ў 1928 годзе на гэтую-ж самую частку паўторна ўнесены гной з такога самага разьліку.

А ў сад узросту 30 г. плошчаю 1,19 гэктара ўнесены гной толькі вясною 28 году—49,26 тон, а да гэтага часу з 1913 году сад гэтага вучастку ня ўгнойваўся. Сад усе апошнія гады знаходзіцца пад папарам, які апрацоўваецца наступна: вясною кожнага году уся плошча саду заворваецца на глыбіню $2^1/_2$—3 верш.

Галоўнымі шкоднікамі саду—лічацца: баярышніца, златагузка, пярсьцёнкавы і няпарны прадзільнікі, пладажорка, кведаед, мядзяніца, зімовая пядз. і інш.

Супроць шкоднікаў вядзецца наступная барацьба: здымальне і зьнішчэньнэ гнёзд баярышніцы і златагузкі, пярсьцёнкавага і няпарнага прадзільнікаў зьбіраньне і зьнішчэньне яечак, а супроць грыбных хвароб—моху, паршы і лішайнікаў і некаторых шкодных - робіцца апырскваньне раньняй вясною па сонных вочках—вапнаю, а ў час набуханьня вочак бардоскай вадкасьцю з парыскаю зеленьню, пасьля ападу пялёстак, зноў робіцца апырскваньне бардоскай вадкасьцю з парыскай зеляньню. Акрамя таго ўвесь сад апырскваецца два разы аднаю парыскаю зеленьню; першы раз праз два тыдні пасьля апырскваньня бардоскаю вадкасьцю і другі раз праз два тыдні пасьля першага апырскваньня.

Усе выдаткі па барацьбе са шкоднікамі наступныя:

| | | | |
|---|---|---|---|
| а) здыманьне гнёзд і яечак | 30 р. | — | |
| б) апырскваньне вапнаю | 50 „ | — | |
| в) „ бардоск. вадкасьцю з зеленьню | 33 „ | 10 | к. |
| г) „ „ II раз | 33 „ | 10 | „ |
| д) „ парыскаю зеленьню I і II раз | 35 „ | 64 | „ |
| Усяго | 181 р. | 84 | к. |

Выдаткі па догляду засадамі і апрацоўцы глебы:

| | |
|---|---|
| а) Догляд за садам | 24 руб. |
| б) Абкашваньне травы і накл. на штамбы | 8 „ |
| в) Узорваньне саду | 18 „ |
| Усяго | 50 руб. |

Сад у некаторыя гады здаваўся ў арэнду: так у 1927 г. сад узросту 30 г. плошчаю—1,19 г. быў здадзены ў арэнду за 500 руб., а другая частка саду скарыстоўвалася самім гаспадаром.

Ураджай саду ў 1927 годзе—23 тон, у 1926 ураджай--3,3 тон, у 1928 г.—320—480 клг.

Для пасадкі саду дрэвы атрымліваліся з прыватнага гадавальніку з гор. Бабруйску—2-х годкі кароністыя, пасадка вытваралася вясною ямным спосабам, ямы капалі ўвосень, пры пасадцы ўся яма запаўнялася ворным паземам. Пасьля пасадкі плошча саду выключна скарыстоўвалася гароднымі расьлінамі, пад якія ўносіўся гной, а асобна пад ствольныя кругі ўгнаеньне ня ўжывалася.

Неабходна адзначыць, што гароднымі расьлінамі плошча скарыстоўвалася толькі першыя 15 год пасьля пасадкі саду, далей, з прычыны зацяненьня, ніякіх культур ня было магчымасьці разводзіць, а зараз, калі сад мае ўзрост 30—33 годы, а адлегласьць паміж дрэвамі 6,4—7,11 м. то дыямэтр кароны у сярэднім, як сьведчыць табліца прамераў,—8,22 м.

Кароны сумежных дрэў зусім перапляліся і ва ўсім садзе няма магчымасьці знайсьці не зацямнёнага месца.

Лепшым сортам з яблынь зімовых у гэтым садзе, па думцы гаспадара, зьяўляецца: пэпін-літоўскі, мае добры збыт на рынку, даражэй другіх сартоў расцэньваецца, лепш захоўваецца ў ляжаньні за антонаўку, вельмі ураджайны, амаль, што ня кожны год пладаносіць, а таксама ападаемасьць яго—нязначная. Дрэвы у садзе гэтага сорту маюць добра разьвітыя кароны.

Ва ўзросьце 30—33 г. на 9 здаровых дрэў маецца два дрэвы хворых ці 22,22%. Гэтага сорту ўсіх дрэў было пасаджана 12, з якіх загінула 3 шт. ці 25%.

Другім добрым сортам лічыцца антонаўка звычайная—сорт трывалы, так з усіх 313 дрэў налічваецца хворых толькі 6 дрэў—1,91%.

З часу пасадкі загінула 4 дрэвы—1,25%.

Сорт ураджайны і таварны. З васеньніх сартоў патрэбна адзначыць пуцімку як сорт трывалы, ураджайны і на мясцовым рынку мае добры збыт—расцэньваецца вышэй антонаўкі.

З летніх сартоў гаспадар лічыць добрым сортам малінаўку.

З сартымэнту ігруш павінна стаяць на першым месцы—Бэра-слуцкая. У садзе маецца 2 дрэвы: адно ўзросту 33 гады, адно 20 г. і абодвы яны здаровыя, маюць добра разьвітую карону. Дрэва ўзросту 33 гады мае вышыню 12 мэтр., дыямэтр 8,55 метр.; дрэва ўзросту 20 год--вышыня яго 11,40 мэтр, дыямэтр 6,60 мэтр.

Плады—добра захўваюцца ў ляжаньні, вытрымліваюць транспарт, дорага расцэньваюцца на рынку, а таксама добра ўраджайны; так ў 1927 г. ураджай дрэва ўзросту 33 г. быў 560 клг., а з дрэва узросту 20 год—288 кілёграм.

З летніх сартоў ігруш лічыцца добрым сортам ільлінка як сорт значна трывалы, вельмі высока расьцэньваецца на рынку і мае добры попыт (спрос).

Іншыя сорты саду—як апорт звычайны, арабка, панна, сапяжанка і інш. асаблівай увагі не заслугоўваюць; па-першае плады дрэнна захоўваюцца і зьяўляюцца нетаварнымі, асабліва апорт звычайны і цітаўка.

Па-другое плады і дрэвы ў значнай меры паражаюцца грыбнымі хваробамі, а асабліва паршой (панна, сапяжанка), так за некалькі апошніх гадоў ураджай поўнасьцю паражоны паршою і пры такім выглядзе ураджай ні ў якім разе ня можа быць таварным, акрамя тагоападаньня паражоных пладоў значная і па-трэцяе некаторыя сарты нятрывалыя.

Адзначым галоўныя асаблівасьці саду гр-на Рыдзеўскага.

1. Сад мае прамысловы напрамак. Так з усіх 362 дрэў у садзе аднаго сорту—антонаўкі 313 дрэў—86,45%. Процант нетаварных сартоў, як апорту, цітаўкі, арабкі, панны, сапяжанкі і інш складае 35 дрэў—9,67% да агульнага ліку дрэў у садзе.

2. Адпавядаюць мясцовым умовам, як глебавым так і кліматычным, а таксама таварнаму напрамку садоўніцтва наступныя сарты: антонаўка, пэпін-літоўскі, пуцімка, бэра-слуцкая і ільлінка.

3. Адлегласьць паміж дрэвамі 6,40—7,11 мэтра.

Дыямэтр карон дрэў 30—33 год у сярэднім 8,07 м. Кароны асобных сартоў дасягаюць дыямэтру 9—10 мэтраў.

Пры закладцы новых садоў у раёне г. Рэчыцы і пры падобным глебава кліматычных умовах адлегласьць павінна быць павялічана да 10—12 мэтраў.

4. Дадзеная гаспадарка зьяўляецца чыста садовай і сад ня можа даць кожны год належнага ўраджаю; таму павялічэньне адлегласьці зьяўляецца яшчэ больш неабходным дзеля скарыстаньня плошчы саду прамежнымі гароднымі расьлінамі.

## Табліца трываласьці сартоў саду „Рыдзеўскага“

| № № | Назва сорту | Узрост | Па тэрміну пасьпеваньня | Лік выпаўшых дрэў: Абс. | Лік выпаўшых дрэў: % % | Усяго дрэў | Лік здаровых дрэў: Абс. | Лік здаровых дрэў: % % | Хворых: Усяго | Хворых: % % | Маразабоіны | Апёк | Рак | Дупляністасьць | Ветралом | Сухавяршыннасьць | Мэханічныя пашкоджаньні | Грыбных хвор. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Антонаўка зв. . | 30-33 | зім. | 4 | 1,26 | 313 | 307 | 98,08 | 6 | 1,92 | 6 | — | — | — | — | — | — | — |
| 2 | Пэпін літоўскі . | 30-33 | „ | 3 | 25 | 9 | 7 | 77,78 | 2 | 22,22 | 2 | — | — | — | — | — | — | — |
| 3 | Апорт звычайн. . | 30-33 | васен. | — | — | 1 | 1 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 4 | Чорнае дзерава . | 30-33 | летн. | – | — | 4 | 4 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Цітаўка . . . | 30-33 | васен. | — | — | 6 | 5 | 83,34 | 1 | 16,66 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Пуцімка . . . | 33 | „ | — | — | 2 | 2 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 7 | Арабка . . . | 33 | зім. | — | — | 1 | 1 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 8 | Малінаўка . . | 33 | летн. | — | — | 3 | 1 | 33,33 | 2 | 66,67 | — | — | 2 | — | — | — | — | — |
| 9 | Іншыя . . . . | 33 | „ | — | — | 3 | 3 | 100,0 | — | — | — | — | | — | — | — | — | — |
| | **Ігрушы** | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Панна . . . . | 30-33 | васен. | — | — | 4 | 4 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 2 | Банкротэс Вільямс | 30-33 | „ | — | — | 2 | 2 | 100,0 | – | — | - | — | — | — | – | — | — | — |
| 3 | Слуцкая бэра . | 33 | зім. | — | — | 2 | 2 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 4 | Душэс д’Ангулем. | 33 | „ | — | — | 1 | — | — | 1 | 100 | страдае ад марозу | | | | | | | |
| 5 | Сапяжанка . . | 33 | летн. | | | | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | | | васен. | | — | 3 | — | — | 3 | 100 | Усе параж. караед. і загнів. | | | | | | | |
| 6 | Ільлінка . . . | 33 | летн. | — | — | 1 | 1 | 100,0 | – | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 7 | Безнасенка . . | — | „ | — | — | 2 | 2 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 8 | Іншых . . . . | — | „ | — | — | 3 | 3 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Разам . | — | — | 7 | — | 360 | 345 | 95,83 | 15 | 4,17 | 8 | — | 2 | — | — | — | — | — |

### Табліца абмераў саду „Рыдзеўскага“

| №№ | Назва сорту | Узрост | Вышыня дрэва у м. | Дыямэтр кароны у м. | Стасунак дыямэтру да вышыні | Вышыня штамбу у м. | Дыямэтр штамбу у см | Колькасьць галін |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Антонаўка звыч. . . | 30 | 6,50 | 7,50 | 1,15 | 1,53 | — | 6 |
| 2 | „ „ . . | „ | 7,0 | 9,46 | 1,35 | 1,21 | — | 7 |
| 3 | „ „ . . | „ | 7,0 | 7,90 | 1,13 | 1,34 | — | 5 |
| 4 | „ „ . . | 33 | 10,90 | 7,85 | 0,72 | 1,20 | — | 4 |
| 5 | „ „ . . | „ | 10,50 | 8,30 | 0,79 | 0,80 | — | 4 |
| 6 | „ „ . . | „ | 10,50 | 8,50 | 0,8 | 0,75 | — | 4 |
| | Сярэдняе . . . | „ | 8,73 | 8,25 | 0,99 | 1,14 | — | 5 |
| 1 | Пэпін літоўскі . . . | 33 | 7,10 | 8,60 | 1,21 | 1,47 | — | 3 |
| 2 | „ „ . . . | „ | 7,0 | 7,40 | 1,05 | 1,54 | — | 3 |
| | Сярэдняе . . | „ | 7,05 | 8,0 | 1,13 | 1,52 | — | 3 |
| 1 | Бэра слуцкая . . . . | 33 | 12,0 | 8,55 | 0,71 | 1,40 | — | 3 |
| 2 | „ „ . . . | 20 | 11,40 | 6,60 | 0,58 | 1,10 | — | 3 |
| | Сярэдняе . . | „ | 11,7 | 7,58 | 0,64 | 1,25 | — | 3 |

# Сад „Заспа“ Дзяржаўнай зямельнай маёмасьці.

Знаходзіцца пры вёсцы Заспа Засьпенскага с/савету, у адлегласьці 15,5 кл. ад гор. Рэчыцы. З 1925 г. сад знаходзіцца ў арэндным карыстаньні Рэчыцкага Садова-Гароднага т-ва. Да рэвалюцыйнага часу сад быў абшарніцкім.

Плошча саду (8,72 гэкт.) падзелена дарогаю на два асобных сады; I-й плошчаю 4,36 гэкт., узросту 35 год, II-й—4,36 гэкт., узросту 30 і 20 г. (5,27 гэкт.—30 год і 1,09 гэкт.—20 год.).

Усяго дрэў у садзе 1620, з якіх здаровых 1493 або 92,16%, хворых 127 дрэў—7,86%.

Яблынь 1606 дрэў—99,13%, ігруш 14 дрэў—0,87%. З сартоў сустракаюцца наступныя:

Антонаўка 1428 дрэў—88,14%, апорт 25 др. 1,6%, цітаўка 20 др.—1.23%, пэпін літоўскі 15 дрэў—0,92%, валошка 15 др.—0,92%, наліў белы 15 др.—0,92%, цынамонавае паласастае 10 дрэў—0,62%, ранэт арлеанскі 5 др.—0,30%, ранэт залаты курскі 4 др.—0,30%, кальвіль белы 3 др.—0,18%, ранэт Лянзбэрга 2 др.—0,12% і іншых 63 др.—3,94%.

З ігруш: сапяжанка 5 др.—0,20%, ільлінка 3 др.—0,18%, бэра слуцкая 2 др.—0,12% і іншых 4 др.—0,24%.

Жываплоту сад не мае, а паўночная частка мяжуецца з будынкамі сялян вёскі Заспа, якія з таго боку з'яўляюцца заслонай для саду. Парадак пасадкі дрэў у садзе ўзросту 35 год плошчаю 4,36 г-ра шахматны ў адлегласьці паміж дрэвамі і радамі 6,4×6,4 мэтр (9×9 арш.), а ў астатняй частцы кватратовы—адлегласьцю 8,53×8,53 мэтр (12×12 арш.).

Для вызначэньня глебы ў садзе выкапаны дзьве ямы у якіх паземы разьмеркаваны наступным чынам:

$A_1$—31 см. цёмна-шэрага колеру;

$A_2$—33 см.—бялёсы.

Ніжэй залягае магутны пазем B паўтаравокісны, бурага колеру. Як сьведчыць апісаньне ям у садзе глебавы тып моцна падзолісты, па механічнаму складу лёгкі суглінак, а ў адной частцы плошчаю каля 1,5 г. супясочны. На глыбіні 1,5—2 мэтры залягае ледавікввы навал. Грунтовыя воды залягаюць на глыбіні 6 мэтраў.

З 1917 года да 1925 годзе сад зусім ня ўгнойваўся, а з часу передачы саду ў арэнднае карыстаньне Садова-Гароднаму т-ву.

У 1925 г. ўгноена 4,36 гэкт. поўным штучным угнаеньнем і 2,18 г. гноем з разьліку 33 тоны на гэктар.

Усе апошнія гады плошча пад садам знаходзіцца пад папарам з наступнаю апрацоўкаю: увосень робіцца зяблевая ўзворка на глыбіню 12—14 см., увесну паўторная ворыва і пасьля ворыва на такую-ж самую глыбіню бараньба.

З шкоднікаў у садзе сустракаюцца: баярышніца, златагузка, персьцянёвы і няпарны прадзільнікі, мядзяніца, кветаеды пладажорка і інш. З грыбных хвароб асабліва пладовая гніль і парша, у меншай колькасьці мох і лішаі. Кожны год ужываецца здыманьне і зьнішчэньне гнёзд баярышніцы і златагузкі, зьбіраньне і зьнішчэньня яечак прадзільнікаў, да набуханьня вочак сад апырскваюць 10% расчынаю жалезнага купарвасу у часу набуханьня вочак вапнаю і пасьля цьвіценьня камбінаванаю расчынаю бардоскай вадкасьці з парыскай зеленьню, у 27 г. і 26 г. увесь сад быў апырсканы газава-мыльнай эмульсыяй, апроч таго кожны год робіцца абрэзка гальля, абчыстка штамбаў.

Выдаткі па барацьбе са шкоднікамі догляду за садам за адзін год складаюць 400 руб. Дзякуючы добраму догляду, апрацоўцы глебы і асабліва добрай барацьбе са шкоднікамі, сад Заспа, як сьведчыць ніжэй прыведзеная табл. добра пладаносіць і лічыцца адным з лепшых садоў па ураджайнасьці Рэчыцкага раёну з часу передачы саду Садова-Гароднаму таварыству.

| Гады | Ураджай | арэндная плата |
|---|---|---|
| 1922 г. | 45,9 тон (2800 пуд.) | вед няма |
| 1923 г. | 24,50 „ (1500 „ | „ „ |
| 1924 г. | 82 „ (5000 „ | 5000 руб. |

У 1925 годзе ураджай поўнасьцю зьнішчаны шкоднікамі, гадалі на 10000 пуд.

| | | |
|---|---|---|
| 1926 г. | 132 тон ( 8050 пуд.) | 3600 руб. |
| 1927 г. | 204,75 „ (12490 „ ) | 15,200 „ |
| 1928 г. | 34,6 „ ( 2110 „ ) | скарыстоў. сад Гар.—т-ва. |

Ураджай саду за апошнія тры гады складае 371,35 тон (22650 п.)· ў сярэднім на адзін год 123,78 тон (7560 п.) або на адзін гэктар 14,19 т, (865 пуд.).

З сартоў саду заслугоўваюць увагі:

1. Антонаўка—сорт ураджайны, прамысловы, трывалы, у садзе хворых—4,21%.

2. Пэпін-літоўскі—сорт вельмі ўраджайны рана пачынае пладаносіць і амаль што кожны год пладаносіць, плады маюць забясьпечаны збыт і кошт на рынку.

3. Ранэт залаты курскі—вельмі добры зімовы сорт—ураджайны, трывалы; плады добра захоўваюцца ў лежцы, маюць забясьпечаны збыт і кошт на рынку, плады амаль што не паражаюцца паршою.

4. Ранэт Лянзбэрга вельмі добры зімовы сорт, ураджайны, плады добра захоўваюцца ў лежцы, маюць забясьпечаны збыт і кошт на рынку У садзе 2 дрэвы з іх адно хварэе ад маразабоіны.

5. Штрэйфлінг вельмі добры васеньні сорт, ураджайны, прамысловы, плады маюць вельмі добры збыт і кошт,—у садзе адно дрэва здаровае.

6. Наліў белы—добры летні сорт, ураджайны, мае добры збыт і кошт на рынку; у садзе 15 дрэў з іх 4 хворых або 26,67%.

7. Цынамонавае паласастае лічыцца добрым летнім сортам. У садзе 10 др. і ўсе пасаджаны на супясочнай глебе, дзякуючы чаму яны значна горш разьвіты у параўнаньні з іншымі сартамі саду, а таксама значны % хворых.

8. З летня-восенных сартоў добрым лічыцца валошка, сорт ураджайны, трывалы, плады маюць добры попыт на мясцовым рынку. У садзе ёсьць кальваль белы, кальваль жоўты зімовы, ранэт алеанскі і добры селянін, але яны ў 28 г. не пладанасілі і наогул ва ўмовах гэтага саду над імі ня было сталога назіраньня. З ігруш добрай лічыцца вельмі ураджайнай—бэра слуцкая, у садзе два дрэвы і абодва здаровыя плады маюць добры збыт і кошт.

З летніх ільлінка—ураджайны, трывалы сорт, плады маюць вельмі добры збыт і кошт на мясцовым рынку.

Астатнія сарты асаблівай увагі не заслугоўваюць.

Адзначым галоўныя асаблівасьці гэтага саду:

1. З сартоў саду адпавядаюць мясцовым умовам, як глебава-кліматычным так і таварнаму напрамку садоўніцтва наступныя:

антонаўка, ранэт залаты курскі, пэпін літоўскі, ранэт лянзбэрга, штрэйфлінг, наліў белы, цынамонавае паласастае, бэра слуцкая і ільлінка.

2. Адлегласьць паміж дрэвамі 6,4+6,4 мэтр і 7,11×7,11 мэтр нязназная, кароны дрэў у узросьце 35 год і нават 30 год зусім перапляліся і маюць у сярэднім дыямэтр 8,42 мэтр, а асобныя дрэвы дасягаюць да 9,8 мэтр.

Пры закладцы новых садоў у раёне вёскі Заспа адлегласьць павінна быць 10—12 мэтраў.

3. Сад на супясі горш разьвіты ў параўнаньні з садам на суглінку.

---

## Табліца трываласьці сартоў саду „Заспа“

| №№ | Назва сорту | Узрост | Па часу пасьпяваньня | Лік выпаўшых |  | Усяго дрэў | Лік здаровых |  | Хворых |  |  |  |  |  |  |  |  |  |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
|  |  |  |  | Абсал. | % |  | Абсал. | % | Усяго | % | Марозабоіны | Апёк | Рак | Дупляпастасьць | Ветралом | Сухавяршынасьць | Механічныя пашкоджаньні | Грыбн. хвароб |
| 1 | Антонаўка зв. | 20—35 | зім. | — | — | 1428 | 1368 | 95,79 | 60 | 4,21 | 26 | 11 | — | — | – | 4 | 19 | — |
| 2 | Апорт зв. | 20—30 | ас. | — | — | 25 | 15 | 60 | 10 | 40 | 2 | — |  | 8 | — | — | — | — |
| 3 | Цітаўка | 20—30 | „ | — | — | 20 | 10 | 50 | 10 | 50 | — | — | — | 4 | — | — | 6 | — |
| 4 | Пэпін літоўскі | 20 | зім. | — | — | 15 | 10 | 66,67 | 5 | 33,33 | 1 | — | — | — | — | — | 4 | — |
| 5 | Валошка | 30 | ас. | — | — | 15 | 12 | 75 | 3 | 25 | 3 | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Наліў белы | 20 | лет. | — | — | 15 | 11 | 73,33 | 4 | 26,67 | 2 | — | — | — | — | 1 | 1 | — |
| 7 | Цынам. палас. | 20—30 | ас. | — | — | 10 | 5 | 50 | 5 | 50 | 2 | 1 | — | — | — | — | 3 | — |
| 8 | Ранэт арлеан. | 20—30 | зім. | — | — | 5 | 3 | 60 | 2 | 40 | 2 | — | — | — | — | — | — | — |
| 9 | „ зал. курскі | 20—30 | „ | — | — | 5 | 4 | 80 | 1 | 20 | 1 | — | — | — | — | — | — | — |
| 10 | Кальвіль белы | 30 | ас. | — | — | 3 | 3 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 11 | Ранэт Лянзбэр. | 20—30 | зім. | — | — | 2 | 1 | 50 | 1 | 50 | 1 | — | — | — | — | — | — | — |
| 12 | Добры селянін | 30 | „ | — | — | 2 | 2 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 13 | Кальв.жоўт.зім. | 20—30 | „ | — | — | 2 | — | — | 2 | 100 | 2 | — | — | — | — | — | — | — |
| 14 | Штрэйфлінг | 35 | ас. | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 15 | Іншых | 20—35 | — | — | — | 58 | 37 | — | 21 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 1 | Сапяжанка | 30 | ас. | — | — | 5 | 5 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 2 | Ільлінка | 30 | лет. | — | — | 3 | 2 | 66,67 | 1 | 33,33 | 1 | — | — | — | — | — | — | — |
| 3 | Банкр. Вільгэл. | 30 | ас. | — | — | 2 | — | — | 2 | 100 | 2 | — | — | — | — | — | — | — |
| 4 | Бэра слуцкая | 30 | зім. | — | — | 2 | 2 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Іншых | 30 | — | — | — | 2 | 2 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
|  | Усяго | — | — | — | — | 1620 | 1493 | 92,16 | 127 | 7,86 | 45 | 12 | — | 12 | — | 5 | 33 | — |

# Сад Салтанаўка с.-г. арцелі „Ланд-Арбет“.

Знаходзіцца пры вёсцы Салтанава, Салтанаўскага с/савету, у адлегласьці ад гор. Рэчыцы 13 клм.

Плошча саду 34,88 гэктара. Па ўзросту пасадкі падзяляецца на тры часткі: 1) 4,36 гэктара узросту 45 год, 2) 16,35 гэктара узросту 35 год і 3) 14,17 гэктара—25 год.

На час дасьледваньня ў садзе налічвалася ўсіх дрэў 2724; з іх здаровых 2149 дрэў—78,89%, хворых 575 др.—21,11%, яблынь 2664 др.—97,8%, ігруш 60 дрэў—2,2%.

З сартоў у садзе сустракаюцца наступныя: антонаўка 1664 дрэва—61,09%, пэпін-літоўскі 294 дрэва—10,79%, штэцін чырвоны 68 дрэў—2,50%, апорт звычайны 40 дрэў—1,58%, цітаўка 37 дрэў—1,36%, баравінка 29 дрэў—1,06%, чорнае дзерава 27 др.—0,99%, малінаўка 26 др.—0,96%, пуцімка 23 др.—0,84%, белы наліў 10 др—0,37%, варгуль асен. 11 др.—0,40%, штрэйфлінг 9 дрэў—0,34%, ранэт Лянзберга 2 дрэвы—0,07%, бойкэн 2 др.—0,07% і іншых 410 дрэў—15,05%.

З ігруш: сапяжанка 7 др.—0,25%, безнасенка 7 др.—0,25% лясная прыгожая 7 др.—0,25%, ільлінка 5 др.—0,18%, бэры слуцкай 4 дрэвы—0,15%, душэс д' Ангулем 1 др.—0,04% і іншых 29 др.—1,06%.

Адлегласьць паміж дрэвамі і радамі ў садзе ўзросту 45—35 год 6,4×6,4 мэтры (9×9 арш.), а ў садзе ўзросту 25 год 8,53×8,53 мэтр (12×12 арш.).

Глебавы тып—слаба падзолісты, па мэханічнаму складу супясь буйна-зярністая, падглеба—сартаваныя глыбокія пяскі.

Грунтовыя воды залягаюць на глыбіні 20 мэтр. Схіл у садзе на паўднёвы і паўднёва-усходні бок, заўважана, што на ўзгорках дрэвы значна горш разьвіты ў параўнаньні з дрэвамі на роўнай частцы і нізіне.

Кожны год угнойваецца шостая частка плошчы саду з разьлікy (1400 п.) 23 тон на гэктар гной кладуць вясною і заворваецца на глыбіню 12—14 сант., а наогул плошча саду прамежнымі расьлінамі не скарыстоўвалася, а ўвосень кожны год робіцца зяблевае ворыва на глыбіню 16 см.

Галоўнымі шкоднікамі саду лічацца: кветаеды, баярышніца, златагузка, персьцянёвы і няпарны прадзільнікі, мядзяніца, пладажорка і інш. З грыбных хвароб значна распаўсюджаны: парша, пладовая гніль, мша. і лішаі.

Супроць шкоднікаў і грыбных хвароб вядзецца наступная барацьба, кожны год здымаюць і зьнішчаюць гнёзды баярышніцы і златагузкі: яечкі няпарнага і персьцянёвага прадзільнікаў і робяць два апырскваньне. I жалезным купарвасам па сонных вочках і II камбінаванай расчынай бардоскай вадкасьці з парыскай зеленьню, пасьля цвіценьня—праз год робіцца абчыстка і абмазка штамбу, абчыстка сучча робіцца кожны год.

Сад з часу існаваньня арцелі скарыстоўваецца самой гаспадаркі, а ўраджай за апошнія гады быў наступны:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1925 | год | (13000) | 213,11 | тон |
| 1926 | „ | ( 7000) | 114,76 | „ |
| 1927 | „ | ( 8000) | 131,15 | „ |
| 1928 | „ | ( 2000) | 32,8 | „ |

У сярэднім на адзін год (складае 7500 пуд.) 132 тоны ці на адзін гэктар 3,52 тон. (215 п.).

З сартоў саду заслугоўваюць увагі:

Антонаўка звычайная—сорт ураджайны, прамысловы, трывалы, у садзе 13% хворых. Штэцін чырвоны—вельмі добры зімовы сорт прамысловы, плады ляжаць да вясны і пазьней; у садзе 68 дрэў з іх хворых 20 шт. ці 29,42%.

Штрэйфлінг—вельмі добры восенны сорт, прамысловы ураджайны і трывалы, у садзе 9 дрэў і ўсе здаровыя, маюць добра разьвітыя кароны; дыямэтр у сярэднім 6,74 вышыня 3,99 мэтр.

Ранэт Лянзбэрга—вельмі добры зімовы сорт ураджайны, прамысловы, плады маюць забясьпечаны збыт і кошт; у садзе два дрэвы і абодва здаровыя.

Бойкэн—вельмі добры зімовы сорт, ураджайны, прамысловы, плады




*Мал. 22*

маюць запясьпечаны збыт і кошт, ляжаць да вясны і пазьней, але на жаль у садзе зараз два дрэвы і абодва хварэюць ад апёку.

Пэпін-літоўскі—лічыцца добрым зімовым сортам, дрэвы рана пачынаюць пладаносіць і амаль што кожны год, плады маюць добры збыт і кошт. У садзе 294 др. ва узросьце 25 год; з іх хворых 150 ці 51,02%. Белы наліў лічыцца добрым летнім сортам; ураджайны, прамысловы і трывалы; ў садзе 10 дрэў з іх хворых—2 дрэвы ці 20,0%.

Пуцімка лічыцца добрым восенным сортам; ураджайны, прамысловы і трывалы, у садзе 23 дрэвы з іх хворых 3 др.—13,05%.

Ранэта шэрага франц. ў садзе 5 дрэў і ўсе хворыя. Ранэта Сімірэнка ў садзе 3 дрэвы, ўсе здаровыя, але плады вельмі малыя.

З ігруш заслугоўваюць увагі:

Бэра слуцкая—вельмі добры зімовы сорт, ураджайны, прамысловы трывалы; у садзе 4 дрэвы і ўсе здаровыя, плады маюць забясьпечаны збыт і кошт.

Дзюшэс д'Ангулем лічыцца добрым сортам, у садзе 1 дрэва і тое здаровае. Плады маюць вельмі добры попыт і кошт.

Лясная прыгожая—добры восенна-зімовы сорт вельмі ўраджайны—дрэвы пачынаюць рана пладаносіць. Плады, дзякуючы добраму смаку і добрай афарбоўцы, маюць вельмі добры попыт і кошт.

Ільлінка лічыцца добрым летнім сортам; ураджайны, трывалы і прамысловы.

Іншыя сарты асаблівай увагі не заслугоўваюць, як малакаштоўныя, нетаварныя і нятрывалыя, як ад грыбных хвароб так і наогул.

Адзначым галоўныя асаблівасьці саду Салтанаўка.

1. З сартоў саду адпавядаюць умовам раёну, як глебава-кліматычным так і таварнаму напрамку садоўніцтва, наступныя сарты: 1. антонаўка камянічка, 2. Штэцін чырвоны, 3. Ранэт лянзберга, 4. Штрэйфлінг. 5. пэпін-літоўскі. 6. Пуцімка. 7. Белы наліў. 8. Бэра слуцкая. 9. Лясная прыгожая. 10. Душэс д'Ангулем і ільлінка.

2. Адлегласьць паміж дрэвамі 6,4×6,4 і 8,53 м. а дрэвы ва ўзросьце 25 год маюць дыямэтр 6,74 мэтры (для штрэйфлінга) і кроны дрэў ужо перапляліся, значыцца пры закладцы новых садоў, пры такіх сама глебава-кліматычных умовах адлегласьць павінна быць павялічана да 10—12 мэтраў.

## Табліца трываласьці сартоў саду арцелі „Ланд-Арбет“

| №№ па чарзе | Назва сорту | Узрост | Па часу пасьпяваньня | Лік выпаўш. дрэў | | Усяго дрэў | Лік здаровых дрэў | | Хворых | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Абсал. | % | | Абсал. | % | Усяго | % | Маразабоін | Апёк | Рак | Дупленастасьць | Ветраломных | Сухаверхіх | Мэханічнага папсаваньня | Грыбн. хвароб |
| 1 | Антонаўка зв. . | 25-45 | зім. | 450 | 21,28 | 1664 | 1454 | 87 | 210 | 13 | — | 210 | — | — | — | — | — | — |
| 2 | Пэпін літоўскі . | 25 | „ | 300 | 50,5 | 294 | 144 | 48,98 | 150 | 51,02 | — | 150 | — | — | — | — | — | — |
| 3 | Штэцін чырвоны | 35 | „ | 5 | 6,85 | 68 | 48 | 70,58 | 20 | 29,42 | 20 | — | — | — | — | — | — | — |
| 4 | Апорт звыч. . | 45 | ас. | 3 | 6,66 | 40 | 35 | 87,5 | 5 | 12,5 | — | — | - | — | — | 5 | — | — |
| 5 | Цітаўка . . . | 35 | „ | --. | — | 37 | 29 | 78,30 | 8 | 21,70 | — | — | — | 8 | — | — | — | — |
| 6 | Баравінка . . | 45 | „ | — | — | 29 | 25 | 86,20 | 4 | 13,80 | — | — | - | 4 | — | — | — | — |
| 7 | Чорнае дзерава . | 25 | „ | 15 | 35 | 27 | 23 | 85,18 | 4 | 14,82 | — | — | — | — | — | 4 | — | — |
| 8 | Малінаўка . . | 45 | лет. | — | — | 26 | 23 | 88,46 | 3 | 11,54 | — | — | — | — | 3 | — | — | — |
| 9 | Пуцімка . . . | 35 | ас. | 15 | 39,48 | 23 | 20 | 86,95 | 3 | 13,05 | — | — | 3 | — | — | — | — | - |
| 10 | Белы наліў . . | 25 | лет. | 10 | 50 | 10 | 8 | 80 | 2 | 20 | — | 2 | — | — | — | — | — | — |
| 11 | Варгуль асен. | 25 | ас. | 2 | 15,15 | 11 | 11 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 12 | Штрэйфлінг . . | 25 | „ | 2 | 18,18 | 9 | 9 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 13 | Ранэт шэры фран. | 25 | зім. | 10 | 66,67 | 5 | — | — | 5 | 100 | — | — | — | — | — | 5 | — | — |
| 14 | Валошка . . . | 45 | ас. | 10 | 71,44 | 4 | 4 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 15 | Ранэт Сімірэнка . | 25 | зім. | 15 | 83,33 | 3 | 3 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 16 | Ранэт Лянзбэрга . | 35 | „ | 5 | 71,43 | 2 | 2 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 17 | Бойкен . . | 25 | „ | 8 | 80 | 2 | — | — | 2 | 100 | — | 2 | — | — | — | — | — | — |
| 18 | Іншых . . . . | 25-45 | — | 600 | 59,49 | 410 | 264 | — | 146 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 1 | Сапежанка . . | 45 | ас. | — | — | 7 | 7 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 2 | Безнасенка . . | 45 | „ | — | — | 7 | 7 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 3 | Лясная прыгожая | 25 | зім. | — | — | 7 | 3 | 42,85 | 4 | 57,15 | 4 | — | — | — | — | — | — | — |
| 4 | Ільлінка . . . | 45 | лет. | — | — | 5 | 5 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Вінёўка . . . | 45 | ас. | — | — | 4 | 4 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Бэра слуцкая . | 45 | зім. | — | — | 4 | 4 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 7 | Душэс д’Ангуле | 25 | „ | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 8 | Калебаса Плоцк. | 25 | ас. | — | — | 1 | — | — | 1 | 100 | 1 | — | — | — | — | — | — | — |
| 9 | Іншых . . . . | 35 | — | — | — | 24 | 16 | 66,7 | 8 | 33,3 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Усяго . . | — | — | 1450 | — | 2724 | 2149 | 78,89 | 575 | 21,11 | 25 | 364 | 3 | 12 | 3 | 14 | — | — |

# Сад савецкай гасп-кі „Вастраглядьі" Брагінскага раёну.

Знаходзіцца ў адлегласьці ад мястэчка Брагіна 8 клм. і ад чыгуначнай ст. Хойнікі 18 клм.

Плошча пад садам—36,23 гэктары падзелена трактам, які ідзе ад г. Рэчыцы на ст. Хойнікі, на два асобных сады: адзін так званы „малады" сад, плошчаю 19,66 гэкт. узросту—19 год.



Мал 23. Балаган у садзе „Вастраглядьі".

Другі сад—„стары" падзяляецца ліпаваю прысадаю на дзьве часткі: 1-я частка плошчаю 5,46 гэктара прылягае да будынку саўгасу — узростам 60 год і II-я плошчаю 11.11 гэктара 35 год.

Усяго дрэў у садзе 3793; з іх яблынь 3552 дрэў — 93,65% ад агульнага ліку пладовых дрэў у садзе вішань 100 дрэў—2,64%, ігруш 81 дрэва—2.13%, сьліў 50 дрэў—1,32% і чарэшань 10 дрэў—0,26.

Здаровых у садзе дрэў 3479—92,21%; хворых 314 дрэў — 7,79%. У садзе сустракаюцца наступныя сарты: Антонаўка. звычайная 2551 дрэва —70,21; антонаўка белая—200 дрэў—5,5%; пэпін-літоўскі 165 дрэў—4,59%, баравінка 50 дрэў—1,37%, чорнае дзерава 50 дрэў—1,37%, шклянка 55 дрэў —1,51%, белы наліў 30 дрэў 0,82, валошка 35 дрэў—0,96%, штэцін чырвоны 24 дрэва—0,66%, пуцімка 20 дрэў—0,55%, апорт звычайны 16 дрэў—0,44%, аркад белы 15 дрэў—0,41%, ранэт вялікі касельскі 12 дрэў—0,33%, ранэт канадзкі 7 дрэў—0,19%, кандзіль сінап 6 дрэў — 0,16%, чырвоны жалязняк 4 дрэва — 0,11%, бойкэн 4 дрэвы — 0,11%, ранэт ангельскі 2 дрэвы—0,05%, пэпін Рыбстона 1 дрэва 0,03% і іншых 296 дрэў 8,14%.

Ігрушы: лясная прыгожая 10 дрэў 0,27%, сапяжанка 8 дрэў—0,22%, картафлянка 4 дрэвы—0,11%, панна 3 дрэвы—0,08%, бергамот васеньні— 2 дрэвы 0,05%.

Адлегласьць паміж дрэвамі розных узростаў розная, так—у садзе ўзросту 60 год, плошчаю 5,46 гэктара 6,4×6,4 м. (9×9 арш.).

II—узросту 38 год плошчаю 11,11 гэктара 7,11×7,11 м. (10×10 ар.).

III—узросту 19 год плошчаю 19,66 гэктара 8,53×8,53 (12×12 ар.).

Парадак пасадкі дрэў ва ўсім садзе—квадратовы з напрамкам радоў з поўдня на поўнач.

Абарону сад мае яловую з усходняга і паўночнага боку ў адлегласьці ад крайняга раду саду 12,8 м. У паўднёвай частцы саду знаходзіцца парк з розных парод, які ў сваю чаргу зьяўляецца абаронай саду. Заходняя частка маладога саду абароны ніякай не мае. Для вызначэньня глебы саду выкапаны дзьве ямы: адна ў маладым садзе. Глебавыя паземы разьмяркованы: пазем А—25 см. — сьветла-шэрага колеру, перагнойны; $A_2$ — 12 см. бялёсы з шэрымі зацёкамі, але нявыразны; В — 85 см. паўтаравокісны бурага колеру. Ніжэй залягае пазем С—нязьменная парода, якая складаецца з сартаваных, зьвязных пяскоў. У маладым садзе глебавы тып—падзолісты, па мэханічнаму складу верхняга пазёму—лёгкі суглінак і толькі 1 гэктар па мэханічнаму складу супясок.

Другая яма для вызначэньня глебы старога саду выкапана па сярэдзіне плошчы саду, на роўным месцы якой глебавыя пазёмы разьмяркоўваюцца:

А—45 см. цёмна-шэрага колеру, перагнойны;

$A_2$—11 см. бялёсага колеру з цёмнымі праслойкамі, таксама добра нявыразны;

В—44 см.—бурага колеру, нявыразны (пазем паўтаравокісны) ніжэй залягае пазем С — нязьменная парода, па мэханічнаму складу — пяскі зьвязныя. Па глыбіні 2 мэтраў. Ледавіковага навалу ўстанавіць не ўдалося. Глебавы тып у старым садзе, як сьведчыць апісаньне ямы падзолісты, па мэханічнаму складу верхняга пазему лёгкі суглінак.

Трэба адзначыць, што ў маладым садзе на супясі, дрэвы значна горш разьвітыя і значны % згінуўшых. Значны % згінуўшых яшчэ можна тлумачыць і тым, што як раз на гэтай супясі былі пасаджаны сарты ранэтаў, якія згінулі ад марозу поўнасьцю. У садзе назіраецца малы сьхіл з усходняга боку на заходні.

У старым садзе ёсьць два іспадка, плошча якіх прыблізна 140 кв. мэтраў.

Стары сад апошнія гады знаходзіцца пад папарам, апрацоўка наступная: у восень кожны год уся плошча заворваецца на глыбіню прыблізна $2^1/_2$ вярш., а ў весну барануецца і акрамя таго ўжываецца пульхненьне прыствольных кругоў, плошча маладога саду ў 1928 г. напалову занята бульбаю. а на астатней частцы ўжываецца апрацоўка, як і ў старым садзе. У 1928 годзе да раставаньня сьнегу ў сад быў вывезен гной і раскіданы пад прыствольныя кругі з разьлікам на кожнае дрэва 16—20 кг., а пасьля растаяньня сьнегу гной быў закопаны лапатамі, іншых угнаеньняў у садзе ня ўжываецца

Галоўнымі шкоднікамі саду зьяўляюцца: кветкаеды, пладажорка, баярышніца, пярсьцёнкавы і няпарны прадвільнікі і інш.

З грыбных хвароб у садзе распаўсюджана значна парша, а ў старым садзе—мох і лішайнікі, у маладым апошнія (мох і лішайнікі) сустракаюцца рэдка. Супроць усіх пералічаных шкоднікаў і грыбных хвароб вядзецца наступная барацьба:

У 1928 годзе ўжывалася толькі адно апырскваньне бардоскаю вад-

касьцю з парыскаю зеленьню; здыманьне гнёзд баярышніцы, златагузкі яечак пярсьцёнкавага і няпарнага прадзільнікаў.

У сакавіку і красавіку ўсе дрэвы былі пабелены вапнаю.

Недастатковы догляд і барацьба са шкоднікамі тлумачыцца тым, што ў вясеньні час, ў пэрыяд самай важнай працы ў садзе, быў скарочан садоўнік. У 1927 г. зроблена тры апырскваньні: адно да набуханьня вочак жалезным купарвасам, другое праз 10 дзён пасьля першага—вапнаю і трэцьцяе перад самым цьвяценьнем — камбінаванаю расчынаю бардоскай вадкасьці з парыскай зеленьню. Апроч таго здымаліся гнёзды баярышніцы, златагузкі і яечкі пярсьцёнкавага і няпарнага прадзільнікаў.



Мал. *24.* Бульба у міжраузях саду „Вастрагляды" (адлегласьць паміж дрэвамі 8.53×8,53 м.)

Усе прыбыткі, выдаткі і ўраджай за шэраг год наступныя:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| За 1925 г. | прыбыткаў=11807 р. | выд-к—10430 р. | урадж. | 147,54 т. |
| „ 1926 „ | „ 6000 „ | „ 2628 „ | „ | 197 тон |
| „ 1927 „ | „ 15000 „ | „ 2511 „ | „ | 328 „ |
| „ 1928 „ | „ — „ | „ — „ | „ | 114,75 т. |
| | | Усяго | . . . . . | 787,19 т. |

У 1925 і 28 гады сад скарыстоўваўся самой гаспадаркай, у 1926—27 г. сад здаваўся ў арэнду за плату па гадох, як паказана вышэй.

Ураджай саду за 4 гады (1925—26—27 і 28) складае 787,19 тон на адзін год у сярэднім даводзіцца 196,8 тон ці 5,43 тон на гэктар. Як можна заўважыць з вышэй прыведзенай табліцы ў 1925 г. усе выдаткі па саду вылічаюцца ў суме 10430 р., што складае 88,34% ад усяго атрыманага прыбытку па саду.

У 1926 г.—2628 р. ці 43,8%

У 1927 г.—выдаткі 2511 руб.—16,62%.

Значны процант прыбыткаў ад саду ідзе на выдаткі па гаспадарцы і нават у 1925 годзе, калі значная сума выдаткаў страчана на пастройку плоту вакол саду, выдаткі складаюць толькі 88,34% ад прыбыткаў за гэты год.

Для закладкі маладога саду сажанцы выпісваліся з гадавальніку Сімірэнкі (двух-трохгодкі кароністыя). Сад садзілі ўвосень і ўвесну ямным спосабам без ранейшай падрыхтоўкі ям, пры пасадцы ўся яма запаўнялася ворным паземам. Пасьля закладкі саду плошча скарыстоўвалася гароднымі расьлінамі і корань-клубняплодамі.

З сартоў саду заслугоўваюць увагі: 1. Антонаўка звычайная, як сорт трывалы, ураджайны, прамысловы і г. д. З усіх 2551 дрэў у садзе хворых 81 др. 3,17%.

2. Ранэт вялікі касэльскі — сорт зімовы, добра захоўваецца ў



*Мал. 25.* Р—т Касельскі. Дыам. кароны 7,3 м. Вышыня 4 м. Узрост 19 г. („Вострагляды")

лёжцы, мае добры збыт, форму і смак, дорага расцэньваецца. Дрэвы маюць добра разьвітыя кароны, так: у ўзросьце 19 год дыямэтр у сярэднім 7,10 мэтр., вышыня 3,70 мэтр., адносіны дыямэтру да вышыні 1,92. Форма дрэва прыплюснатая, кулістая.

3. Штэцін чырвоны вельмі добры зімовы сорт, у лёжцы захоўваецца да вясны і пазьней, мае добры збыт — дорага расцэньваецца на рынку, зьяўляецца прамысловым сортам. Дрэвы яго маюць добра разьвітыя кароны, у сярэднім дыямэтр кароны 7,96 мэтр., вышыня 5,88 м., а таксама сорт трывалы. Усіх дрэў у садзе 22 з іх хворых 2—9,09%—(1 мэханічна папсутае і 1 сухаватае).

4. Ранэт лянэбэрга — вельмі ўраджайны сорт, плады звыш сярэдняй велічыні прыплюснута-кулістай формы, з сонечнага боку з румянцам, пакрыты васкавым налётам, сорт дэсэртны, добра захоўваецца ў лёжцы, але з 3 дрэў у садзе ўсе трэба лічыць хворымі ад недагляду




*Мал. 26*

ў пару значнага пладанашэньня (паломаны суччa ад цяжкасьці пладоў) дыямэтр кароны 6,20 м. вышыня 4,7 мэтр.

5. Чырвоны жалязьняк (мал. 27) зімовы сорт, вельмі ўраджайны так: у 28 годзе ўраджайнасьць на 1 дрэва прыблізна 240 кг., плады ніжэй сярэдняй вялічыні, маюць інтэнсыўна-чырвоны румянец з белымі кропкамі па ўсяму плоду, дысэртны сорт, у лёжцы захоўваецца да вясны і пазьней.

Дрэвы маюць добра разьвітыя кароны дыямэтрам 7,92 м., вышыня 5,05 м. і з усіх 4 дрэў узросту 35 год 1 хварэе, мэханічна папсавана.

6. Пэпін літоўскі лічыцца добрым сортам, вельмі ўраджайны, амаль што ня кожны год пладаносіць, дрэвы маюць добра разьвітую карону, дыямэтрам у сярэднім 6,4 мэтр, вышыня 4,88 мэтр., узросту 19 год; плады маюць добры збыт, дорага расцэньваюцца і добра захоўваюцца ў лёжцы, трываласьць гэтага сорту належная з 165 дрэў, хворых 23 дрэвы—13,93%.

7. Ранэт ангельскі лічыцца добрым ураджайным сортам, плады добра захоўваюцца ў лёжцы, у садзе 2 дрэвы—здаровыя.

8. Ранэт шэры французкі зусім не выяўлены ў садзе, адно дрэва здаровае, мае добра разьвітую карону ў дыямэтры 8,4 м. вышыня 7 мэтр., плады сярэдняй і ніжэй сярэдняй вялічыні, поўнасьцю пакрытыя ржаўчынай, у лёжцы набываюць залацісты водцень.



*Мал. 27.* Чырвоны жалязняк узр. 19 г. Дыям. кароны 6,10 м. Вышыня 45 м. (Вастрагляды)



*Мал. 28.* Р—т шэры францускі узр. 19 г. Дыям. кароны 7,90 м. Вышыня 6.10 м. (Вастрагляды)

У гэтым годзе ўраджай каля 240 кг., плады добра захоўваюцца ў лёжцы.

9. З васеньніх сартоў у садзе лічыцца пуцімка, як ураджайны, трывалы сорт, з 20 дрэў усе здаровыя, плады маюць добры збыт на мясцовым рынку.

10. Белы наліў лічыцца лепшым летнім сортам; дрэвы маюць добра разьвітыя кароны, добра пладаносяць—плады маюць добры збыт на рынку.

11. Кандэіль сінап, маецца ў садзе 6 дрэў і ўсе здаровыя.

13 Бойкэна у садзе 4 дрэвы, але ўсе маюць вельмі дрэнны выгляд; з 4 дрэў—2 зусім хворыя, а астатнія два недаразьвітыя, 35 гадовыя дрэвы маюць выгляд 10-ці гадовых.

Астатнія сарты зьяўляюцца малакаштоўнымі, нетаварнымі, нятрывалымі да грыбных хвароб і шкоднікаў, дрэнна захоўваюцца, ня вытрымліваюць транспарта і г. д.

З ігруш у садзе заслугоўваюць увагі: лясная прыгожая — вельмі ўраджайны сорт; рана пачынае пладанасіць і амаль, што ня кожны год; плады вышэй сярэдняй вялічыні; моцна трымаюцца на дрэве, лічацца васеньня-зімовым дэсэртным сортам. У садзе 10 дрэў з іх хворых 2 — 20% у ўзросьце 19 год ад мэханічных папсаваньняў. Іншыя сарты ігруш у садзе асаблівай увагі не заслугоўваюць.

Адзначым галоўныя асаблівасьці саду „Вастрагляды“:

1 З сартымэнту саду адпавядаюць мясцовым умовам, як глебавым, кліматычным, так і таварнаму напрамку садоўніцтва наступныя: антонаўка, штэцін чырвоны, ранэт касельскі, пэпін літоўскі, ранэт лянзберга, пуцімка, белы наліў, чырвоны жалезьняк, з ігруш — лясная прыгожая.

2. Адлегласьць паміж дрэвамі 6,9—7,11 мэтр. і нават 8,53 м. бязумоўна нязначная, напрыклад дрэвы ў узросьце 35 год маюць у сярэднім дыямэтр 7,68 м., а асобныя дасягаюць да 10—12 мэтр.

Патрэбна лічыць, што адлегласьць павінна быць ня менш, як 10—12 м.

3. З боку яловай абароны ў адлегласьці 12,8 мэтр. у ўзросьце 19 год адмоўнага ўплыву не назіраецца, а з боку ліпавай алеі ў адлегласьці 6,4 і 7,11 м. назіраецца зацяненьне бліжэйшых дрэў (дрэвы не даразьвіты і кароны дрэў маюць аднабокасьць у бок ад абароны).

4. Парк з лісьцёвых парод і ліпавая абарона зьяўляецца добрым месцам для захоўваньня і распаўсюджваньня шкоднікаў.

Абарона павінна быць з хваёвых парод у адлегласьці ад саду 15—18 мэтраў.

## Табліца трываласьці сартоў саду саўгасу „Вастрагляды“

| №№ | Назва сорту | Узрост | Па часу паспяваньня | Усяго дрэў | Лік здаровых дрэў | | Хворыя | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Абс. | % | Усяго | % | Маразаб. | Апёк | Рак | Дуплянас. | Ветралом | Сухаверш. | Механіч. папсав. | Грыбков |
| 1 | Антонаўка звыч. | -- | зім. | 2551 | 2470 | 96,78 | 81 | 3,22 | 10 | 6 | — | 8 | 11 | 15 | 31 | — |
| 2 | „ белая | 19 | асен. | 200 | 154 | 77 | 46 | 23 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 3 | Пэпін-Літоўскі . | 19—35 | зім. | 165 | 142 | 86,07 | 23 | 13,94 | — | — | — | 4 | — | — | — | — |
| 4 | Шклянка . . | 19—35 | „ | 55 | 25 | 45,45 | 30 | 54,55 | — | — | — | — | — | 30 | — | — |
| 5 | Чорнае дзерава . | 35 | летн. | 50 | 49 | 98 | 1 | 2 | — | — | — | — | — | 1 | — | — |
| 6 | Баравінка . | 19—35 | „ | 50 | 43 | 86 | 7 | 14 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 7 | Валошка . . | 19—35 | асен. | 35 | 32 | 91,43 | 3 | 8,57 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 8 | Белы наліў . • | 35 | летн. | 30 | 22 | 73,33 | 8 | 26,67 | 4 | — | — | — | — | — | 4 | — |
| 9 | Штэцін чырвоны | 19 | зім. | 24 | 22 | 91,66 | 2 | 8,34 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 10 | Пуцімка . · | 19 | асен. | 20 | 20 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 11 | Апортэ вычайны | 35 | „ | 16 | 14 | 87,5 | 2 | 12,5 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 12 | Аркад белы . . | 35 | летн. | 15 | 13 | 86,66 | 2 | 13,34 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 13 | Ранэт вялікі Касел. | 19 | зім. | 12 | 7 | 58,33 | 5 | 41,67 | 3 | — | 2 | — | — | 1 | — | — |
| 14 | Жоўтае благарод. | 35 | „ | 7 | 6 | 85,71 | 1 | 14,29 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 15 | Кандзіл-Сінап . | 19 | асен. | 6 | 6 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 16 | Чырвоны Залезняк | 19 | „ | 4 | 3 | 75 | 1 | 25 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 17 | Бойкэн . . . | 19—35 | зім. | 4 | 3 | 75 | 1 | 25 | 1 | — | — | — | — | — | — | — |
| 18 | Ранэт Лянзбэрга | 19 | „ | 3 | — | — | 3 | 100 | — | — | — | — | — | — | 3 | — |
| 19 | „ Ангельскі | 19 | „ | 2 | 2 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 20 | „ Баўмана . | 19 | „ | 2 | 1 | 50 | 1 | 50 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 21 | Астрах. чырвонае | 19 | летн. | 2 | 2 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 22 | Р-т шэры франц. | 19 | зім. | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 23 | Іншых сартоў . | 19—35 | — | 305 | — | — | - | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | ігрушы | | | | | | | | | | | | | | | |
| 24 | Лясная прыгожая | 19 | зім. | 10 | 8 | 80 | 2 | 20 | — | — | — | — | — | — | 2 | — |
| 25 | Сапяжанка . . | 60 | летн. | 8 | 7 | 87,5 | 1 | 12,5 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 26 | Картафлянка . | 19—24 | „ | 4 | 4 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |

| №№ | Назва сорту | Узрост | Па часу пасьпяван. | Усяго дрэў | Лік здаровых Абс. | Лік здаровых % | Хворыя Усяго | Хворыя % | Маразаб. | Апёк | Рак | Дупляняст. | Сухаврш. | Ветралом. | Механіч. папасав. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 27 | Бляум-Бака . . | 19—20 | вас. | 4 | — | -- | 4 | 100 | (антонаў агонь) | | | | | | |
| 28 | Панна . . . | 60 | летн. | 3 | 3 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 29 | Бергамот вос . | 60 | вос. | 2 | 2 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 30 | Іншых сартоў . | — | — | 50 | — | — | 22 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | **Сьлівы** | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Венгэрка . . | 16 | вос. | 39 | 35 | 89,74 | 4 | 10,26 | — | — | — | — | — | — | — |
| 2 | Меробэлі . . | 16 | „ | 4 | 4 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 3 | Ранклод чорны . | 16 | „ | 4 | 4 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 4 | „ зялёны . | 16 | „ | 4 | 3 | 75 | 1 | 25 | — | — | — | — | — | — | — |
| | **Вішні** | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Уладзімірская . | 16 | летн. | 50 | 50 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 2 | Мясцовая вішня . | 16 | „ | 50 | 50 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | **Чарэшні** | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Жоўтая . . . | 16 | „ | 4 | 4 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 2 | Чорная . . . | 16 | „ | 2 | 1 | 50 | 1 | 50 | — | — | — | — | — | — | — |
| 4 | Іншыя чарэшня . | 16 | „ | 4 | 4 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Усяго . . . | — | — | 3794 | 3479 | 92,21 | 314 | 7,79 | — | — | — | — | — | — | — |

## Табліца абмераў саду саўг. „Вастрагляды“

| №№ па чарзе | Назва сорту | Узрост дрэў | Вышыня дрэва ў м. | Дыямэтр кароны ў м. | Суадносіны дыямэтру да вышыні | Вышыня штамбу ў м. | Дыямэтр штамбу ў мт. | Колькасьць галін | Дыямэтр галін ў м. | Кут адыходу галін |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Штэцін чырвоны . . | 19 | 6,40 | 8,30 | 1,29 | 1,05 | 0,26 | 6 | 0,09 | 80° |
| 2 | „ . . | 19 | 5,50 | 7,90 | 1,44 | 1,00 | 0,25 | 5 | 0,10 | 60° |
| 3 | „ . . | 19 | 6,00 | 7,85 | 1,31 | 0,90 | 0,24 | 5 | 0,09 | 55° |
| 4 | „ . . | 19 | 5,60 | 7,80 | 1,39 | 0,90 | 0,24 | 4 | 0,11 | 65° |
| | Сярэдняе . . | — | 5,87 | 7,96 | 1,35 | 0,96 | 0,25 | 5 | 0,10 | — |
| 1 | Антонаўка зв. . . . | 19 | 5,50 | 7,00 | 1,27 | 0,90 | 0,19 | 6 | 0,07 | 65° |
| 2 | „ . . . . | 19 | 5,50 | 6,80 | 1,24 | 0,85 | 0,19 | 4 | 0,09 | 55° |
| 3 | „ . . . . | 19 | 5,58 | 7,30 | 1,31 | 0,80 | 0,18 | 6 | 0,07 | 50° |
| 4 | „ . . . . | 19 | 5,40 | 6,90 | 1,28 | 0,87 | 0,18 | 4 | 0,06 | 45° |
| | Сярэдняе . . | — | 5,49 | 7,00 | 1,28 | 0,86 | 0,185 | 5 | 0,075 | — |
| 1 | Ранэт Лянзбэрга . . | 19 | 4,70 | 6,20 | 1,31 | 0,85 | 2,00 | 2 | 0,13 | 80° |
| 2 | „ . . | 19 | часьць дрэва ад ураджаю абломлена | | | | | | | |
| 1 | Ранэт вялікі касельскі | 19 | 4,00 | 7,30 | 1,82 | 0,85 | 2,00 | 4 | 0,11 | 60° |
| 2 | „ | 19 | 3,40 | 6,90 | 2,03 | 1,00 | 2,00 | 5 | 0,09 | 80° |
| | Сярэдняе . . | — | 3,70 | 7,10 | 1,925 | 0,925 | 2,00 | 4 | 0,10 | — |
| 1 | Пэпін літоўскі . . . | 19 | 4,20 | 6,50 | 1,55 | 1,20 | — | 3 | — | 80° |
| 2 | „ . . . | 19 | 4,50 | 6,10 | 1,40 | 1,85 | — | 2 | — | 30° |
| 3 | „ . . . | 19 | 5,40 | 6,90 | 1,29 | 1,30 | — | 3 | — | 80° |
| 4 | „ . . . | 19 | 5,40 | 6,10 | 1,13 | 1,20 | — | 3 | — | 65° |
| | Сярэдняе . . | — | 4,87 | 6,40 | 1,31 | 1,39 | — | 3 | — | — |

# Сад Савецкай гаспадаркі „Стрэлічаў“.

Ад мяст. Хойнікі адлягае на 7,5 клм., ад станцыі Хойнікі 9,6 клм. У садзе плошчаю 7,61 гэкт. узросту 35 год зараз налічваецца ўсіх дрэў—1296 шт., з іх яблынь, 1208 др.—93,21%, ігруш 68 дрэў—5,25%; сьліў 20 дрэў—1,54%; здаровых дрэў у садзе 1117 - 84,53%, хворых 194 дрэва—15,47%. Сартымэнт саду наступны: Антонаўка звычайная 630 дрэў 49,37%; Антонаўка белая 180 дрэў—14,10%; Грушоўка маскоўская 50 дрэў—3,92%; Апорт звычайны 32 дрэў—2,51%; Валошка 28 дрэў—2,19%; Цітаўка 22 дрэва—1,72%; пуцімка 15 дрэў—1,17%; пэпін Ангельскі 13—1,02%, чорнае дерева 3—0,23%; Штэцін Чырвоны 2—0,16%, Ранэт-курскі залаты 2—0,16%, іншых 231—18,12%.

Ігрушы: Сапяжанка 20 дрэў—1,57%, панна 10 дрэў—0,78%, ільлінка 2 дрэвы—0,16%, іншых 36—2,82%.

Апрача 7,61 гэктараў старога саду ў 1924 г. пасаджана 365 дрэў антонаўкі на плошчы 3,26 г., а зараз налічваецца 350 дрэў—95,89%, згінула 15 дрэў—4,11% з астатніх хворых 15 дрэў—4,28.

Неабходна заўважыць, што на гэтай самай плошчы, дзе ў 1924 г. пасаджан сад, раней быў таксама сад, але ён увесь згінуў.

Гэты сад заложан на нізіне, якая мяжуецца з балотам. Для вызначэньня глебы і прычыны выпаду дрэў у гэтай частцы саду выкапана яма ў якой паземы разьмяркаваны наступна: $A_0$—35 см.—цёмна-шэрага колеру (наносны пазем); $A_1$—5 см. сьветла-шэры: $A_2$—15 см. белёсы; B—25 см.—бялёсы з шызым адценьнем з уключэньнем закіснага залеза, а на глыбіні 130 см. залягаюць грунтовыя воды. Як сьведчыць апісаньне ямы, глебавы тып у дадзенай частцы саду падзолісты-балоцісты, па мэханічнаму складу верхняга пазему лёгкі суглінак. Цікава адзначыць, што ўжо ў паземе $A_2$ карэньне дрэў пачынаюць загніваць і адміраць. Для вызначэньня глебы старога саду выкапана яма на схіле у якой паземы разьмяркоўваюцца: *$A_1$-45 см.* цёмна-шэры; $A_2$—15 см. бялёсы с праслойка цёмна-шэрага колеру. Пазем ападзолены, ніжэй залягае пазем B (з уключэньнем паўтаравокіслаў)—значнай таўшчыні. На глыбіні 2 мэтра залягае ледавіковы навал. Глебавы тып у гэтым садзе падзолісты,—па мэханічнаму складу лёгкі суглінак.

Грунтовыя воды ў старым садзе залягаюць на глыбіні 2,66 м. Стары сад угнойваецца ў тры гады па частках (у кожны год угнойваецца $^1/_3$ частка плошчы саду) з разьлікам 98,4 тон на гэктар. Амаль што ня кожны год у садзе сеюць віка-аўсяную мешанку, пад якую апрацоўваюць глебу наступным чынам: увосень сад заворваюць на глыбіню 2,5—3 вяршка, а вясной пасьля пасеву віка-аўсянай мешанкі барануюць.

Малады сад увесь угнойваецца праз два гады на 3-ці разам з такім самым разьлікам.

Севазварот у гэтай частцы саду ўжываецца наступны: 1-шы год капуста і гуркі па сьвежаму гною, 2 год корня-клубняплоды і 3 год—віка-аўсяная мешанка. У садзе распаўсюджаны наступныя шкоднікі: кветаеды, пярсьцёнкавы і няпарны прадзільнікі баярышніца, златагузка, зімовая пядзеніца і інш. З грыбных хвароб значна па ўсяму саду распаўсюджаны: парша, мох і лішайнікі.

Супроць некаторы шкоднікаў і грыбных хвароб сад кожны год 2 разы апырскваюць; жалезным купарвасом (800 грам на вядро) да пачатку распушчаньня пучкоў; пасьля цьвяценьня камбінаванаю рашчынаю—бардоскай вадкасьці з парыскай зеленьню. Яечкі пярсьцёнкавага і няпарнага шаўкапрадаў, баярышніцы і златагузкі, кожны год у сакавіку м-цы здымаюць і зьнішчаюць. Таксама ў гэты час кожны год здымаюць і зьнішчаюць гнёзды. Усе выдаткі за 1928 г. па барацьбе са шкоднікамі і дагляду саду наступныя:

1. Апырскваньне I . . . . . . . . 100 руб.

Пашло 30 працоўных дзён, 10 працоўных дзён коняў і 320 клг жалезнага купарвасу.

2. Апырскваньне II . . . . . . . 75 руб.
3. Здыманьне гнёзд і яечак . . . 36 руб.
4. Абрэзка . . . . . . . . . . . 75 руб.
5. Пабелка . . . . . . . . . . . 30 руб.

Усяго . . . . . . . . . . 316 руб.

Сад з 1925 году здаецца ў арэнду за наступную плату па гадох.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1925 г.—2000 руб. | ураджай | 82 | тон. |
| 1926 г.— — — | „ | 65,6 | „ |
| 1927 г.— — — | „ | 98,36 | „ |
| 1928 г.—3800 руб. | „ | 23 | „ |
| Разам . . . . | | 268,96 | „ |

Ураджай за апошнія 4 гады складае 268,96 тон, а ў сярэднім на год 67,24 т., на адзін гэктар у сярэднім за 4 гады 8,8 т. Высокая ўраджайнасьць гэтага саду тлумачыцца тым, што сад увесь час значна угнойваецца, а таксама ўжываецца добры дагляд за садам.

Стары сад заложан у 1892-3 г. г. 6,40 × 6,40 мэтра (9 × 9 арш.), а малады ў 1924 г. 8,53 × 11,38 мэтр. (12 × 16 арш.).

Парадак пасадкі дрэў у старым садзе квадратовы, а ў маладым шахматны, з напрамкам радоў з усходняга боку на заходні. Увесь сад мае нязначны пахіл на паўднёвы бок. Стары сад мае ліпавую агарожу з усіх бакоў у адлегласьці ад бліжэйшага раду сада 6,4 м. (9 арш.). Заўважана, што дрэвы першага раду саду значна горш разьвіты ў параўнаньні з іншымі дрэвамі, а таксама назіраецца аднабокасьць карон каля загароды. Па назіраньню мясцовага садавода ліпавая загарода зьяўляецца месцам для распаўсюджваньня шкоднікаў саду.

Дрэвы для пасадкі саду атрымоўваліся з гадавальніку Гедэмана, двух трох-годкі, каронiстыя. Сад садзілі вясной ямным спосабам, а ямы падрыхтоўвалі ўвосень 1 м. × 50 с.

Пры пасадцы яма поўнасьцю запаўнялася ворным паземам, а угнаеньне ня ўжывалася. Пасьля пасадкі плошча скарыстоўвалася гароднымі расьлінамі, корня-клубняплодамі і віка-аўсянай мешанкай, а гной уносіўся пад гародныя расьліны. Пасьля пасадкі маладога саду (з 1924 году) ніякага фармаваньня карон ня ўжываецца, а таму кароны маладых дрэў маюць выгляд густых мяцёлак.

З сартоў саду добра сябе адчуваюць пры дадзеных глеба-кліматычных умовах і заслугоўваюць увагі наступныя: *Антонаўка*, як сорт ураджайны, прамысловы і трывалы; так: з 630 дрэў хворых 40—6,34%; *Штэцін*-чырвоны-добры зімовы сорт, плады захоўваюцца да вясны і пазьней маюць добры збыт і кошт на рынку. У садзе ўсяго 2 дрэвы і абадва здаровыя. *З васеньніх* сартоў лічыцца добрым пуцімка як ураджайны, прамысловы сорт, плады пуцімкі звычайна прадаюцца дорога на мясцовым рынку. Усяго дрэў у садзе 15 і ўсе здаровыя. З летнявасеньніх сартоў лічацца добрым валошка, як сорт даволі ураджайны, мае добры збыт на рынку, трывалы; усіх у садзе 28 дрэў і ўсе здаровыя. А іншыя сарты як апорт, цітаўка зьяўляюцца нетаварнымі, нятрывалымі, так: у садзе ўсіх дрэў апорта 32 з іх хворых 6—18,75%; цітаўкі 22 дрэвы хворых 9—40,9%. Таксама ранэт курскі у садзе 2 дрэвы і абодва хвараюць ад апекаў.

З ігруш добрым летнім сартам лічыцца ільлінка, а панна і сапяжанка ўсе апошнія гады поўнасьцю паражаюцца паршой, з прычыны чага ніякай таварнай каштоўнасьці ня маюць.

Адзначым галоўныя асаблівасьці саду саўгасу Стрэлічаў.

1. Нізіна дзе заложан малады сад, зьяўляецца неадпаведным месцам для саду. З прычыны блізкасьці грунтовых вод 120-130 см. сад пасаджаны раней увесь згінуў, сад пасаджаны ў 1924 годзе таксама згінула 15 дрэў і 15 дрэў хворых, а пры дасьледаваньні глебы заўважана, што карэнчыкі дрэў на глыбіні 40-55 см. пачынаюць загнойвацца і адміраць.

2. З сартоў саду адпавядаюць мясцовым умовам як глебава-кліматычным так і таварнаму напрамку садоўніцтва наступныя:

1. Антонаўка, 2. Штэцін-Чырвоны, 3. Пуцімка, 4. Валошка, 5. Ільлінка.

3. Ліпа лічыцца дрэннай загародай, а асабліва ў адлегласьці ад першага раду на 6,4 м. (9 арш.). На ліпе, як лісьцёвай пародзе, захоўваюцца шкоднікі, якія зьяўляюцца шкоднікамі саду. У адлегласьці 6.4 мэтра ліпа заглушвае дрэвы.

4. *Агарожа* павінна быць з хваёвых парод у адлегласьці 15-18 мэтр.

5. З прычыны таго, што у садзе дыямэтр дрэў у ўзросьце 35 год ужо дасягае 7,2-7,6 м., адлегласьць павінна быць ня менш як 10 мэтр., што мы і назіраем у заложаным маладым садзе 8,53 × 11,38 мэт. (12 × 16 арш.) у шахматным парадку.

## Табліца трываласьці сартоў саду саўгасу „Стрэлічаў“

| №№ па чарзе | Назва сорту | Узрост | Па тэрміну пасьпаваньня | Лік выпаўшых дрэў Абс. | Лік выпаўшых дрэў 0/0 | Усяго дрэў | Лік здаровых дрэў Абс. | Лік здаровых дрэў 0/0 | Хворых: Усяго хворых | 0/0 | Маразабоін | Апёк | Рак | Дупляnastасьць | Ветралом | Сухавяршын-насьць | Механічныя папсаваньні | Грыбн. хвар. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Антонаўка зв. | 35 | зім. | — | — | 630 | 590 | 93,65 | 40 | 6,35 | 35 | — | — | — | — | — | 5 | — |
| 2 | Антонаўка кам. | 4 | „ | 15 | 4,29 | 350 | 335 | 95,71 | 15 | 4,29 | пагрызен мышамі і блізк. грунт. вод | | | | | | | |
| 3 | Антонаўка белая | 35 | вас. | — | — | 180 | 136 | 75,55 | 44 | 24,45 | 21 | — | — | — | 4 | — | 11 | 8 |
| 4 | Грушоўка маск. | 35 | лет. | — | — | 50 | 42 | 84 | 8 | 16 | 3 | — | — | — | — | — | 5 | — |
| 5 | Валошка | 35 | васен | — | — | 38 | 38 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Апорт звыч. | 35 | „ | — | — | 32 | 26 | 81,25 | 6 | 8,75 | — | — | — | — | — | — | 6 | — |
| 7 | Цітаўка | 35 | „ | — | — | 22 | 13 | 59,09 | 9 | 40,91 | трухлявасьць дрэў і разо-драньня | | | | | | | |
| 8 | Пуцімка | 35 | „ | — | — | 15 | 15 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 9 | Пэпін ангельскі | 10 | зім. | — | — | 13 | 13 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 10 | Чорнае дзерава | 35 | лет. | — | — | 3 | 3 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 11 | Штэцінскае чырв. | 35 | зім. | — | — | 2 | 2 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 12 | Р-т залаты курскі | 35 | „ | — | — | 2 | — | — | 2 | 100 | 2 | — | — | — | — | — | — | — |
| 13 | Іншых сартоў | „ | — | — | — | 231 | 176 | 76,18 | 55 | 23,82 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | **Ігрушы** | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Сапяжанка | 35 | лет. | — | — | 20 | 17 | 85 | 3 | 15 | 2 | — | — | — | — | 1 | — | — |
| 2 | Панна | 35 | „ | — | — | 10 | 7 | 70 | 3 | 30 | 1 | — | — | — | — | — | 2 | — |
| 3 | Ільлінка | 35 | „ | — | — | 2 | 1 | 50 | 1 | 50 | — | — | — | — | 1 | — | — | — |
| 4 | Іншых сартоў | 35 | — | — | — | 36 | 28 | 77,78 | 8 | 22,22 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | **Сьлівы** | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Ранклод зял. | 5 | васен | — | — | 10 | 10 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 2 | Вэнгерка | 5 | „ | — | — | 5 | 5 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 3 | Ранклод Діальран | 5 | „ | — | — | 5 | 5 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 1 | Марегел раньні | 5 | „ | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 2 | Коран Гумбэрт | 5 | „ | — | — | 1 | 1 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Усяго | — | — | — | — | 1658 | 1464 | — | 194 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |

# Сад Хойнічскага агранамічнага пункту.

Знаходзіцца пры м. Хойнікі; перададзен агрaпункту ў 1921 годзе.

Плошча пад садам 3,27 гэктара разьмеркавана ў двух асобных вучастках: 1-ы плошчаю 2 гэкт., ІІ-гі плошчаю 1,27 гэктара. Сад садзіўся ў некалькі тэрмінаў: 1884, 1889, 1898, 1900, 1903 і 1908 годы. Усяго дрэў у садзе 351 з іх яблынь 287 др. - 81.77%, ігруш 57 др.—16.24%, сьліў 7 др.—1,99%; здаровых 275 др.—78,35%. хворых 76 др —21,65%, антонаўкі 230 дрэў—66.88%, штэціну чырвонага 14 др.—4,07%, пэпіна літоўскага 18 др.—5,24%, аркаду чырвонага 6 др.—1,75%, чорнага дзерага 2 др. 0,58%, валошкі 2 др.—0,58%, барздорфскага яблычка 2 др. —0,58%, арабкі 2 др.—0,58%, пуцімкі 1 др.—0,29% і інш. 10 др.—2,87%.

Слуцкай бэры 17 дрэў—4,94%, лясной прыгожай 2 др. — 0,58%, панны 7 др. — 2,04%, ільлінкі 3 др. — 0,87%, сапяжанкі 2 др. — 0,58% і іншых 26 др. - 7,56%.

Сад плошчаю 1,27 гэкт. акружаны з усіх бакоў паркам з розных лісьцёвых парод, які і зьяўляецца заслонай для гэтага саду, а частка саду плошчаю ў 2 гэктара мае заслону з паўднёвага і заходняга боку з лісьцёвых парод (топаль канадзкі, ліпа, ліственіца) у адлегласьці 6,4—7,12 мэтр. ад саду. У гэтай частцы дрэвы, якія мяжуюцца з заслонай, значна горш разьвіты ў параўнаньні з іншымі дрэвамі саду і маюць аднабокія кароны ў бок ад заслоны.

Парк і заслона з лісьцёвых парод лічыцца месцам для захоўваньня і распаўсюджваньня шкоднікаў саду. Парадак пасадкі квадратовы, з напрамкам радоў з поўдня на поўнач, адлегласьць паміж дрэвамі і радамі 6,4×6,4 мэтр. (9×9 арш.).

Глебавы тып у садзе падзолісты, па мэханічнаму складу верхняга пазему лёгкі суглінак, на глыбіні 1,5 — 2 мэтр. залягае ледавіковы навал (марэна).

Грунтовыя воды залягаюць на глыбіні 3,5—4 м. 1/3 плошчы саду ў 26 годзе ўгноена начным золатам з разьліку 58 тон на гэктар і 1/3 угноена ў весну 27 году пад прыствольныя кругі з разьліку 20—25 кг. гною на 1 дрэва, а астатняя частка не ўгнойвалася.

У 27 годзе ўся плошча сада была занята вікай на зялёны корм, а ў 28 гадзе плошча пад садам знаходзіцца пад чорным папарам.

Галоўнымі шкоднікамі саду лічацца наступныя: персьцянёвы і непарны прадзільнікі, кветкаеды, баярышніца, златагузка, пладажорка і інш. з грыбных хвароб: парша. мох. лішайнікі. пладовая гніль і інш.

Барацьба са шкоднікамі і грыбнымі хваробамі вядзецца наступная: 1 Кожны год здымаюць гнёзды баярышніцы і златагузкі. 2. Здымаюць яечкі няпарнага і персьцянёвага прадзільнікаў. 3. Вясною да набуханьня вочак робіцца апырскваньне вапнаю. 4. Пасьля цьвіценьня робіцца апырскваньне камбінаванай расчынай бардоскай вадкасьці з парыскай зеленьню (на 20 вед. вады 2,4 кг. мядзянага купарвасу, 2,4 кг. вапны і 200 гр. парыскай зелені). Увосень робіцца абчыстка штамбаў, а абрэзка галін звычайна робіцца вясною. Вясною 28 года ўвесь сад быў пабелены вапнаю. Усе выдаткі за 28 год па барацьбе са шкоднікамі і догляду за садам складаюць 300 руб.

Сад усе апошнія гады здаецца ў арэнду за наступную плату па гадох.

У 1927 г.—1250 руб. ураджай—32,8 т.
„ 1928 г.— 387 „ „ 6,6 „

З сартоў саду заслугоўваюць увагі наступныя сарты:

1. Антонаўка звычайная — сорт ураджайны, прамысловы і трывалы; у садзе 130 др. узросту 35 год з іх хворых 10 др.—7,7%.

Дрэвы маюць добра разьвітыя кароны ва узросьце 35 год, дыямэтр у сярэднім 8,3 мэтр., вышыня 5,96 мэтр.

2. Штэцін чырвоны — вельмі добры зімовы прамысловы сорт, плады ляжаць да вясны і пазьней, маюць забясьпечаны збыт і кошт. У садзе 12 дрэў узросту 40 год і ўсе здаровыя; яны маюць дыямэтр кароны ў сярэднім 8,9 мэтр., вышыню 7 мэтр.

3. Пэпін літоўскі — лічыцца добрым сортам, вельмі ўраджайны, рана пачынае пладанасіць і амаль што кожны год. Плады маюць добры збыт і кошт на рынку, лепш ляжаць за антонаўку.

У садзе 18 дрэў, з іх хворы 5 др — 27,8%.

Дрэвы ў сярэднім маюць дыямэтр карон 6,04 мэтра, вышыню 5,4 мэтра.

4. З васеньніх добрым лічыцца пуцімка, як ураджайны, трывалы сорт, плады маюць добры збыт і кошт на мясцовым рынку.

5. Валошка лічыцца добрым летня-васеньнім сортам, як ураджайны трывалы сорт.

6. У садзе 2 дрэвы бардзорфскага яблычка і абода здаровыя,

6. Вельмі добры сорт — бэра слуцкая (мал. 29) У садзе 17 дрэў 40 год і ўсе здаровыя, маюць добра разьвітыя кароны; дыямэтр у сярэднім 9,3 мэтр., вышыня 10,28 м. Сорт ва умовах Хойнікаў вельмі ўраджайны, у 28 годзе ўраджай у сярэднім на адно дрэва складае 240 кг. а асобныя дасягаюць да 320 – 400 кг.

Плады добра вытрымліваюць транспарт, добра захоўваюцца ў лёжцы і маюць забясьпечаны збыт і кошт.

8. Лясная прыгожая, у садзе 2 дрэвы ўзросту 30 год і або два здаровыя; дыямэтр кароны 5,6 мэтр., вышыня 7 мэтр. Сорт ураджайны, пачынае рана пладаносіць. Плады маюць вельмі добры кошт збыт на рынку.

9. З летніх сартоў лічыцца добрым ільлінка, як сорт ураджайны, прамысловы і трывалы. Астатнія сарты саду асаблівай увагі не заслугоўваюць, як мала каштоўныя, нятрывалыя, нетаварныя і г. д.



*Мал. 29.* Бэра Слуцкая. Узрост 25 г. Сад „Бардзіна“

Адзначым галоўныя асаблівасьці гэтага саду.

1. З сартоў саду адпавядаюць мясцовым умовам як глебава-кліма тычным, так і таварнаму напрамку садоўніцтва раёну Хойнікаў наступныя:

1) антонаўка звычайная, 2) штэцін чырвоны, 3) пэпін літоўскі, 4) пуцімка, 5) валошка, 6) бэра слуцкая, 7) лясная прыгожая, 8) ільлінка.

2. Адлегласьць паміж дрэвамі 6,4 мэтр., а кароны дрэў ва ўзросьце 35—40 год маюць дыямэтр у сярэднім 8,15 мэтр., а асобныя дасягаюць 10,8—11 мэтраў. Пры закладцы новых садоў у раёне Хойнікаў, пры такіх самых глебава-кліматычных умовах, адлегласьць павінна быць павялічана да 10—12 мэтраў.

3. Заслона з лісьцёвых парод у адлегласьці 6,4 і 7,12 мэтраў адмоўна дзейнічае на разьвіцьцё пладовых дрэў, а таксама лічыцца добрым месцам для захоўваньня і распаўсюджваньня шкоднікаў.

4. Заслона павінна быць з хваёвых парод у адлегласьці 15—18 мэтраў.

Пры аграпункце Хойнікі знаходзіцца гадавальнік плошчаю 17,2 гэкт. У гадавальніку ўжываецца васьміпалёвы севазварот з наступным чаргаваньнем: 1) бульба, 2) дзічкі, 3) аднагодкі, 4) двугодкі, 5) трохгодкі, (прадаюцца), 6) недагон, 7) папар, 8) гародныя расьліны.

У якасьці падвою для яблынь і ігруш ужываецца дзікая лясная, часткова дзічкі выпісваюцца з Мліева і Яроміна. На гэктар высаджваецца 13500 шт. Дагляд за пладовым гадавальнікам ужываецца звычайны, вясною высаджваюцца дзічкі і ў гэта самае лета вачкуюцца і да вясны другога году за выключэньнем апрацоўкі глебы і аслабленьня павязкі нічога з дзічкамі ня робіцца. На вясну другога году робіцца рэзка на шып, падвязка акулянта да шыпу, матыкаваньне і пухленьне глебы, зьнішчэньне дзікага парасьніку і сьмяцьцёвых расьлін. На трэці год вясною выразаецца шып і робяць рэзку на карону на вышыні 1 мэтра.

Увосень 2-х годкі кароністыя прадаюцца. На 4-ы год робіцца рэзка на карону астатніх акулянтаў і ўвосень прадаюцца трохгодкі кароністыя. У гэтыя два гады вядзецца неабходная апрацоўка глебы. У гадавальніку размнажаюцца наступныя сарты: 1) антонаўка камянічка; 2) антонаўка звычайная; 3) антонаўка паўтарафунтовая; 4) пэпін літоўскі; 5) ранэт Лянзбэрга; 6) штэцін чырвоны; 7) пуцімка, 8) пармэн зімовы залаты; 9) аркад чырвоны; 10) ранэт шэры францускі; 11) чорнае дзерава; 12) ранэт абэрдзіка; 13) бэра слуцкая; 14) лясная прыгожая; 15) панна і 16) ільлінка.

Назіраецца асабліва попыт на штэцін чырвоны, пуцімку, пэпін літоўскі, валошку, ранэты, антонаўку камянічку, бэру слуцкую, лясную прыгожую і панну.

З гадавальніку пачалі выпускаць пасадачны матар'ял з 1927 года. У 1927 гаду было адпушчана 700, ў 28 г. 700—800 штук па 80 кап. за штуку I сорта.

## Табліца трываласьці сартоў саду „Хойнікі“

| №№ | Назва сорту | Узрост | Па часу пасьпяваньня | Лік выпаўшых: Абсал. | % | Усяго дрэў | Лік здаровых: Абсал. | % | Хворых: Усяго | % | Марзабоіны і апёк | Рак | Дуплянасьцьць | Ветраломныя | Сухаяршынасьць | Мэханічныя папсаваньня | Грыбныя хваробы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Антонаўка звыч. . | 35 | зім. | — | — | 130 | 120 | 92,31 | 10 | 7,69 | 3 | — | — | — | — | 7 | — |
| | „ „ . | 45 | „ | — | — | 100 | 50 | 50,00 | 50 | 50,00 | 2 | 1 | 8 | 14 | 10 | 15 | — |
| 2 | Пэпін літоўскі . . | 28 | „ | — | — | 18 | 13 | 72,22 | 5 | 27,78 | — | — | — | — | — | 5 | — |
| 3 | Штэцін чырвоны | 40 | „ | — | — | 12 | 12 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | „ „ | 23 | „ | — | — | 2 | 2 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 4 | Аркад чырвоны | 45 | лет. | — | — | 6 | 6 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Валошка . . . . . | 40 | л.-в. | — | — | 2 | 2 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Чорнае дзерава . | 40 | лет. | — | — | 2 | 2 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 7 | Арабка . . . . . | 30 | в.-з. | — | — | 2 | 2 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 8 | Бардорфск. ябл. . | „ | зім. | — | — | 2 | 2 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 9 | Пуцімка . . . . . | 20 | вас. | — | — | 1 | 1 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 10 | Іншых . . . . . | — | — | — | — | 10 | 10 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | | | | | | 287 | | | | | | | | | | | |
| | **Ігрушы:** | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Бэра слуцкая . . | 45 | зім. | — | — | 17 | 17 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 2 | Панна . . . . . . | 30 | лет. | — | — | 7 | 4 | 57,14 | 3 | 42,86 | 1 | — | — | — | — | 2 | — |
| 3 | Ільлінка . . . . . | „ | „ | — | — | 3 | 3 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 4 | Лясная прыгожая | 25 | в.-з. | — | — | 2 | 2 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Сапяжанка . . . | 30 | вас. | — | — | 2 | 2 | 100,00 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Іншыя . . . . . . | — | — | — | — | 26 | 18 | — | 8 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | | | | | | 57 | | | | | | | | | | | |
| | **Сьлівы:** | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Ячная жоўтая . . | 15 | лет. | — | — | 2 | 2 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 2 | Іншых . . . . . . | „ | „ | — | — | 5 | 5 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | | | | | | 7 | | | | | | | | | | | |
| | **Усяго . .** | — | — | — | — | 351 | 275 | — | 76 | — | — | — | — | — | — | — | — |

## Табліца абмераў саду „Хойнікі“

| №№ | Назва сорту | Уарост | Дыямэтр кар. у мэтр. | Вышыня дрэва у мэтр. | Суадносіны дыямэтру кароны да вышыні | Вышыня штамбу | Дыямэтр штамбу | Колькасьць галін | Кут адыходу галін |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Бэра слуцкая . . . | 45 | 10,0 | 10,5 | 0,95 | — | — | 4 | — |
| 2 | „ „ . . . | 45 | 10,2 | 11,5 | 0,88 | — | — | 5 | — |
| 3 | „ „ . . . | 45 | 9 | 10,8 | 0,83 | — | — | 4 | — |
| 4 | „ „ . . . | 45 | 10,2 | 10,0 | 1,02 | — | — | [illegible] | — |
| 5 | „ „ . . . | 45 | 9,9 | 10,3 | 0,96 | — | — | 4 | — |
| 6 | „ „ . . . | 45 | 8,2 | 8,5 | 0,96 | — | — | 5 | — |
| 7 | „ „ . . . | 45 | 9,2 | 10,8 | 0,85 | — | — | 3 | — |
| 8 | „ „ . . . | 45 | 8 | 8,7 | 0,92 | — | — | 5 | — |
| 9 | „ „ . . . | 45 | 9,2 | 10,8 | 0,85 | — | — | 4 | — |
| 10 | „ „ . . . | 45 | 9,1 | 10,9 | 0,83 | — | — | 3 | — |
| | Сярэдняе . . . | — | 9,3 | 10,28 | 0,905 | — | — | 4,3 | — |
| 1 | Лясная прыгожая . . | 20 | 5,1 | 7,2 | 0,70 | — | — | 4 | — |
| 2 | „ „ . . | 25 | 6,1 | 6,8 | 0,90 | — | — | 4 | — |
| | Сярэдняе . . | — | 5,6 | 7,0 | 0,8 | — | — | 4 | — |
| 1 | Пэпін літоўскі . . . | 28 | 7,8 | 7,0 | 1,11 | — | — | 5 | — |
| 2 | „ „ . . . | 28 | 6,3 | 5,6 | 1,12 | — | — | 2 | — |
| 3 | „ „ . . . | 28 | 5,7 | 5,3 | 1,07 | — | — | 3 | — |
| 4 | „ „ . . . | 28 | 4,6 | 4,5 | 1,02 | — | — | 3 | — |
| 5 | „ „ . . . | 28 | 6,0 | 4,7 | 1,27 | — | — | 3 | — |
| | Сярэдняе . . | — | 6,04 | 5,4 | 1,12 | — | — | 3,2 | — |
| 1 | Штэцін чырвоны . . | 40 | 9 | 7,5 | 1,2 | — | — | 4 | — |
| 2 | „ „ . . | 40 | 8,8 | 6,4 | 1,39 | — | — | 3 | — |
| 3 | „ „ . . | 40 | 8,8 | 7,5 | 1,17 | — | — | 4 | — |
| 4 | „ „ . . | 40 | 8,3 | 6,8 | 1,22 | — | — | 4 | — |
| 5 | „ „ . . | 40 | 9,4 | 6,9 | 1,36 | — | — | 5 | — |
| | Сярэдняе . . | — | 8,9 | 7,02 | 1,24 | — | — | 4,0 | — |
| 1 | Антонаўка звыч. . | 35 | 9,3 | 6,7 | 1,4 | — | — | 5 | — |
| 2 | „ „ . . | 35 | 9,1 | 5,6 | 1,63 | — | — | 5 | — |
| 3 | „ „ . . | 35 | 7 | 5,7 | 1,23 | — | — | 3 | — |
| 4 | „ „ . . | 35 | 7,1 | 5,8 | 1,22 | — | — | 5 | — |
| 5 | „ „ . . | 35 | 8,9 | 6 | 1,48 | — | — | 5 | — |
| | Сярэдняе . . | — | 8,3 | 5,96 | 1,41 | — | — | 4,6 | — |

# Сад арцелі „Узыходзячая Зара“ Глухавічскага с.-савету, Брагінскага раёну.

Знаходзіцца пры вёсцы Глухавічы ў адлегласьці ад мясьц. Брагіна 5 клм. Да рэвалюцыйнага часу сад быў абшарніцкім. З часу рэвалюцыі да 27 года Дзяржаўнай зямельнай маёмасьці, а ў 27 годзе перададзен у працоўнае карыстаньне арцелі. Сад да 27 г. здаваўся ў арэнду: з 18 г. па 23 год розным прыватным асобам, а з 23 г. па 27 г. арцелі „Узыходзячая Зара“.

Сад мае плошчу 31,32 гэктара, узрост 35 год. На час дасьледваньня ў садзе налічвалася ўсіх дрэў 2478, з іх здаровых 1878 шт. — 75,79%, хворых 600 шт. — 24,21%, яблынь 2250 шт. — 90,80% ігруш 228 др.—9,20%.

Антонаўкі 1420 дрэў—57,30%, пэпіна літоўскага 710 дрэў—28,65%, апорту звычайнага 20 дрэў—0,81%, цітаўкі 10 др.—0,40% ранэта вялікага касельскага 8 др. - 0,32%, ранэта Лянзбэрга 5 др.—0,2, кандзіль сінапа 6 др. — 0,24%, штэціна чырвонага 4 др. — 0,16% і інш. 68 др.—2,74%, ігруш: душэса белага 38 др.—1,53%, лясной прыгожай 20 др. — 0,80%, ільлінкі 10 др.—0,4% і іншых 160 дрэў—6,46%.

З заходняга боку сад мае заслону з асіны і таполю ў адлегласьці 7,7 мэтр. ад першага раду і 2,1—2,8 мэтр. паміж дрэвамі.

Заўважана, што дрэвы, якія мяжуюцца з заслонай значна горш разьвіты ў параўнаньні з іншымі дрэвамі саду і за шэраг год не даюць належнага прыросту і ўраджаю і маюць аднабокія кароны ў бок ад заслоны.

Для вызначэньня глебы ў садзе выкапаны дзьве ямы: 1) на павышанай частцы саду: паземы разьмеркаваны наступным чынам:

$A_1$—30 см. шэрага колеру;

$A_2$—10 см. бялёсы.

B—30 см. цёмна-бурага колеру, паўтаравокісны. Ніжэй залягае пазем C — нязьменная парода сьветла-жоўтага колеру — супесь.

2-я яма на паніжаннай частцы саду.

$A_1$—20 см. сьветла-шэрага колеру;

$A_2$—20 см. бялёсы.

B—30 см. цёмна-бурага колеру, ніжэй залягае пазем C — нязьменная парода, а на глыбіні 140 см. залягаюць грунтовыя воды.

Глебавы тып у садзе падзолісты і моцна падзолісты, а на паніжаннай частцы назіраецца працэс забалочваньня, па мэханічнаму складу суглінак; падглеба—супясь і пяскі.

Неабходна заўважыць, што на паніжанай частцы, якая знаходзіцца пасярод саду (сад мае схіл у двух напрамках: з поўдня на поўнач і з поўначы на поўдзень) вясною застойваецца вада ад 2-х тыдняў да месяцу і грунтовыя воды залягаюць на глыбіні 1,4 м.

У гэтым месцы дрэвы значна горш разьвітыя ў параўнаньні з іншымі дрэвамі, да 60% згінула, а астатнія амаль што ня ўсе з засохлымі верхавінамі.

Парадак пасадкі дрэў у садзе квадратовы з напрамкам радоў з поўдня на поўнач у адлегласьці паміж дрэвамі і радамі 8,25×8,25 мэтра (11,5×11,5 арш.).

З часу рэвалюцыі да 28 году, а мажліва, што шэраг год да рэвалюцыі, сад зусім ня ўгнойваўся і толькі ў 28 г. на плошчу 10 гэкт. выве-

зена 300 вазоў гною і 100 пудоў супэрфасфату і была пасеяна бульба, а астатнія частка знаходзіцца пад папарам, частка плошчы саду пад папарам заворваецца ўвосень, а частка вясною і ў канцы мая месяца забараноўваецца.

Галоўнымі шкоднікамі саду лічацца кветаеды, пладажорка, златагузка, баярышніца, персьцянёвы і няпарны прадзільнікі і інш. З грыбных хвароб значна распаўсюджаны: парша, мох, лішайнікі, пладовая гніль і інш.

Барацьба са шкоднікамі ў 28 годзе вялася наступная: вясною зьбіралі і зьнішчалі гнёзды баярышніцы і златагузкі, апырсквалі ўвесь сад бардоскай вадкасьцю па сонных вочках, а таксама частка саду пабеляна вясною вапнаю, а перад пабелкаю рабілася абчыстка штамбаў.

На адзін гэктар саду засталося 79 дрэў; такі малы лік тлумачыцца наступным:

1) да 27 году сад ня меў сталага гаспадара і няўжывалася ніякага ні догляду, ні ўгнаеньня, нават у 28 годзе; толькі з аднаго боку ад шляху ёсьць плот.

2) Значны % згінуўшых дрэў асабліва назіраецца на паніжанай частцы, дзе грунтовыя воды падыходзяць да паверхні на 1,4 мэтр. і вясною застойваецца вада; дрэвы, якія яшчэ засталіся, амаль што ўсё хварэюць (засыхаюць верхавінкі).

3) Па ўсяму саду пасьля ўборкі жыта ці ярыны з поля, якое мяжуецца з неагарожанай часткай саду, пасецца буйная рагатая жывёла, сьвіньні сялян вёскі Глухавічы.

У садзе шмат моху, лішаёў, сухога суччa і г. д.

З сартоў саду заслугоўваюць увагі:

Антонаука звыч. сорт ураджайны, трывалы, прамысловы і г. д.

Штэцін чырвоны лічыцца добрым зімовым сортам—плады захоўваюцца ў лёжцы да вясны і пазьней, маюць добры збыт і кошт. У садзе 4 дрэў і ўсе здаровыя.

Р-т вялікі касельскі—вельмі добры зімовы сорт—ураджайны, плады ляжаць да вясны, маюць добры збыт і кошт. У садзе 8 дрэў і ўсе здаровыя.

Р-т Лянзбэрга лічыцца вельмі добрым зімовым сортам, вельмі ўраджайны, плады добра захоўваюцца ў лёжцы, маюць забясьпечаны збыт і кошт. У садзе 5 дрэў, з іх адно ветраломнае.

Пэпін літоўскі лічыцца добрым зімовым сортам, вельмі ўраджайны, плады захоўваюцца ў лёжцы лепш за антонаўку, маюць добры збыт і кошт. У садзе 710 дрэў узросту 35 год, хворых 292 — 41,2%. Значны процант хворых тлумачыцца тым, што дрэвы маюць узрост 35 год, а наогул пэпін літоўскі добра сябе адчувае да 30 год. па-другое, квартал пэпіну як раз падыходзіць да паніжанай часткі саду, дзе дрэвы хварэюць ад блізкасьці грунтовых вод. У садзе 3 дрэвы р-ту шэрага французскага і 5 дрэў кандзіль сінапа, але аб гэтых сартох належных вед няма, таксама ёсьць два дрэвы бойкена і абодва хварэюць ад мароза.

З ігруш заслугоўваюць увагі: лясная прыгожая—сорт вельмі ўраджайны, плады маюць забясьпечаны збыт і кошт. У садзе налічваецца 20 дрэў; з іх хворых 10 шт.—15%, з іх 3 дрэвы мэханічна папсаваны ад ураджаю па прычыне недагляду і 3 др. ад ветру.

Ільлінка—лічыцца добрым летнім сортам—ураджайны, прамысловы і трывалы. У садзе 10 дрэў і ўсе здаровыя.

Душэс белы—лічыцца добрым васеньня-зімовым сортам, плады

маюць вельмі добры збыт і кошт, але ў садзе з усіх 38 дрэў, 11 хварэюць ад марозу.

Адзначым галоўныя асаблівасьці гэтага саду:

1. З сартоў саду адпавядаюць умовам раёну Глухавіч, як глебава кліматычным так і таварнаму напрамку садоўніцтва, наступныя сарты: антонаўка звычайная, штэцін чырвоны, р-т вялікі касельскі, р-т Лянзбэрга, пэпін літоўскі, лясная прыгожая і ільлінка.

2. Заслона з асіны і таполі ў адлегласьці 7,7 мэтра ад саду адмоўна дзейнічае на разьвіцьцё пладовых дрэў і дрэвы маюць аднабокія кароны ў бок ад заслоны. Асіна і таполь лічыцца добрым месцам для захоўваньня і распаўсюджваньня шкоднікаў. Заслона павінна быць з хваёвых парод у адлегласьці 15—18 мэтр.

3. Адлегласьць паміж дрэвамі 8,25 мэтр. (11,5 арш.). Дрэвы ва ўзросьце 35 год маюць дыямэтр кароны ў сярэднім 7,46 мэтр., а асобныя дасягаюць 8,5—9 мэтр. тады, калі сад дзесяткі год ня ўгнойваўся. Адлегласьць пры закладцы новых садоў павінна быць павялічана да 10—12 мэтраў.

4. У садзе на паніжанай частцы, дзе грунтовыя воды залягаюць на глыбіні 1,4 м. і вясною застойваецца вада, значны процант дрэў згінула і астатнія амаль што ўсе хворыя (засохлыя верхавіны) за апошнія гады не даюць належнага прыросту і ўраджаю.

На западзінах, дзе няма належнага стоку для вясновай вады і дзе залягаюць блізка грунтовыя воды, ні ў якім разе не патрэбна закладаць новых садоў.

## Табліца трываласьці сартоў саду арц. „Узыходзячая зара“

| №№ | Назва сорту | Узрост | Па часу песьпяваемасьці | Лік выпаўш. дрэў: Абсал. | Лік выпаўш. дрэў: % | Усяго дрэў | Лік здаровых дрэў: Абсал. | Лік здаровых дрэў: % | Хворых: Усяго | Хворых: % | Маразб. апёк | Рак | Дупленастасьць | Сухаваршыннасьць | Механічнага папсаваньня | Ветраломных | Грыбн. хвар. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Антонаўка зв. . . | 35 | зім. | — | — | 1420 | 1204 | 84,8 | 216 | 15,2 | 46 | — | — | 158 | 7 | 5 | — |
| 2 | Пэпін літоўскі . . | „ | „ | — | — | 710 | 418 | 58,8 | 292 | 41,2 | 168 | — | 8 | 83 | 19 | 14 | — |
| 3 | Цітаўка . . . . | „ | л.-вос. | — | — | 10 | 5 | 50,0 | 5 | 50,0 | — | — | — | — | 5 | — | — |
| 4 | Р-т вялікі касел. | „ | зім. | — | — | 8 | 8 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Апорт звычайны . | „ | вос. | — | — | 20 | 10 | 50,0 | 10 | 50,0 | 10 | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Р-т Лянсбэрга . . | „ | зім. | — | — | 5 | 4 | 80,0 | 1 | 20,0 | — | — | — | — | — | 1 | — |
| 7 | Штэцін чырв. . . | „ | „ | — | — | 4 | 4 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 8 | Р-т шэры франц. | „ | „ | — | — | 3 | 2 | 66,6 | 1 | 33,4 | — | — | — | — | — | 1 | — |
| 9 | Бойкен . . . . | „ | „ | — | — | 2 | — | — | 2 | 100,0 | 2 | — | — | — | — | — | — |
| 10 | Кандзіль сінап . | „ | „ | — | — | 5 | 3 | 60,0 | 2 | 40,0 | 2 | — | — | — | — | — | — |
| 11 | Іншых . . . . | — | — | — | — | 63 | 48 | 76,19 | 15 | 23,81 | — | — | — | — | — | — | — |
| | **Ігрушы:** | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Душэс белы . . | 35 | в.-з. | — | — | 38 | 26 | 68,4 | 12 | 31,6 | 11 | — | — | — | — | 1 | — |
| 2 | Лясная прыгожая . | „ | „ | — | — | 20 | 10 | 50,0 | 10 | 50,0 | 4 | — | — | — | 3 | 3 | — |
| 3 | Ільлінка . . . . | „ | „ | — | — | 10 | 10 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 4 | Сапяжанка . . . | „ | „ | — | — | 3 | 3 | 100,0 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Іншых . . . . | — | — | — | — | 157 | 123 | 78,35 | 34 | 21,65 | — | — | — | — | — | — | — |
| | Усяго . . | — | — | — | — | 2478 | 1878 | — | 600 | — | — | — | — | — | — | — | — |

## Табліца абмераў саду арц. „Узыходзячая Зара“

| №№ па чарзе | Назва сорту | Узрост | Дыямэтр кароны ў м. | Вышыня дрэва у мэтр. | Суадносіны дыямэтра кароны к вышыне | Вышыня штамбу у мэтр. | Дыямэтр штамбу ў см. | Лік асноўных галін у кароне |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Ранэт Лянэбэрга . . | 35 | 5,8 | 4,8 | 1,20 | 1 | 22,2 | 4 |
| 2 | „ . . | 35 | 7,0 | 5,8 | 1,20 | 1 | 22,2 | 5 |
| 3 | „ . . | 35 | 7,0 | 5,4 | 1,29 | 1,25 | 19,1 | 3 |
| 4 | „ . . | 35 | 5,8 | 5 | 1,16 | 1,20 | 19,1 | 3 |
| | Сярэдняе . | — | 6,4 | 5,2 | 1,21 | 1,11 | 20,65 | 3,75 |
| 1 | Пэпін літоўскі . . | 35 | 8,1 | 5,4 | 1,50 | 1,1 | 23,0 | 3 |
| 2 | „ . . | 35 | 6,8 | 5,5 | 1,23 | 1,0 | 21,6 | 2 |
| 3 | „ . . | 35 | 7,0 | 5.2 | 1,34 | 1,0 | 20,3 | 2 |
| 4 | „ . . | 35 | 7,1 | 4,8 | 1,47 | 1,15 | 23,8 | 4 |
| 5 | „ . . | 35 | 6,3 | 4,7 | 1,34 | 1,20 | 19,1 | 4 |
| | Сярэдняе . | — | 7,06 | 5,12 | 1,38 | 1,07 | 21,56 | 3 |
| 1 | Антонаўка звычайная . | 35 | 7,1 | 5,4 | 1,31 | 1,00 | 23,5 | 5 |
| 2 | „ . | 35 | 7,0 | 5,3 | 1,32 | 1,0 | 22,6 | 5 |
| 3 | „ . | 35 | 7,7 | 6,0 | 1,28 | 1,15 | 25,1 | 3 |
| 4 | „ . | 35 | 8 | 5,5 | 1,45 | 1,2 | 25,1 | 3 |
| 5 | „ . | 35 | 7,5 | 4,5 | 1,66 | 0,85 | 19,1 | 5 |
| | Сярэдняе . | — | 7,46 | 5,34 | 1,40 | 1,04 | 23,28 | 4,2 |

# Сад „Савічы“ сельска-гаспадарчай арцелі „Новая зямля“.

Знаходзіцца ў Брагінскім раёне ў адлегласьці ад мястэчка Брагіна 22 клм. Перададзены с.-г. садовай арцелі ў працоўнае карыстаньне з 1924 г. Да гэтага часу сад здаваўся Дзяржаўнай зям. маёмасьцю ў часовае арэнднае карыстаньне розным прыватным асобам; раней быў абшарніцкі.

Сад па ўзросту пасадкі падзяляецца на дзьве часткі.

І) Плошчаю 6,55 гэкт.—18 - 20 г. ІІ) 6,55 гэкт.—35 год. Зараз налічваецца ўсіх дрэў 1891, з іх здаровых 1720 дрэў — 90,95%, хворых 171 др. — 9,05%; яблынь 1673 д. — 88,71%; ігруш 213 дрэў — 11,29%; сьліў 15 дрэў.

Галоўнае месца ў садзе займае—антонаўка 1369 др.—72,58%; пэпін літоўскі 30 др.—1,59%; баравінка 32 др.—1,69%; белы наліў 20 др. — 1,06%; валошка 18 др.—0,95%; пуцімка 15 др.—0,79%; апорт звычайны 15 др.—0,79%; штэцін чырвоны 12 др.—0,63%; шклянка 10 др.—0,53%; маскоўская грушоўка 10 др. — 0,53%; малінаўка 6 др. — 0,32%; і іншых 106 др.—5,6%

Ігрушы: лясная прыгожая 60 др.—3,18%; бэра дзіль 25 др.—1,33%; Ільлінка 25 др.—1,33%; душэс белы 15 др.—0,79%; безнасенка 15 др.—0,79%: душэс д'Ангулем 10 др. — 0,53%; панна 3 др. — 0,15% і іншых 60—3,18%.

Дрэвы ўва ўсім садзе пасаджаны ў шахматным парадку, адлегласьць паміж дрэвамі і радамі 6,4×6,4 м (9×9 арш.). Агарожу сад мае з таполя пірамідальнага з усходня-паўднёвага і паўночнага боку ў адлегласьці 8,53×8,53 м. (12×12 арш.), а з заходняга боку саду мяжуецца з будынкамі арцелі.

Па назіраньню мясцовага садавода, агарожа з таполю зьяўляецца добрым месцам для захоўваньня і распаўсюджваньня шкоднікаў. Апрача гэтага назіраецца аднабокасьць кароны ў бок ад агарожы і зацяненьня дрэў.

Глебавы тып у садзе падзолісты, па мэханічнаму складу ад лёгкіх суглінкаў да супясяў. На глыбіні 2 м. залягае ледавіковы навал. Грунтовыя воды залягаюць на глыбіні 7,8 м. Схіл у садзе паўночны, але нязначны.

Угнойваецца сад часткова кожны год з такога разьліку, што гной пападае на тое самое месцы праз 2 гады ў колькасьці 75,5 тон на гэктар. У 1928 г. пад 3,28 гэкт. ўнесена поўнае штучнае ўгнаеньне (супэрфасфат, калійная соль і серкавакіслы амоні).

Частка плошчы саду скарыстоўвалася бульбаю, а астатняя знаходзіцца пад папарам, апрацоўка якога заключаецца ў наступным: вясною заворваюць на глыбіню 2—3 вяршкі, праз 2 тыдні барануюць і ў восень робіцца зяблевая ўспашка на такую самую глыбіню, ужываецца перакопка прыствольных кругоў—кожны год вясною.

Галоўнымі шкоднікамі саду па назіраньню мясцовага садавода лічацца: пладажорка, баярышніца, златагузка, пярсьцёнкавы і непарны прадзільнікі, кветаеды і інш. З грыбных хвароб у садзе распаўсюджаны значна парша і ў меншай колькасьці мох і лішайнікі.

Кожны год у сакавіку і красавіку здымаюць і зьнішчаюць гнёзды баярышніцы і златагузкі і 2 разы ўвесь сад апырскваюць: 1-ы—жалез-

ным купарвасам да пачатку роспуску пучкоў (1200 гр. на вядро вады). 2-гі—пасьля цьвіценьня камбінаванаю расчынаю бардоскай вадкасьці з парыскай зеленьню і ў вясеньні час робіцца абчыстка і пабелка штамбаў вапнаю. У 1928 г. выдаткі на матар'ялы па барацьбе са шкоднікамі складаюць 600 руб. У 28 г. ураджай саду скарыстоўваўся гаспадаркай, у 26 годзе і 27 г. здаваўся ў арэнду.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1926 г. — 1700 руб. | ураджай гэтага году | | 49,18 тон |
| 1927 г. — 4500 руб. | „ | „ | „ 164 тоны |
| 1928 г. — — | „ | „ | „ 13,11 тон |

За тры гады ўраджай складае 226,29 тон ці на адзін год 75,5 тон —58 т. на гэктар. Як сьведчыць вышэй памянёнае, сад дае значны ураджай і за выключэньнем 1928 г., калі, дзякуючы няспрыяючым мэтэоролёгічным умовам, ураджай на гэктар складае толькі адну тону.

Значная ўраджайнасьць саду арцелі тлумачыцца: 1) сад усе апошнія гады ў значнай колькасьці ўгнойваецца; па 2) ужываецца добрая апрацоўка глебы; па 3) у садзе амаль што не назіраецца сухога гальля, моху і лішаёў.

Добрымі сартамі лічацца:

Антонаўка кам. — сорт прамысловы, ураджайны, трывалы. Ва ўзросьце 20—35 год здаровых 95,76%, хворых 4,24%.

Штэцін чырвоны—надзвычайна добры зімовы сорт, прамысловы, ураджайны, плады добра захоўваюцца ў ляжаньні — да вясны і пазьней, маюць добры збыт і кошт. У садзе 12 дрэў з якіх 2 — 16,67% хварэюць ад апёку.

Пэпін літоўскі--сорт зімовы, прамысловы і надзвычайна ўраджайны, пладаносіць пачынае рана і амаль што ні кожны год. Дрэў у садзе 30: з іх хварэюць 10 ці 33,33%.

З васеньніх сартоў саду заслугоўваюць увагі пуцімка — ураджайны прамысловы і трывалы, мае добры збыт і кошт на мясцовым рынку. У садзе 15 дрэў і ўсе здаровыя. Па назіраньню мясцовага садавода ў садзе добра адчувае сябе.

Усіх дрэў шклянкі 10 і ўсе здаровыя, сорт вельмі ўраджайны.

Белы наліў—раньні летні сорт, даволі ўраджайны, прамысловы, плады звычайна маюць добры збыт і кошт. Дрэў у садзе—14, з іх хворых 6 (30%).

Лясная прыгожая надзвычайна добры сорт, вельмі ўраджайны, плады моцна трымаюцца на дрэве, маюць забясьпечаны збыт і кошт. У садзе 60 дрэў з якіх 15 хварэюць ці 25%.

Бэра-Дзіль—добры васеньня-зімовы сорт, ураджайны, трывалы. У садзе 25 дрэў ва ўзросьце 18—20 год і ўсе здаровыя, маюць добра разьвітыя кароны, плады маюць забясьпечаны збыт і кошт.

Душэс д'Ангулем, вельмі добры васеньня-зімовы сорт, ураджайны, плады добра трымаюцца на дрэве, амаль што не паражаюцца паршой, надзвычайна добрага смаку, маюць забясьпечаны збыт і кошт. У садзе 10 дрэў з іх хворы 4—40%.

Ільлінка вельмі добры летні сорт, ураджайны, прамысловы, трывалы; у садзе 25 дрэў і ўсе здаровыя.

У садзе 15 дрэў белага душэса, плады маюць добры збыт, кошт і смак, але пры дадзеных умовах гэты сорт не трывалы так: у садзе 15 дрэў, з якіх 7 дрэў хварэюць ад апёку—46,76%.

Іншыя сарты саду асаблівай увагі не заслугоўваюць як нетаварныя, нятрывалыя, дрэннай якасьці і г. д.

Адзначым галоўныя асаблівасьці саду арцелі „Новая земля". Адлегласьць паміж дрэвамі 6,4×6,4 м (9×9 арш.) зьяўляецца нязначнай, бо дрэвы ва ўзросьце 18–20 год дасягнулі дыямэтру кароны роўнай адлегласьці, а ва ўзросьце 35 год маюць дыямэтр у сярэднім 8,4 — 8,6 м. Адлегласьць пры закладцы новых садоў павінна быць ня менш як 10—12 мэтраў.

Агарожа павінна быць з хваёвых парод у адлегласьці 15 мэтраў з прычыны таго, што агарожа з таполю ў адлегласьці 8,53 мэтр. (12 арш.) заглушвае сумежныя дрэвы і лічыцца добрым месца для захоўваньня і распаўсюджваньня шкоднікаў.

З сартоў саду адпавядаюць мясцовым умовам наступныя: 1) антонаўка камянічка, 2) штэцін чырвоны, 3) пэпін літоўскі, 4) пуцімка, 5) белы наліў, 6) лясная прыгожая і ільлінка.

## Табліца трываласьці сартоў саду „Савічы“

| №№ па чарзе | Назва сорту | Узрост | Па часу пасьпяваньня | Лік выпаўш. дрэў: Абсал. | Лік выпаўш. дрэў: % | Усяго дрэў | Лік здаровых дрэў: Абсал. | Лік здаровых дрэў: % | Хворых: Усяго | Хворых: % | Маразабоіны | Апёк | Рак | Дупленастасьць | Ветраломных | Сухаверхіх | Механічнага пашкоджаньня | Грыбн. хвароб |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Антонаўка зв. | 20-35 | зім. | — | — | 1369 | 1311 | 95,76 | 58 | 4,24 | 26 | — | — | 2 | 13 | 8 | 4 | 5 |
| 2 | Пэпін літоўскі | 18-20 | „ | — | — | 30 | 20 | 66,67 | 10 | 33,33 | 5 | — | — | — | — | — | 5 | — |
| 3 | Баравінка | 18-20 | лет. | — | — | 32 | 33 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 4 | Цітаўка | 18-20 | вас. | — | — | 30 | 18 | 60 | 12 | 40 | 8 | — | — | — | — | — | 4 | -- |
| 5 | Валошка | 18-20 | лет. | — | — | 18 | 18 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Белы наліў | 20 35 | „ | — | — | 20 | 14 | 70 | 6 | 30 | — | — | — | — | — | 6 | — | — |
| 7 | Пуцімка | 18-20 | вас. | — | — | 15 | 15 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 8 | Апорт звычайны | 35 | „ | — | — | 15 | 11 | 73,33 | 4 | 26,37 | — | — | — | — | — | 1 | 3 | — |
| 9 | Штэцін чырвоны | 35 | зім. | — | — | 12 | 10 | 83,33 | 2 | 16,67 | 2 | — | — | — | — | — | — | — |
| 10 | Шклянка | 20 | вас. | — | -- | 10 | 10 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 11 | Маскоўская груш. | 35 | лет. | — | — | 10 | 10 | 100 | — | | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 12 | Малінаўка | 20 | „ | — | — | 6 | 6 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 13 | Розных сарт. | — | — | — | — | 106 | 74 | 69,8 | 32 | 30,2 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | **Ігрушы:** | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Лясная прыгожая | 18-20 | вас. | — | -- | 60 | 45 | 75 | 15 | 25 | 8 | — | — | — | — | — | 7 | — |
| 2 | Бэра Дзіль | 18-20 | „ | — | — | 25 | 25 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 3 | Ільлінка | 18-20 | „ | — | — | 25 | 25 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 4 | Душэс белы | 18-20 | зім. | — | — | 15 | 8 | 53,33 | 7 | 46,67 | 7 | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Безнасенка | 18-20 | лет. | — | — | 15 | 12 | 80 | 3 | 20 | — | — | — | — | — | 3 | — | — |
| 6 | Душэс д'Ангулем | 18-20 | вас. | — | — | 10 | 6 | 60 | 4 | 40 | 4 | — | -- | — | — | — | — | — |
| 7 | Панна | 18-20 | лет. | — | — | 3 | 3 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 8 | Лет. розных сарт. | 18-20 | „ | — | — | 50 | 32 | 64,0 | 18 | 36,0 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 9 | Сьліў розных дзік. | 18-20 | — | — | -- | 15 | 15 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Усяго | — | — | — | — | 1891 | 1720 | — | 171 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |

# Сад с.-гаспадарчай арцелі „Іолча" Камарынскага раёну.

Знаходзіцца ад м. Камарына на адлегласьці 8,5 клм. Перададзен у працоўнае карыстаньне арцелі ў 1924 годзе.

З 1917 — 24 гг. сад Дзяржаўнай маёмасьцю здаваўся ў арэнднае карыстаньне розным прыватным асобам, а ў дарэвалюцыйны час сад належаў абшарніку.

Плошчу пад садам у 15,295 гэкт. па ўзросту можна падзяліць на 3 часткі: I—8,19 гэкт, узросту 25—40 год. II—2,73 гэкт. узросту 55 год і III — 4,37 гэкт. узросту 15 — 18 год. Усяго дрэў у садзе налічваецца 1203, з іх яблынь 1163 др. — 96,67% і ігруш 40 др. — 3,33%. Хворых 160 дрэў—13,30%.

У садзе наступныя сарты:

2. Антонаўка звычайная 510 д.—42,39%, 2. антонаўка белая 128 д. —10,64%, 3. пэпін літоўскі 30 д.—2,50%, 4. кандзіль сінап 19 дрэў — 1,58%, 5 штэцін чырвоны 16 д.—1,33%, 6. штрэйфлінг 17 д.—1,41%, 7. ранэт Лянэбэрга 6 д.—0,50%. 8. белы наліў 22 д.—1,83%, 9. пуцімка 6 д.—0,50%, 10. апорт звычайны 18 д.—1,50%, 11. баравінка 35 д. —2,91%, 12. шклянка 38 д.—3,16%, 13. бойкен 4 д —0,36%, 14. пармэн зімовы залаты 3 д.—0,25, 15. Іншых 311 д. 25,81%. Ігрушы: 16. ільлінка 8 д 0,67%. 17. безнасенка 11 д.—0,91%, 18. лясная прыгожая 6 д.—0,50% і іншых 15 д.—1,25%

Парадак пасадкі дрэў шахматны з напрамкам радоў з поўдня на поўнач.

Адлегласьць паміж дрэвамі 8,53×8,53 м. (12 × 12 арш.). З усходняга і заходняга боку сад мае загароду з пірамідальнага таполю ў адлегласьці ад першага раду сада 6,4—8,53 м. Уплыў загароды асабліва назіраецца ў тых мясцох, дзе загарода згушчана: дрэвы недаразьвіты у параўнаньні з іншымі дрэвамі саду, а таксама загарода з лісьцёвых парод зьяўляецца добрым месцам для захоўваньня шкоднікаў саду.

Для вызначэньня глебы пасярод саду выкапана яма ў якой паземы разьмяркоўваюцца:

$A_1$—33 см.—сьветла-шэрага колеру.

$A_2$—14 см.—бялёсы з сьветла-шэрымі зацёкамі.

$B_1$—11 см. цёмна-бялёсы з бурымі паслойкамі (ортзанды).

Ніжэй залягае пазем С—нязьменная парода, па мэханічнаму складу —зьвязаныя сартаваныя пяскі, а на глыбіні 1,5 — 2 м. залягае ледавіковы навал.

Глебавы тып у садзе падзолісты, па мэханічнаму складу—ад лёгкіх суглінкаў да супесяў.

Увесь сад угнойваецца ў тры гады па $^1/_3$ частцы ў кожны год з разьліку 36,6 тон на гэктар. Усе апошнія гады сад знаходзіўся пад папарам. Апрацоўка ўжываецца наступная: вясною сад заворваецца на глыбіню 2,5 — 3 вяршка і пасьля, прыблізна праз 2 тыдні барануецца і ўвосень заворваецца на глыбіню 3 вяршкі. Акрамя тага ўжываецца перакопка прыствольных кругоў.

Галоўнымі шкоднікамі саду лічацца: баярышніца, златагузка, пярсьцёнкавы і няпарны прадзільнікі, майскі жук, кветаеды, зімовая мядзяніца і іншыя. З грыбных хвароб распаўсюджаны: мох, лішайнікі і значна парша.

Кожны год у садзе ўжываецца тры апырскваньні: 1-ае – жалезным купарвасам (1 кг-200 гр. на вядро вады) да распусканьня вочак; 2-е; камбінаванай расчынай бардоскай вадкасьці з парыскай зеленьню—перад самым цьвяценьнем і 3-е увосень паападаньні лісьця — жалезным купарвасам. Акрамя таго кожны год у красавіку здымаюць і зьнішчаюць гнёзды баярышніцы і златагузкі і яечкі кольчатага і няпарнага прадзільнікаў.

Выдаткі па барацьбе са шкоднікамі, апрацоўцы глебы і догляду за садам складаюцца з наступных:

| | | |
|---|---|---|
| Апырскваньне I— | 37 р. 50 к. | каштоунасьць працоўнай сілы |
| „ II— | „ — | |
| „ III— | 28 „ | |
| Усяго— | 107 р. 50 к. | |

| | | |
|---|---|---|
| Ворыва I . . . . . | 68 р. — | каштоўнасьць апрацоўкі глебы. |
| „ II . . . . . | 68 „ — | |
| Баранаваньне . . . | 12 „ 75 к. | |
| Вывазка гною . . | 75 „ — | |
| Рыхленьне прыств. кругоў . . . | 64 р. — | |
| Усяго . . | 287 р. 75 к. | |

Догляд саду (абрэзка гальля, звозка, абмазка ран, ачыстка кары і пабелка)—145 р. А разам складае 540 р. 25 кап. З часу перадачы саду с.-г. арцелі ўраджай рэалізуецца самімі і звычайна транспартуецца ў Кіеў, Кацерынаслаў і Ленінград. Ураджай усе гады быу наступны:

1925 г.—4,92 тоны (300 п.); 1926 г. 32,8 т. (2000 п.); 1927 г. 49,18 т. 3000 п.);—1928 г.—24,59 т. (1500 п.).

За 4 гады ўраджай складае 111.48 т.—(6800 п.) ці на 1 год 27.87 т. —(1700 п.), а на 1 гэктар 2 тоны (122 п.).

З сартоў саду заслугоўваюць увагі:

1. Антонаўка, як сорт ураджайны, прамысловы і трывалы; з усіх 510 дрэў хворых 45 д.- 8,82%.

2: Пэпін літоўскі — сорт вельмі ўраджайны, пачынае рана пладаносіць і амаль што ня кожны год, плады маюць добры збыт і кошт на рынку. З 30 дрэў хворых—2 (6,67%) у ўзросьце 18 год.

3. Штэцін чырвоны — вельмі добры зімовы сорт — плады у лёжцы захоўваюцца да вясны і пазьней, маюць добры збыт і кошт на рынку, таксама, у ўмовах дадзенага саду, трывалы. З усіх 16 др. хварэе адно дрэва—6.25%.

4. Пармэн зімовы залаты (мал. 31)—лічыцца добрым зімовым сортам, плады добра захоўваюцца ў лёжцы, маюць вельмі добры збыт і кошт на рынку. Дрэвы ва ўзросьце 35 год маюць дыямэтр кароны 7 9—8,1 мэтраў; усіх дрэў у са-зе – 3 з іх адно хворае.

5. Штрэйфлінг—вельмі добры васеньні ўраджайны, прамысловы сорт, плады, дзякуючы добрай афарбоўцы, форме і смаку, маюць вельмі добры збыт і кошт на рынку. Дрэвы маюць добра разьвітыя кароны. Усіх дрэў у садзе 15 і ўсе здаровыя.

6. Пуцімка — васеньні ўраджайны сорт. Дрэў усіх у садзе — 6 і ўсе здаровыя.

7. З летніх сартоу лічыцца добрым белы наліў — сорт ураджайны, мае добры збыт і кошт на мясцовым рынку. Усяго дрэў 22 з

іх хворых 3 дрэвы — 13,63%. З зімовых сартоў у садзе яшчэ ёсьць 4 др. Бойкэна, але яны ўсе хварэюць ад марозабойні. 19 дрэў кандзіль сінапа з якіх хворых 9 др. - 47,37% і 6 дрэў ранэта Лянзбэрга, якія таксама ўсе хварэюць.




*Мал. 31.*

З ігруш добрым сортам лічыцца — лясная прыгожая як сорт ураджайны, пачынае рана пладаносіць, плады, дзякуючы вельмі добраму смаку, форме і г. д. маюць добры збыт і кошт на рынку. Усіх дрэў 6 — з іх 1 з засохшай верхавінай. З летніх сартой ігруш лічыцца добрым — ільлінка — ураджайны, прамысловы, мае добры збыт і кошт. Усіх дрэў у садзе 8, з іх хворых 3 — узростам 50 год.

Астатнія сарты ўвагі не заслугоўваюць як нятрывалыя і малакаштоўныя.

Вывады абсьледваньня саду с.-г. арцелі „Іолча“ наступныя:

1. З сартоў саду адпавядаюць умовам раёну Іолча і наогул месцам з такімі самымі глебавымі і кліматычнымі ўмовамі наступныя сарты: антонаўка, штэцін чырвоны, пэпін літоўскі, штрэйфлінг, пупімка, лясная прыгожая, ільлінка і пармэн зімовы залаты (добра ня выяўлены: ранэт Лянзбэрга, бойкэн).

2. Загарода з лісьцёвых парод у адлегласьці 6,4—8,53 мэтр. уплывае адмоўна на разьвіцьцё пладовых дрэў і зьяўляецца месцам для захоўваньня шкоднікаў. Загарода павінна быць з хваёвых парод у адлегласьці ня менш як 18—20 мэтраў.

3. З прычыны таго, што дыямэтр кароны дрэў па ўзросту 35 год роўны адлегласьці паміж дрэвамі і нават большы, то адлегласьць паміж дрэвамі павінна быць ня менш, як 10—12 мэтраў.

## Табліца трываласьці сартоў саду „Іолча“

| №№ | Назва сорту | Узрост | Па часу пасьпяваньня | Лік выпаўшых | | Усяго дрэў | Лік здаровых | | Хворых | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Абсал. | % | | Абсал. | % | Усяго | % | Марозабоіны | Апёк | Рак | Дупляністасьць | Ветралом | Сухавяршынясьць | Механічныя пашкоджаньні | Грыбн. хвароб |
| 1 | Антонаўк. кам. | 40—55 | зім. | — | — | 510 | 465 | 91,17 | 45 | 8,83 | — | 13 | — | 3 | 14 | 5 | 10 | — |
| 2 | „ белая | 40—55 | вос. | — | — | 128 | 106 | 82,81 | 22 | 17,19 | — | 11 | — | 1 | 2 | — | 8 | — |
| 3 | Шклянка . | 40—55 | „ | — | — | 38 | 22 | 57,89 | 16 | 42,11 | 4 | — | — | — | — | — | 12 | — |
| 4 | Баравінка . | 40—55 | „ | — | — | 35 | 30 | 85,71 | 5 | 14,29 | — | 1 | — | — | — | — | 4 | — |
| 5 | Пэпін літоўскі | 25—18 | зім. | — | — | 30 | 28 | 93,33 | 2 | 6,67 | 2 | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Белы наліў . | 40—55 | лет. | — | — | 22 | 19 | 86,36 | 3 | 13,64 | — | — | — | — | — | — | 3 | — |
| 7 | Кандзіл сінап | 18—20 | зім. | — | — | 19 | 10 | 52,63 | 9 | 47,37 | 9 | — | — | — | — | — | — | — |
| 8 | Апорт звыч. . | 45 | вос. | — | — | 18 | 14 | 77,78 | 4 | 22,22 | — | — | — | — | 1 | 1 | 2 | - |
| 9 | Штэцін. чырв. | 45 | зім. | — | — | 16 | 15 | 93,75 | 1 | 6,25 | 1 | — | — | — | — | — | | — |
| 10 | Штрэйфлінг . | 45 | вос. | — | — | 15 | 15 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 11 | Ранэт Лянзб. | 18 | зім. | — | — | 6 | — | — | 6 | 100 | 2 | — | — | — | — | — | 4 | — |
| 12 | Пуцімка . . | 40 | вос. | — | — | 6 | 6 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 13 | Бойкен . . | 18 | зім, | — | — | 4 | — | — | 4 | 100 | 4 | — | — | — | — | — | — | — |
| 14 | Парм. зім. зал. | 55 | „ | — | — | 3 | 2 | 66,67 | 1 | 33,33 | 1 | — | — | — | — | — | — | — |
| 15 | Ран. вял. касел. | 18 | „ | — | — | 2 | 1 | 50 | 1 | 50 | — | — | — | — | — | — | 1 | — |
| 16 | Іншых . . | — | — | — | — | 311 | 286 | 91,96 | 25 | 8,04 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 1 | Ільлінка . . | — | — | — | — | 8 | 5 | 62,5 | 3 | 37,5 | — | — | — | — | — | 2 | 1 | — |
| 2 | Безнасенка . | — | — | — | — | 11 | 7 | 64,6 | 4 | 35,4 | 2 | — | — | — | — | 2 | — | — |
| 3 | Лясн. прыгож. | — | — | — | — | 6 | 5 | 83,33 | 1 | 16,67 | — | — | — | — | — | — | 1 | — |
| 4 | Іншых . . | — | — | — | — | 15 | 8 | 53,33 | 7 | 47,67 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Разам | — | — | — | — | 1203 | 1044 | — | 159 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |

**Н. В. Пагарэлаў і В. П. Трэпачаў.**

# Умовы разьвіцьця і сучасны стан пладоўніцтва ў Гомельскай акрузе.

Гомельская акруга вызначылася ў чэрвені 1927 г. і складаецца з б. Гомельскага і б. Рэчыцкага паветаў, уключае 10 раёнаў: Гомельскі, Уваравіцкі. Веткаўскі, Чачэрскі, Церахоўскі, Рэчыцкі, Брагінскі, Хойніцкі, Лоеўскі і Камарынскі. У жніўні 1927 г. да іх прылучан Буда-Кашалеўскі раён.

Гомельская акруга займае паўднёва-усходнюю частку БССР і мяжуе на ўсходзе з Браншчынай, на паўночна-захадзе з Бабруйшчынай, на захадзе з Мазыршчынай, на паўдні з Кіеўшчынай з Чарнігаўшчынай.

З поўначы на поўдзень Гомельшчына мае працяжнасьць 215 кілём., з захада на усход 142 кілёмэтра.

Адносна шляхоў зносін акруга знаходзіцца ў вельмі памысных умовах. Жалезнадарожная лінія, якая зьвязвае Кіеў з Ленінградам, пралягае ў акрузе на працягу 108 кілёмэтраў. Лінія, якая ідзе ад польскай мяжы праз Гомель на Бранск—Маскву, перасякае акругу на працягу 144 клм. Пад'яздныя шляхі Хойнікі—Васілевічы маюць працяжнасьць у 44 кілём. лінія Гомель—Чарнігаў—35 кілём. і Чарнігаў—Воўруч—26 кілёмэтраў на тэрыторыі акругі

Воднымі шляхамі акруга таксама цалкам забясьпечана. Дняпро перасякае тэрыторыю акругі на працягу 255 кілёмэтраў, а Сож—200 клм. На мяжы Хойнікскага раёну і Мазырскай акругі праходзіць Прыпяць на працягу 55 кілчм., а р. Бярэзіна на мяжы Рэчыцкага раёну і Бабруйскай акругі працякае на працягу 25 кілёмэтр. Рака Бесядзь бывае суднаходнай у разьлівы на працягу 55 кілёмэтраў.

На 100 кв. кілёмэтраў тэрыторыі ў акрузе прыходзіцца шляхаў багата больш, чым у БССР. Так на 100 кв. кілёмэтраў.

| | Жалезных дарог | Суднаходных шляхоў |
|---|---|---|
| Па БССР . . . . . . . . . . | 2,05 кіл. | 1,32 кіл. |
| Па Гомельскай акрузе . . . . | 2,2 „ | 3,43 „ |
| Па СССР . . . . . . . . . | 0,33 „ | — |
| Эўрапэйская частка СССР . . | 1,01 „ | — |
| П—А. З. Ш. . . . . . . . . | 5,20 „ | — |

Усіх шляхоў: жалезнадарожных, шашовых водных у акрузе на 100 кв. кілём. прыходзіцца 6,22 кіл., тады як у БССР толькі 3.45 кілём.

Тэрыторыя акругі, вызначаная плянімэтрычна, раўняецца 1.559.500 гэктарам, што складае 12,4% ад тэрыторыі БССР.

Насельніцтва 692.038 чалавек, з якіх на долю сельскага прыходзіцца 551.807 г. зн. 79,7%, а на долю гарадзкога 140.231 г. зн. 20,3%.

Паселішчаў налічваецца 1873. Пабольшаных сельсаветаў—208.

Сялянскіх гаспадарак па акрузе ёсьць 109732. Дынаміка росту гаспадарак і сельскага насельніцтва з 1916 па 1927 год прадстаўлены наступнай табліцай:

| Гады | Гаспадаркі колькасьць | % | Сельскае насельніц. колькасьць | % |
|---|---|---|---|---|
| 1916 | 77.661 | 100 | 432.814 | 100,0 |
| 1927 | 108.830 | 140,2 | 551.807 | 127,8 |

За 12 год штогадовы прырост насельніцтва складае 2,5%, а гаспадарак 3,6%. Відавочна ідзе працэс падрабненьня гаспадарак.

У 1916 годзе на гаспадарку прыходзілася 5,57 душ, а ў 1927 годзе толькі—5 37 душ (па БССР—5,38 душ)

Сельскае працоўнае насельніцтва лічыцца ў 326.967 душ. г. значыць 59,9% ад усяго насельніцтва. На 1 кв. кілёмэтр па акрузе прыходзіцца 37,1 жыхароў, тады як сярэдняя па БССР толькі 33,9 чалавек. Найбольш шчытнае насельніцтва ў Церахоўскім раёне—51 5 чалавек на кв. кілём.; найменш шчытнае—ў Хойнікскім раёне, дзе на 1 кв. кілём. прыходзіцца толькі 22 чалавекі.

Тэрыторыя па ўжытках разьмяшчаецца наступным чынам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Пахаць | 464.300 | гэкт. | 30,0% |
| Прысядзібныя | 47.700 | „ | 3,0 „ |
| Сенажаць (у тым ліку і балот) | 311.400 | „ | 20,0 „ |
| Лес | 413.000 | „ | 21,0 „ |
| Выган | 81 700 | „ | 5,1 „ |
| Хмызьнякі, зарасьнік ды інш. | 76.500 | „ | 4,9 „ |
| Іншыя ўжыткі | 124.900 | „ | 8,0 „ |
| Усяго | 1.559.500 | „ | 100,0 „ |

Карыстаюцца зямлёю (1927 г.).

| Сяляне | Саўгасы | Калгасы | Дзяржм. | Ляснае ведам. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| 72,2% | 0,8% | 0,4% | 1,2% | 25,4% | 100.0% |

Сацыяльны склад вёскі можа быць ахарактарызаваны разьбіўкаю гаспадарак па пасеўнасьці, па забясьпячэньню працоўнай і прадукцыйнаю жывёлаю. Так, у 1928 годзе, па акрузе было:

| | |
|---|---|
| Гаспадарак беспасеўных | 1,28% |
| З пасевам да 2 дзесяцін | 39,63 „ |
| Ад 2,1 — 4 дзес. | 41.40 „ |
| „ 4,1 — 6 „ | 13,50 „ |
| „ 6,1 — 8 „ | 3,20 „ |
| больш 8 „ | 0,92 „ |
| Усяго | 100,0 „ |

Па забяспячэньню працоўнаю жывёлаю:

| | |
|---|---|
| Без працоўнай жывёлы | 10,24% |
| З 1 галавою | 53,43 „ |
| „ 2 галавамі | 31,75 „ |
| „ 3 „ | 3,99 „ |
| „ 4 і болей | 0,59 „ |
| Усяго | 100,0 „ |

Па забясьпячэньню каровамі:

| | |
|---|---|
| Бескароўных | 4,93% |
| З 1 кароваю | 41,60 „ |
| „ 2 каровамі | 38,49 „ |
| „ 3 „ | 11,09 „ |
| 4 і больш | 3,89 „ |
| Усяго | 100,0 % |

Плошча, занятая садамі, лічыцца ў 5000 гэктараў і складае 10,5% ад сядзібных зямель акругі. Па зьвестках Гомельскага Губэрнскага Статыстычнага Бюро ў межах б. Гомельскай губ. адносная вага пладоўніцтва ў балянсе сельскай гаспадаркі выражалася ў 1924-25 годзе ў 1,69%; у 1925 і 1926 год. ў 2,03% (у грашовым адзначэньні) У склад губэрні ўваходзілі паветы з мала разьвітым пладаўніцтвам, а затым адносную вагу яго па акрузе трэба лічыць значна вышэй. У гэтых адносінах няма лічбавых дадзеных, але (па зьвестках, якія маюцца) трэба лічыць адносную вагу пладоўніцтва ня менш 5%.

Вываз прадуктаў пладоўніцтва за мэжы губэрні ў 1924-25 годзе складаў 21,9% валавое прадукцыі. Адпаведная лічба для акругі павінна быць вышэй.

Інтэнсыўнасьць разьвіцьця пладоўніцтва ў акрузе можа быць выяўлена шляхам супастаўленьня плошчы садоў, якая прыходзіцца на 1 чал. ў гэктарах па розных краінах:

| | |
|---|---|
| У БССР | 0,0046 гэктара |
| „ Гомельскай акрузе | 0,007 „ |
| „ СССР | 0,004 „ |
| „ Нямеччыне | 0,012 „ |
| „ П-А. З. Ш. | 0,021 „ |
| „ Англіі | 0,002 „ |

Разьвіцьцё інтэнсыўных галін у акрузе адбілася на арганізацыйным ладзе сельска-гаспадарчых прадпрыемстваў. Прыгарадныя гаспадаркі прынялі ўхіл садова-гародна-малочны або гародна-малочны. Гаспадаркі некаторых эканамічных раёнаў сваю таварную прадукцыю часта абгрунтоўваюць на бульбе, суніцы, пладох.

Бюджэтныя дадзеныя для гаспадаркі гр. Раманькова Д. (Старое Сяло, Веткаўскага раёну) ясна паказваюць, што ў таварнай частцы прадукцыі было:

| | Прадукт. сад. і гар. | Прад. жывёл | Прад. паляв. | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| На суму | 77 р. 10 к. | 102 р. 33 к. | 49 р. 75 к. | 229р.18к. |
| У % | 33,7% | 44,7% | 21,6% | 100,0% |

Другая гаспадарка (гр. Міцкевіча А. С. у сяле Зялёныя Лукі, Уваравіцкага раёну), якая мае 4,25 дзес. ворнай зямлі, 6,25 дзес. сенажаці і 0,25 дзес. старога саду, прадало прадуктаў:

| | Садоўн. і гародн. | Жывёлагадоўлі | Паляводзтва | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| На суму | 338 р. 55 к. | 308 р. 89 к. | — | 647 р. 44к. |
| У % | 52,3% | 47,7% | — | 100,0% |

Рост значэньня інтэнсыўных галін у паасобных гаспадарках зьвязаны ў часе з ростам вывазу пладоў. Так па жалезных дарогах вывезена ў тонах:

| У 1911—12 годзе | З 1/VIII 1924 г. па 1/VIII 1925 г. | З 1/VIII 1925 г. па 1/VIII 1926 г. | З 1/X 1926 г. па 1/X 1927 г. |
|---|---|---|---|
| 3210 | 1895 | 4780 | 6397 |

Рост вывазу з 1925 году тлумачыцца прасьцей за ўсё, як відаць, падвышэньнем цэн на прадукты пладоўніцтва ў раёнах разьвіцьця прамысловасьці (Донбас, Крывы Рог, Ленінград, Растоў н/Д.).

Пладовыя сады акругі ў сваім разьмяшчэньні па тэрыторыі падлягаюць некаторай законамернасьці ў залежнасьці ад разьмяшчэньня фактараў, якія робяць уплыў на штандарт сельска-гаспадар. прадпрыемстваў.

Большасьць садоў знаходзіцца або на суглінках або на зьвязных супясях, вельмі блізкіх да суглінкаў. Глебавы фактар зьяўляецца, мабыць, асноўным фактарам разьмяшчэньня, бо ён абумоўлівае, галоўным чынам разьмеры ўраджаю і працяжнасьць карыснага ўзросту, які на суглінках, напрыклад, на 30--40% болей, чым на супясях і пяскох. Наступная табліца паказвае сувязь разьвіцьця пладоўніцтва з глебавым фактарам.

| | РАЁНЫ | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Гомель | Рэчыца | Увара-вічы | Ветка | Брагін |
| % плошчы садоў ад плошчы садоў акругі . . . | 28,9 | 18,3 | 11,3 | 10,1 | 6,6 |
| % плошчы садоў у адносіны да плошчы сядзібы | 18,6 | 12,8 | 11,2 | 9,3 | 8,5 |
| Землязабясьпечанасьць на чалавека ў гэктарах . | 0,79 | 0,86 | 0,85 | 0,87 | 1,09 |
| % суглінiстых глеб у раёне . . . . . . . . . . | 23,80 | 23,7 | 15,0 | 18,10 | 27,5 |
| Шчыгнасьць насельніцтва . . . . . . . . . . . | 38,4 | 28,3 | 44,5 | 44,0 | 40,0 |

Табліца ясна сьведчыць, што сады канцэнтруюцца, галоўным чынам, у раёнах са значнай колькасьцю суглінкаў і ў раёнах слаба-забясьпечаных зямель. Параўнальна слабое разьвіцьцё пладоўніцтва ў Брагінскім раёне пры высокай шчытнасьці насельніцтва і значнай колькасьці суглiністых глеб, тлумачыцца дрэннымі транспартнымі ўмовамі раёну, адсутнасьцю ў раёне жалезных дарог, водных шляхоў зносін (суднаходн.) і значных рынкаў збыту. Рынкамі збыту прадуктаў пладоўніцтва пры значным вывазе з акругі зьяўляецца, па сутнасьці, кожная жалезна-дарожная станцыя, кожная прыстань. Загэтым мы бачым, што большая частка садоў знаходзіцца і на суглiністых глебах і каля памысных шляхоў зносін (карта № 2). Так, пры поглядзе на карту пладоўніцтва, мы бачым, што правы высокі бераг Дняпра мае значную колькасьць садоў, для якіх выгодна збываць прадукцыю сплавам на Украіну. Вузкаю стужкаю сады знаходзяцца ўдоўж амаль ўсёй ракі, перарываючыся толькі на мясцох, якія маюць пяшчаная глебы, мала прыгодныя для пладоўніцтва. Гняздо садоў у Рэчыцкім раёне на поўдзень ад жалезнадарожнай лініі знаходзіцца на суглінках у цэнтры значнага нутранога рынку, які ўтвораны густасьцю насельніцтва.

Паласа супясчаных глеб, з вылучэньнем плям суглiністых лёгкіх глеб па правым беразе Сожу, дае нам другі прыклад залежнасьці разьмяшчэньне садоў ад шляхоў зносін. У гэтай паласе садоў мы бачым та-

# СХЭМАТЫЧНАЯ КАРТА ПЛАДОЎНІЦТВА

## ГОМЕЛЬСКАЙ АКРУГІ БССР




### ПЛОШЧА САДОЎ ПА РАЁНАХ

| | | |
|---|---|---|
| 1. Гомельскі | 1435 | гэктар. |
| 2. Веткаўскі | 470 | „ |
| 3. Чачэрскі | 267 | „ |
| 4. Цэрахоўскі | 302 | „ |
| 5. Уваравіцкі | 580 | „ |
| 6. Брагінскі | 306 | „ |
| 7. Камарынскі | 72 | „ |
| 8. Лоеўскі | 310 | „ |
| 9. Рэчыцкі | 860 | „ |
| 10. Хойнікскі | 198 | „ |
| 11. Буда-Кашалёўскі | 200 | „ |
| Разам | 5000 | гэктар. |

кія магутныя масывы, як Радуга—Холы—Навасёлкі—Шэрсьцін, якія ў агульнай злучнасьці даюць да 200 гэктараў. Жалезна-дарожная лінія—Кіеў—Ленінград таксама з абодвых бакоў аблямавана садамі, якія каля Гомеля ўтвараюць Брылева-Ярэмінскі масыў плошчаю звыш 300 гэктар. У гэтую лічбу не ўваходзяць гарадзкія сады, якіх у адным Гомелі налічваецца звыш 250 гэктараў. Емісты ўнутраны рынак і добрыя глебы ва Уваравіцкім раёне абумовілі тое, што пладоўніцтва гэтага раёну роўнамерна распаўсюдзілася па яго тэрыторыі.

У Чачэрскім раёне мы бачым. групу садоў (Холачча, Закрэўе, Караблішча, Ніўкі, Хорашаўка), якія разьмешчаны ўдоўж шашы Гомель—Магілёў. Гісторыя закладаньня гэтых садоў кажа што яны былі прызначаны для праектуемай да пабудовы цукерачнай фабрыкі ў якасьці дастаўляючых сыравіну прадпрыемстваў. Левы бок р. Сожу (Засожаўе) прадстаўляе раён пяшчаных глеб з рэдкім насельніцтвам, большаю часткаю. такім, якое шукае заробкаў на адбоччы адходнымі промысламі (будаўнікі). Сады тут рэдка. Толькі ў раёне сяла Сьвяцілавічы, дзе больш зьвязныя глебы, маюцца пладовыя сады невялікіх разьмераў. Асабліва цікавая тут в. Глухаўка, у якой маецца каля 20 дзес. садоў. Плады ня вывозяцца, але збываюцца на месцы вакольнаму насельніцтву. Сьвяцілавіцка-Глухаўскі масыў зьяўляецца тыповым для вытворчасьці на ўнутраны рынак.

Нязвычайна цікавым у сэнсе будучыны зьяўляецца Хойніка-Брагінскі масыў, які знаходзіцца на шчытных суглінках паласою ад м. Хойнікі да м. Брагіна. У садох гэтых раёнаў растуць паўднёвыя сарты, якія дасягаюць тут вельмі добрай якасьці. Паасобныя сады дасягаюць плошчы ў 32 гэктары (Вастрагляды) і 40 гэктараў (Глухавічы). Тут у значнай колькасьці разводзіцца вішня.

Налічча вольных капіталаў і ведаў зьявіліся таксама фактарамі, якія рабілі ўплыў на разьмяшчэньне садоў. У гэтых адносінах нязвычайна цікавы зьвесткі, атрыманыя шляхам апытаньня старажылаў аб пачатку пладоўніцтва ў Гомельшчыне. Пладовыя дрэвы і веды прыносілі муляры, якія хадзілі з сяла Агародня Гомельская Церахоўскага раёну ў Курскую губэрню на заробкі. Купцы, якія вылучыліся з вёскі, перайшлі пад Гомель, дзе пакрысе стварылі масыў садоў (Брылева-Ярэмінскі); іх прыкладу паступова пасьледавалі другія купцы і абшарнікі. Да правядзеньня жалезных дарог плады збываліся гужавым чынам у Польшчу, дзе прадаваліся па цане 20—30—40 кап. за пуд. З пабудоваю Лібава—Роменскай жалезнай дарогі (1880—1890 г.) і Палескай (скончана у 1892 г.) для пладоўніцтва Гомельшчыны адчыніліся рынкі збыту паўднёвых прамысловых раёнаў, і пладоўніцтва пачало хутка разьвівацца.

З гэтых пор фактарамі, якія затрымлівалі разьвіцьцё пладоўніцтва былі недахопы саджанцаў, неабходных капіталаў і ведаў, а для сялян—неземляўпарадкаванасьць. Разьмеры пладовых садоў акругі розныя. У сярэднім нацыяналізаваныя сады маюць плошчу каля 10 гэктараў, а сялянскія, па афіцыйных дадзеных, каля 29 дрэў. Разьмеры сялянскага саду некалькі перавялічаныя дзякуючы таму, што ў гэтую групу аднесены сады не нацыяналізаваныя, але маючыя чыста прамысловы характар. Сапраўды сялянскі спажывецкі сад, хутчэй за ўсё, налічвае 10—12 дрэў розных парод. Па статычных зьвестках у акрузе ёсьць каля 13.000 сялянскіх гаспадарак з садамі, г. зн. каля 12% ад агульнага ліку гаспадарак акругі. Пладовыя сады акругі прадстаўляюць з сябе галоўным чынам яблыневыя сады.

У сярэднім суадносіны парод наступныя:

| | |
|---|---|
| Яблыні | 91,8% |
| Ігрушы | 6,8 „ |
| Вішні, чарэшні | 1,1 „ |
| Сьлівы | 0,3 „ |
| Усяго | 100% |

Процантовыя суадносіны парод узяты для акругі на аснове анкетнага абсьледваньня, якое зроблена ў 1927 годзе. Па раёнах яны зьмяняюцца. У больш паўднёвых раёнах % ігруш уздымаецца да 14%. У сартовых адносінах больш абсьледаванай зьяўляецца толькі яблыня.

Склад у сярэднім такі:

| | |
|---|---|
| Антонаўка | 66,9% |
| Пэпін Літоўскі | 8,8 „ |
| Іншыя сарты | 21,4 „ |
| Невядомыя | 2,9 „ |
| Усяго | 100 0% |

Да парадку іншых, якія складаюць 21,4% адносяцца звыш 80 сартоў, з якіх найбольш распаўсюджанымі трэба лічыць: цітаўку, валошку, апорт, наліў белы, пуцімку, баравінку, аркад чырвоны. Іншыя сарты ў нязначнай колькасьці расьсеяны па садох.

Як відаць, эканоміка нашых садоў грунтуецца, галоўным чынам, на антонаўцы, якая ў некаторых садох пасаджана ў колькасьці ледзь не 90% ад агульнага ліку дрэў. Гэта характарызуе сады як прамысловыя, але абумоўлівае асобы эканамічны від пладоўніцтва, дзякуючы асобым торговым якасьцям плада.

Вядома, што антонаўка існуе ў вялікай колькасьці варыяцый. Анкетнае абсьледваньне пладоўніцтва акругі дало адносна складу антонаўкі наступны матар'ял: на долю „звычайнай“ адносяць да 74%, на долю „камянічкі“—33% і толькі 3% на долю астатніх варыяцый (лугавая, белая, паўтарафунтовая, шклянчатая).

Высокі % „камянічкі“ яшчэ ня кажа аб высокіх якасьцях пладоў. „Камянічка“, якая выгадоўваецца ва ўмовах акругі вар'іруе ад саду ў сад, ад году ў год. Гомельскія адмены антонаўкі адрозьніваюцца даволі раньнім высьпельваньнем Гэтая ўласьцівасьць дае магчымасьць прыняць высокую кан'юктуру цэн на раньнюю антонаўку, якая складзецца на рынку перад паступленьнем на яго мас позьняй антонаўкі з цэнтральных губэрняў. Гомельская антонаўка на паўднёвым рынку расцэньваецца галоўным чынам, як „зубны“ тавар, г. зн. які ідзе на спажываньне без працяжнага ляжаньня. Ваганьні цэн на антонаўку даволі значныя ў залежнасьці ад ураджаю як у акрузе, так і ў суседніх вобласьцях, і на першасортны, адборныя яблыкі яны бываюць ад 2 руб. 50 кап. за двухпудовую скрынку да 6 рублёў франкавагон.

Ураджайнасьць садоў зьяўляецца рэзультатам дзеяньня шматлікавых фактараў: угнаеньня, паміжрадных культур, сорта, разьмяшчэньня саду, глебы, абароны, узросту, мэтэоролёгічных умоў вэгетацыйнага пэрыяду, шкоднікаў і хвароб, падбору сартоў, разьмераў і формы дрэва, здароўя дрэва. Усе гэтыя фактары робяць уплыў ня толькі на колькасьць ураджаю, але таксама і на яго якасьці.

Максімальныя лічбы ўраджайнасьці з гэктару саду каля 1500 пуд. (сад у вёсцы В. Брылеў б Піцінцова плошчаю 28 гэктараў). У некаторыя гады ў садзе „Заспа“ Рэчыцкага раёну з 8 гэктараў мелі звыш

20.000 пудоў, г. знач. на гэктар каля 2.500 пудоў (сад знаходзіцца на вельмі шчытным суглінку).

У сярэднім-жа гэктар саду ва ўэросьце каля 30 год на лёгкіх суглінках з бульбаю і вікаю паміж радамі дае каля 400 пудоў штогод. Ва ўзросьце 40 60 год ураджайнасьць з гэктару каля 300 пудоў. Сады, маладзей 20 год, разьмешчаныя на лёгкіх супясях даюць 160—180 пуд.

Ураджайнасьць паасобных дрэў хістаецца ад сорту да сорту. Па анкетных дадзеных дрэва антонаўкі дае ў год 6-7 пудоў пладоў ва ўзросьце 30 год на суглінках. Ураджайнасьць гэтага сорту асабліва павінна быць цікава таму, што ён складае большую частку насаджэньняў акругі. Эксплёатацыя пладовых садоў акругі здаўна вялася шляхом здачы ўраджаю ў арэнду капіталісту-плодагандляру. Тут ураджай на дрэве расцэньваўся ў даваенны час у 50 кап. У цяперашні час пры здачы садоў пуд расцэньваецца ў 75 кап —1 руб. Здача ўраджаю ў арэнду плодагандляру фактычна аддавала яму ўсе даходы. Рэалізацыя ўраджаю паглынае вялізарную, параўнальна з доглядам, колькасьць працоўных рук і капіталаў.

Ураджаі садоў, як правіла, вывозіліся за межы акругі ў значнай колькасьці. Па дадзеных статбюро з б. Гомельскай губэрні за 1924-25 г. вывезена каля 21% валавое прадукцыі садоў, пры чым вываз прадукцыі пладоўніцтва складаў 5.87% ад каштоўнасьці ўсяго вывазу губэрні. У межах акругі % вывазу значна вышэй і, мабыць, дасягае 30—35%. Дакладных дадзеных даць нельга хоць бы за тым, што Статыстычнае бюро зьвестак падобнага роду па акрузе не распрацоўвала. Вываз за межы акругі па дадзеных Статбюро па жалезных дарогах у тонах выявіўся ў наступным:

| 1911—12 г. | З 1/VIII-24 г. па 1/VIII-25 г. | З 1/VIII-25 г. па 1/VIII-26 г. | З 1/X-26 г. па 1/X-27 г. |
|---|---|---|---|
| 3210 | 1895 | 4780 | 6397 |
| 100% | 59% | 149% | 199% |

Паданьне вывазу да 1924 году выклікана разрухаю транспарту як вынік войн. Пасьлядоўны мацнейшы рост вывазу паказвае на ўздым пладоўніцтва, як рэзультат больш уважлівага адношаньня да садоў.

Пунктамі збыту пладоў зьяўляецца Донбас з яго шматлікавым працоўным насельніцтвам, Ленінград, Кіеў, Харкаў, Дняпропятроўск, Крэменчуг, Каменскае, Растоў н/Д. Раней накіроўвалі плады ў Самару, Сталінград і нават у Архангельск

Крэменчуг, Каменскае, Чаркасы паглынаюць яблыкі нізкасортныя і „бурныя“, тады як іншыя рынкі патрабуюць першасартовага. Гарады па Дняпру забясьпечваюцца пераважна сплавам пладоў у лайбах і барлінах. Сплаў пладоў настолькі разьвіўся, што некаторыя сёлы акругі (сяло Галоднае Веткаўскага раёну) нават спэцыялізаваліся на гэтым. Зімою будуюць лайбы і ўсё лета возяць лес, а пад восень прыстасоўваюць іх пад яблыкі. Лайбы будуецца рознай ёмістасьці: ад 1000 п. і да 4,500 п. Плодагандляры лічаць, што сплаў пладоў нават паляпшае якасьць іх. Сплавам ідуць пераважна яблыкі нізкасартовыя.

У 1928 годзе ў пяршыню практыкавалася ў акрузе адпраўка яблык у Нямеччыну навалам. Дзякуючы крепкасьці пладоў ураджаю 1928 году рэзультаты аказаліся нядрэнныя. Гэта кажа за тое, што нашы яблыкі (антонаўкі), не гледзячы на кволасьць, усё-ж могуць у некаторыя гады скласьці прадмэт экспарту на замежны рынак. Пладовыя сады ў сваёй культурнай форме заўсёды злучаюцца з прамежнымі культурамі, якавымі

часьцей за ўсё зьяўляюцца: віка-аўсяная мешанка, бульба, капуста, гародныя кораньплоды, кармавы бурак, суніцы, маліны, парэчкі.

Пасевы віка-аўсянай мешанкі адмоўна ўплываюць на дрэвы, паслабляючы прырост і выклікаючы зьмяншэньне разьмераў пладоў. Ліст на дрэве робіцца бледна-зялёным. Затое плады робяцца мацней і транспартабельнасьць іх падвышаецца. Мешанка пад палогам дрэў складаецца з $^2/_3$ вікі і $^1/_3$ аўса. Ураджаі сена ў садзе 30-гадовага ўзросту пры пасадцы 8×8 мэтраў каля 2-х тон на сугліністай глебе,

Бульба робіць уплыў супроцьлеглы віка-аўсу. Вучасткі саду, якія ідуць па бульбе, кораньплодах і штогод ўгнойваюцца і апрацоўваюцца, пачынаюць пладанасіць таксама штогод. Якасьць ураджаю ў гандлёвых адносінах нявысокая: яблыкі хоць і атрымліваюцца буйныя, але нялёжкія і дрэнна пераносяць транспарт. Ураджаі бульбы з дзесяціны на суглінках у садзе ўзросту каля 30 год, пасадкі 8×8 мэтраў, бываюць каля $13^1/_3$ т. тады як палявая культура дае 20—21 тону.

Запусканьне ў садох лугоў, як правіла, не практыкуецца. Часам высяваюць у садох канюшыну, або ня ўзорваюць сад некалькі год падрад. Рэзультаты адбываюцца неўзабаве: слабы прырост, усялякія хваробы, нікчэмныя ўраджаі (ня звыш 1 пуда на дрэва ў год).

З усіх паміжрадных культур саду асабліва цікава суніца, распаўсюджаная ў прамысловых садох прыгараднага раёну. Культывіруецца яна на градах на працягу 4 год (з моманту пасадкі). На грады, шырынёю ў адзін мэтр, разьмяшчаюць радамі на адлегласьці 36—54 см. куст ад куста. Пасадка, большаю часткаю, веснавая. Восенная пасадка пачынаецца з 20-х чысел жніўня. На дзесяціну суніцы за год затрачваецца звыш 300 працоўных дзён. Догляд заключаецца ў прачыстцы кустоў вясною, падвойным поліве да збору і адным пасьля збору, пасыпцы конскім гноем перад зборам, пасыпцы апілкамі, пілавіньнем або саломаю перад высьпельваньнем ягад, каб яны не запэцкваліся. Глеба апрацоўваецца на 4 вяршкі. Гной уносіцца ў колькасьць 66 тон на гэктар. Суніца трымаецца пераважна ў маладых садох (да 35 год). Сарты: Рошчынская, Шарплес, Нобль (нямнога). Ураджай—каля 5 тон з гэктару.

Па заўвагах практыкаў пасевы аўса ў садох, нават маладых, не карысны: зерна атрымліваецца з дзесяціны ня болей 50 пудоў. Вінаваўцамі слабых ураджаяў зьяўляюцца вераб'і, якія выклёўваюць зярняты.

З садовых будынкаў цікавы эканомічныя дадзеныя па кошту ўзьвядзеньня балаганаў. Гэты кошт залежыць ад цаны на лес і салому. У сярэднім, 1 кв мэтр плошчы балагану абыходзіцца ў 2 рублі. Балаган на 4 вагоны яблык (2400 пуд.) каштуе 350—400 рублёў.

Нязвычайна значныя капіталы ўкладзены ў садовую агарожу. Па асобных садох агарожы прыходзіцца на 1 гэктар ад 100 да 190 мэтраў. Адзін пагонны мэтр каштуе ад 70 кап. да 1 р. 40 к. у залежнасьці ад якасьці матар'ялу (з калючага дроту, дашчаны плот). Тэрмін службы агарожы ня болей 10 год. У апошні час у якасьці агарожы пачалі ўжываць пасадкі Salix'аў па раву вакол саду. Капаньне канавы шырынёю 1,7 м,—2 мэтр. і глыбінёю ў адзін мэтр абыходзіцца ў 50—65 кап. за 2 пагонныя мэтры.

З паўночнага, паўночна-заходняга і паўночна-ўсходняга боку садоў звычайна ёсьць абаронныя ўзьлескі з таполі, ліпы. Вельмі добрыя ўзьлескі з елкі вакол садоў Чачэрскага раёну: „Закрэўе", „Халочча", „Дудзічы", „Хорашаўка", закладзеныя ў 1913 годзе Сьпірыдонавым В. І. у б. маёнтках Чарнышовай—Безабразавай.

Большасьць прамысловых садоў для барацьбы са шкоднікамі і хваробамі маюць конныя апырсквальнікі „Памона“. Па акрузе іх налічваецца каля 130 штук. Абсталяваньне машыны каштуе 140—150 рублёў. Тэрмін службы 7—8 год. Адна машына прыходзіцца на 9—10 гэктараў саду, што зьяўляецца вялікай нагрузкай. Апырскваньне звычайна 2—3 кратнае да распусканьня пучкоў $5\%$ расчынаю жалезнага купарвасу або вапнавым малаком і пасьля цьвіценьня камбінаванаю расчынаю бардоскай вадкасьці з парыскай зеленьню. Бардоскую вадкасьць ужывалі $1-1^1/_2\%$, у апошні час дзеля ўхіленьня ад апёкаў пачалі пераходзіць на $^1/_2\%$.

Прадукцыйнасьць работы машыны—8 двадцацівёдзерных бочак, г. зн. 160 вёдзер за 8 гадзінны працоўны дзень. Пры машыне працуе 4 чалавекі і адзін конь. Аплата працоўнай сілы каштуе $8^1/_2-9$ р. Пры рабоце дзьвюх машын адначасова ёсьць магчымасьць расчыны падвозіць; для гэтага дадаткова наймаюць 1 рабочага і 1 каня. На адну машыну выдаткі падвышаюцца да 10—11 руб. Затое вытворчасьць кожнай машыны, калі яны працуюць адначасова, падымаецца да 11—12 бочак у дзень. На дрэва выходзіць расчыны $1^1/_2-2$ вядры (дрэва ў лісьцёвым стане ва ўзросьце 30 год). Кошт апрацоўкі дрэва каштуе пры працы адной машыны ў 10—11 копеек, а пры працы дзьвюх машын 6—8 кап. Разьлік ня прымае пад увагу амортызацыю і рамонт машын. Абіраньне вусеневых гнёзд (баярышніцы, златагузкі) каштуе каля 4 кап. на дрэва. Барацьба з зімовай пядзеніцаю патрабуе даволі значных выдаткаў. Для прыкладу прыводзім разьлікі для саду ў $13^1/_3$ дзес. (30 год).

| | | |
|---|---|---|
| 1. Мазі для абмазкі 8 раз—40 пуд. па 2 р. 50 к. п. | 100 р. | — |
| 2. Паперы $2^1/_2$ пуд. па 7 р. пуд. . . . . . . . . . . | 17 „ | 50 к. |
| 4. Шпагату 5 ф. па 70 к фунт. . . . . . . . . . | 3 „ | 50 „ |
| 4. Накладка кольцаў па 1 руб. з дзес. . . . . . | 12 „ | — |
| 5. Абмазка кольцаў 8 раз па 4 руб з дзесяціны . | 32 „ | — |
| Усяго . . . . | 181 руб. | |

На гэктар выдаткаў каля 14 рублёў.

Барацьба з зімовай пядзеніцай прыняла ў акрузе даволі вялікія разьмеры; у 1925 годзе кольцы былі наложаны на 98 гэктараў, у 1928 г. на 150 гэктараў.

Кошт апырскваньня рознымі расчынамі мяняецца ў залежнасьці ад цэн на матар'ялы:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 кілёграм | жалезнага купарвасу | каштуе | 16—17 кап. |
| „ | мядзянага „ | „ | 80 „ |
| „ | парыскай зелені | „ | 1 руб. 25 „ |
| „ | джыпсіна | „ | 90 „ |
| „ | нягашанай вапны | „ | 4 „ |
| „ | вусеневага клею замены | „ | 1 руб. 60 „ |

У садох часта замест вусеневага клею ўжываюць мешаніну з $50\%$ каламазі і $50\%$ нафтавых прадуктаў (паўгудрон). Наогул барацьба са шкоднікамі ў акрузе пастаўлена здавальняюча.

Фаўна шкоднікаў даволі featнастайная. Часьцей за ўсё сустракаецца баярышніцы, златагузка, кольчаты шоўкапрад, няпорны шоўкапрад, зімовая пядзеніца, пладажорка, яблыневая моль, кветаед, майскі хрушч (паўднёвыя рачны). У апошні час пачалі распаўсюджвацца розныя віды чахланоснай молі (Coleophora).

Заражанасьць шкоднікамі даволі значная. У некаторыя гады (1925 г.) наглядалася масавае зьяўленьне баярышніцы, у 1928 годзе вялізарная

колькасьць кольчатага шоўкапраду. У 1925 годзе на некаторых дрэвах налічвалі да 500 гнёэд баярышніцы.

З грыбных хвароб звычайнымі зьяўляюцца: парша, монільля, кішэнькі сьліў, ведзьміныя мётлы на вішнях, плямістасьць лісьця яблыні і ігрушы. Самае сур'эзнае значэньне мае толькі парша. У паўднёвых раёнах монільля пачынае сустракацца ў значнай колькасьці.

У злучнасьці шкоднікі і хваробы робяць істотны уплыў на якасьць і колькасьць ураджаю, а дзякуючы гэтаму і на прыбытковасьць садоў. Страты ад іх, магчымей за ўсё, па акрузе складаюць 500-600.000 руб.

Добраю санітарную мераю зьяўляецца пабелка садоў штогод вапнаю. Абыходзіцца на дрэва 2—3 кап. Абчыстка штамбаў і асноўных галін перад пабелкай ад кары, маху да інш. каштуе 5—6 кап. на дрэва. Абрэзка садоў часьцей за ўсё эдаецца зьдзельна садоўнікам—практыкам. Моцная рэзка робіцца раз у 3—4 гады, а ў другія гады толькі лёгкая рэвізыя карон. Каштуе абрэзка дрэва каля 15—20 кап. У дзень чалавек абрэжа 10—12 дрэў. Раны замазваюцца вохрай і муміяй. Абрэзка практыкуецца як вясною так і ўвосень.

Пры ўтрыманьні глебы пад чорным папарам узорваньне робіцца з восені на глыбіню да 15 см., што абыходзіцца на задзярнелай глебе ў 10 руб. на 1 гэктар, а на распрацованай 6—7 рублёў. Вясною глеба барануецца ў 2 сьляды (3 руб. 50 кап. дзесяціна). Летам працуе два разы культыватар (7 руб. на дзесяціну). Абкопваньне прыствольнай дзярніны каштуе на дзесяціну 3 рублі.

Калі глеба не папаруе, дык узорваньне вясною замяняе баранаваньне. Угнаеньне галоўным чынам,—гной уносіцца ў колькасьці каля 50 тон на 1 гэктар. Вывазка паміж радамі робіцца зімою, а заворваецца вясною. З мінэральных угнаеньняў: тамасоўка уносіцца з восені па 384 клгр. на 1 гэктар, калійная соль—180 клгр. на 1 гэктар. Па мінэральнаму ўгнаеньню ўжываюць пасеў вікі, пасьля прыбіраньня якое глеба ўзорваецца. Ужываньне мінэральных угнаеньняў у садох мала распаўсюджана з-за недахопу апошніх.

За апошнія 2—3 гады ў прыгарадных садох пачало ўжывацца „начное золата". Раскошнае, цёмна-зялёнае лісьцё дрэў сьведчыць аб памысным уплыве начнога золата на рост.

Кошт угнаеньня гноем даволі значны. Так воз гною ў $^{2}/_{3}$ тоны пры загатоўцы ў горадзе каштуе 2 р. 25 кап. Загатоўка таго-же возу ў прыгарадных гаспадарках каштуе 2 рублі.

Сур'ёзнае пытаньне ў садох ва ўраджайныя гады—забясьпячэньне падпорамі. Кошт падпоры вельмі высокі: 5, 8, 10 кап. у залежнасьці ад якасьці. Карыстаюцца, большаю часткаю падпораю з мягкіх парод. Тэрмін службы такой падпоры 2—3 гады. На пуд ураджаю падпора каштуе ў сярэднім 3 кап.

Пэрыядычнасьць ураджаяў у садох зьяўляецца фактарам, які адбываецца на разьмеркаваньні капіталаў, які вызначае ўстойлівасьць (эканомічную) пладоўніцтва. Як відаць, пэрыядычнасьць ураджаяў пагібельна рабіла ўплыў на абшарніцкае пладоўніцтва, якое разьвілося ў акрузе галоўным чынам пад уплывам купцоў, што гандлявалі лесам і хлебам. Для леса—і хлебагандляроў сады зьяўляліся аб'ектамі ўкладваньня капіталаў, назьбіраных гандлем.

Ваганьні ўраджаяў па гадох залежаць, апроч прычын біолёгічнага характару (пэрыядычнасьць залягання пладовых органаў у розных сартоў, яшчэ ад іншых прычын, якія ёсьць: 1) халоднае, дажджавое надвор'е ў час цьвіценьня; у рэзультаце—пагібель органаў кветкі; 2) апа-

даньне завязі ці недаразьвіцьцё плада, зьвязанае з лістападам, які здараецца пры надыходзе яснай сонечнай пагоды пасьля працяжных дажджоў і пахмурных дзён; 3) вятры, якія дасягаюць сілы гурагану і ня толькі зьбіваюць плады, але нават ламаюць дрэвы; 4) шкоднікі і хваробы, роля якіх у вызначэньні вышыні і якасьці ўраджаю ў нашых умовах агульна-прызнаны; 5) падбор сартоў, адначасовасьць або разночасовасьць цвіценьня якіх, зьвязаная з узаемаадносінамі ў працэсе апылкаваньня не застаецца, зразумела, бяз уплыву на вышыню ўраджаю і яго пэрыядычнасьць. Нагляданьні над пладовымі садамі акругі на працягу шэрагу год паказалі што, наогул:

| | | |
|---|---|---|
| 1920 | год | быў вельмі ўраджайны |
| 1921 | „ | „ неўраджайны |
| 1922 | „ | „ з добрым ураджаем |
| 1923 | „ | „ неўраджайны |
| 1924 | „ | „ „ |
| 1925 | „ | „ ураджайны |
| 1926 | „ | „ неўраджайны |
| 1927 | „ | „ ўраджайны |
| 1928 | „ | „ неўраджайны |

Такім чынам на працягу 9 год адзначаецца 4 ўраджайные гады, прычым адзін нават „вельмі ўраджайны“.

У паасобных садох ваганьні пэрыядычнасьці бываюць вялікія. Некаторыя сады (напрыклад, сад „Радзеева“ Уваравіцкага раёну, плошчаю 6,6 гэктара) пладаносяць штогодна, даючы па 33—50 тон і нават да 100 тон ураджаі Другія пладаносяць рэгулярна праз год (большасьць садоў Брылева-Ярэмінскага масыву).

Апроч колькасных ваганьняў ураджайнасьці з году ў год адбываюцца ваганьні якасьці ўраджаю. Калі ў 1928 годзе якасьць пладоў ня прымушае чакаць лепшай. дык у 1927 г., па агульнай думцы, яблыкі былі кволымі, гарэлі ў вагонах, у буртох, былі моцна паражоныя паршой.

На якасьць пладоў у апошнія гады зрабіла моцны ўплыў разворнасьць садоў, зьвязаная з наліччам інтэнсыўных культур (караньплоды, бульба, капуста) і патрабаваньнямі зямельных органаў адносна апрацоўкі ў садох, якія здаюцца ў арэнду. Праўда сады пачынаюць пладаносіць рэгулярна і нават штогод, але антонаўка пагоршваецца. Такім чынам высьвятляецца, што антонаўка няпрыгодна для інтэнсыўнай культуры ва ўмовах акругі.

Адна з бліжэйшых задач пладоўніцтва ў акрузе—стварэньне новых пладовых насаджэньняў, як для замены натуральна адміраючых, так і для пашырэньня адпаведна гаспадарчым магчымасьцям. Высокі % выпаду дрэў (38—40%) патрабуе для аднаўленьня плошчы вялізарнага пасадачнага матар'ялу. Задача забесьпячэньня пладоўніцтва пасадачным матар'ялам зьвязана з арганізацыяй пладовых гадавальнікаў. У акрузе адраджэньне гадавальніцкай справы пачалося з 1925 году, калі натугамі Белсельтрэсту і Садова Гароднай Каапэрацыі закладзены гадавальнікі плошчаю ў $6^1/_2$ гэктараў. У 1928 годзе плошча гадавальнікаў даведзена да 35 гэктараў, прычым шэсьць плянавых гадавальнікаў, якія разьвіваюцца на крэдыты Сельска-Гаспадарчага банку, прадпаложана давесьці да 88 г. з агульнай прадукцыяй каля 150000 двухлетак у год.

Цяпер задавольваньне насельніцтва пасадачным матар'ялам ідзе з масы дробных саматужных гадавальнікаў, закладзеных быўшымі ў эканоміях садоўнікамі, якія пасьля рэвалюцыі аселі на зямлю.

Дэічкаводзтва ў акрузе неарганізавана даволі ўстойліва дзякуючы таму, што насеньне пладовых дрэў прыходзіцца выпісваць з боку. Якасьць насеньня дае значныя ваганьні і акруга часам застаецца бяз дзічак (напрыклад у 1928 годзе).

У 1928 годзе пасьля прац Памалёгічнай Камісіі ў гадавальнікі ўведзен штандартны сортымэнт і дзейнасьць плянавых гадавальнікаў рэгулюецца асобым цыркулярам Акруговага Зямельнага Аддзелу, выдадзеным для каардынаваньня прац гадавальнікаў у галіне выгадоўваньня пасадочнага матар'ялу.

Аснаўнымі палажэньнямі ў працы пладовых выхавальнікаў зьяўляецца:

1) выпуск прамысловага сортымэнту, цалкам прыгоднага для культуры ва ўмовах акругі;

2) пераход да дзічкі лясное ігрушы і яблыні;

3) павялічэньне выпуску косткавых і ягаднікаў;

4) суровы адбор матачных дрэў, ад якіх бяруцца чаранкі для прышчэпваньня.

Пры закладваньні пладовых гадавальнікаў прымалася, што пад уплывам выпуску імі пасадачнага матар'ялу тэмп пашырэньня садовай плошчы ўзмацняецца да 8—10%, бо тэмп у 2,5%, які існаваў дагэтуль будзе нездавальняючым нават для падтрыманьня старое плошчы, якая зьмяншаецца па прычыне натуральнага адміраньня дрэў.

Працы з пладовымі выхавальнікамі перашкаджае тое, што ўвядзеньне штандартнага сортымэнту ў іх патрабуе вялізарных сілкаваньняў. Цяжары гэтага ўвядзеньня падвойваюцца слабым абсьледваньнем помалёгічных багацьцяў акругі.

Установка паасобных плянавых гадавальнікаў у аснавным гэткая:

1) Гадавальнік „Ярэміна“ Гомельскага раёну прадпалагаецца зрабіць Цэнтральным Акруговым, а плошчу яго давесьці да 30 гэктараў. Знаходзіцца на суглінках, мае роўны рэльеф паверхні, і можа даваць вельмі аднастайны матар'ял;

2) Гадавальнік „Пяскі“ плошчаю 12 гэктараў пераносіцца ў саўгас „Любны“ пад Гомелем. Абслугоўвае прыгарадны раён і паўднёвую частку левага ўзбярэжжа ракі Сожу.

3) Гадавальнік „Уваравічы“ прадпаложана давесьці да 24 гэктараў. Разьмешчаны на лёгкіх суглінках. Будзе абслугоўваць поўнач левага ўзьбярэжжа Дняпра.

4) Гадавальнік Перасьвятое“ Рэчыцкага раённага таварыства плошчаю 8 гэктараў на супясях абслугоўвае Рэчыцкі раён.

6) Гадавальнік „Хойнікі“ абслугоўвае раён лёгкіх сугліп. глеб Хойніка-Брагінскага масыву. Плошчу прадпаложана давесьці да 12 гэктараў.

6) Гадавальнік „Вастрагляды“ Брагінскага раёну ў саўгасе тае-ж назвы закладваецца на плошчы ў 16 гэктараў. Абслугоўваць будзе раён зьвязных суглінкаў.

Форма эксплёатацыі садоў не застаецца бяз уплыву на іх стан. У акрузе існавалі тры формы эксплёатацыі:

1) сам уласьнік вядзе догляд і рэалізуе ўраджай;

2) уласьнік даглядае, а ўраджай здае штогодна з таргоў;

3) сад здаецца ў арэнду на больш-менш доўгі тэрмін поўнасьцю.

Тая ці іншая форма эксплёатацыі залежыць ад налічча ва ўласьніка капіталаў, веданьня пладовых рынкаў і камэрцыйнай зваротлівасьці.

Здача садоў у арэнду (ураджаю садоў) робіцца звычайна ў чэрвені, ліпені. Пуд на дрэве ацэньваецца ў 75 к.— 1 руб.

З 1928 году па пастанове Савету Народных Камісараў БССР усе сады Дзяржмаёмасьці, акія здаваліся ў арэнду, перадаюцца Белсельтрэсту і калялектывам у працоўнае карыстаньне. Такім чынам сады будуць зьвернуты ў сыстэму сельска-гаспадарчага прадпрыемства, з якога яны былі штучна вырваны пры землеўпарадкаваньні, якое абрэзала большасьць садоў да таго, што застаўся адзін сад да 5—10 гэктараў лугу. Пры такіх суадносінах ужыткаў немагчыма арганізаваць угнаеньне садоў.

Асабліва шкодна на стане садоў адбіліся перадачы іх з рук у рукі. Перадача садоў у каапэрацыю патрабуе стварэньня збыта-дастаўляючага апарату. Такая задача ўскладаецца на Гомельскі Акруговы Саюз Садова-Гароднай Каапераціі.

У пяршыню садова-гародная каапэрацыя ўзнікла ў 1927 годзе як былыя Гомельскае і Рэчыцкае павятовыя садова-гародныя таварыствы. У склад гэтых таварыстваў уваходзілі аднаасобава садаўласьнікі, калялектывы і г. д. Праца таварыстваў пачала разьвівацца даволі пасьпяхова і ўжо ў 1927 годзе абодвы т-вы мелі зварот каля 700000 рублёў.

Новая ўстаноўка ў галіне сельска-гаспадарчай каапэрацыі—вытворчае каапэраваньне — прымусіла рэарганізаваць усю справу, вярней, стварыць спэцыяльную сыстэму садова-гароднай каапэрацыі на чале з Акруговым Саюзам Садова-Гароднай каапэрацыі (гомсадсаюзам), як арганізацыйнай інстанцыяй другой ступені. У склад Саюзу ўваходзяць 7 раённых садова-гародна-пчалярных т-ваў, 1 — спэцыяльнае пчалярскае, 1—ягаднае і 30 калгасаў. Калялектывы ў Саюз уваходзяць роўна з таварыствамі аднаасобнікаў, якія арганізаваны і ў унівэрсальныя і ў спэцыяльныя садова-гародныя таварыствы.

Да стварэньня розных форм першапачатковых аб'яднаньняў штурхаюць формы пладоўніцтва, якія існуюць у акрузе, а іменна:

1) прамысловыя пладовыя сады, якія знаходзяцца ў эксплёатацыі калгасаў;

2) сялянскія сады, дробныя і распыленыя;

3) пасялковыя сады, якія ўзьнікаюць у акрузе ў рэзультаце арганізацыйнай працы земельных органаў і каапэрацыі.

Разьмер аб'яднаньняў, якія арганізоўваюць сялянскае пладоўніцтва на аснове дастаўляюча-збытавых апэрацый залежыць ад разьвіцьця інтэнсыўных культур у раёне. Пакуль што найбольш мэтазгоднай формай варта прызнаць раённыя таварыствы, сярэдні разьмер якіх каля 100 сяброў. Пры наліччы гадовага звароту ў 30.000 рублёў такое таварыства можа трымаць сталы кіраўнічы апарат. Спэцыяльныя таварыствы могуць пры меншым разьмеры апраўдаць апарат толькі пры умове сэзоннасьці працы аплачваемай часткі апарату. Рост каапэрацыі за пэрыод з 1924 па 1928 год відзён з наступнай табліцы:

| | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г | 1927 г. | 1928 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Калгасаў . . . . . . . . . . | — | — | — | 2 | 31 |
| Садова-гародн. раённых т-ваў | 2 | 2 | 2 | 2 | 7 |
| Спэцыяльных т-ваў . . . . | 1 | 1 | 1 | 1 | 2 |
| Лік каапэраваных членаў . . | 118 | 170 | 239 | 411 | 807 |
| Каапэраваная плошча садоў у г. | 281 | 459 | 512 | 983 | 1162 |
| „ „ гарод. „ | 7 | 88 | 92 | 175 | |
| Крэдыты на збыт і дастаўку . | 2240 | 9202 | 11980 | 65000 | — |
| Збыт вагонаў гародн. і пладоў | — | 14 | 55 | 108 | — |

Ставячы галоўнаю задачаю садова-гароднай каапэрацыі—вытворчае каапэраваньне, мы не павінны выпускаць з памяці другой ня менш

важнай задачы каапэрацыі—абхоп рынкаў пладовых і гародных, выцісканьне з рынку прыватніка. Гэтая задача пад сілу каапэрацыі толькі пры наліччы ў яе паважных капіталаў і веданьня рынкаў. Што капіталы неабходныя для працы ў садова-гароднай каапэрацыі вельмі вялікія, прывядзём разьлік кошту выпраўленьня 9 вагонаў пладоў.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Скрынкавых камплектаў двухпудовых 1670 адзінак | 985 | руб. | 30 к. |
| 2. „ „ трохпудовых 200 „ | 136 | „ | — |
| 3. 32,000 шт. клепкі з дастаўкаю | 374 | „ | — |
| 4. Гваздоў 24 пуд | 172 | „ | 80 „ |
| 5. Дроту $12^1/_2$ пудоў | 90 | „ | — |
| 6. 200 пудоў стружкі з дастаўкаю | 340 | „ | — |
| 7. Зьбіўка 2580 скрынак | 129 | „ | — |
| 8. Здымка пладоў, падноска да бурта і інш | 572 | „ | 25 „ |
| 9. Сартыроўка, упакоўка забіўка | 450 | „ | — |
| 10. Перавозка на адлегласьць 15 верст | 681 | „ | — |
| 11. Падрыхтоўка вагону | 4 | „ | — |
| 12. Дублікат і накладаньне ў вагоны | 18 | „ | — |
| Усяго | 3952 | р. | 35 к. |

На вагон прыходзіцца 439 руб. 15 кап. Тут ня браліся ў разьлік выдаткі арганізацыйнага характару. Жалезна-дарожны тарыф каштуе вельмі дорага—0,0855 пудаверста.

Перавозка па грунтовых дарогах паглынае значныя сродкі. Пудаверста каштуе 0,8—1,0 кап.

Паасобныя працы па рэалізацыі ацэньваюцца наступным чынам

1. Зьбіўка скрынкі—5—6 кап.

2. Здыманьне пладоў з падносам да бурта на працаўніцу за 8 гадзінны працоўны дзень—6—7 пудоў. Пры кошце працоўнага дня ў 75—90 кап. кошт здыманьня аднаго пуда каштуе 11—15 кап.

3. Сартыроўка і ўпакоўка ў двухпудовыя скрынкі за вагон штандартнай упакоўкі 34 рублі. Мясцовая сартыроўка—вагон 24 рублі. Ёмістасьць вагону 600 пуд. (300 двухпудовых скрынак).

4. Забіўка скрынак на працаўніка 100 штук. Кошт працоўнага дня мужчыны—2 рублі.

5. Зьбіраньне падалак—15 пудоў у дзень на работніцу ці на пуд 6 капеек.

6. Скрынкавы камплект двухпудовы каштуе 55—60 к.

7. „ „ трохпудовы „ 68—70 „

8. 1000 штук клепкі з дастаўкаю—12—14 рублёў.

Штандартныя двухпудовыя скрынкі маюць наступныя памеры:

1. Чатыры дошкі па 16 вяршкоў даўжыні і $3^1/_4$ вяршкі шырыні

2. Шэсьць дошак на 15 вяршкоў даўжыні і $2^7/_8$ вяршка і $^3/_8$ цалі таўшчыні.

3. Дзьве рэйкі па 13 вяршкоў даўжыні, $1^3/_4$ цалі шырыні і усцаръ таўшчыні.

Адною з самых інтэнсыўных культур у акрузе зьяўляецца суніца, якой варта ў гэтым нарысе прысьвяціць некалькі радкоў.

Як ужо вышэй паміналася, у прыгародных раёнах яна існуе пераважна ў выглядзе прамежнай культуры ў пладовых садох, дзе садзіцца на градах. У раёне сяла Рэчак Веткаўскага раёну суніца расьце ва ўмовах сялянскай гаспадаркі на градах, на сядзібнай зямлі і на палявых вучастках, якія абгароджваюцца з гэтай мэтаю. Культура суніцы распаўсюджана галоўным чынам сярод бядняцка—серадняцкіх груп сялянства

Разьмеры яе даволі вялікія. У 21 паселішчы ёю займаюцца звыш 1000 гаспадарак. Агульная плошча, занятая суніцаю, вызначаецца прыблізна ў 120 гэктараў.

Трэцім пунктам вытворчачьці суніцы зьяўляецца сяло Грохаў Лоеўскага раёну, якое знаходзіцца ў 20—25 вярстах ад рынкаў збыту. Плошча, занятая тут пад суніцаю, каля 5 гэктараў. Культывіруецца толькі на прысядзібных вучастках.

Існаваньне двух раёнаў культуры суніцы: Рэчкаўскага і Грохаўскага кажа за тое, што ў лёкалізацыі гэтай культуры ў гэтых мясцох ігралі ролю ня толькі фактары чыста-эканамічнага парадку, але таксама фактары асабовага характару—дасьведчанасьць насельніцтва адносна гэтай культуры.

Неадкладнаю задачай гэтых двух раёнаў вытворчасьці суніцы зьяўляецца організацыя збыту і перапрацоўка нізкасортнай ягады ў віно. Практычныя крокі у гэтым напрамку зроблены як зямельнымі органамі, так і каапэрацыяй.

Узмоцненае разьвіцьцё пладоўніцтва ў акрузе выклікала з боку ўраду і грамадзкіх організацый некаторыя мерапрыемствы па арганамічнай дапамозе насельніцтву ў галіне інтэнсыўных культур

Земская аграномія ў Гомельшчыне ўзьнікла ў 1912 годзе. Першы інструктар па садоўніцтву Шушкевіч пачаў працаваць у 1913 год. Другі інструктар Тутко І. В. працаваў з 1915 году па момант ліквідацыі земскай аграноміі ў 1919 годзе.

У земскі пэрыяд праца інструктараў заключалася ў арганізацыі паказальных садоў, консультацыі насельніцтва па пытаньнях садоўніцтва, распаўсюджваньні палепшанага насеньня, закладцы пладовых гадавальнікаў, чытаньні лекцый на курсах, правядзеньні гутарак з насельніцтвам, арганізацыі адрадаў па барацьбе са шкоднікамі і хваробамі.

У савецкі пэрыяд роля інструктара мянялася ў залежнасьці ад форм эксплёатацыі нацыяналізаваных садоў. Пры здачы іх у арэнду на інструктароў ускладаўся абавязак вясьці тэхнічны нагляд за выконваньнем дагавароў.

Потым роля інструктара ў сувязі з разьвіцьцём сыстэмы плянавай гаспадаркі зьмянілася і прыняла форму ўдзелу ў працах пляніруючых органаў, арганізацыі спэцыяльных відаў каапэрацыі, арганізацыі пасялковага і каляктыўнага пладоўніцтва, арганізацыі і кіраўніцтва пладовымі гадавальнікамі, арганізацыі інстытуту сялян-дасьледчыкаў—садаводаў, наладжваньні памалёгічных нарад, арганізацыі мерапрыемстваў па барацьбе са шкоднікамі і хваробамі, абсьледваньні пладоўніцтва ды інш.

Прыведзеная ніжэй табліца паказвае рост мерапрыемстваў за савецкі пэрыод з 1924 году.

| | 1924 | 1925 | 1926 | 1927 | 1928 |
|---|---|---|---|---|---|
| Колькасьць інструктароў . . . . . | 2 | 2 | 2 | 4 | 5 |
| Паказальныя сады . . . . . . . . . . | 1 | 4 | 5 | 11 | 17 |
| Плошча пладовых гадавальнікаў . . | — | 6,5 | 12 | 27,4 | 35 |
| Адрадаў па барацьбе са шкоднікамі | — | — | — | 3 | 8 |
| Прададзена атрутаў на суму . . . . | — | — | — | 2218 | 6868 |
| Крэдытаў на гадавальнікі . . . . . | — | — | — | 2900 | 10600 |
| Спэцыяльных курсаў . . . . . . . . | — | — | — | — | 6 |
| Пасялковых садоў у гэктарах . . | — | — | — | 5 | 180 |
| Помалёгічных нарад . . . . . . . | — | — | — | — | 5 |

У рэзультаце супольнага дзеяньня многіх фактараў пладоўніцтва акругі ня толькі пачало расьці колькасна, але зьмяняецца і ў якасных адносінах: асабліва ўзмацніўся інтарэс да вырашэньня пытаньняў сорту, сталі ўводзіць новыя культуры, пакрысе практычна падыходзяць да вырашэньня пытаньняў тэхнічнай перапрацоўкі прадуктаў пладоўніцтва і наогул наглядаецца імкненьне будаваць буйнае прамысловае групавое і калектыўнае садоўніцтва.

---

Prof. M. Burstein.

## Die Ergebnisse der Erforschung des Obstbaues im Homelschen Bezirke durch eine Expedition (Weissrussland).

1. Im Jahre 1928 wurden von den 5000 Hektaren unter Obstgärten im Homelschen Bezirke—31 Gärten mit einer Gesammtfläche von 450 Hektaren der Untersuchung unterzogen.

2. Nach ihren klimatischen Verhältnissen sind zwei Bezirke zu unterscheiden, im Norden von Homeln der sogennante „Centrale Bezirk" und der „Südliche".

3. Ausserordentlich günstige klimatische Bedingungen sind in den südlichen Gebieten des Homelnschen Bezirkes zu verzeichnen—im Braginschen, Choinikschen und Komarowschen Kreise,—wo die wertvollsten Wintersorten von Aepfeln, (Reinete Landsberg, die Kurskische Gold-Reinete, Winter-Parmain und and) auftreten. von Birnen (Liegels Butterbirne, die Slutzk'sche Butterbirne, die Fondante des bois und so weiter), ferner Pflaumen, Kirschen und Glaskirschen (Weichselkirschen).

4. Die Mehrzahl der Gärten befinden sich hauptsächlich auf zwei Arten von Böden: a) auf mittelmässig-podsolierten lehmigen Sanden, unterlagert von Moränen und b) auf stark podsolierten lössartigen sandigen Lehmböden.

5. Die Gärten auf schwach-podsolierten tiefgründigen Sandböden gehen sehr rasch zu Grunde und selbst bei sorgfältigster Pflege bleiben einige Sorten von Aepfeln und Birnen in leidlichem Gedeihen.

6. In Niederungen, wo die Verhältnisse geschaffen sind, Erkrarankungen hervorzurufen, und überhaupt an Orten, wo das Wasser bis auf 1—1.5 Meter von der Oberfläche emporsteigst-gehen die Gärten stets ein und zwar schon im jugendlichen Alter von 15—20 Jahren.

7. Zahlreiche Messungen der Kronen verschiedener Sorten von Aepfel, und Birnbäumen legen Zeugniss dafür ab, dass ausgewachsene Bäume (Antonowka, Roter Stettiner und and.) ihre Kronen sehr stark ausbreiten, so dass sie zuweilen 8—9 Meter erreichen. In Folge dieses Umstandes ist es unbedingt erforderlich bei Anlage von neuen Obstgärten nach dem System von zwischennutzungs-Kulturen, auf den besseren Böden eine Entfernung zwischen den Reihen und Bäumen von 12×10, 12×12, 14×12 Metern einzuhalten.

8. Die Anordnung beim Pflanzen, im rechtwinkligen Verbande, ist mit dem Nachteil verhunden, dass sie die Anschaffung spezieller Maschienen zur Bearbeitung des Bodens in diesen Gärten von Motoren, Spritzen u. dgl. zur Folge hat.

9. Die Schutzwehr der Gärten muss unbedingt aus Nadelholzarten, am zweckmässigsten aus Fichten, hergestellt werden, wobei die Entfernung der lebenden Hecke von den nächsten Reihen von Obstbäumen nicht unter 14 Meter betragen darf.

10. Die haupsächlichste Obstart in den Gärten des Homelnschen Bezirkes ist der Apfelbaum. In den südlichen Gebieten bestehet eine ausseordentlich günstige Gelegenheit zur Entwickelung einer massenhaften Kultivierung von Birnen zu gewerblichen Zwecken, desgleichen von Kirschen, Glaskirschen und Pflaumen.

11. Durch hohe Erträge. Standfestigkeit und Marktfähigkeit zeichnen sich Antonowka und Streifling aus.

In den südlichen Gebieten gedeiht auf entsprechenden Böden ganz vorzüglich der Rote Stettiner und der Litthauische Pepping.

Unbedingt erforderlich ist es, sofort an die Erforschung der Sorten von neuen örtlichen und amerikanischen Arten von Apfelbäumen heranzeit reten.

12. Durchaus müssen schleunige Massregeln getroffen werden, die Slutzkische Butterbirne in den noch freien Gebieten des Homelnschen Kreises in grossem Umfange anzupflanzen.

---



